УДК [94(476)+929Каліноўскі](082)
ББК 63.3(4Беи)я43
Г 37

**Герасімчык, В.У.**

Г 37 Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда / В. У. Герасімчык. – Гродна : ТАА «ЮрСаПрынт», 2018. – 229 с.

ISBN 978-985-7134-35-9.

Імя Кастуся Каліноўскага (1838-1864) добра вядомае беларусам і даўно стала легендарным. Каліноўскаму прысвечаны шматлікія навуковыя і мастацкія творы, але даследчыкі працягваюць рабіць цікавыя адкрыцці, знаходзячы невядомыя раней дакументы і ўспаміны. Кніга “Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда” створана на аснове матэрыялаў з архіваў і бібліятэк Літвы, Беларусі, Расіі і дазваляе зірнуць на асобу правадыра паўстання 1863–1864 гг. не толькі як на лідэра і ідэолага нацыянальна-вызваленчага руху на беларуска-літоўскіх землях, але і пазнаёміцца з працэсам фарміравання яго поглядаў.

**УДК [94(476)+929Каліноўскі](082)**
**ББК 63.3(4Беи)я43**

**ISBN 978-985-7134-35-9**

# *Замест прадмовы*

19 лістапада 1863 г. прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Аўраам Лінкальн, выступаючы на палітым крывёю тысяч амерыканцаў месцы бітвы пад Гетысбергам, сказаў прамову, у якой памянуў жаўнераў, якія загінулі за дэмакратычную будучыню сваёй краіны. Пакуль фатограф беспаспяхова спрабаваў усталяваць сваю апаратуру, каб захаваць аблічча амерыканскага прэзідэнта для гісторыі, Лінкальн ужо скончыў прамову векапомнымі словамі: "Урад, створаны народам, з народа і для народа, ніколі не знікне з твару зямлі".

Яшчэ за год да таго, восенню 1862 г., тую самую думку яшчэ больш ёмка сфармуляваў малады юрыст з ваколіц Гродна Вікенцій Канстанцін Каліноўскі. У чарговым нумары "Мужыцкай праўды", якую таемна чыталі мясцовыя сяляне, Каліноўскі ў асобе Яські-гаспадара з-пад Вільні сказаў проста: "Не народ для ўрада, а ўрад для народа".

Феномен Кастуся Каліноўскага гісторыкі спрабавалі "патлумачыць" па-рознаму. Для расійскага афіцыёзу XIX ст. тое быў фанатык-рэвалюцыянер з кагорты Герцэна і іншых, хто клікаў Русь "да сякеры". Палякі ўспаміналі пра Каліноўскага як пра патрыёта Рэчы Паспалітай. А некаторыя сучасныя "исследователи" любяць наваліць на Каліноўскага ўсе грахі адразу: маўляў, і "фанатык", і "рэвалюцыянер", і "паляк", і проста нехарошы чалавек ва ўсіх сэнсах. Праўда, ведання гісторыі ў такіх тэкстах зусім і няма. Пішучы гэтыя тэксты, іх аўтары не даследуюць гісторыю, яны проста вядуць інфармацыйную вайну супраць беларускага народа і супраць нашай дзяржавы.

Кніга, якую чытач трымае ў руках, напісана з глыбокім веданнем тэмы. І хаця гэта першая кніга аўтара, аднак Васіль Герасімчык напісаў і апублікаваў дзясяткі тэкстаў па гісторыі паўстання 1863–1864 гг. у сваім блогу і разнастайных газетах і часопісах. Усе яны напісаныя з глыбокім веданнем крыніц і літаратуры, бо Васіль не адзін год правёў у архівах ды бібліятэках.

Кастусь Каліноўскі ў гэтай кнізе вельмі розны – хіба што

такі, якім быў у сваім жыцці. Недзе ён вагаецца, недзе, магчыма, занадта катэгарычны і супярэчлівы, але ён нідзе не баіцца, не схіляе галаву, не спрабуе схавацца ад адказнасці або выратаваць сабе жыццё коштам іншых. Для кароткіх 26 гадоў жыцця і для эшафоту з віселььняй у канцы жыццёвага шляху нават гэтага ўжо не так і мала.

Беларусы згадваюць “пра Яську свайго” пастаянна і будуць згадваць яшчэ не адзін дзясятак, а мо і не адну сотню гадоў. Хай гэтая кніга будзе яму яшчэ адным сціплым успамінам.

*Андрэй Вашкевіч*

# Каліноўскі – двухаблічны Янус

У вечары 21 студзеня (2 лютага па новым стылі) 1838 года ў Мастаўлянах Гродзенскага павета (сёння – тэрыторыя Польшчы, на самай мяжы з Беларуссю) у сям'і Сымона і Веранікі Каліноўскіх нарадзіўся сын, названы ў гонар каталіцкага святога Вінцэнта Сарагоскага[1]. Аднак заведзеная ў даўнія часы звычка атрымання дзіцём імя святога ў залежнасці ад дня нараджэння не заўсёды падабалася бацькам. Таму малым часта надавалі другое і нават трэцяе імя, як, напрыклад, у выпадку Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі. І пасля таго, як 6 лютага ў парафіяльным касцёле мястэчка Ялоўка немаўля ахрысцілі Вінцэнтам, 4 красавіка ксёндз Францішак Кажанеўскі ахрысціў яго яшчэ імем Канстанцін[2]. Гэтае апошняе імя Каліноўскі найперш выкарыстоўваў у адносінах са сваякамі і сябрамі. Вінцэнтам жа Канстанцін пазней стаў падпісваць афіцыйныя паперы, і, быццам старажытнарымскі бог Янус, меў два ўвасабленні – адно ў адносінах з дзяржавай, другое – для самых блізкіх людзей. Так ужо з маленства гартавалася асоба таленавітага канспіратара, кіраўніка паўстання ў Беларусі і Літве.

Пакінуты Каліноўскім след быў настолькі глыбокі, што на роднай Свіслаччыне памяць аб ім перарасла ў легенду, якая пераказвалася былымі ўдзельнікамі паўстання з ліку сялян: “З'яўляўся ён у апавяданнях у якасці быццам бы дабрачыннай сілы, якая несла сялянам дапамогу, прамаўляла ім праўду і здзяйсняла справядлівасць”[3]. Называўся ён “Ка-

---

[1] Раннехрысціянскі пакутнік. Падчас ганенняў хрысціян пры рымскім імператары Дыяклетыяне пасля жудасных катаванняў быў спалены 22 студзеня 304 года ў Валенсіі.

[2] Янушкевіч, Я. Метрыкі хросту Вінцэся-Кастуся Каліноўскага / Я. Янушкевіч // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Białystok, 2013. – S. 244–248.

[3] Легенду пра “Кастуся” ў 1925 годзе падчас наведвання Свіслаччыны ад былога ўдзельніка паўстання 1863–1864 гадоў пачуў польскі гісторык В. Кардовіч. Kordowicz, W. Konstanty Kalinowski / W. Kordowicz. – Warszawa, 1955. – S. 5.

стусь” (Kastuś), які б так і застаўся фальклорным рэгіянальным героем, каб не час вялікіх зрухаў перыяду Першай сусветнай вайны, калі ў 1916 годзе Вацлаў Ластоўскі ўзгадаў пра “справядлівага”, назваўшы яго “Касцюк”[4]. Затым у 1919 годзе была спроба Івана Цвікевіча надаць яму імя “Констант”[5]. Пакуль, нарэшце, дзякуючы Максіму Гарэцкаму[6], за ім не замацавалася менавіта “Кастусь”, якое прагучала ў лекцыях, чытаных Усеваладам Ігнатоўскім у 1922/1923 навучальным годзе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце[7]. Аднак ні манаграфія М. Гарэцкага па гісторыі беларускай літаратуры, ні А. Луцкевіч з яго “Костусем”[8], ні навукова-папулярныя артыкулы і лекцыі У. Ігнатоўскага не зрабілі найважнейшую справу па замацаванні за Каліноўскім імя Кастусь. У першую чаргу гэта дасягненне Беларускага дзяржаўнага тэатра, які толькі за сезон 1923 года 10 разоў паказаў спектакль “Кастусь Каліноўскі” рэжысёра Еўсцігнея Міровіча[9]. На яго падставе павінен быў выйсці першы беларускі фільм. Але ў тых умовах не знайшлося кампетэнтнага рэжысёра[10], таму праект быў рэалізаваны толькі ў 1927 годзе рэжысёрам Уладзімірам Гардзіным, дзякуючы якому асоба Каліноўскага стала шырока вядомай і за ёй замацаваўся вобраз змагара, барацьбіта за інтарэсы простага народа. Актуальнасць тэмы ва ўмовах раз’яднанай Беларусі другой паловы 1920-х гадоў прадвызначыла поспех фільма.

[4] Swajak. Pamiaci Sprawiadliwaho / Swajak // Homan. – 15 lutaho 1916. – № 1. – S. 3.

[5] Tołočka, U. Chto byu Konstant Kalinouski? / U. Tołočka // Biełaruskaje žyćcio. – 15 žniunia 1919. – № 10. – S. 2–3.

[6] Адзін з фрагментаў тэксту М. Гарэцкага носіць назву “Рэвалюцыйная і проціўрэвалюцыйная літаратура 60-х гадоў. Кастусь Каліноўскі (1838–1864)”: Гарэцкі, М.І. Гісторыя беларускай літаратуры / М.І. Гарэцкі. – 1-е выд. – Вільня, 1920; 2-е выд., папраўленае. – Вільня, 1921; 3-е выд. (папраўленае). – Вільня, 1924. – С. 75–76.

[7] Ігнатоўскі, У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Лекцыі, чытаныя студэнтам Беларускага Дзяржаўнага універсітэту / У. Ігнатоўскі. – 2-е выд. – Мінск, 1926. – С. 125–126.

[8] Навіна, А. Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры / А. Навіна // Наша думка. – 1921. – № 5. – С. 4.

[9] Дыло, О. Сямімільнымі крокамі (Аб нашым дзяржаўным тэатры) / О. Дыло // Маладняк. – 1924. – № 2–3. – С. 118.

[10] Праект “Кастусь Каліноўскі” пазначаны пад № 1 у складзеным кіраўніцтвам Белдзяржкіно ў пачатку 1925 года “Першым перспектыўным плане вытворчасці мастацкіх фільмаў”. Але ў выніку ў 1926 годзе быў зняты іншы фільм – “Лясная быль”.

Народнае імя Кастусь, з'яўляючыся варыянтам рускага Константин і польскага Konstanty, было простым у вымаўленні і зразумелым, перш за ўсё, беларускаму селяніну. Не дзіва, што польскі гісторык Віктар Кардовіч прыйшоў да наступнай высновы: гэтае імя, "зневажальнае ў шляхецкіх колах, абуджала надзею ў сялянскіх масах" і зрабілася "сімвалам барацьбы за агульнае і нацыянальнае вызваленне беларускага народа"[11].

У пачатку 1990-х гадоў на хвалі пераасэнсавання беларускай гісторыі ў нацыянальным рэчышчы асабістае імя Каліноўскага з'явілася падставаю для крытыкі. Ужыванае Кастусь было названа "далёкімі вынікамі русіфікатарскай палітыкі царскіх улад на Беларусі"[12]. У якасці імя Каліноўскаму намагаліся прыпісаць толькі Вікенцій[13], спасылаючыся на яго прашэнні да рэктара падчас навучання ў Пецярбургскім універсітэце. Але гэтыя спробы так і засталіся спробамі, паколькі, па трапнай заўвазе даследчыка жыцця Каліноўскага Генадзя Кісялёва, імя Кастусь ужо замацавалася ў традыцыях беларускага народа[14].

Спрэчкі наконт імя працягнуліся ў канцы 2000-х гадоў. Толькі ў адрозненне ад пошукаў пачатку 1990-х гадоў, калі вобраз

---

[11] Kordowicz, W. Konstanty Kalinowski / W. Kordowicz. – Warszawa, 1955. – S. 221, 278.

[12] Грыцкевіч, А.П. Прадмова да 5-га выдання / А.П. Грыцкевіч // Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У.М. Ігнатоўскі. – 5-е выд. – Мн.: Беларусь, 1992. – С. 17.

[13] Там жа, с. 16: "Тут таксама трэба заўважыць, што Ус. М. Ігнатоўскі, зыходзячы хіба з таго меркавання, што імя Вікенцій не беларускае, а польскае (а сапраўды – каталіцкае), вырашыў пасмяротна перайменаваць нацыянальнага героя Беларусі Вікенція Канстанціна Каліноўскага толькі ў Канстанціна, каб не быў палякам, бо ў той час, як ён пісаў сваю працу, Ус. М. Ігнатоўскі вёў барацьбу з палякамі. Таму ўпершыню ў гістарычнай літаратуры з'явілася новая форма найменавання Каліноўскага – Кастусь Каліноўскі (Кастусь – правадыр сялянскага паўстання), пра якую сам Вікенцій Каліноўскі так ніколі і не даведаўся, бо загінуў на шыбеніцы ў 1864 г.".

[14] Кісялёў, Г. Кастусь Каліноўскі, яго час і спадчына / Г. Кісялёў // За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Каліноўскі, К.; уклад., прадм., пасляcл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 261–262. "Такога героя "Вікенція Каліноўскага" гісторыя (за выключэннем, можа, афіцыйнага выраку), проста не ведае. Таму няма ніякіх падстаў змяняць яго імя, якое замацавалася ў традыцыях беларускага народа. Іншая справа, што ва ўсіх біяграфіях, энцыклапедычных даведніках і г.д. павінна адзначацца, ды і цяпер ужо адзначаецца, наяўнасць у яго і другога імя".

Каліноўскага праз яго імя імкнуліся ўзмацніць да вобразу беларускага нацыянальнага героя, на гэты раз асабістае імя выступіла паказчыкам таго, што ён "быў палякам і выкарыстоўваў менавіта польскую форму напісання"[15] – Вікенцій (Вінцэнт), у той час як Канстанцін, а "дакладней Канстанты"[16], ён пачаў ужываць толькі падчас паўстання 1863–1864 гадоў. Насамрэч, нягледзячы на тое, што асноўную частку дакументаў на рускай мове Каліноўскі сапраўды падпісваў "Вікенцій" або "В.", ён таксама распісваўся і "Вікенцій Канстанцін", як на прашэнні на імя рэктара ад 1 жніўня 1856 года або пад паказаннямі Віленскай асобай следчай камісіі ад 30 студзеня 1864 года.

У афіцыйных дакументах ён, у адпаведнасці з уласнай метрыкай, называўся менавіта "Вікенцій-Канстанцін", як пры прыёме ва ўніверсітэт 5 кастрычніка 1856 года, або "Вікенцій Канстанцін Сямёнаў сын", як у дыпломе. У следчых жа дакументах паўстання 1863–1864 гадоў Каліноўскі ў пераважнай большасці момантаў названы "Канстанцін"[17]. У іншым выпадку, пры звароце следчых да сяброў Каліноўскага, адзначалася, што ён "не Вікенцій, а Канстанцін"[18]. Пад гэтым імем ён фігуруе ва ўспамінах і гістарычных працах сваіх сучаснікаў А.М. Масолава, В.Ф. Ратча, Я. Гейштара, А. Гілера, Ю. Яноўскага. Так жа яго называюць сёстры Казіміра-Ізабэла Багушэвіч і Ма-

[15] Гронский, А. Кастусь Калиновский: конструирование героя / А. Гронский // Беларуская думка. – 2008. – № 2. – С. 83.

[16] Там жа.

[17] Для прыкладу, урывак з паказанняў Эразма Заблоцкага пра наведванне ім у 1861 годзе Саколкі, куды той прыехаў па запрашэнні Валерыя Урублеўскага. НГАБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. Материалы Виленской следственной комиссии о лицах, принадлежащих к Гродненской революционной организации. Начато 5 августа 1863. Окончено 24 октября 1864. На 569 листах. – Арк. 35: "…приехавши туда, я застал там следующее общество: питейно-акцизного надзирателя Сонгина, ксендза Козловского, из Царства Польского, и Константина Калиновского, с которым я тогда и познакомился. Разговор шел о варшавских происшествиях; Константин Калиновский и Врублевский сказали мне, что составляется организация Народного Польского правительства, которая скоро должна сформироваться по всей Литве…".

[18] НГАБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 6. Дело о революционной деятельности Кастуся Калиновского. Начато 27 октября 1862 г. Окончено 24 августа 1864 г. На 60 листах. – Арк. 7: "…прибыли в дом сказанного ксендза Козловского, который на спрос объявил, что ни Викентий, а Константин Калиновский будучи давно знаком, заехал в дом его ксендза 4 числа вечером…".

рыя Плаўская ў лістах да краязнаўцы Людвіга Чарноўскага[19]. На падставе гэтай інфармацыі Чарноўскі склаў даведку пра Каліноўскага для выдадзеных у 1913 годзе ўспамінаў Якуба Гейштара, дзе той названы "Konstanty-Wincenty"[20], пры гэтым у самім тэксце мемуараў ужываецца толькі першае імя. Але, што больш істотна, у гонар Канстанціна Каліноўскага назваў сына, народжанага 31 мая 1890 года[21], яго брат Міхаіл.

Ці было ва ўжыванні ў афіцыйных паперах аднаго імя, а ў пабытовым жыцці – другога нешта большае, чым тое, што намагаюцца яму надаць, ажно да вызначэння "ідэнтычнасці" Каліноўскага? Наўрад ці. З такім жа разлікам за выкарыстаннем у справаводстве імя "Вікенцій" і "В." можна ўбачыць прыхаваны выклік бацьку, бо подпіс "Сымонаў сын", акрамя дыплома, не сустракаецца больш ні разу. Або можна разгледзець у гэтым сувязь са старэйшым братам Віктарам, да якога Канстанцін намагаўся быць падобны і жыццё якога фактычна працягнуў, як вынік – некаторыя сучаснікі бачылі ў Каліноўскіх абагульнены вобраз "апостала"[22].

Імя Каліноўскага – адзін з самых яскравых паказальнікаў барацьбы, якая вядзецца вакол яго: "Разгарніце кнігі – гэта нават не спрэчка пра Каліноўскага, гэта сапраўдная бітва за Каліноўскага" [23]. У выніку змагання згубілася мяжа паміж

---

[19] LVIA. – F. 1135. – Ap. 4. – B. 381. – L. 1–3v. Лісты былі апублікаваны па-польску і ў перакладзе на беларускую мову: Смалянчук, А. Асоба Кастуся Каліноўскага як даследчая праблема / А. Смалянчук // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Мінск, 2011. – С. 9–25.

[20] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. 2 t. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 370–371.

[21] НГАБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 2. – Спр. 4. Метрическая книга родившихся с 1885 по 1893 год. На 200 листах. – Арк. 123 адв. – 124.

[22] Limanowski, B. Historia powstania narodu polskiego w 1863 i 1864 r. / B. Limanowski – Lwów, 1882. – T. 2. – S. 213. Б. Ліманоўскі прыпісаў Канстанціну Каліноўскаму факты з жыцця яго брата Віктара. Іван Цвікевіч на гэтай падставе пісаў: "Віктар Каліноўскі – гэта той жа Кастусь Каліноўскі, а абмылка стварылася дзеля таго, што ў Каліноўскага было два імені – Кастусь і Віктар (Вінцэнты), як гэта часта бывае ў беларусаў-каталікоў". Цьвікевіч, І. Кастусь Каліноўскі (к 60-годдзю яго сьмерці). Біяграфічнагістарычны нарыс / І. Цьвікевіч // Arche. – Сакавік 2015. – № 3 (136). – С. 46.

[23] Кісялёў, Г. Новае пра Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // Полымя. – № 7. – Ліпень 1959. – С. 139.

Асобаю і Легендаю, у якую яна ператварылася за тыя паўтара стагоддзі, што прайшлі пасля яго смерці.

Абапіраючыся на навуковыя крыніцы, якія характарызуюць жыццё і дзейнасць Каліноўскага, у адносінах да яго варта ўжываць "Канстанцін" ці энцыклапедычнае "Вікенцій Канстанцін". Пры гэтым не трэба забываць на меркаванне, выказанае гісторыкам Генадзем Кісялёвым: "Адных дакументаў пры ўсёй іх каштоўнасці для аднаўлення поўнай карціны мінулага недастаткова, гісторык карыстаецца так званымі "пазакрынічнымі" ведамі, прасцей кажучы, жыццёвымі назіраннямі. Так ці ёсць падстава для спрэчак, калі ўсім вядома, што Канстанцін і Кастусь ва ўмовах Беларусі адно і тое ж. Кастусь – форма больш "прастамоўная", так бы мовіць, "недакументальная", але і ўся наша літаратурная мова абапіраецца на народныя гаворкі, як уся культура наша грунтуецца найперш на народных вытоках і традыцыях"[24].

[24] Кісялёў, Г. Кастусь Каліноўскі, яго час і спадчына / Г. Кісялёў // За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Каліноўскі, К.; уклад., прадм., пасляспл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 262.

## *Сям'я Каліноўскіх*

Каліноўскія вялі свой радавод ад Амброзія Самойлава, які ў 1679 годзе на тэрыторыі Бельскай зямлі набыў маёнтак Калінава з 5 хутарамі. Сам Амброзій быў мечнікам Візненскай зямлі[25] ў паўночна-заходняй Мазовіі, на мяжы Беларусі і Літвы. Нашчадкі Амброзія атрымалі прозвішча Каліноўскія ад назвы радавога ўладання Калінава, размешчанага недалёка ад горада Браньск, у судзе якога яны вырашалі спрэчкі з суседзямі, пакідаючы пасля сябе адпаведныя запісы ў судовых кнігах.

Паступовы заняпад краю, выкліканы шматлікімі войнамі і пастоямі варожых войскаў, штоператварылі Рэч Паспалітую ў аўстэрыю, сваім цяжарам абрынуўся на мясцовую шляхту. У выніку прадзед Канстанціна Каліноўскага Мацей вымушаны быў у 1769 годзе прадаць радавы маёнтак і зрабіўся беззямельным шляхцічам. Дзеці Мацея рассяліліся па розных месцах, а адзін з сыноў – Стэфан – пасяліўся ў вёсцы Рэпля Ваўкавыскага павета, дзе ў яго з жонкай Тэрэзіяй нарадзіліся дочкі Антаніна, Феліцяна, Катажына і сыны Юрый (Ежы) і Сымон.

Сымон Стэфанавіч Каліноўскі[26] з'явіўся на свет у 1795 годзе[27]. Ён ад прыроды быў кемлівым і мэтанакіраваным чалавекам, марыў пра вялікую сям'ю і ўласны маёнтак. Аднак на гэтым шляху мелася шмат перашкод, асабліва ва ўмовах вызначанага сацыяльнага падзелу грамадства на прывілеяваныя

[25] Кісялёў, Г. Сейбіты вечнага: артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года; Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі / Г. Кісялёў. – Мінск: Медысонт, 2009. – С. 35.

[26] Бацька Канстанціна Каліноўскага падпісваўся ў дакументах як "Симеон Стефана сын Калиновский" або "Szymon Kalinowski syn Stefana". Таксама сустракаюцца формы "Симон Калиновский" і "Семен Степанов сын Калиновский".

[27] Киштымов, А. Отец и сын: семейная биохроника Калиновских / А. Киштымов // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы міжнар. навук. канф., Менск, 25 верасня 2009 г. – Мн., 2011. – С. 41. У якасці месца нараджэння Сымона Каліноўскага ў дакументах таксама пазначана вёска Кузмічы Ваўкавыскага ўезда: НГАБ у г. Гродна. – Ф. 92. – Воп. 1. – Спр. 258. – Арк. 338 адв.

і непрывілеяваныя саслоўі. Як сведчаць крыніцы, ён не вылучаўся цікавасцю да палітыкі, стрымана ставіўся да ўсялякага супрацiву ўладам і змог атрымаць толькі хатнюю адукацыю[28].

Асоба Сымона магла б шмат падказаць у пытаннях выхавання і станаўлення поглядаў Канстанціна Каліноўскага, але мы пакуль нават не ведаем, чым ён займася да таго ўзросту, у якім яго малодшы сын ужо быў пакараны смерцю. Мы не можам меркаваць, чым ён займаўся ў часы вайны 1812 года, як і пацвердзіць тое, што пэўны час Сымон Каліноўскі працаваў чыноўнікам, але быў звольнены па нейкай дробнай падставе[29]. Сам ён якраз сцвярджаў, што на “дзяржаўнай службе не быў”[30].

Першай сваёй задачай Сымон бачыў даказаць шляхецтва, паколькі, нарадзіўшыся ў Ваўкавыскім павеце, ён у раннім дзяцінстве пераехаў у Гродзенскі, так і не атрымаўшы жаданага пасведчання аб уласным паходжанні. Пацвярджэнне шляхецтва было яму дадзена толькі 4 лістапада 1822 года ад Беластоцкага дваранскага схода[31].

Далей 18 лістапада 1823 года[32] ён па каханні ажаніўся з Веранікай з Рыбінскіх, якая была маладзейшая за яго на 11 гадоў. Іх шлюб заключыў ксёндз Ялоўскага касцёла Антоні Станітэвіч. На працягу наступных 10 гадоў у Каліноўскіх з’явілася на свет пяць сыноў: у 1825 годзе Кандрат Мацей, у 1827 годзе Іосіф Сцяпан, у 1829 годзе Норберт, у 1831 годзе Юрый і, нарэшце, 9 красавіка 1833 года сям’я Каліноўскіх папоўнілася чарговым хлопчыкам, якім стаў Віктар-Атон. Ён быў ахрышчаны 13 красавіка ў Ялоўскім касцёле. Сыны былі сапраўдным багаццем Сымона, увасабленнем яго спадзяванняў на працяг уласнага рода і будучай дапамогі ў сямейнай справе. Тым больш што пасля смерці 13 красавіка 1828 года Стэфана Каліноўскага

[28] НГАБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. Сознания и чистосердечные признания политических преступников во всех делах и преступлениях. – Арк. 247.

[29] Beiersdorf, O. Konstanty Kaliniwski. Popularny szkic o Konstantym Wincentym Kalinowskim / O. Beiersdorf. – Kraków, 1955. – S. 9.

[30] НГАБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. Сознания и чистосердечные признания политических преступников во всех делах и преступлениях. – Арк. 247.

[31] НГАБ у г. Гродна. – Ф. 92. – Воп. 1. – Спр. 258. – Арк. 338 адв.

[32] LVIA. – F. 604. – Ap. 45. – B. 17. – L. 108v.

(у 85-гадовым узросце) Сымон стаў галавой усёй сям'і, у якую таксама ўваходзілі яго малодшы брат Юрый і маці Тэрэзія.

Усяго Вераніка нарадзіла 12 дзяцей[33]. Яна стала надзейнай апорай ва ўсіх пачынаннях мужа, галоўнае з іх – заснаванне фабрыкі ў маёнтку Мастаўляны непаўнагадовых памешчыкаў Радавіцкіх, якія акрамя таго валодалі вёскаю Духаўляны ў Ваўкавыскім уездзе.

## *Шляхецкі прадпрымальнік і фабрыкант Сымон Каліноўскі*

Мастаўляны сталі для Каліноўскіх не проста часовым прытулкам. Сымон і Вераніка знайшлі тут сяброўскую грамаду. У 1832 годзе яна складалася з мясцовага эканома Фаўстына Немчыновіча (38 гадоў) з Лахава Пружанскага павета, які жыў тут разам з жонкаю Ізабэлай з Валанцэвічаў, трохгадовым сынам Іосіфам і чатырохгадоваю дачкою Ганнаю; 18-гадовага прыказчыка Франца Шаняўскага; 30-гадовага стражніка Сымона Гарашэвіча з Мірашава Навагрудскага ўезда, які меў жонку Ганну Дрангоўскую і трохгадовага сына Кіпрыяна. Наяўнасць сяброў была тым больш важная, што з-за частых раз'ездаў галавы сям'і Веранікі неабходна была дапамога ў вядзенні гаспадаркі. Сам жа Сымон вырашыў зрабіцца фабрыкантам і прадпрымальнікам.

Кампаньёнам Сымона выступіў уладальнік фабрыкі льняных, баваўняных і шаўковых вырабаў у горадзе Астраленка Каралеўства Польскага Ігнацый Бонда. Пад яго кіраўніцтвам Каліноўскі паўтара гады навучаўся ткацкаму майстэрству і таму нават у дакументах часам называўся ткачом[34].

У час паўстання 1863–1864 гадоў палітычныя ворагі Канстанціна Каліноўскага мэтанакіравана падкрэслівалі прафесійны занятак бацькі, каб прынізіць яго сацыяльнае становішча і паходжанне, імкнучыся ўсяляк адасобіць яго ад

---

[33] Такую лічбу Сымон Каліноўскі назваў у паказаннях, якія даваў 24 красавіка 1864 года Гродзенскай следчай камісіі: "…ад першай жонкі па прозвішчу Рыбінская меў 12 дзяцей, якія ўсе памерлі". НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 2. – Арк. 336. Аднак, згодна запісам метрычных кніг Ялоўскага касцёла і Мастаўлянскай царквы, у яго з Веранікай Рыбінскай мелася 11 дзяцей.

[34] Там жа.

шляхты. Менавіта таму Канстанцін называўся не інакш, як "сын ткача з-пад Свіслачы"[35], што замацавалася ў гістарычных працах сучаснікаў. У міжваенны ж час азначэнне "сын ткача"[36] зрабілася адным з аргументаў на карысць беларускіх каранёў Каліноўскага.

Нягледзячы на тое, што ў справаздачах аб дзейнасці фабрыкі годам яе заснавання пазначаны 1835[37], Сымон Каліноўскі ўжо ў 1832 годзе валодаў "палатняным заводам"[38], на якім працавалі тры чалавекі: 15-гадовы Ігнат Зублевіч з мястэчка Мсцібава Ваўкавыскага павета, браты Адам (12 гадоў) і Іван (13 гадоў) Наміткевічы з калоніі Бароўшчына Беластоцкай вобласці. Дапамагаў Сымону ў наладжванні прадпрыемства і 26-гадовы брат Юрый, які пазней пераехаў у маёнтак Відомль Брэсцкага павета.

Гэта быў час прамысловага перавароту ў Беларусі – ручная праца паступова выцяснялася машынамі. Першапачаткова механізмы былі хутчэй цікавымі забаўкамі. Дазволіць сабе іх маглі толькі самыя багатыя памешчыкі. Да прыкладу, у 1824 годзе на рацэ Сож з'явіўся першы ў Беларусі параход "Мікалай", названы ў гонар Мікалая Пятровіча Румянцава, які выдаткаваў на яго 20 тысяч рублёў. Паступова машыны і механізмы набывалі ўсё большае значэнне, дзякуючы станоўчым прыкладам кшталту хомскай фабрыкі памешчыка Пуслоўскага ў Кобрынскім павеце, дзе быў уведзены першы ў Беларусі паравы рухавік і працавала амаль пяць соцень прыгонных сялян.

У той час, калі ў Беларусі актыўна развівалася суконная прамысловасць, якая падтрымлівалася дзяржаўнымі замовамі

---

35 Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч –Вильно, 1867. – Т. 1. – С. 181; Limanowski, B. Historia powstania narodu polskiego w 1863 i 1864 r. / B. Limanowski. – Lwów, 1882. – T. 2. – S. 213; Przyborowski, W. Dzieje 1863 roku. T. 3. / W. Przyborowski.– Kraków: W.L. Anczyc, 1902. – S. 4.

36 Гарэцкі, М.І. Гісторыя беларускай літаратуры / М.І. Гарэцкі. – 3-е выд. – Вільня, 1924. – С. 75.; Трызна, І. Кастантын Каліноўскі (гістарычны нарыс) / І. Трызна // Беларускі сьцяг. – Жнівень-верасень 1922. – № 4. – С. 11.

37 НГАБ у г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 20. – Спр. 679. – Арк. 120.

38 НГАБ у г. Гродна. – Ф. 92. – Воп. 1. – Спр. 258. Список жителей Гродненского уезда 1832 год. На 358 листах. – Арк. 339 адв.

на карысць арміі[39], ды адбывалася "цукровая гарачка"[40], Сымон Каліноўскі звярнуўся да новай, адпаведна, больш рызыкоўнай галіны прамысловасці – адкрыў фабрыку льняных вырабаў. Аднак ён меў прадпрымальніцкую жылку, ператварыўшы фабрыку ў прыбытковую справу.

Гэтаму садзейнічала і пратэкцыяністкая палітыка Расійскай Імперыі. Для яе прамысловасці канкурэнцыю складалі прадпрыемствы з Каралеўства Польскага[41], вялікая колькасць якіх была знішчана падчас паўстання 1830–1831 гг. 13 лістапада 1834 года высокім мытам улады закрылі вываз тавараў з Каралеўства ў Імперыю[42]. Таму многія польскія фабрыканты пачалі пераносіць свае прадпрыемствы ў Беластоцкую вобласць. У такіх абставінах Сымону Каліноўскаму ўдалося набыць станкі для фабрыкі, маг-

[39] У дарэформенны перыяд у Беларусі найбольшых поспехаў дасягнула суконная прамысловасць. Суконныя прадпрыемствы былі пастаўшчыкамі сукна для арміі, урад быў зацікаўлены ў іх развіцці, для чаго выдаваў дзяржаўныя пазыкі: Гісторыя Беларусі. Курс лекцый: у 2 ч. – Ч. 2. XIX–XX стагоддзі. – Мн., 2002. – С. 34.

[40] У 30-я гады XIX ст. у Беларусі актыўна адкрываюцца цукровыя прадпрыемствы, галоўным чынам у Мінскай і Магілёўскай губернях. У 1833 г. цукровы завод са 150 рабочымі пачаў таксама працаваць у Карэлічах. Аднак "цукровая гарачка" працягвалася нядоўга. Невялікія цукровыя заводы Беларусі не вытрымалі канкурэнцыі буйных прадпрыемстваў Расіі.

[41] З канца 1830 г. па 28 студзеня 1832 года ў сувязі з паўстаннем у Польшчы гандаль з гэтай краінай быў спынены. Кіраўнік Гродзенскай мытнай акругі атрымаў прадпісанне, "чтобы с подданными Царства Польского никакие сношения допускаемы вовсе не были, исключая впуска иностранных курьеров". Аднаўлены абмен таварамі праходзіў па іншых правілах. Пошліна на польскія шарсцяныя вырабы падымалася да 15 % ад кошту тавара (прыкладна з 3 да 40 кап. срэбра за аршын), на бронзавыя і галантарэйныя рэчы, пальчаткі, памаду – у 5 разоў, на большасць механічных вырабаў, посуд, абоі і інш. – у 3 разы, бяспошлінна прапускалася толькі сыравіна.

У 1836 г. некаторыя пошліны на гатовыя вырабы і "материалы, к рукоделию служащие", былі зніжаны на 10–12 %, адменена мноства забаронных артыкулаў, вызвалены ад спагнання дадатковай пошліны (12,5 %) гарбата, кава, свінец, волава, ртуць.

Па новым тарыфе ў 1850 г. мытная мяжа паміж Каралеўствам Польскім і Расійскай Імперыяй была ліквідавана, для абодвух устанаўліваліся адзіныя гандлёвыя правілы. Гродзенскую гандлёвую акругу скасавалі, а памежную стражу (865 чал.) перавялі на знешнюю мяжу Каралеўства. Швед, В.В. Торговля в Беларуси в период кризиса феодализма (1830–1850-е годы) / В.В. Швед – Гродно: ПКФ «Орбикс», 1995. – С. 77.

[42] Kordowicz, W. Konstanty Kalinowski / W. Kordowicz. – Warszawa, 1955. – S. 25.

чыма, нават па зніжаных коштах, і пры падтрымцы Ігнацыя Бонды ўстанавіць іх у Мастаўлянах.

Пасля вывучэння ткацкага майстэрства пад кіраўніцтвам астраленцкага фабрыканта Каліноўскі яшчэ два гады ўдасканальваў яго самастойна. І калі Ігнацый Бонда наведаў Мастаўляны ў другі раз, то з задавальненнем адзначыў, што Сымон, “дзякуючы асабліваму свайму старанню і намаганням дасягнуў у ім такой дасканаласці”[43], што вырабы яго фабрыкі ні ў чым не саступаюць замежным. Аб гэтым 19 лістапада 1840 года Бонда склаў у Астраленцы пасведчанне, замацаваў яго ўласнай пячаткай і даслаў у Мастаўляны.

Незадоўга да гэтага, 30 верасня 1840 года, у Пецярбургу дэпартамент мануфактур і ўнутранага гандлю зацвердзіў кляймо прадпрыемства Каліноўскага, якое цяпер наносілася на яго прадукцыю[44]. Згодна 56-му артыкулу “Аб таўраванні вырабаў расійскіх мануфактур, фабрык і заводаў” трэцяй главы XI тома “Зводу законаў Расійскай Імперыі”, таўро павінна было ўтрымліваць у сабе пазнаку імя і прозвішча ўладальніка прадпрыемства, а таксама месца, дзе яно знаходзіцца. Пры гэтым надпіс абавязкова павінен быць кірылічным, аднак не забаранялася і наяўнасць лацінскіх літар. У выніку на таўры мастаўлянскай фабрыкі з’явіўся наступны надпіс: “ФАБРИКА ХОЛСТЕВАЯ ГРОД. ГУБ. И УЕЗДА ВЪ ИМЕНІИ МОСТОВЛЯНАХ С. КАЛИНОВСКАГО”[45].

Сымон не меў ні гучнага імя продкаў, ні радавага маёнтка, ні поўных кішэняў грошай і мог разлічваць толькі на ўласны розум. Ён належаў да пакалення, якое імкнулася не выслужыць, а стварыць свой дабрабыт, з чым і звязвала дасягненне вышэйшых ступеняў сацыяльнай лесвіцы ў Расійскай Імперыі.

Прадстаўнік узнікаючага дваранскага прадпрымальніцтва, Сымон разумеў недахопы прыгонных прадпрыемстваў, дзе прадукцыйнасць была нізкай, што прыводзіла да высокага сабекошту прадукцыі і нізкай рэнтабельнасці. Таму на фабры-

[43] Шалькевич, В.Ф. Кастусь Калиновский. Страницы биографии / В.Ф. Шалькевич – Мн.: Университетское, 1988. – С. 47.

[44] НГАБ у г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 20. – Спр. 224. Дело об утверждении за дворянином Калиновским фабрики, построенной им в им. Мостовляны Гродненского у. для выделки льняного полотна и др. Начато 24 июля 1840. Окончено 23 февраля 1841. На 11 листах. – Арк. 7.

[45] Пасведчанне ўпершыню змешчана ў кнізе В. Шалькевіча “Кастусь Калиновский. Страницы биографии”.

цы ў Мастаўлянах яшчэ задоўга да адмены прыгоннага права працавалі вольнанаёмныя, зацікаўленыя ў выніках працы і здольныя абслугоўваць складаныя варштаты. Гэта падкрэслівала капіталістычны характар вытворчасці. У 1840 годзе на фабрыцы мелася 12 ткацкіх варштатаў, працавала 20 вольнанаёмных супрацоўнікаў на чале з адным майстрам і было выраблена прадукцыі на 2693 рублі срэбрам[46]. У 1842 годзе ўжо было 13 варштатаў, на якіх пад кіраўніцтвам аднаго майстра працавала 16 вольнанаёмных і было выраблена 200 розных гарнітур на агульную суму 4000 рублёў срэбрам[47]. Штогод для прадпрыемства неабходна было 250 пудоў мясцовага льну, патрэбу ў якім цалкам задавальняў памешчык А. Радавіцкі.

На фабрыцы выраблялiся абрусы, сурвэткі і бялізна дзевяці гатункаў. Мастаўлянскую бялізну закуплялі гандляры з Віленскай і Мінскай губерняў, а сурвэткі і абрусы сам Сымон прадаваў у крамах Гродзенскай губерні і Беластоцкай вобласці. Кошт набора з аднаго абруса і дванаццаці сурвэтак каштаваў 22 рублі срэбрам, а прыгажосць іх узораў адзначалі нават эксперты[48].

Каліноўскі выношваў планы адкрыць яшчэ адну фабрыку – каля Вільні, у Каралінцы. Побач, у Замэчку, знаходзілася мануфактурная фабрыка па адбельванні тканін, куды Каліноўскі дасылаў частку матэрыялу на апрацоўку[49] і з уладальнікам якой, былым выкладчыкам Віленскага ўніверсітэта, прафесарам аграноміі Міхалам Фрычынскім[50] ён актыўна супрацоўнічаў.

Прадзіва для будучага сумеснага прадпрыемства намерваліся купляць у Вільні ды іншых бліжэйшых гарадах і мястэчках, дзе яго вырабам займаліся жанчыны-яўрэйкі. Аднак планы ў 1848

[46] Киштымов, А. Отец и сын: семейная биохроника Калиновских / А. Киштымов // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы міжнар. навук. канф., Менск, 25 верасня 2009 г. – Мн., 2011. – С. 36.

[47] НГАБ у г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 20. – Спр. 679. – Арк. 121.

[48] Исследования о состоянии льняной промышленности в России. Изданы от департамента сельского хозяйства Министерства государственных имуществ. – Санкт-Петербург, 1847. – С. 51.

[49] Там жа: “Однако же и упомянутый фабрикант Калиновский присылал туда для беления свои товары из Гродненской губернии. В числе этих товаров находился кусок (55 арш.), который был продан за 46 р. сер.”.

[50] Міхал Фрычынскі (Michał Fryczynski, 1794 – 24 верасня 1859) – прафесар аграноміі, дырэктар гаспадаркі для практычных заняткаў студэнтаў Віленскага ўніверсітэта ў Пілайце (Zameczek).

годзе перакрэсліла "Вясна народаў", якая ахапіла Еўропу. Гэтая справа цяпер не мела перспектыў на ранейшую прыбытковасць. Замест прадпрымальніцкай дзейнасці Сымон Каліноўскі вымушаны быў усё больш часу аддаваць маёнтку Мастаўляны, арэндным утрымальнікам якога ён з'яўляўся.

## *Маёнтак Мастаўляны*

На 1845 год маёнтак складаўся з карчмы, вадзянога млына, двух фальваркаў і дзвюх вёсак, пры якіх мелася 111 валок і 27 моргаў зямлі (каля 2210 дзесяцін) і налічвалася 172 душы мужчынскага ды столькі ж жаночага полу[51]. Цэнтр гэтых уладанняў размяшчаўся на поўдзень ад вёскі Мастаўляны пасярод палёў і лясоў, побач з ракою Свіслач. Згодна гісторыку Юзафу Марошаку, дадзеная мясцовасць першапачаткова называлася Крулёвы мост – ад пабудаванага побач яшчэ ў XVI стагоддзі шляха паміж вёскаю Волпа і Гарадком на рэчцы Супраслі[52].

Да гаспадарскай сядзібы Каліноўскіх вяла асобная дарога, па якой таксама праходзіў тракт з Гарадка на Супраслі і Крынак у Ялоўку. На перакрыжаванні прытулілася старая ўніяцкая царква. Каліноўскія наведвалі службу не толькі ў Ялоўскім рымска-каталіцкім касцёле, але і ў Мастаўлянскай грэка-каталіцкай царкве і моцна сябравалі з сям'ёй святара Сымона Крукоўскага[53]. Менавіта ў Мастаўлянах былі ахрыш-

---

[51] Сачек, М.Н. Документы ЦГИА БССР в Гродно о жизни и деятельности Кастуся Калиновского / М.Н. Сачек // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 63.

[52] Марошек, Ю. Дворянское имение в Мостовлянах – место рождения К. Калиновского / Ю. Марошек // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 69.

[53] На 1832 год святар Сымон Іваноў сын Крукоўскі меў 58 гадоў. Ён нарадзіўся ў маёнтку Страёўка Магілёўскага павета. У 1811 годзе паступіў у мастаўлянскія святары. Жонкай меў Ганну з Мацкевічаў, сын Канстанцін (34 гады) служыў у маёнтку Рось Ваўкавыскага павета, дачка замужняя, 29 гадоў, пры бацьку. Служка пры храме Іван Пятроў сын Пятроўскі (38 гадоў), халасты, з дзяржаўнай вёскі Плоскі Беластоцкай вобласці, які ў 1816 годзе прыбыў у Мастаўляны. НГАБ у г. Гродна. – Ф. 92. – Воп. 1. – Спр. 258. – Арк. 337 адв. – 338 адв.

чаны тры сыны Каліноўскія: Стэфан-Юзаф, Норберт і Фелікс-Ян. На хрышчэнні яшчэ дваіх Каліноўскіх – Конрада і Віктара-Атона – Сымон Крукоўскі прысутнічаў у Ялоўскім касцёле. Яго ж сын Канстанцін Крукоўскі разам з жонкай Петранеляй прысутнічалі 4 красавіка на паўторным хрышчэнні Вінцэнта Канстанціна Каліноўскага[54]. Хутчэй за ўсё менавіта ў яго гонар немаўля атрымала імя, якое затым выкарыстоўвалася ў паўсядзённым жыцці[55].

Канстанцін Каліноўскі быў ахрышчаны ксяндзом Францішкам Каранеўскім у драўляным Ялоўскім парафіяльным касцёле Міхаіла Архангела, пабудаваным у 1747 годзе на сродкі старасты Казіміра Сапегі[56].

Паабапал дарогі ў маёнтак Мастаўляны размясціўся стары сад, большую частку якога складалі ліпы і грабы, разбаўленыя плямінамі клёнаў, ясеняў, бяроз ды асін. Сам маёнтак з садам меў форму трапецыі, блізкай да прамавугольніка, які на захадзе абапіраўся на ўзгорак, а больш шырокім бокам злучаўся з лугам каля ракі. Побач са Свіслаччу мелася выкапаная сажалка, што напаўнялася яе вадою.

Сядзіба была пабудавана на мяжы сада і гаспадарчага двара, сярод пабудоў якога вылучаўся драўляны будынак фабрыкі. З вокнаў дома, абсаджанага белымі конскімі каштанамі, адкрываўся маляўнічы краявід ракі Свіслач.

Аднак сямейнае шчасце Каліноўскіх у Мастаўлянах было нядоўгім. Вялікай бядой для сям'і стала заўчасная смерць дзяцей, якія згасалі адзін за адным. Першымі сярод іх сталі Норберт і Юрый, якія, не пражыўшы і двух гадоў, памерлі ў 1830

[54] LVIA. – F. 604. – Ap. 45. – B. 58. – L. 13.

[55] Думку пра магчымасць атрымання Канстанцінам свайго другога імя ў гонар Крукоўскага выказаў таксама Язэп Янушкевіч, які ўпершыню цалкам апублікаваў метрыкі пра нараджэнне і хрост Каліноўскага. Праўда, ён яшчэ не ведаў, у якім становішчы да сям'і Каліноўскіх быў Канстанцін Крукоўскі, таму пазначае яго як "сваяк?". Янушкевіч, Я. Метрыкі хросту Вінцэся-Кастуся Каліноўскага / Я. Янушкевіч // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Białystok, 2013. – S. 244–248.

[56] Да сённяшняга часу не захаваўся. Ён знаходзіўся праз дарогу насупраць сённяшняга мураванага касцёла БожагаПератварэння, які пачаў будавацца ў 1859 годзе. Таксама ў Ялоўцы захаваліся рэшткі касцёла Св. Антонія, які ўзводзіўся ў 1910–1915 гадах. Кузменка, З. Ялоўская "Хроніка", або У якім касцёле быў ахрышчаны Каліноўскі / З. Кузменка, В. Сямашка // Наша ніва. – 2017. – № 5. – С. 21, 23.

і 1832 гадах. Вераніка нараджала дзяцей амаль штогод, сярод іх акрамя Канстанціна былі яшчэ Марыяна-Тэрэза (1836 г.н.), Уладзіслаў-Мечыслаў (1840 г.н.), Ануфры Баляслаў (1842 г.н.). Але 29 красавіка 1843 года, праз 10 дзён пасля апошніх родаў, 37-гадовая Вераніка Каліноўская памерла. Яе апошняя дачка Эва Разалія пражыла ўсяго 1 год і 1 дзень. Страта жонкі стала моцным ударам для Сымона, які цяпер павінен быў увесь час і сілы прысвяціць сям'і.

Дапамогу яму павінна была аказаць другая жонка – Ізабэла Лазарэвіч, якая была маладзейшая за мужа на 25 гадоў. Менш чым праз 15 месяцаў пасля смерці Веранікі, 11 ліпеня 1844 года ў Сымона і Ізабэлы нарадзілася першая дачка – Марыяна Іаана (па мужу Плаўская), нашчадкі якой і сёння жывуць у Камянецкім раёне, нават не ведаючы пра тое, што яны сваякі Канстанціна Каліноўскага. Пры гэтым немаўля было настолькі слабое, што гэта знайшло адлюстраванне ў метрычным запісе аб яе хрышчэнні[57].

Пасля з'яўлення ў доме мачыхі адносіны бацькі з сынамі імкліва пагаршаліся, асабліва з Віктарам, які з 1841 года вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, куды ў 1847 годзе паступіў і малодшы – Канстанцін[58]. Выхаваннем дзяцей ад першага шлюбу пэўны час актыўна займалася маці Сымона – Тэрэзія, якая жыла разам з сынам і яго сям'ёй.

Спадзяванні Сымона на тое, што мачыха здолее замяніць дзецям памерлую маці, не спраўдзіліся – тая была больш занята ўласнымі дзецьмі, якія з'яўляліся на свет кожны год: праз 10 месяцаў пасля Марыяны Іааны ў 1845 годзе нарадзілася Багуміла Пелагія, у 1846 годзе – Ядвіга, у 1847 – Ганна Клара. І, нарэшце, пасля пяці дачок у 1848 годзе нарадзіўся першы сын – Фелікс. Якраз у гэты час у Каліноўскіх з'ўляецца новы клопат – набыццё маёнтка ў Якушоўцы.

---

57 LVIA. – F. 604. – Ар. 45. – В. 66. – L. 31v.

58 LVIA. – F. 567. – Ар. 2. – В. 66. Дело об учениках, поступивших в учебные заведения Белорусского учебного округа на 1847/1848 учебный год. – L. 78. Пад № 28 сярод вучняў 1-га класа Свіслацкай гімназіі значыцца: "Калиновский Константин Семенов сын". – L. 78v. Сярод вучняў IV класа пад № 184 пазачаны "Калиновский Виктор Семенов сын".

# *Пачатак фарміравання светапогляду Канстанціна Каліноўскага*

Канстанціну Каліноўскаму было ўсяго пяць гадоў, калі памерла яго маці. Які ўплыў аказала Вераніка на малодшага сына? Наўрад ці гэта былі ідэалістычныя ўяўленні кшталту “з малаком маці ўбіраў Каліноўскі таксама беларускія быліны і песні, легенды і паданні, прымаўкі і прыказкі, у якіх жылі народныя думкі і пачуцці, надзеі і трывогі, гнеў і любоў”[59]. У яе жыцці, штодня насычаным побытавымі турботамі і клопатамі пра шматлікіх дзяцей, проста не заставалася вольнай хвіліны. Аднак відавочна, што яе смерць наклала моцны адбітак на свядомасць малодшага сына.

Некалькі гадоў пасля смерці першай жонкі Сымону прыходзілася займацца арандаваным маёнткам і фабрыкай, таму дагляд дзяцей узяла на сябе іх бабуля Тэрэзія. Ці стала яна той асобай, якая пазнаёміла ўнукаў з народным фальклорам, або гэта адбылося непасрэдна праз жыхароў Мастаўлян? Незалежна ад гэтага, фактам застаецца, што абарона Канстанцінам Каліноўскім праў сялян “павінна была грунтавацца на перажываннях часоў яго дзяцінства”[60].

Вялізны ўплыў аказваў на Канстанціна яго брат Віктар, які, нягледзячы на дрэннае здароўе, заўсёды адрозніваўся сваімі разумовымі здольнасцямі. З ранняга дзяцінства ён зрабіўся абаронцам малодшага брата і адстойваў яго ў канфліктах з бацькам і мачыхай, якая, на фоне трагічных жыццёвых падзей, была празмерна рэлігіезная.

Каліноўскія ніколі не вылучаліся і сваёй шляхетнасцю. Імкненне ж бацькі зацвердзіць усю сям’ю ў дваранскім званні было звязана больш з ільготамі, якія гэта магло даць для развіцця фабрыкі, і з’яўлялася яго асабістаю probably марою.

[59] Шалькевіч, В.Ф. Кастусь Каліноўскі / В.Ф. Шалькевіч. – Мн.: Газ. “Голас Радзімы”, 1985. – С. 19.

[60] Kordowicz, W. Konstanty Kalinowski / W. Kordowicz. – Warszawa, 1955. – S. 28.

Нягледзячы на тое, што старэйшы Каліноўскі ўсяляк дыстанцыраваўся ад удзелу ў любых формах супраціву ў адносінах да ўлад Расійскай Імперыі, у яго сям'і звычайнымі былі тыя ж размовы, якія хвалявалі жыхароў усяго краю, – пра магчымасць аднаўлення Рэчы Паспалітай, пра яе спадчыну, герояў змагання Тадэвуша Касцюшку, Шымона Канарскага і Міхала Валовіча. Тут чыталіся тыя ж творы, што хвалявалі іншых, – Іахіма Лелявеля, Тэадора Нарбута, Адама Міцкевіча.

Дзякуючы наяўнасці ў Мастаўлянах фабрыкі, Канстанцін Каліноўскі з дзяцінства засвоіў розніцу паміж наёмнымі і прыгоннымі, пачаў адчуваць, у чым сэнс мужыцкай праўды.

У сям'і Каліноўскіх у звычайным маўленні карысталіся польскай мовай[61], насычанай беларусізмамі, аднак стасункі з вясковым насельніцтвам, якое жыло і працавала на землях маёнтка Мастаўляны, вымагалі ад арандатараў ведання мясцовай гаворкі, якая ў выпадку Канстанціна Каліноўскага была засвоена ім дасканала з самага маленства. Гэты досвед стаў падставай для замацавання за ім мянушкі chłop ("мужык")[62] у студэнцкія гады.

Канстанцін Каліноўскі з дзяцінства гартаваўся чуллівай, уражлівай асобай з моцным імкненнем да абароны справядлівасці і непрымання крыўды.

---

[61] Пра гэта сведчаць лісты сясцёр Канстанціна Каліноўскага – Казіміры Багушэвіч і Марыі Плаўскай. LVIA. – F. 1135. – Ap. 4. – B. 381. – L. 1–3v. Таксама свае паказанні следчай камісіі на польскай мове даваў Сымон Каліноўскі, у адрозненне ад Канстанціна, які даваў іх па-руску. НГАБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 2. – Арк. 336–337.

[62] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. – T. 1. – Wilno, 1913. – S. 220.

## *Якушоўка – маёнтак Каліноўскіх*

У 1849 годзе ў сям'і Каліноўскіх адбываецца найважнейшая падзея: пасля правалу праекта стварэння фабрыкі пад Вільняй Сымон напалам з Ізабэлаю 11 красавіка[63] набывае ў памешчыка Вікенція Ляскоўскага маёнтак Якушоўку Ваўкавыскага павета. Так праз 80 гадоў пасля продажу дзедам Мацеем радавога маёнтка Калінава Сымон спаўняе даўнішнюю сямейную мару – з арандатара ператвараецца ў зямельнага ўладальніка. Да таго ж ад Якушоўкі было ўсяго 11 км да мястэчка Свіслач, дзе навучаліся сыны Сымона і праз якое меліся лепшыя магчымасці для гандлю.

Сюды ж з Мастаўлян было перавезена абсталяванне фабрыкі Каліноўскага. У 1987 годзе на тэрыторыі якушоўскай сядзібы падчас археалагічных раскопак быў знойдзены друкаваны штамп гэтага прадпрыемства[64].

Якушоўка ў дадатак да сядзібы з гаспадарчымі пабудовамі складалася з 226 дзесяцін пясчанай зямлі, сенакосаў ды лесу. Побач працякала паўнаводная рачулка Ятвезь, за якой пачыналася Белавежская пушча.

Каліноўскі першапачаткова валодаў маёнткам за працэнт ад пяці тысяч рублёў, якія ён унёс пры запродажнай здзелцы. У 1852 годзе пасля неатрымання “купчай крэпасці на онае”[65]

---

[63] Сачек, М.Н. Документы ЦГИА БССР в Гродно о жизни и деятельности Кастуся Калиновского / М.Н. Сачек // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 63.

[64] Марошек, Ю. Дворянское имение в Мостовлянах – место рождения К. Калиновского / Ю. Марошек // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 69.

[65] Сачек, М.Н. Документы ЦГИА БССР в Гродно о жизни и деятельности Кастуся Калиновского / М.Н. Сачек // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 63.

Якушоўка праз Ваўкавыскую дваранскую апеку цалкам перайшла да Сымона Каліноўскага.

Але яшчэ да таго, як маёнтак стаў уласнасцю Каліноўскіх, на новым месцы іх напаткаў працяг сямейнай трагедыі: "ад шкоды" ва ўзросце сямі месяцаў 5 жніўня 1851 года памёр сын Сымона – Ісідор Тэафіл[66]. Праз год, 15 верасня 1852 года, не пражыўшы і двух месяцаў, памёр Юльян Каліноўскі[67], у запісе аб смерці названы "дзяўчынай"[68].

Смерць дамоклавым мячом навісла над сям'ёй: амаль штогод у Сымона і Ізабэлы працягвалі нараджацца і паміраць дзеці. Наступным стаў іх першы сын Фелікс, які памёр 28 чэрвеня 1853 года ад залатухі, не дажыўшы да пяцігадовага ўзросту[69]. Але ўжо праз паўмесяца, 11 ліпеня, сям'я Каліноўскіх папоўнілася дачкою Лізаветаю, ахрышчанай у Якушоўцы 19 ліпеня[70]. У 1855 годзе памерла, як і ў выпадку Ісідора Тэафіла – "ад шкоды", – двухмесячная дачка Іосіфа Уршуля[71]. І ў гэтым жа годзе 8 снежня сям'я зноў папоўнілася чарговым дзіцём – даўгачаканым сынам – Міхаілам[72], народжаным усяго праз 13 месяцаў пасля Іосіфы Уршулі. А 13 снежня была падпісана пастанова сената ад 12 кастрычніка аб зацвярджэнні Каліноўскіх у дваранскім званні[73].

У далейшым у сям'і Сымона і Ізабэлы Каліноўскіх нарадзіліся яшчэ чатыры дачкі: Іагана-Юзэфа (1858)[74], праз 20 месяцаў за ёй Казіміра-Ізабэла (1860)[75], за якой праз 18

[66] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 3. О рождении с 1848 по 1854 гг. – Арк. 46 адв.

[67] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк. 76 адв.

[68] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 8. Свислочский костел о смерти с 1848 по 1868 гг. – Арк. 28.

[69] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 8. – Арк. 33.

[70] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк. 90 адв. – 91.

[71] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк 100 адв. – 101.

[72] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 4. Книга регистрации рождения Свислочского костела. – Арк. 9 адв. – 10.

[73] Кісялёў, Г.В. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г.В. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 100.

[74] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 4. – Арк. 38 адв. – 39.

[75] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 4. – Арк. 67 адв. – 68.

Казіміра-Ізабэла Каліноўская, па мужу Багушэвіч. У 1913 годзе звесткі з яе ліста да Людвіга Чарноўскага былі выкарыстаны пры напісанні гістарычнай даведкі пра Кастуся Каліноўскага, змешчанай у якасці дадатку да мемуараў палітычнага праціўніка яе брата – Якуба Гейштара (Pamięt-

месяцаў Сабіна (1861)[76]. А за тыдзень да павешання Канстанціна Каліноўскага на Лукішскай плошчы з'явілася на свет яго малодшая сястра Міраслава-Элеанора (1864)[77].

Якушоўка заставалася ва ўласнасці Каліноўскіх і пасля паўстання 1863–1864 гадоў. Яе гаспадар памёр 3 лютага 1871 года[78] ва ўзросце 78 гадоў, пакінуўшы пасля сябе пяць дачок (Марыя, Юлія, Казіміра, Сабіна, Міраслава) і сына Міхаіла. Жонка Ізабэла перажыла мужа на 16 гадоў[79]. Род Каліноўскіх, які так шмат страціў, працягнулі Марыя (па мужу Плаўская), Казіміра (па мужу Багушэвіч) і адзіны яго мужчынскі нашчадак Міхаіл.

У Міхаіла Каліноўскага, які ажаніўся з уладальніцай маёнтка Коласава Тэрэзай Булгарынавай, у дзявоцтве Бутрыкевіч, 31 мая 1890 года нарадзіўся сын, названы Канстанцін-Антон[80]. Але 1 красавіка 1891 ён памёр ад запалення мозгу[81]. Несці надалей прозвішча Каліноўскі застаўся толькі Уладзімір-Фелікс, народжаны 28 ліпеня 1892 года[82]. Яго бацька Міхаіл памёр 21 жніўня 1895 года ад сухотаў[83], маючы ўсяго 40 гадоў. Дзеці сясцёр Марыі і Казіміры мелі ўжо іншыя прозвішчы.

Сам жа маёнтак у Якушоўцы згарэў незадоўга да Першай сусветнай вайны. Яго падмуркі былі выяўлены ў 1987 годзе ў выніку раскопак пад кіраўніцтвам Міхася Ткачова. Сёння аб часах Каліноўскіх тут нагадвае старая ліпавая алея, згодна легендзе, пасаджаная асабіста Канстанцінам. На месцы ж фальварка ўсталяваны крыж і памятны камень. У пачатку 1990-х быў складзены праект аднаўлення сядзібы Каліноўскіх

---

niki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 370–371.). Ліст апублікаваны А. Смаленчуком (Смалянчук, А. Асоба Кастуся Каліноўскага як даследчая праблема / А. Смалянчук // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Мінск, 2011. – С. 18–20.)

[76] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 4. – Арк. 91 адв. – 92.

[77] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 1. – Спр. 4. – Арк. 131 адв. – 132.

[78] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 2. – Спр. 2. Свислочский костел. Метрическая книга о умерших с 1866–1887 год. – Арк. 9 адв.

[79] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 2. – Спр. 5. Свислочский костел. Метрическая книга о умерших с 1887–1905 год. – Арк. 9.

[80] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 2. – Спр. 4. Метрическая книга родившихся с 1885–1893 год. – Арк. 123 адв. – 124.

[81] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 2. – Спр. 5. – Арк. 43 адв. – 44.

[82] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 2. – Спр. 4. – Арк. 173 адв. – 174.

[83] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1809. – Воп. 2. – Спр. 5. – Арк. 55 адв. – 56.

у якасці музея, аднак да цяперашняга часу праект застаецца нерэалізаваным, хоць прыклад касцюшкаўскай Мерачоўшчыны сведчыць, што час каліноўскай Якушоўкі таксама прыйдзе.

## *Свіслач у першай палове XIX стагоддзя*

Якушоўка знаходзілася побач са Свіслаччу Ваўкавыскага павета. Упершыню ўзгаданае яшчэ ў Іпацьеўскім летапісе пад 1256 годам, мястэчка за час свайго існавання неаднойчы мяняла ўладальнікаў. Заслаўскія, Хадкевічы, Пакашавы, Крышпіны, Ромеры і, нарэшце, Тышкевічы, пры якіх Свіслач перажыла "залаты век". Прадстаўнік знакамітага роду Вінцэнт Тышкевіч (1757–1816) цалкам перабудаваў мястэчка па ўсіх правілах сіметрыі, размясціўшы ў яго цэнтры рынак з высокай калонай пасярэдзіне. Ад рынка вялі шэсць вуліц, кожная з якіх завяршалася каменнай брамай. Самая шырокая і доўгая з іх, вуліца Брэсцкая, цягнулася ў паўднёвым накірунку да Белавежскай пушчы, завяршаючыся капліцай Анёлаў-Ахоўнікаў з дзвюма брамамі паабапал яе. Ва ўсходнім кірунку ад рынку вялі вуліцы Мсцібаўская і Рудаўская з царквой, населеная пераважна вучнёўскай моладдзю. На поўнач ішла Гродзенская вуліца, за брамаю якой былі могілкі, абсаджаныя соснамі. На захад вяла Варшаўская вуліца[84].

У Свіслачы дзейнічалі адразу пяць заезных двароў: пад Арлом, Аленем, Валом, Адзінарогам і Лебедзем, – а таксама карчма і аптэка[85].

Былі тут царква, касцёл, сінагога і два яўрэйскія малітоўныя дамы. Драўляны парафіяльны касцёл Святой Тройцы быў уфундаваны яшчэ ў 1668 годзе літоўскім падскарбіем Геранімам Крышпінам, адноўлены ў 1742 на сродкі Тэрэзы Крышпін і яшчэ раз перабудаваны ў 1782 годзе. Ён меў пяць алтароў і па баках дзве капліцы[86]. Менавіта гэты касцёл наведвала сям'я Каліноўскіх пасля пераезду, а яе прадстаўнікі былі пахаваны на мясцовых парафіяльных могілках. Касцёл Святой Тройцы адлюстраваў на адным са сваіх малюнкаў Напалеон Орда.

[84] Swisłocz. Kilka wspomnień // Kłosy. – 2 października 1879. – № 744. Tom XXIX. – S. 221.

[85] Wasilenko, M. Świsłocz: dziejowe blaski i cienie / M. Wasilenko // Magazyn Polski na Uchodźstwie. – 2015. – № 5 (113). – S. 11.

[86] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Tom XI. – Warszawa, 1890. – S. 720.

Аднак найбольшую вядомасць Свіслачы надавалі гімназія і Успенскі кірмаш[87]. Яго патрэбы ў першай палове XIX ст. забяспечваў гандлёвы двор з 40 лаўкамі, кожная з якіх мела па тры пакоі. Лаўкі размяшчаліся прамавугольнікам па 14 лавак у даўжыню і па 6 у шырыню. З абодвух бакоў двара былі брамы, а ў сярэдзіне – пляц.

Свіслацкі Успенскі кірмаш, другі па памерах ва ўсёй Гродзенскай губерні пасля Анненскага ў Зэльве, быў заснаваны яшчэ ўладальнікам мястэчка Тышкевічам, які атрымаў прывілей ад караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста 16 студзеня 1783 года. На час кірмаша Тышкевіч нават запрашаў у мястэчка тэатральныя калектывы з Гродна, Вільні і Варшавы.

Таму ў Свіслач прыязджалі не толькі жыхары вакольных вёсак ды суседніх губерняў, але і гандляры з Каралеўства Польскага, Цэнтральнай Расіі, Украіны, а таксама з Аўстрыі, Прусіі, Францыі, Італіі, Даніі, Турцыі. Усяго збіралася да 3–4 тысяч чалавек. Гандлявалі тымі ж таварамі, што і на Анненскім кірмашы. Пераважнае значэнне мелі расійскія вырабы: у 1830 г., напрыклад, іх прывезлі на 172220 руб. (84 % агульнай сумы), а ў 1850 г. – на 31960 руб. З еўрапейскіх тавараў можна было купіць сукно, фарбы, інструменты, напоі, кнігі і інш. З "усходніх" вырабаў меліся кітайская гарбата, бухарскія і персідскія хусткі. Таксама гандлявалі коньмі, авечкамі, буйной рагатай жывёлай.

Спачатку кірмаш праводзіўся як двухтыднёвы, пазней ужо як месяцовы – з 25 жніўня да 25 верасня. Але паступова яго значэнне памяншалася, на што паўплывала канфіскацыя Свіслачы царскімі ўладамі за ўдзел Тадэвуша Тышкевіча ў паўстанні 1830–1831 гадоў. Калі ў 1829 годзе на кірмаш прывозілі тавараў коштам больш за 200 тысяч рублёў, у 1845 годзе – да 135 тысяч рублёў, то ў 1857 годзе – толькі на суму 15 тысяч рублёў[88].

Яшчэ ў верасні 1850 года ваўкавыскі спраўнік даносіў губернатару пра цяжкасці, якія меліся ў Свіслачы: "Каменныя казённыя лаўкі па сваім трывалым, з усімі выгодамі для купецтва, папярэднім уладкаванні цяпер прыведзены ў такі

[87] Швед, В.В. Торговля в Беларуси в период кризиса феодализма (1830–1850-е годы) / В.В. Швед – Гродно: ПКФ "Орбикс", 1995. – С. 23.

[88] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния / П. Бобровский. – Санкт-Петербург, 1863. – Часть 2. – С. 1071.

стан старасці, што ў папярэдніх і цяперашнім годзе некаторыя гандляры пацярпелі страты ад намакання тавараў, бо дах на лаўках зусім стары, у выпадку дажджу лаўкі вадою залівае"[89]. У выніку перад паўстаннем 1863 года кірмаш у Свіслачы амаль перастаў існаваць.

Вялікае значэнне для развіцця мястэчка мелі шляхі зносін, якія ахарактарызаваў Л. Патоцкі: "Хто добра натросся і не раз перакуліўся на самых горшых дарогах у нашым краі, хто пазнаёміўся з мясцінамі, дзе развальваюцца дамы, якія так мала адрозніваюцца ад мужыцкіх халупаў… той будзе вельмі здзіўлены, апынуўшыся на Свіслацкай зямлі. А едучы па роўным гасцінцы, абсаджаным дрэвамі, забяспечаным бар'ерамі, і ўязджаючы ў акуратна і прыгожа збудаваны горад, які ўтрымліваюць чыста і ахайна, забудзе на хвіліну, дзе знаходзіцца, і перанясецца ў думках на берагі Эльбы альбо Рэйна…"[90].

## *Свіслацкая гімназія*

На ўсю губерню была вядома Свіслацкая гімназія, якая першапачаткова насіла назву Гродзенскай губернскай гімназіі. Заснавана яна была ў 1804 годзе Вінцэнтам Тышкевічам – граф ахвяраваў пад навучальную ўстанову будынак і завяшчаў гімназіі 30 тысяч рублёў срэбрам[91].

Дадзеная адукацыйная ўстанова ў час навучання ў ёй Каліноўскіх займала ў Свіслачы асобны квартал. У яго ўваходзілі як пабудаваны ў 1828 годзе сам будынак гімназіі ў стылі класіцызму, цэнтральную частку якога складаў дарычны порцік з чатырнаццацю калонамі, так і два бакавыя карпусы з кватэрамі настаўнікаў ды пабудаваная яшчэ раней касцельная капліца. Быў тут і сад з сажалкай. Гімназія мела багатую бібліятэку, фізічны і мінералагічны кабінеты. У лепшыя гады тут вучылася да 300 хлопчыкаў з Гродзенскага, Брэсцкага, Пружанскага, Кобрынскага, Ваўкавыскага і Слонімскага паветаў.

Найбольш вядомымі выпускнікамі гімназіі былі самы пладавіты польскі пісьменнік – аўтар 223 раманаў і аповесцей

[89] Цыт. паводле: Соркіна, І. Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. / І. Соркіна. – Вільня, 2010. – С. 117.

[90] Там жа, с. 105.

[91] Самусік, А. Свіслацкая гімназія / А. Самусік // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. – Мн, 2001. – Т. 6, кн. 1. – С. 262.

Юзаф Ігнацы Крашэўскі (1812–1887); адзін з заснавальнікаў манголазнаўства ў Расійскай Імперыі Восіп Міхайлавіч Кавалеўскі (1800–1878); удзельнікі паўстання 1830–1831 гадоў: польскі літаратар Леон Зянковіч (1808–1870) – выдатны дзеяч Польскага дэмакратычнага таварыства на эміграцыі, якога А. Герцэн называў "маленькім ліцвінам"[92], і Віктар Гельтман (1796–1878) – публіцыст і палітычны дзеяч, у 1836 годзе абраны ў першы склад Цэнтралізацыі[93], што належаў да ліку аўтараў яго маніфеста, а ў час кракаўскай рэвалюцыі 1846 года выступаў за вызваленне сялян[94]; прафесар Станіслаў Батысь Горскі (1802–1864) – батанік, які ў 1849 годзе склаў на лацінскай мове каталог 1205 відаў раслін Літвы і Беларусі, дзе змясціў малюнкі 10 упершыню ім апісаных і вызначаных відаў[95]; мастак Напалеон Орда (1807–1883), які занатаваў на сваіх малюнках шматлікія помнікі культуры, што не захаваліся да нашага часу.

Менавіта ў Свіслацкай гімназіі, якая мела даўнія традыцыі яшчэ з часоў Адукацыйнай камісіі ВКЛ, з 1847/1848 па 1851/1852 навучальныя гады вучыўся Канстанцін Каліноўскі. У час паступлення ў гімназію Канстанціна яго брат Віктар вучыўся ўжо ў IV класе і актыўна цікавіўся не толькі гісторыяй, але і палітыкай. Малодшы брат цягнуўся за старэйшым і паступова засвойваў тыя новыя ідэі, якімі было напоўнена паветра ў калідорах гімназіі ды на закрытых сустрэчах гімназістаў.

Моладзь цікавілі далёка не тыя погляды, якія прапаведаваліся ў часопісе "Rubon" віцебскага шляхціча Казіміра Буйніцкага з яго богабаязнасцю, патрыярхальнай прастатой, павагай да законаў і мясцовых улад, або "Athenaeum" Юзафа Крашэўскага з яго імкненнем да распаўсюджвання каталіцызму як панацэі ад усіх бед.

---

[92] Л. Зянковіч сумесна з Ворцэлем дапамог А. Герцэну ў заснаванні Вольнай рускай тыпаграфіі ў Лондане.

[93] Цэнтралізацыя – выбарны орган Польскага дэмакратычнага таварыства, утворанага 17 сакавіка 1832 года ў Парыжы ў асяродку эмігрантаў з зямель былой Рэчы Паспалітай. Абвінавачвалі ў паражэнні Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гадоў шляхту, якая не здолела вырашыць сялянскае пытанне. Таварыства лічыла неабходным надзяліць сялян зямлёй без кампенсацыі абшарнікам.

[94] Kordowicz, W. Konstanty Kalinowski / W. Kordowicz. – Warszawa, 1955. – S. 30.

[95] Шалькевич, В.Ф. Кастусь Калиновский. Страницы биографии / В.Ф. Шалькевич. – Мн.: Университетское, 1988. – С. 60.

Моладзь рыхтавалася выступіць з пачаткам агульнаеўрапейскай рэвалюцыі, жыла нацыянальна-рамантычнымі і ліберальнымі ідэямі, увасобленымі, з аднаго боку, у "польскім месіянізме" Адама Міцкевіча, з другога – у ідэях кіраўніка "Дэмакратычнага таварыства" Франца Савіча з яго "свабоднымі павінны быць усе"[96].

Канец 1840-х гадоў – перыяд чарговага распаўсюджання таемных арганізацый, якія звярталіся як да прыкладу мясцовых філаматаў і філарэтаў (сярод іх былі і выпускнікі Свіслацкай гімназіі), так і да італьянскіх карбанарыяў, якія імкнуліся шляхам усеагульнай рэвалюцыі стварыць універсальную дэмакратычную рэспубліку. Сваім уплывам і значэннем вылучаліся заснаваны ў Вільні братамі Францішкам і Аляксандрам Далеўскімі "Братні саюз літоўскай моладзі" (1846–1849) і Мінскі тайны гурток (1848–1849), які знаходзіўся пад уплывам ідэй пецярбургскага студэнта, "апостала містычна-патрыятычнага руху" Зыгмунта Серакоўскага. Да таварыства належалі будучыя актыўныя дзеячы паўстання 1863–1864 гадоў Уладзіслаў Барзабагаты і Іасафат Агрызка, якія верылі ў магчымасць утаймавання варварскіх інстынктаў народу ўласным прыкладам і мелі дэвізам французскі выраз "Любоў у якасці прынцыпу, парадак у якасці асновы, прагрэс у якасці мэты"[97].

Адсюль ішлі вытокі тых ідэй, якія былі распаўсюджаны сярод вучняў Свіслацкай гімназіі – адраджэнне колішняй Рэчы Паспалітай і неабходнасць адмены прыгоннага права. Таму кумірамі моладзі з'яўляліся павешаны ў 1833 годзе ў Гродне Міхаіл Валовіч і расстраляны ў 1839 годзе ў Вільні Шымон Канарскі, якія марылі пра адмену прыгону і вызваленне сялянства. Гэтае пытанне набыло новае гучанне ў асяродку шляхецкай моладзі пасля "Галіцыйскай разні" 1846 года, якая, згодна Якубу Гейштару, аказала "моцны ўплыў на наша ўсведамленне – настрой быў... дэмакратычны, калі не анархічны"[98]. Сведчанне таго – распаўсюджванне ў 1847

[96] Смірноў, А. Франц Савіч. З гісторыі беларуска-польскіх рэвалюцыйных сувязей 30–40-х гадоў XIX стагоддзя / А. Смірноў. – Мінск, 1961. – С. 14.

[97] Pamęci Józefata Ohryzki // Biblioteka Warszawska. – Warszawa, 1907. – T. 2. – S. 225.

[98] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 89.

годзе дробным чыноўнікам Юльянам Бакшанскім звароту "Да смаргонскіх сялян". Пракламацыі навялі вялікі страх на многіх памешчыкаў Ашмянскага, Віленскага і Дзісненскага паветаў, вымусіўшы іх у страху перад пагрозаю сялянскага бунту перабірацца ў Вільню. Сам Бакшанскі збіраўся даць сялянам грошы на набыццё зброі і падняць паўстанне, але быў схоплены і асуджаны на 12 гадоў катаргі[99].

Цяжкае становішча сялянства, на якое закрывалі вочы ўлады, непакоіла адукаваныя слаі насельніцтва. Усё часцей з'яўляліся навіны пра бесчалавечнае стаўленне памешчыкаў да вяскоўцаў. Так, у 1847 годзе ў арыстакратычных салонах Расійскай Імперыі была папулярнай гісторыя пра "мазырскую салтычыху" Ганарату Стоцкую, якая была вядома схільнасцю да жудасных катаванняў уласных сялян і аднойчы нават загадала зварыць у катле цела забітай па яе загаду шаснаццацігадовай пакаёўкі.

Прыгонныя сяляне знаходзіліся ў становішчы рабоў, самаўпраўства ўладальнікаў у адносінах да якіх амаль нічым не абмяжоўвалася. Аб гэтым сведчыў шляхціч з Беластоцкай вобласці Адам Буцькевіч (1810–1895), які на 14 гадоў быў сасланы ў салдаты: "Кожнае спатканне з панам вымагала паклону, схіліўшы галаву амаль да зямлі. Нельга было вясковаму падданаму ані перасяліцца ў іншае месца, ані ажаніцца без дазволу двара. Пан быў суддзёй усіх спраў на вёсцы і вёскай выкліканых. Цялесныя пакаранні вызначалі пан альбо яго ўраднік ці аканом, і яны мелі на гэта нададзенае ім права. Адным словам, вясковец-падданы быў рэччу – уласнасцю для ўжытку пана"[100]. Катаванні, фізічныя пакаранні, сэксуальнае выкарыстанне сялянак, рэкрутчына з'яўляліся агіднымі старонкамі прыгонніцтва, супраць якога выступалі найбольш радыкальныя прадстаўнікі гімназічнай моладзі, у тым ліку і браты Каліноўскія ды будучыя ўдзельнікі паўстання Адольф Белакоз, Уладзіслаў Малахоўскі і Рамуальд Траўгут.

Аднак, нягледзячы на прагрэсіўныя погляды моладзі,

[99] У 1863 годзе Юльян Бакшанскі вярнуўся на радзіму і стварыў паўстанцкі атрад. Загінуў 4 красавіка ў бітве каля вёсак Свечкі і Плябань цяперашняга Маладзечанскага раёна.

[100] Цыт. паводле: Токць, С. Беларуская прыгонная вёска і панскі двор XIX ст. у святле мемуарнай літаратуры / С. Токць // Arche. – студзень-люты 2014. – № 1–2 (122–123). – С. 214–215.

якія ядналі яе з папярэднікамі – філаматамі і філарэтамі, – у адрозненне ад 1810–1820-х гадоў, якасць адукацыі ў гімназіі панізілася. Калі да часу паўстання 1830–1831 гадоў у Свіслацкай гімназіі выкладалі адныя з лепшых ва ўсім краі настаўнікаў (як, да прыкладу, браты Леон і Ігнацій Бароўскія), пасля адкрыцця гімназіі ў Гродна статус Свіслацкай вучэльні панізіўся да ардынарнай павятовай у лістападзе 1835 года. Мікалаеўская эпоха характарызавалася наступам на адукацыю. У Свіслачы такія прадметы, як філасофія, права, палітычная эканомія былі заменены “страявым уставам пяхотнай службы, ротнага і батальённага вучэння”, была ўведзена салдацка-казарменная дысцыпліна.

Прымяняліся фізічныя пакаранні ў выглядзе ўдараў розгамі, папулярным было так званае “даць лапу” – удары па далоні драўлянай лінейкай[101]. У выпадку сур’ёзных парушэнняў даходзіла да здачы вучняў у салдаты.

Моладзь Свіслацкай гімназіі, якая адчувала моцную духоўную повязь з папярэднімі пакаленнямі навучэнцаў гэтай слыннай установы, базавай для закрытага ў 1832 годзе Віленскага ўніверсітэта, задавалася пытаннем наконт далейшага лёсу Бацькаўшчыны. Кіраўніцтва Гродзенскай губерні гэта добра разумела, таму не дзіўна, што 2 студзеня 1845 года з’явіўся загад аб пераводзе павятовай гімназіі ў горад Шаўлі Ковенскай губерні. Але рэвалюцыйная сітуацыя 1846–1848 гадоў адклала гэты крок да 1 верасня 1851 года, калі гімназія была ператворана ў пяцікласнае павятовае вучылішча. Таму навучэнцы старэйшых класаў вымушаны былі шукаць працягу навучання ў іншых месцах. Так здарылася і ў выпадку Віктара Каліноўскага, які пакінуў у Свіслачы свайго брата Канстанціна і перайшоў у Гродзенскую губернскую гімназію. Тут ён вучыўся ў сёмым класе з 16 жніўня 1851 года па 20 чэрвеня 1852 года і нарэшце 23 чэрвеня атрымаў атэстат[102]. Гэты дакумент дае нам уяўленне пра прадметы, па якіх атрымлівалі веды браты Каліноўскія: расійская, лацінская, нямецкая і французская мовы, руская славеснасць, Закон Божы і Свяшчэнная гісторыя, а таксама геаграфія, фізіка, чарчэнне і маляванне.

[101] Шалькевич, В.Ф. Кастусь Калиновский. Страницы биографии / В.Ф. Шалькевич. – Мн.: Университетское, 1988. – С. 63.

[102] Кісялёў, Г. Новае пра Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // Полымя. – № 7. – ліпень 1959. – С. 146.

Па ўсіх прадметах Віктар Каліноўскі меў адзнаку “добра”[103], і таму пакінуў гімназію з правамі і перавагамі, якія даюцца вучням, што скончылі поўны гімназічны курс, але без праў на чын XIV класа.

Канстанцін Каліноўскі ў выніку змены статусу ўстановы адукацыі ў Свіслачы скончыў у 1852 годзе пяцікласнае павятовае вучылішча, узровень якога значна саступаў сямікласнай гімназіі. Для паступлення ва ўніверсітэт неабходна была дадатковая падрыхтоўка.

А былую Свіслацкую гімназію чакаў лёс прагімназіі, зачыненай у 1864 годзе за ўдзел яе навучэнцаў у паўстанні. З 1875 года тут размяшчалася семінарыя, дзе рыхтавалі настаўнікаў для царскіх пачатковых школ – народных вучылішчаў[104]. Са сцен гэтай, здавалася б, прасякнутай манархічным духам установы выйшлі дзясяткі актыўных беларускіх дзеячаў міжваеннай пары: Іосіф Баліцкі, Аляксандр Грыкоўскі, Мікола Дзямідаў, які лічыў сябе сваяком Канстанціна Каліноўскага, Стафан Жабінскі, Макар Касцевіч (Макар Краўцоў), Аляксандр Коўш і многія іншыя. У час Першай сусветнай вайны тут распачала дзейнасць беларуская настаўніцкая семінарыя, замененая ў 1923 годзе на польскую, якая ў 1935 годзе была названа ў гонар Рамуальда Траўгута.

У час Вялікай Айчыннай вайны галоўны буднак гімназіі быў пашкоджаны і разабраны на цэглу. На яго месцы з’явілася раённая бальніца, якой належыць захаваны правы флігель некалі вядомай навучальнай установы.

## *Фарміраванне светапогляду Канстанціна Каліноўскага ў час навучання ў Свіслацкай гімназіі*

Мяжа 1840–1850-х гадоў у свеце з’яўлялася перыядам, калі пульс гісторыі моцна паскорыўся. Прамысловы пераварот з яго станкамі і паравымі машынамі на прадпрыемствах, новымі галінамі прамысловасці; навуковыя вынаходніцтвы, кштал-

[103] Кісялёў, Г. Героі і музы: гіст.-літ. нарысы / Г. Кісялёў. – Мн., 1982. – С. 119.

[104] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Tom XI. – Warszawa, 1890. – S. 720.

ту фатаграфіі, тэлеграфа або чыгункі, якія пераставалі быць здабыткам эліты і знаходзілі адлюстраванне ў жыцці вялізнай колькасці людзей.

Гады навучання Канстанціна Каліноўскага ў Свіслацкай гімназіі сваім пачаткам супалі з агульнаеўрапейскай "Вясной народаў", а завяршыліся на фоне Крымскай вайны.

У Еўропе адбываліся неймаверныя сацыяльныя зрухі, якія выліліся ў рэвалюцыі ў Францыі, Аўстрыйскай імперыі, Швецыі, на землях Германіі, італьянскіх дзяржаў, і нават закранулі Бразілію ў Лацінскай Амерыцы. З мэтаю прадухілення іх распаўсюджвання, у Венгрыю былі накіраваны рускія войскі. Выступленні ўрэшце пацярпелі паражэнне, але іх уплыў на свядомасць новага пакалення прадвызначыў пашырэнне левых сацыялістычных ідэй[105].

Усяго праз чатыры гады пасля "Вясны народаў" Еўропа чарговы раз ускаланулася. Падставаю да гэтага стала Крымская вайна, у якую супраць Расіі на баку Асманскай імперыі выступілі Францыя і Англія. На тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай вайна ўспрымалася з вялікай надзеяй як магчымасць дапамогі з боку замежных дзяржаў. Узгадкі пра яе пазней знайшлі адлюстраванне і ў "Мужыцкай праўдзе", якую выдаваў Каліноўскі[106].

Да таго ж у Свіслацкай гімназіі, некалі базавай для Віленскага ўніверсітэта, як нідзе ў іншай навучальнай установе краю заставалася моцная памяць пра пакаленне таемных арганізацый філаматаў і філарэтаў[107], якія марылі пра адраджэнне Рэчы Паспалітай. Але ў адрозненне ад папярэднікаў, сярод новага пакалення, таксама выхаванага ў межах "польскай культуры", назіраецца новая з'ява – у 1840-я гады ў літаратуры пашыраюцца тэрміны "Беларусь", "беларусы"[108], пацвярджэн-

[105] У 1848 годзе Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс напісалі "Маніфест камуністычнай партыі".

[106] Згадкі пра дапамогу "француза" маюцца ў № 2, 3, 5 і 7 "Мужыцкай праўды". У № 3 пазначана: "Калі Француз пад Свістаполем заўсім пабіў маскаля, то для таго, каб маскаль не меў сілы і грошы, прыказаў народаві даці вольнасць, не браць рэкрутаў і вялікіх падаткаў. Маскаль згадзіўся на гэта, бо думаў, што народ дурны і патрапіць яго ашукаці!".

[107] Kordowicz, W. Konstanty Kalinowski / W. Kordowicz. – Warszawa, 1955. – S. 31.

[108] Хаўстовіч, М.В. Гісторыя беларускай літаратуры 30–40-х гг. XX ст. / М.В. Хаўстовіч – Мн.: БДУ, 2001. – С. 8.

нем чаго з'яўляецца выдадзены ў 1837 годзе ў Пецярбургу трохтомнік на польскай мове "Вершаваныя творы трох братоў, Валяр'яна, Клеменса, Юльяна Грымалоўскіх, беларусаў". У дадатак да "ліцвінскай" ідэнтычнасці жыхароў колішняга Вялікага Княства Літоўскага сярод шляхты пашыраецца "беларуская", што не магло застацца па-за ўвагай Канстанціна Каліноўскага, выхаванага ў цесных стасунках з сялянскім асяродкам вёскі Мастаўляны.

Моладзь Беларусі і Літвы ў дадатак да твораў Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, У. Сыракомлі чытае забароненыя ананімныя вершаваныя сачыненні на беларускай мове, такія як "Энеіда навыварат". Папулярнымі становяцца фальклорныя творы, якія перакладаюцца таксама на польскую мову, выступаюць прыкладам для аўтарскіх прац, як паэма "Марына" або аповесць "Нечаканы госць" Аляксандра Грозы (1807–1875), выдаўца альманаха "Rusałka". У іх прысутнічае моцны антыпрыгонніцкі пасыл, аб чым сведчылі папулярныя для свайго часу вершы і эпіграмы былога выкладчыка лацінскай мовы Мінскай гімназіі, які страціў зрок, Ігната Легатовіча (1796–1867). Адзін з іх быў прысвечаны памерламу Леану Оштарпу, маршалку Мінскай губерні, які вылучаўся жорсткім стаўленнем да прыгонных сялян:

"Са смерцю Оштарпа
Усё інакшым стане:
Панове кінуць піць,
Пачнуць есці сяляне"[109].

Аднак магістральнай ідэяй сярод моладзі, у тым ліку вучняў Свіслацкай гімназіі, усё ж выступала не думка пра адмену прыгоннага права, а аднаўленне колішняй Рэчы Паспалітай. Канстанцін Каліноўскі наўрад ці ў гэтым плане моцна адрозніваўся ад сваіх сучаснікаў. Але яго з агульнай масы вылучалі ўласны досвед знаёмства з сялянскім жыццём, дасканалае веданне беларускай мовы і паходжанне "сына ткача", што магло выступаць падставаю для зараджэння тых ідэй, якія пазней знайшлі адлюстраванне ў яго дзейнасці.

Пасля набыцця Сымонам Каліноўскім маёнтка Якушоўка яго пасталеўшы сын Канстанцін сутыкнуўся і з агіднасцю прыгонніцкай сістэмы, якая заставалася па-за яго дзіцячай

[109] Хаўстовіч, М.В. Гісторыя беларускай літаратуры 30–40-х гг. ХХ ст. / М.В. Хаўстовіч – Мн.: БДУ, 2001. – С. 50.

увагай у Мастаўлянах. Адмоўнае стаўленне да яе яшчэ больш узмацнілася падчас навучання ў гімназіі, дзякуючы ўплыву брата Віктара, чытанню нелегальнай літаратуры і абмеркаванням на таемных сходах гімназістаў. Аднак нішто не магло паўплываць на свядомасць падлетка так істотна, як трохгадовы перыяд (1852–1855), на працягу якога ён вымушаны быў дапамагаць у сямейным кіраванні маёнткам.

## *Віктар Каліноўскі ў Маскве*

Віктар Каліноўскі пасля заканчэння Гродзенскай гімназіі месяц пражыў у Якушоўцы, дзе рыхтаваўся да паступлення ва ўніверсітэт. У гэты час, правучыўшыся пяць гадоў, скончыў Свіслацкую гімназію і Канстанцін, які стаў апорай бацькі ў кіраванні сямейнай гаспадаркай. У адрозненне ад Віктара, які ўжо 22 ліпеня 1852 года падаў прашэнне аб здачы іспытаў у Імператарскі Маскоўскі ўніверсітэт. І гэта нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча, у якім апынулася сям'я Каліноўскіх, у сувязі з чым ужо падчас навучання ў VI класе Свіслацкай гімназіі імя Віктара трапіла ў спіс вучняў, "якія з прычыны поўнай беднасці не могуць уносіць устаноўленай за навучанне платы"[110]. Таму да прашэння на імя рэктара Віктар прыклаў пасведчанне аб беднасці.

Таксама ў якасці дадатку ён змясціў копію дэкрэта аб "шляхецкай радавітасці фаміліі высакародных Каліноўскіх", якая была складзена на імя старэйшага роднага брата Віктара – Іосіфа. Але гэтага аказалася недастаткова, паколькі да 1855 года Каліноўскія не былі канчаткова зацверджаны сенатам у дваранстве. Віктар вымушаны быў звяртацца яшчэ за пацвярджэннем аб праве карыстацца перавагамі дваранства да Гродзенскай дваранскай дэпутацкай зборні, ад якой і атрымаў адпаведны дакумент ад 13 жніўня 1852 года[111].

Пасля паспяховай здачы іспытаў Віктар стаў студэнтам медыцынскага факультэта: "…яго большасць складалася з семінарыстаў і немцаў. Немцы трымалі сябе некалькі ў баку і былі вельмі прапітаныя заходнемяшчанскім духам. Усё выхаванне няшчасных семінарыстаў, усе іх паняцці былі зусім іншыя, чым у нас, мы размаўлялі рознымі мовамі; яны, якія выраслі пад прыгнётам манаскага дэспатызму, забітыя сваёй

---

[110] Кісялёў, Г. Героі і музы: гіст.-літ. нарысы / Г. Кісялёў. – Мн., 1982. – С. 121.

[111] Там жа, с. 120.

рыторыкай і тэалогіяй, зайздросцілі нашай развязнасці; мы крыўдавалі на іх хрысціянскую пакору”[112].

У такіх абставінах важнай з'яўлялася падтрымка і дапамога, якую аказвалі адзін аднаму выхадцы з тэрыторыі Беларусі і Літвы. Зблізкалі іх і думкі пра цяжкі стан Бацькаўшчыны, які яны марылі змяніць да лепшага. Нездарма многія выпускнікі медыцынскага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта затым прынялі ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў. Сярод іх з 1853 года з Віктарам Каліноўскім вучыўся Цэлясцін Цеханоўскі, якога Канстанцін у 1863 годзе прызначыў паўстанцкім кіраўніком горада Гродна[113]. І нездарма, таму што, як успамінаў адзін з паўстанцаў, той быў “ідэалістам без матэрыяльных інтарэсаў, чалавекам вялікай працаздольнасці і сумленнасці”[114]. Таксама бліжэйшымі паплечнікамі Канстаніца Каліноўскага падчас паўстання сталі і іншыя выпускнікі медыцынскага факультэта, на якім вучыўся яго брат Віктар: Баляслаў Длускі[115], Міхал Аскерка, Баляслаў Заблоцкі, Уладзіслаў Барзабагаты[116], Юльян Бірфрэйнд, Антон Трусаў.

---

[112] Герцен, А.И. Былое и думы / А.И. Герцен. – М.: ГИХЛ, 1958. – Часть 1. – С. 119.

[113] Игнатович, Ф. Врач Целестин Михайлович Цехановский: повстанческий начальник Гродно и общественно-медицинский деятель Сибири / Ф. Игнатович. // Горад Святога Губерта: альманах лакальнай гісторыі. – Гродна, 2014. – Выпуск 8. – С. 108.

[114] Швед, В.В. Рэквіем паўстанцам 1863–1864 гг. Гродзенская губерня / В.В. Швед. – Мінск: Альфа-кніга, 2017. – С. 49.

[115] Баляслаў Длускі (1826–1905) падчас навучання ў гімназіі стаў удзельнікам таварыства, якое ўзначальваў Шымон Канарскі, расстраляны царскімі ўладамі ў 1839 годзе. Длускі быў сасланы на Каўказ у войска, дзе дaслужыўся да звання капітана, пасля чаго выйшаў у адстаўку. У 1857–1861 гадах вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, дзе прымаў актыўны ўдзел у студэнцкім руху. Падчас паўстання стаў вайсковым камісарам Ковенскага ваяводства. Кіраваў паўстанцкім атрадам (мянушка – Ябланоўскі). Эміграваў у Парыж, затым Лондан. У 1873 годзе перасяліўся ў Галіцыю. Выпусціў атлас і ілюстрацыйныя табліцы “Выявы ласосевых рыб у польскай і еўрапейскай навуковай кнізе XVIII і XIX стагоддзяў” (Wizerunki ryb łososiowatych w polskiej i europejskiej książce naukowej XVIII i XIX wieku).

[116] Уладзіслаў Барзабагаты (1831–1886) пасля заканчэння Маскоўскага ўніверсітэта працаваў урачом у Навагрудку. У 1863 годзе прызначаны паўстанцкім камісарам у Навагрудскім павеце. Эміграваў у Францыю. Удзельнік Парыжскай камуны. У 1874 годзе вярнуўся на Радзіму і быў адпраўлены ў ссылку. Ігнатовіч, Ф.І. Уладзіслаў Барзабагаты. / Ф.І. Ігнатовіч – Мінск: Полымя, 1993.

Але, на жаль, падрабязных звестак пра наступныя чатыры гады навучання Віктара ў Маскве і побыту яго брата Канстанціна ў Якушоўцы не захавалася. Яны выклікаюць шмат пытанняў, што асабліва ўскладняецца тым фактам, што ў 1856 годзе Віктар заставаўся вольным слухачом I курса Маскоўскага ўніверсітэта[117]. Адсюль можна зрабіць выснову, што, не давучыўшыся і першага курса, у 1853 годзе ён вымушаны быў спыніць навучанне. Магчыма, гэта адбылося па прычыне цяжкага становішча сям'і, але, хутчэй за ўсё, падставаю да таго з'явілася пагаршэнне стану здароўя і развіццё сухотаў.

Аднак фактам застаецца, што менавіта ў прамежак часу паміж 1852 і 1855 гадамі Віктар набывае шматлікія знаёмствы з прадстаўнікамі самых радыкальных рухаў сталіцы Расійскай Імперыі і знаходзіцца ў Маскве ў той час, калі ва ўніверсітэце паўстае зямляцтва студэнтаў з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай.

У асяродку студэнцкай моладзі панавалі дэмакратычныя ідэі, штуршком для актывізацыі развіцця якіх паслужылі падзеі Крымскай вайны, смерць Мікалая II у 1855 годзе і прыход да ўлады імператара Аляксандра II, на якога ўскладалі вялікія спадзяванні: "стракатая моладзь, якая прыйшла зверху, знізу, з поўдня і поўначы, хутка сплаўлялася ў кампактную масу таварыства. Грамадскія адрозненні не мелі ў нас таго абразлівага ўплыву, які мы сустракаем у англійскіх школах і жаўнернях; пра англійскія ўніверсітэты я не кажу: яны існуюць вылучна для арыстакратыі і для багатых. Студэнт, які б замануўся ў нас выхваляцца сваёй белай косткай ці багаццем, быў бы адлучаны ад "вады і агню", замучаны таварышамі"[118].

У гэты час у галоўных універсітэтах імперыі – у Пецярбургу, Маскве і Кіеве – навучалася амаль 1400 студэнтаў з зямель былой Рэчы Паспалітай, пры гэтым сярод іх выхадцамі з Каралеўства Польскага быў толькі 201 студэнт[119]. Яны

[117] Лушчыцкі, І. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX ст. / І. Лушчыцкі. – Мн., 1958. – С. 177–178.

[118] Герцен, А.И. Былое и думы / А.И. Герцен. – М.: ГИХЛ, 1958. – Часть 1. – С. 119.

[119] Снытко, Т.Г. Студенческое движение в русских университетах в начале 60-х годов и восстание 1863 г. / Т.Г. Снытко // Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х годов. Сборник статей и материалов / Под ред. В.Д. Королюка. – М.: Изд-во АН СССР, 1960. – С. 204.

аб'ядноўваліся ў студэнцкія зямляцтвы ці "гміны" па прынцыпе скончанай імі гімназіі, якія ўтваралі так званы "огул" – таварыства ўсіх студэнтаў з зямель былой Рэчы Паспалітай у пэўным інстытуце. Мэтай дадзенай арганізацыі была дапамога тым, хто не меў сродкаў на навучанне. Таксама пры таварыстве дзейнічала бібліятэка. У ёй мелася як легальная, так і забароненая цэнзурай літаратура, да набыцця якой прыклаў руку і Віктар Каліноўскі.

## *Канстанцін Каліноўскі ў Маскве. Прычыны пераезду ў Пецярбург*

Пасля заканчэння Свіслацкай гімназіі Канстанцін Каліноўскі тры гады жыў у Якушоўцы, дзе дапамагаў бацьку ў вядзенні гаспадаркі. Усе грошы сям'і пайшлі на набыццё маёнтка, для далейшага развіцця якога патрэбныя былі новыя сродкі. Арандаваць і валодаць – вялікая розніца, якую новыя гаспадары адчулі адразу. Пясчаная зямля давала дрэнны ўраджай, у дадатак пачаліся праблемы з фабрыкай, паколькі канкурэнцыя не дазваляла мець высокіх прыбыткаў, як было ў першай палове 1840-х гадоў. Гэтыя праблемы з'яўляліся якраз тым, што дапамагаў вырашаць Канстанцін Каліноўскі, арганізоўваючы гаспадарку, працуючы на зямлі і вывучаючы сялянскае жыццё падчас вандровак па ваколіцах. Як бы склалася яго далейшае жыццё, каб не канфлікт з мачыхай? З-за яго на пачатку 1856 года Канстанцін вымушаны быў перабрацца ў Маскву да старэйшага брата і вырашыў, нарэшце, паступіць ва ўніверсітэт ды працягнуць навучанне.

Папярэдне, 16 студзеня 1856 года, ён атрымаў пасведчанне аб беднасці ад гродзенскага прадвадзіцеля дваранства[120], каб мець магчымасць паступіць па выніках экзаменаў без платы за навучанне. Паўгода Канстанцін актыўна рыхтаваўся да здачы іспытаў – якраз тады, калі ў Парыжы адбываліся перамовы аб завяршэнні Крымскай вайны.

Мірная дамова была падпісана 18 (30) сакавіка 1856 года, засведчыўшы паражэнне Расійскай Імперыі ў барацьбе з Асманскай імперыяй і, перш за ўсё, Англіяй і Францыяй. Навіна сярод большасці студэнтаў з былой Рэчы Паспалітай была су-

[120] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г.В. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 101.

стрэта спадзяваннем, якое цяперператварылася ў веру, на замежную дапамогу ў магчымай барацьбе з захопнікам. Але ў той жа час найбольш радыкальныя студэнты сачылі за іншай навінай, якая, нягледзячы на ўсе намаганні жандараў, у сярэдзіне красавіка актыўна абмяркоўвалася ў розных кутках Расійскай Імперыі: 30 сакавіка ў Маскве адбылася сустрэча з прадвадзіцелямі дваранства яшчэ некаранаванага імператара Аляксандра. На ёй малады цар заявіў: "Чуткі носяцца, што я хачу зрабіць вызваленне прыгоннага стану. Гэта несправядліва, і ад гэтага было некалькі выпадкаў непадпарадкавання сялян памешчыкам. Вы можаце сказаць гэта ўсім направа і налева: я казаў тое ж самае прадвадзіцелям, якія былі ў мяне ў Пецярбургу; я не скажу вам, каб я быў зусім супраць гэтага, мы жывём у такім стагоддзі, што з часам гэта павінна здарыцца. Я думаю, што і вы аднаго меркавання са мною, адпаведна, значна лепш, каб гэта адбылося зверху, чым знізу"[121]. Такая думка пацвярджала ідэі, выкладзеныя ў "Полярной звезде", якая ў 1855 годзе пачала выдавацца А. Герцэнам і М. Агаровым у Лондане і папярэднічала "Колоколу": "Дайце зямлю сялянам. Яна і так ім належыць; змыйце з Расіі ганебную пляміну прыгоннага стану, залячыце сінія рубцы на спіне нашых братоў – гэта страшэнныя сляды пагарды да чалавека"[122].

12 ліпеня Віктар Каліноўскі звольніўся з Маскоўскага ўніверсітэта і разам з братам Канстанцінам выехаў у паўночную сталіцу імперыі – Пецярбург.

Пасля з'яўлення яго, гатовага апошнім кавалкам хлеба падзяліцца з землякамі[123], у Пецярбургу пачалі хадзіць чуткі, што Віктар быў выключаны з Маскоўскага ўніверсітэта за распаўсюджванне забароненых кніг – чужую віну, якую ўзяў на сябе[124]. У далейшым гэтая плётка замацавалася як факт, які ў выніку прыпісалі яго малодшаму брату Канстанціну. Усевалад Ігнатоўскі ўвогуле ў спробе патлумачыць пераезд з Масквы ў Пецярбург убачыў "удзел у студэнцкіх непарадках"[125], за якія быц-

[121] Речь Александра II, сказанная 30-го марта 1856 г. московским предводителям дворянства // Голос минувшаго. – Май-июнь 1916. – № 5–6. – С. 393.

[122] Письмо к императору Александру Второму // Полярная звезда. – Лондон: Вольная русская книгопечатня, 1855. – Книжка первая. – С. 13.

[123] Limanowski, B. Historia powstania narodu polskiego w 1863 i 1864 r. / B. Limanowski. –Lwów, 1882. – T. 2. – S. 213.

[124] . Там жа.

[125] Ігнатоўскі, У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецць-

цам бы Канстанцін, а не яго брат Віктар, быў выключаны. Насамрэч да пераезду прывялі некалькі зусім іншых прычын.

Па-першае, пасля смерці Мікалая І ў Вільні археограф Яўстафій Тышкевіч атрымаў дазвол стварыць Музей старажытнасцей, пры якім пачала дзейнічаць Археалагічная камісія. У ліку яе дзеячаў акрамя братоў Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, Тэадора Нарбута, Уладзіслава Сыракомлі, Юзэфа Крашэўскага і Міхала Балінскага быў Адам Кіркор (1818–1886), з якім пазнаёміўся Віктар Каліноўскі.

Кіркор, якога Арцём Вярыга-Дарэўскі ў сваім вядомым альбоме называе "Адаська" і "Мурашка працавіты", актыўна займаўся навуковай дзейнасцю, асабліва археалогіяй і этнаграфіяй, паспеў выдаць шэраг альманахаў, перш чым у 1859 годзе заснаваў уласную друкарню і заняўся сумесна з Мікалаем Маліноўскім (1799–1865), былым філаматам і сябрам Адама Міцкевіча і Томаша Зана, рэдагаваннем газеты "Віленскі веснік" (1859–1865). Кіркор вялікую ўвагу надаваў вывучэнню славянскіх народаў, у тым ліку беларусаў. Ён нават звяртаўся да ўрада з прашэннем увесці навучанне ў школах Беларусі на роднай мове. Пад яго ўплывам мінскі маршалак Аляксандр Аскерка выдаў у 1862 годзе ў Варшаве беларускі буквар ("Элементаж")[126]. Менавіта Кіркор прапанаваў Каліноўскаму заняцца зборам матэрыялаў для Археалагічнай камісіі, для чаго неабходна было перабрацца ў Пецярбург.

Па-другое, пасля ўзыходжання на прастол новага імператара Аляксандра ІІ пачалася шырокая амністыя ў дачыненні да патрыятычнай моладзі з былой Рэчы Паспалітай. Адным з першых у іх ліку быў Зыгмунт Серакоўскі, на ўсталяванне сувязі з якім і выправіўся Віктар Каліноўскі[127].

---

ця. Лекцыі, чытаныя студэнтам Беларускага Дзяржаўнага універсітэту / У. Ігнатоўскі. – 2-е выд. – Мінск, 1926. – С. 125.

[126] Шалькевіч, В.Ф. Кастусь Каліноўскі. / В.Ф. Шалькевіч – Мн.: Газ. "Голас Радзімы", 1985. – С. 110.

[127] Зыгмунт Серакоўскі (1826–1863) – капітан расійскага Генштаба, супрацоўнік часопісаў "Колокол" і "Современник", адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, але за ўдзел у падпольных патрыятычных гуртках быў высланы салдатам у Арэнбургскі корпус, дзе пасябраваў з Тарасам Шаўчэнкам. Вярнуўшыся па амністыі ў сталіцу імперыі, скончыў акадэмію Генштаба. Зблізіўся з М. Дабралюбавым, М. Чарнышэўскім. У 1857 стварыў у Санкт-Пецярбургу рэвалюцыйную суполку афіцэраў, сябрамі якой былі і браты Каліноўскія.

Браты Каліноўскія пасяліліся ў Выбаргскай часці па Другой Госпітальнай вуліцы ў доме Маслава[128], дзе жылі служачыя Ваенна-сухапутнага шпіталя, размешчанага на суседняй Клінічнай вуліцы. Побач быў Самсоніеўскі мост праз раку Няву і два буйныя цукровыя заводы – далёка не лепшы раён для жыцця.

Пакуль старэйшы брат вышукваў гістарычныя дакументы ў публічнай бібліятэцы, паралельна наладжваючы сувязі з рэвалюцыйнымі гурткамі, Канстанцін 1 жніўня падаў прашэнне на імя выконваючага абавязкі рэктара Пецярбургскага ўніверсітэта вядомага фізіка Эмілія Хрысціянавіча Ленца аб дапушчэнні да прыёмных экзаменаў[129].

## *У Пецярбургскім універсітэце*

Пасля паспяховай здачы іспытаў, Канстанцін Каліноўскі 15 кастрычніка 1856 года быў залічаны ў лік "своекоштных студентов" I курса разраду камеральных навук Пецярбургскага ўніверсітэта[130]. А на наступны дзень ён, на падставе прадстаўленага ім пасведчання аб цяжкім матэрыяльным становішчы, быў вызвалены ад платы за слуханне лекцый.

У гэты час у Пецярбургскім універсітэце, які вёў сваю гісторыю з 1819 года, навучалася 478 студэнтаў. 395 з іх з'яўляліся "своекоштнымі". Каліноўскі быў адным са 141 студэнта разраду камеральных навук[131], на якім рыхтавалі гаспадарчых і адміністрацыйных служачых.

Сусветную гісторыю Каліноўскаму чыталі Міхаіл Мацвеевіч Стасюлевіч (1826–1911) і Міхаіл Сямёнавіч Куторга (1809–1886); рускую гісторыю ён слухаў на лекцыях Мікалая Герасімавіча Устралава (1805–1870), вядомага сваёй зацікаўленасцю да асобы Пятра I, Мікалая Іванавіча Кастамарава (1817–1885), удзельніка

[128] Кісялёў, Г.В. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г.В. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 102.

[129] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва. – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 79.

[130] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 102.

[131] Никитенко, А. Отчет о состоянии императорского Санктпетербургского университета и деятельности его ученаго сословия в продолжение 1856 года / А. Никитенко. – Санкт-Петербург, в типографии Эдуарда Веймара, 1857. – С. 26.

колішняга Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства і прыхільніка панславізму, даследчыка Украіны, які адзначаў, што "руская народнасць не адзіная"[132]. Вялікай папулярнасцю ў студэнтаў карыстаўся гісторык Іван Яфімавіч Андрэеўскі (1831–1891), які выкладаў паліцэйскае права і быў вядомы сваім красамоўствам, падтрымкай свабоды асобы і грамадскага самакіравання. У той жа час развіццю поглядаў Каліноўскага садзейнічалі і лекцыі рускага эканаміста Івана Якаўлевіча Горлава (1814–1890), які выступаў супраць умяшальніцтва дзяржавы ў справы сялян і памешчыкаў, лічыў, што ў выпадку адмены прыгону сяляне павінны выкупляць не толькі зямлю, але і зямельныя павіннасці. Рускі заолаг і мінералог Сцяпан Сямёнавіч Куторга (1805–1861) першы ў Расійскай Імперыі падчас сваіх лекцый знаёміў з тэорыяй Дарвіна. Прафесар грамадзянскага права і судаводства Канстанцін Дзмітрыевіч Кавелін (1818–1885) быў вядомым у студэнцкім асяродку сваімі публікацыямі, у прыватнасці "Запіскаю" з заклікам да вызвалення сялян з зямлёю, надрукаванай А. Герцэнам і М. Чарнышэўскім.

У 1858/1859 навучальным годзе Каліноўскі праслухаў курс лекцый крымінальнага права прафесара Уладзіміра Спасовіча[133]. Важнасць гэтых лекцый заключалася ў тым, што на іх упершыню пасля смерці Мікалая I студэнты знаёміліся з філасофіяй. Спасовіч, з'яўляючыся прыхільнікам Гегеля, распавядаў пра найбольш важныя філасофскія сістэмы – ад Бэкана і Дэкарта да Бентама[134]. Яго заняткі, якія вылучаліся красамоўствам і былі насычаны цытатамі, знаходзілі жывы водгук у студэнтаў. Так, распавядаючы пра тэорыю грамадскага да-

---

[132] Костомаров, Н.И. Две русские народности (Письмо редактору) / Н.И. Костомаров // Основа. – СПб., 1861. – № 3. – С. 33–80.

[133] Спасовіч Уладзімір Данілавіч (1829–1906) нарадзіўся ў Рэчыцы, скончыў Мінскую гімназію, а ў 1849 годзе юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, дзе ў 1857 годзе стаў прафесарам крымінальнага права. Карыстаўся вялікай папулярнасцю ў студэнтаў, пратэсты якіх падтрымаў у 1861 годзе. Разам з шэрагам прафесараў пакінуў універсітэт і заняўся адвакацкай дзейнасцю. Удзельнік найбольш значных палітычных працэсаў у Расійскай Імперыі, такіх як суд над Сяргеям Нячаевым і працэс 193-х. У 1885 годзе быў абаронцам па справе польскай партыі "Пралетарыят", а ў 1887 годзе па справе першага перакладчыка "Капітала" К. Маркса на рускую мову Германа Лапаціна. Спасовіч стаў прататыпам Фецюковіча ў рамане Ф. Дастаеўскага "Браты Карамазавы".

[134] Шалькевіч, В.Ф. Кастусь Каліноўскі / В.Ф. Шалькевіч. – Мн.: Газ. "Голас Радзімы", 1985. – С. 87.

гавора, прапанаваную ў эпоху Асветніцтва і развітую Іаганам Готлібам Фіхтэ, Спасовіч адзначаў: “Дзяржава не ўзнікла з дагавора, але ёсць некаторыя падставы, каб гіпотэзу дагавора, якую Фіхтэ змяшчаў у мінулым, можна было прымяніць і да будучыні. З поспехамі цывілізацыі мы з кожным векам набліжаемся болей і болей да такой пабудовы дзяржавы, якая заснавана на зусім свабодных адносінах паміж дзяржавай і асобай. Дзяржава паходзіць з неабходнасці, узнікла амаль паўсюдна пры дапамозе заваявання, пры дапамозе гвалтоўнага падпарадкавання адных плямён іншымі; але ў рэшце рэшт асоба прыходзіць да ўсведамлення, што дзяржава існуе толькі для асобы і ёсць адзінае магчымае асяроддзе для яе развіцця”[135]. Менавіта гэтыя словы маглі знайсці адлюстраванне ў “Мужыцкай праўдзе”, у № 4 якой адзначана, што “не народ зроблены для ронду, а ронд для народу”.

Ад Спасовіча студэнты даведваліся пра многія новыя ідэі, як, напрыклад, пра дзейнасць і погляды англійскага сацыяліста-ўтапіста Роберта Оўэна, пра вучэнні і ўтопіі Сэн-Сімона, Фур’е, Леру, адкрывалі свет Канта, Фіхтэ, Гегеля, Міля, Прудона, Шапенгаўэра. Як адзначае В. Шалькевіч, лекцыі У. Спасовіча не толькі знаёмілі Каліноўскага са шматлікімі філасофскімі думкамі, але і сталі для яго штуршком да паглыбленага вывучэння філасофіі[136].

Сам жа Спасовіч быў сябрам І. Агрызкі, які выдаў яго падручнік па крымінальным праве. Пазней Міхаіл Мураўёў, разумеючы ўплыў прафесара на студэнтаў, што далучыліся да паўстання 1863–1864 гадоў, адзначаў: “Спасовіч больш яго [І. Агрызка] вінаваты, але застаўся цэлым, таму што не патрапіла ніводнай літары, напісанай яго рукой…”[137].

Акрамя таго, Каліноўскі атрымліваў веды па палітычнай эканоміцы, статыстыцы, логіцы, псіхалогіі, батаніцы, сельскай гаспадарцы, тэхналогіі, архітэктуры, рускай і французскай мовах.

[135] Спасович, В. Учебник уголовного права / В. Спасович. – Санкт-Петербург: в типографии Иосафата Огризко, 1863. – Т. 1 (Выпуск первый). – С. 31–32.

[136] Шалькевіч, В.Ф. Кастусь Каліноўскі / В.Ф. Шалькевіч. – Мн.: Газ. “Голас Радзімы”, 1985. – С. 92.

[137] Цыт. паводле: Шалькевич, В.Ф. Кастусь Калиновский. Страницы биографии / В.Ф. Шалькевич. – Мн.: Университетское, 1988. – С. 95.

У 1857 годзе пасля прызначэння новым апекуном Пецярбургскага навучальнага корпуса князя Г. Шчарбатава замест мікалаеўскага М. Мусіна-Пушкіна ў Пецярбургскім універсітэце быў павялічаны набор да 600 студэнтаў. На лекцыі быў адкрыты свабодны доступ усім слухачам, нават жанчынам. Змянялася і студэнцкая мода: адзнакаю студэнта заставаліся студэнцкія сурдуты з сінімі каўнерамі, але трохвуголкі і шпагі выходзілі з ужытку. Моладзь пачала насіць доўгія валасы і вусы, нават была адменена забарона паліць тытунь у будынку ўніверсітэта. Дазваляліся сходы для абмеркавання спраў, стварэнне ўласнай бібліятэкі, выданне студэнцкіх зборнікаў навуковых артыкулаў.

У выбарах рэдкалегіі, якія праходзілі 23 лютага 1857 года, удзельнічалі ўсе студэнты, у тым ліку і Канстанцін Каліноўскі[138]. У 1858 годзе колькасць слухачоў Пецярбургскага ўніверсітэта павялічылася да тысячы: “Павелічэнне колькасці жадаючых паступіць ва ўніверсітэт дала магчымасць кіраўніцтву быць больш разборлівым і строгім пры ўступных экзаменах. Пры пачатку цяперашняга акадэмічнага года цэлая трэць з агульнай колькасці жадаючых паступіць ва ўніверсітэт не была прынята. Затое пры заканчэнні выпускных экзаменаў у 1858 годзе дзве трэці тых, хто скончыў курс, атрымалі ступень кандыдата”[139]. Аднак у гэты час перад Канстанцінам Каліноўскім паўстала праблема далейшага працягу адукацыі.

## *Навуковая дзейнасць Віктара Каліноўскага*

Не атрымліваючы вестак ад сыноў, Сымон Каліноўскі звярнуўся па дапамогу да свайго колішняга сябра Міхала Фрычынскага, які ў маі 1857 года паведамляў яму: “Пан Віктар знайшоў сабе заняткі – і карысныя, і колькі-небудзь прыбытковыя; добры чалавек пан Палонскі, які не перастае апекавацца ім, здолеў яму памагчы ў гэтым – пазнаёміў з п. Іваноўскім, гродзенцам, які служыць у імператарскай бібліятэцы, і той забяспечвае яго работай. Дай бог, каб гэта было яму на карысць”[140].

[138] Там жа, с. 75.

[139] Добролюбов, Н.А. Отчет С.-Петербургского университета за 1858 год / Н.А. Добролюбов // Собр. соч. в 9 т. – М. – Л., 1962. – Том 4. Статьи и рецензии. – Январь-июнь 1859. – С. 276.

[140] Цыт. паводле: Кісялёў, Г. Героі і музы: гіст.-літ. нарысы / Г. Кісялёў. – Мн., 1982. – С. 121.

Віктар Каліноўскі, які першапачаткова марыў стаць урачом, цяпер самааддана займаўся ў публічнай бібліятэцы Пецярбурга пошукамі гістарычных крыніц па гісторыі былой Рэчы Паспалітай. Ён карыстаўся дапамогай Антона Дамінікавіча Іваноўскага (1823–1873), які ў 1857–1869 гадах працаваў малодшым бібліятэкарам у Пецярбургскай публічнай бібліятэцы і быў членам-супрацоўнікам Віленскай археалагічнай камісіі. Сам жа Віктар "на службе ў ёй не знаходзіўся, але займаўся ў агульнай чытальнай зале бібліятэкі некалькі год запар і ў 1862 годзе, як значыцца ў алфавітнай кнізе чытачоў, меў жыхарства па Неўскім праспекце ў доме Красільнікава, былым Прынцыпа, насупраць Вялікай Канюшаннай вуліцы"[141].

Імператарская публічная бібліятэка (сёння – Расійская нацыянальная бібліятэка імя М.Я. Салтыкова-Шчадрына) размяшчалася на перакрыжаванні Садовай вуліцы і Неўскага праспекта. Дзякуючы дырэктару графу Мадэсту Корфу, у ёй была ўдасканалена сістэма ацяплення за кошт пнеўматычных печаў у падвалах замест печаў у кнігасховішчах, з'явіўся паркет, дываны, прыгожая мэбля, высокія сцелажы з прыступкамі, мелася асвятленне. Шмат грошай выдзялялася на куплю кніг, у тым ліку тых, якія адносіліся да рэвалюцыйных падзей, а таксама выдаваліся Вольнай рускай тыпаграфіяй А. Герцэна ў Лондане.

Бібліятэку наведвалі шматлікія сталічныя літаратары не толькі каб бясплатна пачытаць пры святле, але і каб пагрэцца, паколькі пераважная большасць з іх здымала невялічкія пакойчыкі не самай лепшай якасці. Нездарма М. Дабралюбаў, які шмат часу праводзіў у адной чытальнай зале з Віктарам Каліноўскім, адзначаў: "Выкарыстанне бібліятэкі вельмі распаўсюдзілася ў апошні час". Яна зрабілася адным з найпапулярнейшых і найвядомейшых месцаў, модным сярод вучнёўскага юнацтва і малазабяспечаных людзей: "Тысячы людзей прыходзяць сюды і сустракаюць тут рэдкія выгоды, якія напаўняюць іх сэрца пачуццямі ўдзячнасці і павагі да дзейнасці кіраўніцтва бібліятэкі, такога клапатлівага і прадбачлівага"[142].

[141] Цыт. паводле: Кісялёў, Г. Героі і музы: гіст.-літ. нарысы / Г. Кісялёў. – Мн., 1982. – С. 122.

[142] Добролюбов, Н.А. Отчет Императорской Публичной библиотеки за 1858 год / Н.А. Добролюбов // Собр. соч. в 9 т. – М. – Л., 1962. – Том 4. Статьи и рецензии. Январь-июнь 1859. – С. 348.

Напрыклад, у 1856 годзе бібліятэку наведала 27866 чытачоў, у 1857 – 31151, у 1858 – 34275.

Віктар кожны дзень быў тут з 10 гадзін раніцы да 9 гадзін вечара, а па нядзелях і святочных днях – з 12 да 15 гадзін. Час, які Віктар прысвячаў працы ў бібліятэцы, быў настолькі вялікі, а яго веды матэрыялаў бібліятэкі настолькі значнымі, што нават для блізкіх сяброў ён стаў "супрацоўнікам" і нават "чыноўнікам". Бібліятэка дазваляла Віктару, які супрацоўнічаў з Віленскай археалагічнай камісіяй, не толькі зарабляць грошы на жыццё, але і была сапраўднай базай для распаўсюджвання рэвалюцыйных ідэй.

Браты Каліноўскія паспяхова пераадолелі цяжкасці першых месяцаў жыцця ў Пецярбургу, нават без звароту па дапамогу да сям'і, з якой не падтрымлівалі ў гэты час ніякіх сувязяў. Канстанцін пачаў зарабляць грошы, займаючыся рэпетытарствам, Віктар – пошукам дакументаў для Віленскай камісіі, ад якой на 1 снежня 1857 года атрымаў 115 рублёў[143].

Перад Віктарам Каліноўскім была пастаўлена задача знайсці ў Пецярбургскай публічнай бібліятэцы матэрыялы, якія датычыліся гісторыі Рэчы Паспалітай і пры гэтым раней не друкаваліся. Аднак паступова ў гэтым плане пачалі ўзнікаць праблемы, паколькі рукапісы для перапісвання, якія прапаноўваў Каліноўскі, у шматлікіх выпадках адмяняліся. 2 верасня 1857 года Віктар скончыў перапісваць "Дыярыуш" каралевіча Якуба Сабескага, аб чым неадкладна паведаміў Адаму Кіркору[144], і прыступіў да працы па перапісванні твора аб апісанні межаў паміж Каронай Польскай і Вялікім Княствам Літоўскім. У сваёй працы Віктар кіраваўся тым прынцыпам, каб пры перапісванні не магла ўзнікнуць ніводная памылка. Пры гэтым у пошуках першакрыніцы замоўленага яму твора ён вышукваў усе магчымыя рукапісы, аналізуючы іх на прадмет хібаў і недакладнасцей, адрознай арфаграфіі асобных слоў, параўноўваючы рукапісы паміж сабою.

У сувязі з працай над апошняй замоваю, Каліноўскі звяртаўся да Кіркора з просьбай удакладнення таго, чым варта надалей зай-

[143] Кісялёў, Г.В. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г.В. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 115.

[144] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 245.

мацца. Пасрэднікам у гэтых перамовах выступаў бібліятэкар Іваноўскі, які аплачваў паслугі Каліноўскага. У той жа час прыродная сціпласць Віктара не дазваляла яму дакладна акрэсліць кошт уласных паслуг, і ён зазначаў у лісце ад 19 верасня: “Ведаючы гэты род працы і бачачы, як мне яны ўдаюцца, вы можаце самі прызначыць суму”[145]. Аднак жыццёвыя складанасці вымушалі змяняць падыходы. Як вынік: за перапісаны для Віленскага музея старажытнасцей Акт Люблінскай уніі і каталог польскіх рукапісаў Віктар атрымаў 40 рублёў, з якіх толькі 15 рублёў ад самога Кіркора падчас яго наведвання Пецярбурга, за “Дыярыуш” Сабескага – яшчэ 35 рублёў. 27 кастрычніка за апісанне межаў Кароны і Княства Каліноўскі прасіў толькі 43 руб. У сярэднім за адзін перапісаны ліст Каліноўскі прасіў па 60 капеек срэбрам[146]. Аднак гэтыя грошы не каштавалі той працы, якую ўкладаў у сваю дзейнасць Віктар Каліноўскі. Так, адзначаючы перад Кіркорам вартасць аднаго з варыянтаў “Апісання граніц”, напісанага “на гаворцы Крывіцкай (беларускай)”, ён дадаваў: “Пасылаю Вам здымак першага ліста перапісанага рукапіса. Стараўся, і здаецца, мне гэта ўдалося, спісаць усё як мага сумленней, захоўваючы найдакладней арфаграфію, якая, на маю думку, можа быць цікавай для граматыстаў”[147]. Але, як падкрэслівае сам Каліноўскі, ён працаваў у публічнай бібліятэцы насамрэч “з зусім іншымі мэтамі”[148], чым толькі перапісванне старых рукапісаў.

У той жа час выкананне прац для Археалагічнай камісіі, якія Віктару Каліноўскаму замаўляў таксама Мікалай Маліноўскі, з’яўлялася не адзінай крыніцай яго даходаў. Ён падтрымліваў актыўныя навуковыя сувязі са шматлікімі даследчыкамі, для якіх выконваў разнастайныя даручэнні. Да іх ліку належаў кіраўнік Народнай бібліятэкі імя Асалінскіх у Львове гісторык Аўгуст Бялёўскі. Цесныя сувязі наладзіліся вясною 1857 года[149], калі Бялёўскі прыязджаў у Пецярбург для вывучэння магчымасцей рукапіснага аддзела Імператарсай публічнай бібліятэкі. Для яго Каліноўскі ў лютым 1859 года зрабіў выпісы разнастай-

145 Там жа, с. 248.
146 Там жа, с. 249.
147 Там жа.
148 Там жа.
149 Там жа, с. 248.

ных лістоў і дакументаў гетмана Жалкеўскага, якія ўвайшлі ў 1861 годзе ў выданне яго твораў, падрыхтаванае Бялёўскім.

У прадмове да кнігі асобна была адзначана дапамога Віктара Каліноўскага, а ў яго бібліятэку трапіў адзін з экзэмпляраў выдання. Сам Бялёўскі некалькі разоў звяртаўся па дапамогу да Каліноўскага, напрыклад, лістом ад 18 красавіка, у адказ на які 26 чэрвеня было адпраўлена 25 дакументаў, перапісаных Віктарам. 5 лістапада ён адзначаў, што знайшоў "у некалькіх рукапісах 36 новых дакументаў пра Жалкеўскага"[150]. 30 снежня 1859 года Бялёўскаму былі адпраўлены апошнія копіі сабраных дакументаў пра вялікага гетмана.

Сам жа Віктар Каліноўскі на кароткі час зацікавіўся пошукам інфармацыі пра Вінцэнта Кадлубка і прасіў аб дапамозе для прафесара Кастамарава, які займаўся казацтвам. Каліноўскі распытваў Бялёўскага пра вартасць львоўскіх бібліятэк у асвятленні гісторыі казакоў, асабліва Налівайкі, і эпохі, што папярэднічала выступленню Хмяльніцкага.

Кастамараў прыехаў у сталіцу вясной, па запрашэнні выкладаць у Пецярбургскім універсітэце і, чакаючы пачатку працы, бавіў час у публічнай бібліятэцы, дзе пазнаёміўся з Віктарам Каліноўскім. Пазней ён зазначаў: "Мне не здаралася ў жыцці бачыць чалавека, які так аддана захапляўся археаграфіяй і гісторыяй. Яго веды не ішлі далей Літвы і Польшчы, але затое яго можна было назваць хадзячым каталогам самых дробязных звестак пра мінулы побыт гэтых краёў. Чалавек гэты вылучаўся вялікай дабрадушнасцю і бясконцай паслужлівасцю. Помнікам знаёмства з ім астаўся ў мяне багаты збор выпісак з указаннем на нумары і фарматы тых рукапісаў, з якіх яны ўзяты. Родны брат яго папаўся пасля ў польскім мяцяжы як адзін з важнейшых дзеячаў у Літоўскім краі і быў павешаны; мой жа прыяцель быў чалавек іншага гатунку: ён увесь жыў мінулымі вякамі і амаль не цікавіўся сучаснымі падзеямі. Будучы знаёмы з гісторыяй сваёй бацькаўшчыны значна глыбей тых верхаглядных патрыётаў, якія, не вывучаючы грунтоўна мінулага, складалі сабе пра яго летуценныя вобразы, Каліноўскі ў асяроддзі сваіх суайчыннікаў выклікаў нават незадавальненне за тое, што смела прамаўляў рэчы, якія тагачасным польскім патрыётам былі не даспадобы. Заўсёды ў зацяганым плашчы,

150 Там жа, с. 254.

харчуючыся нішчымнаю ядою ў нейкай польскай кухмістаршы, Каліноўскі мала клапаціўся пра свой жыццёвы камфорт і, можна сказаць, ва ўсіх адносінах быў чалавек "не ад свету гэтага"[151]. Магчыма нават, што праз М. Кастамарава браты Каліноўскія былі знаёмыя з украінскім паэтам Тарасам Шаўчэнкам, які пасля ссылкі ў 1858–1859 гадах жыў у Пецярбургу.

Віктар Каліноўскі быў таксама апантаным бібліяфілам, які значную частку грошай, якія зарабляў на генеалагічных даследаваннях шляхты, траціў на набыццё кніг, у чым яму актыўна дапамагаў малодшы брат Канстанцін. У 1864 годзе ў Пецярбургу быў складзены каталог сабраных Каліноўскім выданняў, які налічваў 230 адзінак[152]. Сярод іх толькі пяць кніг на рускай мове, кшталту "О Западной России" (Магілёў, 1793) С. Богуша-Сестранцэвіча, у якой праводзілася думка пра еднасць рускіх, беларусаў і ўкраінцаў. Астатнія ж выданні былі на лацінскай, старабеларускай, польскай, французскай і нямецкай мовах. Сярод іх былі як работы антычных аўтараў (Сенэка, Ціт Лукрэцый, Ціт Лівій, Карнэлій Непат), так і надрукаваныя ў XVI–XVIII стагоддзях у тыпаграфіях Гродна, Віцебска, Магілёва, Оршы, і асабліва шмат кніг, надрукаваных у Вільні і Полацку. Пераважная большасць выданняў прысвечана гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, што сведчыць пра сферу зацікаўленасці Віктара Каліноўскага, пад уплывам якога апынуўся і Канстанцін.

Перапісваючыся з львоўскім гісторыкам Бялёўскім, не забыўся Віктар Каліноўскі і пра сябе, звяртаючыся па дапамогу ў зборы матэрыялаў для манаграфіі "Уманская разня", пры-свечанай паўстанню ўкраінскіх сялян у 1768 годзе ў раёне горада Умань[153]: "Апрача звестак пра саму разню, мяне моцна цікавяць дакументы, якая даюць уяўленне пра тагачасны

[151] Цыт. паводле: Кісялёў, Г. Героі і музы: гіст.-літ. нарысы / Г. Кісялёў. – Мн., 1982. – С. 127.

[152] "Каталог книг, оставшихся после блаженной памяти Виктора Калиновского в Петербурге" сёння захоўваецца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі імя Асалінскіх у Вроцлаве. Шалькевич, В.Ф. Библиотека братьев Калиновских / В.Ф. Шалькевич // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі / Нац. б-ка Беларусі; склад.: Л.Г. Кірухіна, Т.І. Рошчына. – Мн., 2004. – Вып. 6. – С. 216–229.

[153] "Уманская разня" або "Калііўшчына" адбылася ў час гайдамацкага паўстання 1768 года на Украіне. Падставаю для яго паслужыла "дысідэнцкае пытанне" (рэлігійны прыгнёт). У г. Умані было забіта каля 15 тысяч чалавек (шляхта, уніяты, габрэі, а таксама каля 2 тысяч праваслаўных).

стан праваслаўнай царквы, асвету духавенства, яго залежнасць і г.д.”[154].

Актыўна і “сумленна”[155] Віктар Каліноўскі прапрацаваў над выданнем на рускай мове “Уманскай разні” ўвесь 1859 год, спадзяваўся, што яна “паставіць мяне на ногі, даючы мне значную суму рублёў”[156] ва ўмовах тых прыкрых фінансавых непрыемнасцяў, у якіх ён апынуўся, паколькі вымушаны быў даглядаць трох іншых братоў, якія ў гэты час жылі ў Пецярбургу. Апошняй сцэнай задуманай Віктарам Каліноўскім невялікай манаграфіі павінны былі стаць звесткі пра галіцыйскую разню 1846 года, якая “магла б лічыцца апошняй сцэнай гэтай крывавай, гэтак жа працяглай, як і разлютаванай драмы сіл, што таранам б’юць у шляхецкія інстытуцыі”[157]. Падрыхтаванае да друку навуковае выданне так і не ўбачыла свет. Далейшы лёс рукапісу невядомы.

Віктар Каліноўскі таксама меў намер “рабіць беглы агляд рукапісаў, што знаходзяцца ў Імператарскай публічнай бібліятэцы ў Пецярбургу”[158]. Сэнс гэтай працы складаўся ў стварэнні кароткіх бібліяграфічных апісаннях кожнага рукапісу з пазначэннем яго зместу, разам з пералікам дакументаў, актаў, лістоў, калі дакумент не складае аднаго цэлага. Пры гэтым Каліноўскі планаваў зрабіць націск на зусім невядомых творах: “За пару гадоў працы ў бібліятэцы ўдалося мне адшукаць часам надзвычай важныя рэчы. Выпісваю для сябе, што мне здаецца цікавым і невядомым”[159]. Але Каліноўскі не спяшаўся з іх публікацыяй “у надзеі, што з часам пры бліжэйшым азнаямленні з невядомымі мне дагэтуль рукапісамі мае зборы лепш укамплектуюцца і будуць складаць больш стройнае, упарадкаванае цэлае”[160]. Каліноўскі нават падаў свой праект у рэдакцыю газеты “Слова”[161], заключыў з імі вуснае пагадненне аб супрацоўніцтве і друкаванні на старонках выдання найбольш цікавых твораў. Не-

154 Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 256.
155 Там жа, с. 256.
156 Там жа.
157 Там жа.
158 Там жа, с. 251.
159 Там жа, с. 252.
160 Там жа.
161 Газета выдавалася 14.01 – 5.03.1859 г. Іасафатам Агрызкам.

здарма Якуб Гейштар назваў Віктара[162] разам з Э. Жалігоўскім[163], У. Спасовічам і З. Серакоўскім актыўнымі супрацоўнікамі газеты. Аднак гэтае перыядычнае выданне, не праіснаваўшы і трох месяцаў, пасля 15 нумароў было забаронена ўладамі. У якасці карэктара і літаратурнага супрацоўніка ў гэтай газеце паспеў папрацаваць і сябар Канстанціна Каліноўскага Эмануэль Юндзіл, досвед якога затым спатрэбіўся пры падрыхтоўцы "Мужыцкай праўды".

Да сваёй даследчыцкай дзейнасці Віктар прыцягваў малодшага брата, аб чым сведчыць яго зварот да дырэктара публічнай бібліятэкі барона М. Корфа ад 6 снежня 1860 года. Гэта было прашэнне аб прадастаўленні магчымасці Канстанціну працягнуць яго справу па даследаванні старажытных рукапісаў пад кіраўніцтвам малодшага бібліятэкара Іваноўскага, паколькі ён сам атрымаў заданне на працу ў Маскоўскім галоўным архіве[164]. Такая просьба, хутчэй за ўсё, была выклікана неабходнасцю пошукаў крыніц для дысертацыі, якую ў гэты час дапісваў Канстанцін Каліноўскі, рыхтуючы яе да абароны.

## *Удзел братоў Каліноўскіх у тайных арганізацыях*

Віктар Каліноўскі з пачатку свайго жыцця ў сталіцы Расійскай Імперыі становіцца адным з лідараў студэнцкіх таварыстваў, якія ў гэты час узнікаюць як грыбы пасля даж-

[162] Гейштар не ўказвае імя, пазначаючы толькі прозвішча "Каліноўскі". Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 79.

[163] Жалігоўскі Эдвард-Вітольд (1816–1864) нарадзіўся ў вёсцы Марыямпаль Вілейскага павета. У сваёй публіцыстычнай дзейнасці карыстаўся псеўданімам Антон Сава. Навучаўся ў Дэрпцкім універсітэце, дзе стаў лідарам студэнцкага кола. За ўдзел у таемных суполках, выкрытых па справе Канарскага, у 1839 годзе быў інтэрнаваны ў Дэрпце. Аўтар папулярнай у 1840-я гады драмы "Іардан". Праз некалькі гадоў вярнуўся ў Вільню. У 1851 годзе арыштаваны і высланы ў Петразаводск, затым у Арэнбург і Уфу. Падчас ссылкі пасябраваў з украінскім паэтам Т. Шаўчэнкам. У 1858 годзе перабраўся ў Пецярбург. Меў вялікі ўплыў на студэнцкую моладзь. У 1860 годзе выехаў у Заходнюю Еўропу. Памёр у Жэневе. 20 верасня 2009 года ў вёсцы Карэкаўцы Вілейскага раёна адкрыты памятны знак у гонар сяброўства Жалігоўскага і Т. Шаўчэнкі.

[164] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 260.

джу. У іх бяруць удзел жыхары шматэтнічнай Расійскай Імперыі, у тым ліку і адзін з кіраўнікоў часопіса "Современник" Мікалай Гаўрылавіч Чарнышэўскі (1828–1889), і Мікалай Аляксандравіч Дабралюбаў (1836–1861), які ў 1856 годзе заканчваў Галоўны педагагічны інстытут, размешчаны ў адным будынку з Пецярбургскім універсітэтам, дзе вучыўся Канстанцін Каліноўскі.

Нягледзячы на тое, што першакурснікаў у такія аб'яднанні дапускалі надзвычай рэдка, менавіта Віктар пасадзейнічаў далучэнню да іх свайго брата Канстанціна. Не апошняя яго роля і ў тым, што Канстанцін увайшоў у зямляцтва студэнтаў з былой Рэчы Паспалітай "Огул" і нават быў абраны яго бібліятэкарам, фактычна – кіраўніком. Згодна паказанням удзельніка аб'яднання Вітольда Гажыча[165], "бібліятэкар карыстаўся асаблівай павагай таварыства і лічыўся як бы старэйшай асобай, на сходках меў права канчаткова вырашаць справы"[166]. Усяго гэтая арганізацыя аб'ядноўвала каля 500 сяброў-студэнтаў, якія за карыстанне тварыскай бібліятэкай плацілі па 40 капеек штомесячна[167]. Чытальня ж была месцам збору кіраўніцтва "Агулу", да якога належылі, акрамя Каліноўскага, Эдмунд Вярыга, Ігнат Здановіч, Фелікс Зянковіч, Эмануэль Юндзіл, Іосіф Ямант[168].

У ліпені 1856 года ў Пецярбург пасля васьмі гадоў ссылкі прыязджае Зыгмунт Серакоўскі. Радыкальна змяніўшы свае

[165] Гажыч Вітольд Георгіевіч (каля 1843–1864) – праваслаўны шляхціч Брэсцкага павета. Вольны слухач Пецярбургскага ўніверсітэта, паспеў павучыцца і ў Парыжы. Падчас паўстання ў 1863 годзе грамадзянскі начальнік Лідскага павета. Арыштаваны ў жніўні 1863 года. Сасланы на катаргу ў Сібір, па дарозе захварэў на тыф і памёр.

[166] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 167.

[167] Такая лічба прысутнічае ва ўспамінах В. Гажыча: Kieniewicz, S. Powstanie styczniowe / S. Kieniewicz. – Warszawa, 2009. – S. 39. Але згодна падлікам В. Шалькевіча, гэтая лічба завышаная ў два разы: "У 1856 годзе ў С.-Пецярбургскім універсітэце, як мы адзначылі, навучалася на ўсіх факультэтах толькі 478 студэнтаў, у 1861 годзе – 1286. Калі ўлічыць, што члены "Огула" складалаі прыкладна пятую частку, то нават у 1861 годзе, калі В. Гажыч прыехаў у Пецярбург, іх не магло быць больш 257 чалавек". Шалькевич, В.Ф. Кастусь Калиновский. Страницы биографии / В.Ф. Шалькевич. – Мн.: Университетское, 1988. – С. 79.

[168] Шалькевич, В.Ф. Кастусь Калиновский: Страницы биографии / В.Ф. Шалькевич. – Мн.: Университетское, 1988. – С. 80.

першапачатковыя погляды ў адносінах "усходніх братоў"[169], ён восенню 1857 года арганізоўвае ў акадэміі Генеральнага штаба таемнае кола з ліку афіцэраў. Яно ўвайшло ў гісторыю як гурток Серакоўскага-Дамброўскага, паколькі на чале яго пасля завяршэння Серакоўскім навучання ў 1859–1861 гадах знаходзіўся Яраслаў Дамброўскі.

Паступова да аб'яднання далучыліся навучэнцы і афіцэры з іншых вайсковых навучальных установ сталіцы. Усяго высветлена 145 прозвішчаў удзельнікаў арганізацыі, з якіх у 109 выпадках вызначана іх месца нараджэння: 9 з Каралеўства Польскага, 16 з паўднёва-заходніх і 58 з паўночна-заходніх губерняў Расійскай Імперыі, 26 з іншых яе частак. Веравызнанне вызначана ў адносінах 116 удзельнікаў, з якіх 72 каталікі, 40 праваслаўныя, і 4 пратэстанты[170]. У дзейнасць гуртка на чале з Серакоўскім былі заангажаваны таксама афіцэры сталічнага гарнізону, з улікам якіх колькасць таварыства дасягала каля 400 чалавек[171].

У асноўным гэта былі маладыя амбіцыёзныя штабныя вайскоўцы, якія бліжэйшым часам спадзяваліся заняць ключавыя пасты ў ваеннай структуры імперыі, перш за ўсё на землях колішняй Рэчы Паспалітай. Выключэнне складалі толькі трое студэнтаў, якім дазвалялася прысутнічаць на сходах гуртка. У іх лік уваходзіў Канстанцін Каліноўскі[172], для якога, дзякуючы брату Віктару, "правай руцэ"[173] Серакоўскага, былі адчынены дзверы ў любыя таемныя таварыствы Пецярбурга.

---

[169] У лісце да Уладзіміра Спасовіча Серакоўскі пісаў 9 верасня 1852 года: "Мы адродзімся. Бачыш, аб адным мару, з'яўляюся заўсёды вашым братам, але змяніліся станоўча мае паняцці пра шматлікія рэчы з 1848 года.

Ведаеш, што ва ўніверсітэце быў заўсёды праціўнікам адносін з усходнімі братамі, цяпер, менавіта пасля выпадкаў 2 снежня, стаю на тым меркаванні, што трэба канчаткова злучыцца з імі.

Мы адродзімся разам з усходнімі братамі. Фалангі падтрымае Македонія. Грэкі павінны духам апанаваць фалангі, і таму верыш, што перад 2 снежня хацеў быць у Парыжы. Цяпер на свеце бачу для сябе толькі два месцы, у Нью-Ёрку, альбо Пецярбурзе. Распавядаю гэта для таго, што хачу казаць усестаронне, а аднак калі б меў выбар, можа б абраў Пецярбург…". Паводле: Kieniewicz, S. Powstanie styczniowe / S. Kieniewicz. – Warszawa, 2009. – S. 44.

[170] Kieniewicz, S. Powstanie styczniowe / S. Kieniewicz. – Warszawa, 2009. – S. 46.

[171] Там жа.

[172] Аб гэтым сведчыў кіраўнік Навагрудскага паўстанцкага атрада Вітольд Міладоўскі ў сваіх паказаннях. Kordowicz, W. Konstanty Kalinowski / W. Kordowicz. – Warszawa, 1955. – S. 67.

[173] Kordowicz, W. Konstanty Kalinowski / W. Kordowicz. – Warszawa, 1955. – S. 62.

Да старэйшага з Каліноўскіх Серакоўскі і Агрызка[174] накіроўвалі адабраных імі студэнтаў, якіх неабходна было пад-рыхтаваць для далучэння да таемных таварystваў. Фактычна Віктар займаўся іх псіхалагічнай апрацоўкай, праводзячы з імі размовы і падбіраючы для іх адпаведную літаратуру, нават з ліку забароненых твораў, якія "здымаліся з сакрэтных паліц публічнай бібліятэкі"[175]. Паколькі сам Каліноўскі не меў допуску да такой літаратуры, ён карыстаўся дапамагай біблятэкара Іваноўскага, што ў далейшым паслужыла падставай для яго звальнення. Затым прэтэндэнты на ўступленне ў арганізацыю накіроўваліся на літаратурныя вечары, на якіх падчас дыскусій праходзіў канчатковы адбор і сарціроўка ў адпаведнасці з асабістымі здольнасцямі неафіта[176]. Прычым для Віктара месца нараджэння або сацыяльнае паходжанне прэтэндэнта ігралі далёка не вырашальную ролю. Напрыклад, адным з тых, хто дзякуючы старэйшаму Каліноўскаму ўвайшоў у таемныя аб'яднанні, быў сын купца-мільянера Мікалай Ісакавіч Уцін (1841–1883)[177], адзін з кіраўнікоў рускай арганізацыі "Зямля і воля".

Вядомасць Віктара Каліноўскага пайшла далёка за межы

---

[174] Агрызка Іасафат (1826–1890) нарадзіўся ў Лепельскім павеце Віцебскай губерні. Пасля заканчэння ў 1844 годзе Мінскай губернскай гімназіі паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, які скончыў у 1849 годзе. З 1850 года пачаў працу ў Міністэрстве фінансаў у Кадыфікацыйнай камісіі Царства Польскага, дзе зрабіў выдатную кар'еру. У 1859 годзе заснаваў друкарню, у якой выдаваў польскамоўную газету "Słowo", тут жа з'явіўся на свет першы збор твораў яго сябра – М. Дабралюбава. Таксама сябраваў з М. Чарнышэўскім. У паўстанні 1863–1864 гадоў быў камісарам Нацыянальнага ўрада ў Санкт-Пецярбургу. Арыштаваны 14 лістапада 1864 года, асуджаны да смяротнага пакарання, замененага 20-гадовай катаргай у Сібіры. Вызвалены ў 1877 годзе, але без дазволу вярнуцца на радзіму. Памёр 30 сакавіка 1890 года ў Іркуцку.

[175] Шалькевич, В.Ф. Кастусь Каліноўскі / В.Ф. Шалькевіч. – Мн.: Газ. "Голас Радзімы", 1985. – С. 119.

[176] Менавіта на такую функцыю Віктара Каліноўскага спасылаецца паўстанец Віктар-Казімір Баляслававіч Арэнт (1843–1929), удзельнік Парыжскай камуны 1871 года. Кісялёў, Г. Героі і музы: гіст.-літ. нарысы / Г. Кісялёў. – Мн., 1982. – С. 124.

[177] У далейшым адзін з кіраўнікоў масавых студэнцкіх хваляванняў восенню 1861 года і лідараў у 1862–1863 гг. арганізацыі "Зямля і воля", вымушаны эміграваць, завочна асуджаны ў лістападзе 1865 года да смяротнага пакарання, удзельнік Першага Інтэрнацыянала і сябар К. Маркса. У канцы жыцця атрымаў памілаванне ад Аляксандра II і вярнуўся ў Расію.

сталіцы і дайшла да радзімы. Гэтаму садзейнічала і яго праца па генеалагічным росшуку для разнастайных шляхецкіх і магнацкіх родаў, якая дазвалялі яму часам зарабляць вельмі добрыя грошы[178].

Віктара Каліноўскага называлі "другім Томашам Занам", які марыў пра стварэнне арганізацыі кшталту віленскіх прамяністых, ці філарэтаў, для чаго "бярэ пад сваю няпрошаную пратэкцыю маладых студэнтаў, уцягвае іх у сваё таварыства"[179]. Менавіта на гэта наракаў 18-гадоваму сыну Ігнату выкладчык Віленскага дваранскага інстытута Аляксандр Здановіч у жніўні 1858 года, пабачыўшы ў адным з лістоў прозвішча Каліноўскага: "Калі гэта той жа самы васпан, дык здзіўляюся і не разумею, як ты мог забыць пра тое, пра што цябе болей за ўсё прасілі, – каб ніякіх сувязей і знаёмстваў з падобнымі асобамі не заводзіў – хаця б яны мелі самыя высакародныя прынцыпы, самыя лепшыя пачуцці, усё ж такі гэта вар'яты і вядуць моладзь на пагібель. Заклінаю ў такім выпадку цябе, каб спыніў з ім знаёмства, калі ўжо яно пачалося, а калі яшчэ не, асцерагайся яго, як агню, як маравой заразы. Інакш мы ніколі не будзем спакойныя"[180].

А турбавацца было чаму: Ігнат Здановіч пасябраваў з малодшым братам Віктара – Канстанцінам, "які пораху не выдумае і з'яўляецца, як кажуць, добрым хлопцам"[181]. Менавіта Канстанцін дапамог Ігнату Здановічу і яго сябру Дашкевічу знайсці кватэру для жыцця падчас паступлення ва ўніверсітэт.

Нягледзячы на словы бацькі, Здановіч у хуткім часе зрабіўся адным з паплечнікаў Канстанціна Каліноўскага, вакол якога ў 1857–1858 гадах склалася ўласнае кола. Да яго належалі Эдмунд Вярыга, Вітальд Гажыч, Фелікс Зянковіч, Яўстафій Чарноўскі, Эмануэль Юндзіл, Іосіф Ямант. Адным з лепшых сяброў Канстанціна Каліноўскага быў залаты медаліст Слуцкай гімназіі, студэнт фізіка-матэматычнага факультэ-

---

178 Так супрацоўнік Віленскай камісіі па палітычных справах Гагель паведаляў, што "за выпіскі для князя Агінскага ён атрымаў 300 рублёў". Гогель, Н.В. Иосафат Огрызко и Петербургский революционный ржонд в деле последнего мятежа / Н.В. Гогель. – 2-е изд. – Вильна, 1867. – С. 66.

179 Цыт. паводле: Кісялёў, Г. Героі і музы: гіст.-літ. нарысы / Г. Кісялёў. – Мн., 1982. –С. 125.

180 Там жа.

181 Там жа, с. 126.

та Фелікс Вільчкоўскі, які ў верасні 1859 года перавёўся ў Кіеўскі ўніверсітэт Святога Уладзіміра, для чаго пры дапамозе Канстанціна атрымаў пасведчанне ад Пецярбургскага ўніверсітэта[182].

Каліноўскі быў добра знаёмы з будучымі кіраўнікамі варшаўскага паўстанцкага ўрада, якія ў адзін час з ім навучаліся ў Пецярбургскім універсітэце: Стэфанам Баброўскім, Оскарам Авейдэ. Пазнаёміўся ён і з лідарамі “Зямлі і волі” Мікалаем Уціным і Лангінам Фёдаравічам Панцялеевым. У Пецярбургу Канстанцін таксама сустрэўся з інжынерам шляхоў зносін Уладзіславам Малахоўскім і служачым чыгункі Ільдэфонсам Мілевічам, якія сталі яго блізкімі сябрамі, і нават з бацькам Фелікса Дзяржынскага Эдмундам, які навучаўся ва ўніверсітэце ў 1858–1862 гадах на фізіка-матэматычным факультэце, а ў 1863 годзе наведаўся ў госці да Ігната Здановіча ў Вільню.

Акрамя таго, у адзін час з Каліноўскім у Пецярбургскім універсітэце вучыліся студэнты гісторыка-філалагічнага факультэта Дзмітрый Пісараў, будучы вядомы рускі публіцыст, і Усевалад Крастоўскі, які ў сваёй дылогіі “Кровавый Пуф” галоўным антаганістычным героем адлюстраваў менавіта Канстанціна Каліноўскага[183].

## *Дапамога ад універсітэта*

На працягу 1858 года Канстанцін Каліноўскі вымушаны быў думаць зусім не пра салонныя сустрэчы таемных студэнцкіх арганізацый і нават не пра навучанне, а пра самую элементарную патрэбу знайсці сродкі для існавання ў Пецярбургу. Нягледзячы на рэкамендацыі з боку ўдзельнікаў таемных сустрэч “як

[182] Каліноўскі 17 верасня 1859 года звярнуўся на імя рэктара ўніверсітэта Пятра Аляксандравіча Плятнёва з прашэннем выдаць для Вільчкоўскага, які паступіў ва ўніверсітэт у 1857 годзе, пасведчанне з пазначэннем “якіх прадметаў ён слухаў і якія адзнакі атрымаў на працягу двух гадоў, для вызначэння на якім курсе можа слухаць лекцыі”. 25 верасня пасведчанне было накіравана ў Кіеў. Вільчкоўскі з’яўляўся адным з актыўных удзельнікаў падрыхтоўкі паўстання на Украіне. Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 83.

[183] Першы раман сваёй дылогіі пад назваю “Панургово стадо” (1869) Крастоўскі пісаў у Свіслачы побач з бацькоўскім маёнткам Каліноўскіх у Якушоўцы, дзе служыў афіцэрам у кавалерыйскім палку.

добры выкладчык урокаў"[184], у тым ліку і для рускай моладзі, нерэгулярных падпрацовак не хапала. Таму 1 сакавіка 1858 года Каліноўскі, які вучыўся на 2-м курсе, звярнуўся да рэктара Пецярбургскага ўніверсітэта з прашэннем аб прызначэнні яму стыпендыі ці выдачы аднаразовай дапамогі. Пры гэтым у дакуменце ён адно са слоў напісаў з характэрным акцэнтам[185]. Інспектар універсітэта А.І. Фіцтум фон Экстэдт пасля вывучэння матэрыялаў адзначыў, што "Каліноўскі сапраўды жыве ў вялікай нястачы", у сувязі з чым яму з дазволу тагачаснага папячыцеля Пецярбургскай навучальнай акругі Р.А. Шчарбатава было выдадзена 15 рублёў[186].

З-за недахопу сродкаў для існавання і патрэбы іх зарабляць у Каліноўскага зусім няшмат часу заставалася на навучанне. Наступствам сталі нізкія адзнакі па выніках экзаменаў за другі курс: па дзяржаўным праве, знешняй гісторыі расійскага заканадаўства, сістэме жывёльнага царства – тройкі, па старажытнай гісторыі і расійскай гісторыі – чатыры. Толькі пры здачы пераходных экзаменаў на трэці курс адзнакі Каліноўскага палепшыліся: па тэхналогіі, батаніцы, рускай гісторыі ён меў ужо пяцёркі, па грамадзянскіх законах і псіхалогіі – чатыры. Па гісторыі Сярэдніх вякоў і, што даволі дзіўна, па земляробстве ён меў толькі тры.

Вылучанай універсітэтам дапамогі хапіла ненадоўга, і, каб вырашыць сітуацыю, ужо з'яўляючыся студэнтам 3-га курса, Канстанцін 28 жніўня зноў звярнуўся да рэктара з прашэннем аб прызначэнні стыпендыі: "Пазбаўлены ўсіх сродкаў утрымання, я вымушаны ўвесь вольны час затрачваць на іх набыццё і таму не магу з сапраўднай карысцю займацца навукаю"[187]. Каліноўскі падкрэслівае, што стыпендыя "даставіць мне маг-

[184] Гогель, Н.В. Иосафат Огрызко и Петербургский революционный ржонд в деле последнего мятежа / Н.В. Гогель. – 2-е изд. – Вильна, 1867. – С. 66.

[185] "потеравъ" замест "потерявъ". Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 317.

[186] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 108.

[187] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 81.

чымасць цалкам аддацца вучоным заняткам і рабіць поспехі на абранай мною ніве"[188].

23 кастрычніка яго просьба была разгледжана і вырашана станоўча, і пачынаючы з верасня яму была прызначана стыпендыя на год у памеры 7 рублёў на месяц. І нават пры гэтым 12 снежня Каліноўскі зноў вымушаны быў звяртацца па дапамогу да ўніверсітэта, напісаўшы слова "семъ" на беларускі лад: "Акрамя стыпендыі гэтай не маючы сродкаў, я знаходжуся не ў стане задаволіць самым неад'емным умовам для прыстойнага падтрымання жыцця як адзінай магчымасці заняцца з карысцю абранымі мною навукамі, таму гонар маю пакорліва прасіць Ваша правасхадзіцельства забяспечыць мяне адзіначасовай дапамогай, калі гэта згодна з правіламі ўніверсітэта"[189].

У студзені 1859 года ад новага папячыцеля Пецярбургскай навучальнай акругі І.Д. Дзялянава Каліноўскаму было выдаткавана яшчэ 10 рублёў. Цяжкае матэрыяльнае становішча суправаджала Канстанціна праз увесь час яго навучання. У сакавіку 1859 года па яго просьбе ўніверсітэт выплаціў яму адначасова стыпендыю за красавік, май і чэрвень, што складала разам 21 рубель. У ліпені ён зноў паспрабаваў атрымаць дапамогу, але з-за таго, што яшчэ не здаў экзамен, грошай яму не выдалі.

У дадатак увесь час навучання ва ўніверсітэце Канстанціна Каліноўскага суправаджалі прыступы цяжкай нервовай хваробы, "падобнай падучцы"[190]. Старажытныя грэкі і рымляне называлі яе "боскай хваробаю". Падучкай, або эпілепсіяй, хварэлі Гай Юлій Цэзар, Напалеон, Байран, Дастаеўскі, Ван Гог. Падставы яе ўзнікнення да сённяшняга часу пакідаюць пытанні, аднак вядома, што яна можа карэнным чынам уплываць на працэсы мыслення чалавека, успрымання ім рэчаіснасці. Чым была выклікана гэтая хвароба ў Каліноўскага? Відавочна, што яна звязана з пецярбургскім перыядам яго жыцця, паколькі ні раней, ні пазней узгадак пра яе ў дачыненні Каліноўскага не маецца? Верагодна, цяжкія пабытовыя ўмовы, праблемы псіхалагічнага характару, звязаныя фактычна з разрывам адносін з сям'ёю і назіраннем развіцця сухотаў у брата Віктара рабілі сваю справу.

Наведванне шматлікіх знаёмых дактароў, звязаных з рэ-

[188] Там жа.
[189] Там жа.
[190] Там жа, с. 83.

валюцыйнай арганізацыяй, было беспаспяховым. Нарэшце, Каліноўскаму ўдалося патрапіць на прыём да вядомага пецярбургскага медыка Мікалая Фёдаравіча Здэкаўэра[191], парады якога пачалі дапамагаць. Аднак выкананне ўсіх іх было немагчымым, паколькі для гэтага патрэбныя былі фінансавыя сродкі. У Каліноўскага працягвалі здарацца прыпадкі, асабліва моцны з іх адбыўся 5 кастрычніка 1859 года. У сувязі з гэтым ён 14 кастрычніка звярнуўся да рэктара з просьбай аб дапамозе. Стан Каліноўскага быў настолькі цяжкі, што ён здолеў толькі падпісаць прашэнне. Астатні тэкст напісаны не яго рукой. У адрозненне ад іншых лістоў аб дапамозе на імя рэктара, у гэтым упершыню пазначана дакладная сума – 30 рублёў, якія, хутчэй за ўсё, патрэбны былі на аплату паслуг медыка. На наступны ж дзень папера пры пасрэдніцтве Фіцтума фон Экстэдта была дастаўлена папячыцелю і ўжо 24 кастрычніка быў атрыманы дазвол выдаткаваць Каліноўскаму такія неабходныя яму грошы. На іх была знята кватэра на Неўскім праспекце, галоўнай вуліцы Імперыі, у доме № 21 купца Красільнікава насупраць пабудаванага Растрэлі Строганаўскага палаца. Сёння на гэтым месцы знаходзіцца знакаміты дом Мертэнса, узведзены ў 1911–1912 гадах з маналітным жалезабетонным каркасам.

5 студзеня 1860 года Каліноўскі, які быў ужо студэнтам 4 курса, чарговы раз просіць грашовай дапамогі ў універсітэта і чарговы раз яе атрымлівае: у лютым яму было выдзелена 10 рублёў.

У гэты час разам з Віктарам і Канстанцінам у Пецярбургу жылі яшчэ два іх браты. Імі маглі быць стрыечныя браты – сыны дзядзькі Юрыя Сцяпанавіча Каліноўскага, напрыклад, Іван Юр’евіч Каліноўскі, які вясной 1863 года скончыў Пецярбургскую медыка-хірургічную акадэмію, але замест ад’езду ў Стаўрапаль у якасці палкавога лекара выправіўся на родную Гродзеншчыну, каб далучыцца да паўстанцаў[192].

[191] Здэкауэр Мікалай Фёдаравіч (1815–1897) з 1848 па 1860 год заведаваў у Пецярбургу дыягнастычнай клінікай. Аўтар шматлікіх медыцынскіх даследаванняў, заснавальнік у 1878 годзе Рускага таварыства аховы народнага здароўя.

[192] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 392.

## *Апошнія месяцы студэнцтва Канстанціна Каліноўскага*

У ліпені 1860 года Канстанцін Каліноўскі скончыў IV курс юрыдычнага факультэта разраду камеральных навук і вырашыў уладкавацца на працу ў якую-небудзь вайскова-навучальную ўстанову. Паколькі ён яшчэ не абараніў дысертацыю на ступень кандыдата, то не быў яшчэ зацверджаны ў гэтай ступені. Таму Канстанцін звярнуўся за пасведчаннем аб заканчэнні курса навук, які і атрымаў 28 ліпеня[193]. Прычым, у адрозненне ад папярэдніх курсаў, ён меў адзнаку "выдатна" па ўсіх асноўных прадметах (дзяржаўнае права Расійскай імперыі, дзяржаўнае права еўрапейскіх дзяржаў, законы дзяржаўнага добраўпарадкавання і добрапрыстойнасці, законы аб фінансах, палітычная эканомія, статыстыка, тэхналогія і сельская гаспадарка).

Каліноўскі шукае магчымасць працаўладкавацца і адначасова займаецца напісаннем дысертацыі, нават назва якой да гэтага часу застаецца невядомай. Якія пытанні турбавалі яго ў гэты час? Ён актыўна чытае, у тым ліку і часопіс "Современник", у дадатку да якога "Современное обозрение" 20 верасня 1860 года з'явіўся артыкул Мікалая Дабралюбава. Рускі пісьменнік у ім наракаў на цяжкае становішча беларуса, які "нават пазбавіўся ўжывання чалавечых здольнасцей"[194]. Дабралюбаў таксама адзначаў, што "ва ўсялякім выпадку пытанне аб характарыстыцы беларусаў павінна хутка быць па-

---

[193] Цалкам дакумент прыводзіцца ў: Кісялёў, Г. Дыплом змагара / Г. Кісялёў // Героі і музы: Гіст.-літ. нарысы. – Мн.: Маст. літ., 1982. – С. 133.

[194] "Што ж датычыць да агульнапрынятых плётак, то ў іх вялікарускі селянін відавочна адлучаўся нават ад маларускіх і беларускіх сваіх сабратоў. Адносна беларускага селяніна справа даўно вырашаная: [забіты] канчаткова, так што нават пазбавіўся ўжывання чалавечых здольнасцяў. Не ведаем, у якой ступені лжыва гэта меркаванне, таму што не вывучалі адмыслова беларускага краю; але паверыць яму, зразумела, не можам. [Цэлы край дык вось узялі, ды і забілі, – як бы не так! Гэта гэтак жа, як італьянцаў забілі, паслабілі, пазбавілі любові да радзімы і да волі! Паглядзіце ж зараз на іх. Ва ўсякім разе пытанне пра характарыстыку беларусаў павінна хутка быць растлумачана працамі мясцовых пісьменнікаў.] Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы. Дарэчы, мы ўжо чулі, што з будучага года прымеркавана выданне "Беларускага весніка", рэдакцыю якога прымае на сябе нехта г. Акрэйц, чалавек, на стараннасць і высакароднасць кірунку якога можна спадзявацца". Добролюбов, Н. Черты для характеристики русского простонародья / Н. Добролюбов // Современник. – сентябрь 1860. – № 9. – С. 31.

тлумачана працамі мясцовых пісьменнікаў"[195]. Магчыма, гэты заклік мог за жывое зачапіць і Каліноўскага, і іншых студэнтаў з Паўночна-Заходняга краю імперыі, і быў адной з гарачых тэм падчас таемных сустрэч.

13 снежня пецярбургская паліцыя ўстанавіла нагляд за кватэрай сяброў Каліноўскага – Э. Юндзіла і Э. Вярыгі па Ліцейным праспекце, 13, дзе збіраліся студэнты Пецярбургскага ўніверсітэта і медыка-хірургічнай акадэміі. Канстанцін застаўся па-за ўвагай жандараў, займаючыся напісаннем дысертацыі.

Нарэшце 21 студзеня 1861 года Каліноўскі пасля здачы іспытаў і абароны дысертацыі быў зацверджаны ў вучонай ступені кандыдата.

Да гэтага часу розныя студэнцкія таварыствы, якія складаліся з ураджэнцаў зямель былой Рэчы Паспалітай, былі аб'яднаны ў тры накірункі ("партыі"): "белыя", "умераныя" і "чырвоныя". Да "белых" належалі, у пераважнай большасці, заможныя студэнты з Царства Польскага, якія выступалі за атрыманне ведаў па спецыяльных навуках, неабходных у грамадскім жыцці, і далейшае іх выкарыстанне на карысць краю. За згоду прыняць зацверджаныя расійскім урадам новыя ўніверсітэцкія правілы, запісаныя ў студэнцкіх заліковых кніжках (матрыкулах), гэтых студэнтаў абразліва сталі называць матрыкулістамі[196]. "Умераныя", не адмаўляючы рэвалюцыю, лічылі яе крайняй мерай і разлічвалі на з'яўленне ў імперыі зручнага моманту, сугучнага з агульнаеўрапейскімі падзеямі, якім можна будзе скарыстацца праз дэманстрацыі і маніфестацыі, каб узняць пытанне пра самастойнасць Рэчы Паспалітай. Партыя "чырвоных", прадстаўнікі якой называлі сябе "ліберaламі і рэвалюцыянерамі, адрознівалася тым, што члены яе хадзілі ў падраных сурдутах і ботах, а замест гальштукаў на шыі насілі рушнікі. Гэтая партыя складала большасць грамадства, і да яе належалі студэнты Стэткевіч, Чарноцкі і многія іншыя, асабліва ж рэзка выступаў Каліноўскі"[197]. "Чырвоныя" сімпатызавалі рускім ліберaлам, абіралі працу сельскімі пісарчукамі і накіроўвалі сваю дзейнасць на ажыццяўленне "кулачнай" рэвалюцыі як сацыяль-

[195] Там жа.

[196] Паводле: Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 167.

[197] З паказанняў В. Гажыча. Там жа, с. 168.

нага перавароту для карысці сялян “не ў імя нацыянальнасці, а для паляпшэння іх быту”[198].

8 лютага ў Пецярбургскім універсітэце адбываецца дэманстрацыя студэнтаў у сувязі з адменай прамовы М. Кастамарава. Ці ўдзельнічаў у гэтай падзеі Каліноўскі, на жаль, звестак не маецца. Паколькі ён быў у ліку найбольш актыўных праціўнікаў увядзення новых універсітэцкіх правіл, якія парушалі ранейшыя ўніверсітэцкія свабоды, – гэта магчыма.

14 лютага К. Каліноўскі разлічваецца з універсітэцкай бібліятэкай і інспектарам, аб чым атрымаў даведку, а 17 лютага яму быў выдадзены дыплом за № 361 аб заканчэнні ўніверсітэта за подпісам рэктара Пятра Аляксандравіча Плятнёва. Канстанціну Каліноўскаму надаваўся чын дзясятага класа і права лічыцца ў першым разрадзе чыноўнікам на цывільнай службе, а пры паступленні на вайсковую службу права на ўзвядзенне ў афіцэры пасля выслугі трох месяцаў ва унтэрафіцэрскім званні[199]. Арыгінал дыплома каштаваў 6 рублёў. Цяпер для Каліноўскага адкрываліся вялікія перспектывы, магчымасць нарэшце пачаць новую старонку свайго жыцця.

У гэты час у сталіцы імперыі распаўсюджваюцца чуткі пра расстрэл дэманстрацыі 15 лютага ў Варшаве, у выніку чаго былі забіты 5 чалавек. А 19 лютага імператар Аляксандр II падпісаў маніфест аб адмене прыгоннага права.

## *Фарміраванне светапогляду Канстанціна Каліноўскага ў час навучання ў Пецярбургскім універсітэце*

Асабісты жыццёвы досвед Канстанціна Каліноўскага прадвызначыў яго зварот да сацыяльнай тэматыкі, якую ён шматразова ўздымаў падчас таемных абмеркаванняў. У выніку за ім замацаваліся такія характарыстыкі, як “хлапаман”[200],

---

[198] В. Гажыч у сваіх паказаннях у 1863 годзе адзначаў: “У далейшым многія з гэтай партыі вызначыліся на пасаду сельскіх пісарчукоў для таго, каб, засноўваючы свае надзеі на сацыяльным перавароце, мець непасрэдны ўплыў на сялян, заахвочваючы іх да рэвалюцыі не ў імя нацыянальнасці, а для паляпшэння іх побыту”. Там жа, с. 168.

[199] Кісялёў, Г. Дыплом змагара / Г. Кісялёў // Героі і музы: Гіст.-літ. нарысы. – Мн.: Маст. літ., 1982. – С. 132–135.

[200] Революционный подъем 1861–1862 гг. в Литве и Белоруссии. – М., 1964. – С. 209.

“мужык” (chłop)[201], “якабінец”[202], “дэмакрат”[203], выкліканыя не толькі яго ўласнымі поглядамі, але і абмежаванасцю шляхецкага выхавання яго апанентаў, закамплексаваных бацькоўскімі марамі аб аднаўленні Рэчы Паспалітай у форме, якая ўжо не адпавядала новым выклікам часу.

Чым відавочней гэта станавілася для Каліноўскага, тым радыкальней гучалі яго выказванні на фоне немагчымасці дастукацца да тых, хто не быў падрыхтаваны да дасягнення мэты любымі сродкамі. Адсюль вытокі яго ідэі аб патрэбе стварэння арганізацыі з ліку найбольш энергічных і здольных вясковых жыхароў – сялян і дробнай шляхты[204]. Менавіта на недахоп падобнай “Арганізацыі” як адзінай рэчы, якая бракуе “Дэмакратыі” для яе перамогі ў Еўропе, звярталі ўвагу найбольш радыкальныя прадстаўнікі сацыялістычных поглядаў сярэдзіны XIX стагоддзя[205].

У той час, як шляхецкая моладзь з тэрыторыі Рэчы Паспалітай удзельнічала ў абмеркаваннях аб пошуку шляхоў яе незалежнасці, звязваючы гэта з вырашэннем так званага “польскага пытання”, Канстанцін Каліноўскі ўздымаў на першы план “сялянскае пытанне”, што, у сваю чаргу, разглядалася ім як асноўны спосаб дасягнення незалежнасці радзімы. Каліноўскі злучаў два гэтыя пытанні ў адно, але ў выніку атрымаў падтрымку толькі невялікай суполкі студэнтаў ды афіцэраў, каб урэшце быць абвінавачаным як “на словах кры-

---

[201] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. 2 t. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 220.

[202] Драницын, С.Н. Польское восстание 1863 года и его классовая сущность / С.Н. Драницын. – Л., 1937. – С. 207.

[203] Там жа, с. 177.

[204] Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Вильно, 1867. – Т. 1. – С. 183: “Ён заяўляў, што пакажа з дробнай шляхты і з сялян на здольныя асобы, якія здолеюць паноў прыняць у рукі…; Ён жадаў прыцягнуць да сябе народ, далёка выйшаўшы з межаў надзелаў, аддаць усю зямлю сялянам, і з асяроддзя сялян абраць асобы для выканання свайго плану”.

[205] На гэтую важнейшую праблему звяртаў увагу Цэнтральны камітэт еўрапейскай дэмакратыі ў звароце ад 22 ліпеня 1850 года “Да народаў”, падпісаным французам Аляксандрам Ледру-Раленам, італьянцам Джузэпэ Мадзіні, немцам Арнольдам Ругэ і палякам Войцехам Дарашам. Do Ludów / Co przed nami? – Paryż, 1850. – S. 11: “Не хапае Дэмакратыі адной толькі рэчы; але гэтая рэч жыццёвая: назва ёй арганізацыя”.

важэрны дэмагог"[206], нягледзячы на тое, што ў гэтым сэнсе ён меў папярэднікаў з ліку тых, каго на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай лічылі героямі, якія аддалі жыццё за ўласныя погляды. Гэта Міхаіл Валовіч, Шымон Канарскі і, перш за ўсё, лідар кракаўскага паўстання 1846 года Эдвард Дамбоўскі, які намагаўся па вёсках "тлумачыць сялянам, што рэвалюцыя ім уласнасці жадае і ў іх імя выступае"[207]. Нездарма ўзгадка пра "аграрную рэвалюцыю" як умову "нацыянальнага вызвалення" знайшла адлюстраванне нават у "Маніфесце камуністычнай партыі"[208].

Яшчэ адразу пасля прыезду ў Маскву Канстанцін Каліноўскі адкрыў для сябе творы рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, якія жадалі "каб Польшча была незалежная"[209]. Пацвярджэнне гэтаму ён знаходзіў падчас размоў з рускімі студэнтамі. У выніку гэтых адносін "Расія" для яго адкрывалася адначасова ў двух дыяметральна супрацьлеглых вобразах Масквы і Пецярбурга. З аднаго боку было "маскоўскае панаванне" і магутная Імперыя, з другога – тыя рускія, якія таксама расцэньвалі "царызм" як варожы лад і рыхтавалі выступленне супраць яго. Пры гэтым

[206] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. 2 t. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 222.

[207] Stecka, M. Edward Dembowki / M. Stecka. – Lwów, 1911. – S. 49. Дамбоўскі быў схоплены сялянамі, за інтарэсы якіх змагаўся, і ледзь не быў перададзены ў рукі аўстрыйцаў. Затым таксама намагаўся выкарыстоўваць у прапагандысцкіх мэтах ксяндзоў для ўздзеяння на сялян і сам у белай сутане і крыжам у руцэ выправіўся па вёсках. Але ў адной з сутычак з аўстрыйскімі вайскоўцамі загінуў.

[208] Маркс, К., Энгельс, Ф. Манифест коммунистической партии / К. Маркс и Ф. Энгельс. // Сочинения. – М., 1955. – Т. 4. – С. 458: "Сярод палякаў камуністы падтрымліваюць партыю, якая ставіць аграрную рэвалюцыю ўмовай нацыянальнага вызвалення, тую самую партыю, якая выклікала кракаўскае паўстанне 1846 года".

[209] Герцен, А. К нашим / А. Герцен // Полярная звезда. – Лондон: Вольная русская книгопечатня, 1855. – Книга первая. – С. 226: "Я веру ў магутнасць слова, я веру ў мірнае злучэнне на адну агульную справу. Народнасць – любоў да сваіх, не значць нянавіць да другіх. Што зрабілася са справядлівай нянавісцю Палякаў да Рускіх, пры першым адкрытым слове любові і прымірэння Палякі і Рускія ўказалі на агульнага ворага і абняліся. Вось як важна выказвацца; маўчанне знак прыхаванай думкі, значна больш, чым згоды.

Што ж выйшла з гэтага збліжэння польскіх выгнаннікаў з гнанымі Рускімі? Тое, што Палякі жадаюць, каб мы былі вольнымі, а мы – каб Польшча была незалежная".

яны высока ацэньвалі ролю "Польшчы" (Рэчы Паспалітай), за аднаўленне якой выступалі: "І жадаем гэтага больш шчыра за многіх заходніх сяброў яе. Яны хочуць аднавіць Польшчу супраць Расіі, хочуць зрабіць з яе "лагер, а не форум", як казаў Напалеон Нарбону, і абараніцца яе славянскімі грудзямі ад нас. Мы хочам Польшчу вольную і самабытную для таго, каб не было, нарэшце, ніякай прычыны разладу з Еўропай. Пакліканне Польшчы – гэта мір, а не гэта вайна; яна не памежная варта Еўропы, не плот паміж двума сем'ямі чалавецтва, а пасрэдніца іх. Яна, са славянскай крывёю ў жылах і з еўрапейскай адукацыяй у норавах, прызначана лёсам быць вялікім Camp du drap d'or[210] – гэтай сустрэчы. Яна злучыць сваімі мужнымі рукамі рукі адзінаборцаў, не абліваючы іх зноў сваёю ўласнай крывёю. Ёй не патрэбна больш ахвяраў; яе святыя магілкі павінны абрасіцца не яе крывёю, а нашымі слязамі"[211].

Погляды Канстанціна Каліноўскага грунтаваліся на самых радыкальных тэорыях, якія ў гэты час распаўсюджваліся ў Пецярбургу дзякуючы "Полярной звезде", герцэнаўскаму "Колоколу", першы нумар якога пабачыў свет летам 1857 года, творам Бакуніна, Чарнышэўскага і Дабралюбава, нелегальным выданням польскай эміграцыі[212], новым філасофскім трактатам, у тым ліку сацыялістаў-утапістаў, якія не столькі чыталіся, колькі пераказваліся, часам з дадаваннем ідэй, якія ў іх насамрэч адсутнічалі, а таксама чытаннем навін пра працэсы, што адбываліся ў свеце, як аўстра-французска-італьянская вайна 1859 года, дзейнасць Гарыбальдзі і ўдзел на баку італьянцаў добраахвотнікаў з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай.

Зрабілі ўплыў на Канстанціна Каліноўскага і ідэі польскіх дэмакратаў, у першую чаргу сацыяліста-ўтапіста Станіслава

[210] З фр. "Поле залатой парчы". Герцэн мае на ўвазе месца сустрэчы англійскага караля Генрыха VIII і французскага караля Францыска I, якая праходзіла 7-23 чэрвеня 1520 года непадалёк ад Кале. Нягледзячы на маштаб сустрэчы, з-за якой скарбніцы Англіі і Францыі апынуліся ў дэфіцыце, яна не дасягнула сваёй мэты – замацаванне сяброўскіх адносін паміж двума манархіямі.

[211] Герцен, А. К нашим / А. Герцен // Полярная звезда.– Лондон: Вольная русская книгопечатня, 1855. – Книга первая. – С. 227.

[212] Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Вильно, 1867. – Т. 1. – С. 181: "быў ён чысцейшым стварэннем камуністычнай літаратуры цэнтралізацыі з усёю федэратыўнаю лухтою Колокола".

Ворцэля[213], які выступаў за саюз рэвалюцыйных сіл Польшчы і Расіі і абвяшчаў "Братэрства роду людзкога!"[214] дагматам веры сацыялізму, які будзе грунтавацца на падставе дэмакратызму з яго вытокамі ў хрысціянстве. Дэмакратызм у сваю чаргу мае дзве дэфініцыі: "усяўладства ўсіх" і "дэмакратычная Рэч Паспалітая"[215] для ўсіх народаў.

Узаемаадносіны паміж markaznymi — 

Узаемаадносіны паміж рознымі часткамі былой Рэчы Паспалітай Каліноўскі разглядаў з пазіцый герцэнаўскай федэрацыі. Гэта было выклікана ў дадзены перыяд не імкненнем адасаблення былога Вялікага Княства Літоўскага ад Польшчы як незалежных складаючых, а звязвалася з неабходнасцю дасягнення поспеху за кошт "сацыяльнага перавароту"[216] ў адным рэгіёне і распаўсюджвання барацьбы на тых пачатках, да якіх шляхта з-за сваёй абмежаванасці не была падрыхтаваная, прычым не толькі на Русь (Украіну) і Карону (Польшчу), але і цэнтральную частку Расійскай Імперыі. І ўсё ж галоўнай мэтай з'яўлялася сацыяльная рэвалюцыя, у выніку якой царызм з яго іерархічнай будовай грамадства будзе знішчаны. Сялянскае паўстанне па прыкладзе Уманскай або Галіцыйскай разні магло стаць першым неабходным крокам да гэтага.

Віктар Каліноўскі аказваў на малодшага брата Канстанціна вялізарны ўплыў, дазволіўшы яму ў юнацкім узросце ўвайсці ў шматлікія абмежаваныя для звычайных студэнтаў таемныя суполкі, а таксама завязаць сувязі, якія мелі вырашальнае значэнне для яго поспехаў пасля вяртання на радзіму і раз-

[213] Станіслаў Ворцэль (1799–1857) – удзельнік лістападаўскага паўстання 1830–1831 гадоў, дэпутат паўстанцкага сейму ад Валыні. Пасля задушэння паўстання эміграваў у Англію, дзе стаў ідэолагам часткі эміграцыі, якая вылучалася левымі поглядамі. У 1835 годзе садзейнічаў аддзяленню ад Польскага дэмакратычнага таварыства двух грамад эмігрантаў у Англіі, якія ўтварылі першае польскае рэвалюцыйна-дэмакратычнае таварыства "Люд польскі". У 1840 годзе выйшаў са складу арганізацыі і разам з І. Лелявелем стварыў арганізацыю "Аб'яднанне", якое пасля кракаўскага паўстання ў 1846 годзе ўвайшло ў склад Польскага дэмакратычнага таварыства. У 1847 годзе Ворцэль быў абраны ў склад кіруючага кола аб'яднання ("Цэнтралізацыя". Блізкі сябар італьянскага палітыка Джузэпэ Мадзіні і рускага рэвалюцыянера А. Герцэна, якому дапамагаў у стварэнні Першай вольнай рускай тыпаграфіі).

[214] Co przed nami? – Paryż, 1850. – S. 21.

[215] Там жа, s. 23.

[216] Przyborowski, W. Dzieje 1863 roku. T. 3. / W. Przyborowski.– Kraków: W.L. Anczyc,–1902. – S. 4.

гортвання дзейнасці Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Канстанцін Каліноўскі не проста з'яўляўся ўдзельнікам салонных сустрэч, ён быў адным з найактыўнейшых выступоўцаў.

Агульнасць поглядаў на неабходнасць пашырэння сацыяльнай базы будучага паўстання, цікавасць да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, актыўная дзейнасць у арганізацыі Серакоўскага-Дамброўскага ўрэшце прывяла да таго, што аўтарытэт старэйшага брата перайшоў на малодшага, які ўсё актыўней стаў браць на сябе функцыі, якія раней выконваў Віктар і што цяпер не мог рабіць з-за пагаршэння здароўя.

Такім чынам, Канстанцін Каліноўскі ў час навучання ў Пецярбургу, як і яго землякі, марыў пра аднаўленне Рэчы Паспалітай. Але ў адрозненне ад многіх іншых ён бачыў дасягненне мэты як вынік паўстання на радзіме, якое ўспрымалася як рэвалюцыя, паколькі ставіла мэтай змену сацыяльнага ладу грамадства. Каліноўскі бачыў гэтае паўстанне пажарам, з якога полымя змагання будзе пашырана на суседнія тэрыторыі, і перш за ўсё на Расію.

## *Пачатак маніфестацыйнага руху*

Нягледзячы на дэклараваную пасля смерці бацькі арыентацыю на нязменнасць усталяванага тым парадку, імператар Аляксандр II вымушаны быў ісці на паслабленне рэжыму і пачаць падрыхтоўку рэформ. Таго патрабавалі паражэнне ў Крымскай вайне, кепская эканамічная сітуацыя ўнутры краіны і ўзмацненне сялянскага руху. З новым імператарам звязвалі вялікія чаканні. І ён іх першапачаткова апраўдваў. Гэта несла карысць і тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Імператар дазволіў вярнуцца з Сібіры ўдзельнікам Лістападаўскага паўстання (1830–1831).

Прыезд былых паўстанцаў прывёў да зрухаў у настроях грамадства. Тыя падзеі, асобы і пачуцці, з імі звязаныя, якія так доўга былі пад забаронаю, выліліся спачатку ў салонныя і карчмовыя размовы, затым у стварэнне разнастайных суполак, аб'яднаных успамінамі аб мінулым. Цэнзура слабела, часцей сталі з'яўляцца разнастайныя выданні, у тым ліку і на беларускай мове, да прыкладу “Песні набожныя”, што выконваліся ў касцёлах.

У верасні 1858 года Варшаву наведаў Аляксандр II, якога віталі з вялікім энтузіязмам. Яшчэ большую прыхільнасць выклікаў французскі імператар Напалеон III, які прыехаў у сталіцу Каралеўства Польскага на сустрэчу з расійскім імператарам для абмеркавання італьянскага пытання. У выніку Расія заняла нейтральную пазіцыю ў французска-аўстрыйскім канфлікце на Апенінскім паўвостраве, ствараючы, такім чынам, спрыяльныя ўмовы для адраджэння італьянскай дзяржавы. Гэты ж крок адначасова вёў да росту чаканняў на станоўчае вырашэнне і “польскага пытання” як сярод вышэйшых колаў грамадства былой Рэчы Паспалітай, так і сярод адукаваных грамадзян, асабліва моладзі, частка якой у якасці добраахвотнікаў улілася ў італьянскі міжнародны легіён на чале з Джузэпэ Гарыбальдзі: “Польская дэмакратыя ўсім сэрцам была заангажавана на баку Італіі і звязвала з ёю найвялікшыя надзеі”[217].

Паведамленні пра поспехі тысячы добраахвотнікаў

[217] Kieniewicz, S. Powstanie styczniowe / S. Kieniewicz. – Warszawa, 2009. – S. 71.

Гарыбальдзі, апранутых у чырвоныя кашулі, у маі-чэрвені 1860 года супалі са смерцю ў Варшаве 85-гадовай жонкі генерала Юзафа Савінскага, героя паўстання 1830–1831 гадоў. 9 чэрвеня на яе пахаванне сабраўся вялізны натоп. Менавіта з гэтай акцыі бярэ пачатак развіццё маніфестацыйнага руху, які заняў больш года і падрыхтаваў глебу для будучага паўстання 1863–1864 гадоў. Паказальна, што падчас гэтай першай у шэрагу шматлікіх акцый “студэнты не толькі не ўмешваліся да гэтай імпрэзы, але адкрыта забаранілі ўдзел у пахаванні і пабілі некалькі калег, якія на пахаванне прыйшлі”[218].

У кастрычніку 1860 года ў Варшаве адбыўся з'езд трох манархаў – імператара Франца Іосіфа, прадстаўнікі якога распаўсюджвалі на вуліцах сталіцы Каралеўства Польскага экзэмпляры толькі што выдадзенай новай аўстрыйскай канстытуцыі, Напалеона III і Аляксандра II, які разлічваў на падтрымку Францыі ў вырашэнні балканскага пытання. Аднак мясцовыя патрыёты сарвалі ўрачыстыя мерапрыемствы. Гэта звярнула на сябе ўвагу не толькі еўрапейскай супольнасці, але і імператара Алясандра II, які 26 кастрычніка нечакана для ўсіх выехаў у Пецярбург.

Ужо праз месяц, 29 лістапада, у гонар трыццатых угодкаў Лістападаўскага паўстання ў Варшаве адбылася шматтысячная маніфестацыя, дзе ўпершыню вялікая колькасць людзей выконвала патрыятычныя польскія песні. У спевах удзельнічалі пераважна жыхары Варшавы. Простыя сяляне, якіх вельмі шмат збіралася на набажэнствах, як паказала далейшае пашырэнне маніфестацый, не ведалі ні словаў, ні мелодыі нават такіх, здавалася б, папулярных песень, як “Boże coś Polskę”[219]. Расійскі цар аддаў загад: у выпадку больш значных выступленняў адкрываць па дэманстрантах агонь з гармат Варшаўскай цытадэлі.

Польская эміграцыя, якая атрымлівала паведамленні з радзімы, ускладала вялікія надзеі на французскага імператара Напалеона III, спадзеючыся, што сумесная вайна Францыі і Сардзінскага каралеўства супраць Аўстрыі за вяртанне Італіі паўночных зямель перарасце ў далейшае вызваленне Балкан, Венгрыі, а затым і польскіх зямель, у тым ліку ў складзе Расійскай Імперыі.

---

[218] Там жа, s. 75.
[219] Там жа, s. 105.

Будучы ж дыктатар паўстання Людвік Мераслаўскі ў якасці плана прапанаваў, выкарыстоўваючы распачаты маніфестацыйны рух, захапіць у Варшаве цытадэль са зброяй і імператарскага намесніка Міхаіла Гарчакова, каб прымусіць рускі гарнізон пакінуць горад, а затым ахапіць паўстаннем усю былую Рэч Паспалітую. Аднак уплыў польскай эміграцыі і колькасць прыхільнікаў Мераслаўскага былі нязначнымі ў Каралеўстве Польскім.

На месцах пачыналі складвацца так званыя "рэвалюцыйныя арганізацыі", якія часта дзейнічалі незалежна адна ад адной. Наладжванне сувязей паміж імі станавілася адной з найважнейшых задач.

25 лютага 1861 г. з нагоды 30-й гадавіны самай крывавай бітвы Лістападаўскага паўстання – бітвы пад Грохавым, у якой загінула каля 20 тысяч рускіх і палякаў, – у Варшаве адбылася чарговая маніфестацыя, на гэты раз разагнаная войскам. У адказ жыхары Варшавы 27 лютага сабраліся на новую маніфестацыю, якая зноў была разагнана. На гэты раз пралілася першая кроў: пяцёра ўдзельнікаў маніфестацыі былі забіты расійскімі салдатамі на Кракаўскім прадмесці.

Пахаванне забітых ператварылася 2 сакавіка ў чарговую маніфестацыю і прывяло да дэманстрацый салідарнасці не толькі ў шматлікіх гарадах Каралеўства Польскага, але і на тэрыторыі Літвы, Беларусі, Украіны, і нават Расіі: 1 сакавіка студэнты Пецярбургскага ўніверсітэта, медыка-хірургічнай акадэміі, слухачы ваенных вучылішчаў сумесна з польскімі студэнтамі гэтых устаноў правялі па тых, хто загінуў, паніхіду, у якой удзельнічала да 1500 чалавек. 17 сакавіка адбылася паніхіда і ў Маскве, на якой Пётр Зайчнеўскі ў сваёй прамове заклікаў рускіх і палякаў сумесна змагацца з агульным ворагам – самадзяржаўем.

Яшчэ адной праявай грамадскай салідарнасці стаў збор грашовых сродкаў. Напрыклад, у Гродне памешчык Сільвестровіч абвясціў пра збор сродкаў на стварэнне помніка па пяці загінулых у Варшаве і сабраў каля 80 рублёў[220]. Гэтая дзейнасць затым перарасла ў збор сродкаў на дапамогу пацярпелым за ўдзел у маніфестацыйным руху, а пасля і закупку харчавання, амуніцыі і зброі.

[220] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. Материалы Виленской следственной комиссии о лицах, принадлежащих к Гродненской революционной организации. – Арк. 109 адв.

## *Вяртанне Канстанціна Каліноўскага на радзіму*

2 сакавіка 1861 года Канстанцін Каліноўскі быў ужо ў Вільні, дзе падаў прашэнне ў канцылярыю ваеннага губернатара У. Назімава: “Скончыўшы курс навук у Імператарскім С.-Пецярбургскім універсітэце са ступенню кандыдата і жадаючы паступіць на службу, маю гонар пакорна прасіць Ваша Высокаправасхадзіцельства даставіць мне магчымасць служыць пад высокім начальствам Вашага Высокаправасхадзіцельства”[221].

Пратэкцыю Каліноўскаму аказваў знаёмы па пецярбургскіх студэнцкіх гуртках Людвіг Звяждоўскі, які з’яўляўся ад’ютантам генерал-губернатара. У чаканні адказу Каліноўскі наведваў братоў Далеўскіх, удзельнічаў у дыскусіях са старэйшым з іх – Францішкам. Той вярнуўся са ссылкі і цяпер з’яўляўся адным з найвядомейшых жыхароў краю. Менавіта падчас адной з сустрэч у Далеўскіх адбылося знаёмства Каліноўскага з землеўладальнікам Троцкага павета Якубам Гейштарам.

З першай жа размовы, прысвечанай тэме ўдзелу шляхты і памешчыкаў у магчымым паўстанні, у іх узнікла ўзаемная непрыязь, выкліканая рознасцю палітычных поглядаў. Канстанцін Каліноўскі даказваў, што народ сам заваюе свабоду і незалежнасць і запатрабуе ўласнасці ў памешчыкаў. Удзел жа шляхты ў барацьбе не толькі не патрэбны, але і шкодны. Адзінае выключэнне – гэта іх далучэнне да паўстанцкіх атрадаў у іншых паветах, дзе іх асабіста ніхто не ведае. Апісваючы гэтую спрэчку ў мемуарах, Якуб Гейштар адзначыў: “Па праўдзе кажучы, Каліноўскі хацеў, каб народ вялікадушна прабачаў шляхце злачынствы мінулага, але калі б яна і згінула, то яе сустрэла б толькі заслужанае пакаранне і Край ад гэтага нічога б не згубіў”[222].

Знаходзячыся ў Вільні, Каліноўскі, акрамя Далеўскіх, прыняў запрашэнне Іосіфа Яманта наведаць яго сям’ю, якая жыла ў кватэры на Вялікай вуліцы ў доме Шышкіна.

Яманты – досыць заможная сям’я, вядомая на ўсю Вільню.

[221] Шалькевіч, В. Невядомыя старонкі з жыцця Кастуся Каліноўскага / В. Шалькевіч // Сыны і пасынкі Беларусі / Уклад. Барыс С.В. Мн.: “Полымя”, 1996. – С. 169.

[222] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 222.

Яе гаспадар Тадэвуш меў вышэйшую юрыдычную адукацыю і высокі дзяржаўны чын надворнага саветніка. Ён узначальваў адміністрацыю маёнткаў князя Вітгенштэйна, уладальніка былых радзівілавых зямель, параскіданых па ўсёй Беларусі і Літве. Жонка Схаластыка, у дзявоцтве Макрыцкая, падарыла мужу чатырох сыноў і чатырох дачок, з якіх пакуль толькі старэйшая – Людвіка – была замужам за Людвікам Радзевічам, супрацоўнікам яе бацькі.

Каліноўскі з першай жа сустрэчы зрабіўся жаданым госцем у кватэры Ямантаў, дзе яго шчырыя і апантаныя ідэяй справядлівасці словы знайшлі асабліва моцны водгук у чуллівай і ўражлівай душы адной са старэйшых іх дачок – Марыі.

Марыя Ямант была маладзейшая за Канстанціна на чатыры гады. Яна нарадзілася 14 снежня 1842 года[223] ў Вільні, дзе скончыла прыватны пансіён. Выкладчыкам у ім быў таленавіты педагог Аляксандр Здановіч, аўтар вядомых у той час падручнікаў, бацька паплечніка Каліноўскага – Ігната. Марыя валодала некалькімі замежнымі мовамі, мела глыбокія веды па літаратуры і гісторыі. Каліноўскі знайшоў у ёй родную душу, ад якой не мела сэнсу хаваць тых моцных пачуццяў, якія ён пачаў да яе адчуваць.

Праз тыдзень пасля яго прыбыцця ў Вільню ў сталіцу Краю пачалі прыходзіць весткі пра першыя наступствы абвяшчэння грабежніцкай аграрнай рэформы, якая ўвайшла ў гісторыю як “Адмена прыгоннага права”. На кватэры Ямантаў у дадатак да тэмы пра расстрэл царскімі войскамі варшаўскай дэманстрацыі абмяркоўвалі выступленні сялян, якія адбываліся і ва ўладаннях Вітгенштэйна. Каліноўскі бачыў у гэтым прадвесце будучай буры, праз якую народзіцца новы свет. Таму ён не мог заставацца ў Вільні, каб дачакацца адказу з канцылярыі Назімава. Ён развітваецца з дзяўчынай, якую пазней стаў называць не інакш як “Мырыська чарнаброва, галубка мая”, і накіроўваецца ў бацькоўскі маёнтак Якушоўка Гродзенскай губерні, каб усё пабачыць на ўласныя вочы.

Канстанцін Каліноўскі яшчэ не ведаў, што надзеі замацавацца ў якасці чыноўніка ў Вільні не наканавана спраўдзіцца. Гэты план быў разбураны 5 сакавіка назімаўскім “Аб’явіць аб адсутнасці вакансій”, адпраўленым 21 сакавіка праз Ваўкавыскі

[223] LVIA. – F. 604. – Ap. 10. – B. 284. Метрическая книга о родившихся виленского Св. Иоанна костела с 1841 по 1843 год. – L. 92.

земскі суд для далейшага накіравання ў Якушоўку. Каліноўскі тады яшчэ не разумеў, што атрыманы ім дыплом – гэта толькі прыступка да лепшага жыцця. Білет жа ў яго купляецца коштам хабару ці пратэкцыі, якой павінен быць нехта большы, чым проста ад'ютант губернатара.

Па вяртанні ў Якушоўку сусед Каліноўскіх памешчык Ігнацій Ляскоўскі[224] прапанаваў Канстанціну ўзяць таго за настаўніка да сваіх дзяцей, але пачуў у адказ адмову[225]. Каліноўскі выношвае іншыя планы, іншыя ідэі, пра якія не раз ішла гаворка ў пецярбургскіх студэнцкіх гуртках, пра якія так шмат было абмеркавана са старэйшым братам Віктарам. Але ў яго здараецца чарговы канфлікт з мачыхаю[226].

У выніку Канстанцін Каліноўскі ўжо ў канцы сакавіка 1861 года вырашае выправіцца ў Гродна "шукаць сабе месца"[227]. Перад ад'ездам у яго адбылася размова з Сымонам Каліноўскім, падчас якой ён сказаў, "што тут у хаце няміла, што трэба свой кавалак хлеба шукаць. Я сказаў: вельмі слушна і справядліва, што бачыш больш, чым дробязныя сваякі. Трэба мне на іх цяжка працаваць, а ты, атрымаўшы адукацыю, можаш сабе лёгка якую-небудзь службу знайсці"[228]. Затым бацька даў Канстанціну ў дарогу 12 рублёў і наняў падводу.

[224] Дзед Ігнація Ляскоўскага прадаў Каліноўскім маёнтак Якушоўку. Ігнацій нарадзіўся ў 1815 годзе ў Кобрынскім павеце ў маёнтку Дзераўна. Скончыў Свіслацкую гімназію ў 1836 годзе, пасля чаго працаваў на розных адміністрацыйных пасадах да 6 чэрвеня 1863 года. У жніўні быў арыштаваны. Сасланы на жыхарства ў Табольскую губерню. НАРБ. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 2. Материалы Гродненской следственной комиссии о лицах, принадлежащих к Гродненской революционной организации. Арк. 338–342 адв.

[225] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 2. – Арк. 339: "…размаўляў аб навуках, хацеў да дзяцей сваіх на канікулы ўзяць за настаўніка. Але ён гэтага мне адмовіў".

[226] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. – Арк. 247 адв. Рускі пераклад паказанняў Сымона Каліноўскага, якія ён даваў 24 красавіка 1864 года, быў недакладны. Выраз "нязгодна жыў з мачыхаю" быў перакладзены як "пасварыўся з мачыхаю". Гл.: Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 2. – Арк. 336.

[227] Там жа.

[228] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 2. – Арк. 336. У рускім варыянце гэты кавалак быў перакладзены недакладна, як "аб'явіў мне, што хоча шукаць сабе месца, на што я яму адказаў, што добра робіць, таму што ты, як добра адукаваны чалавек, можаш атрымаць месца, а мне неабходна намагацца, каб быў кавалак хлеба для малых дзяцей". Гл.: Калиновский, К. Из печатного и рукописного наследия / К. Калиновский. – Мн., 1988. – С. 145.

# *Беластоцкае “Кола”*

Водгукам на лютаўскія падзеі ў сталіцы Каралеўства Польскага стала з’яўленне ў розных кутках былой Рэчы Паспалітай у большасці выпадкаў нешматлікіх, таемных суполак “чырвоных”, у той час як “белыя” дзейнічалі легальна.

Найбольшай пасля варшаўскай арганізацыі “чырвоных” стала беластоцкае “Кола”, з якім у пачатку сваёй дзейнасці актыўна супрацоўнічала Гродзенская рэвалюцыйная арганізацыя.

Яе заснавальнікам стаў чыгуначны інжынер Браніслаў Шварцэ: “Быў гэта чалавек гадоў каля 30, высокі, вельмі шчуплы брунет з чорнымі, жывымі вачамі, якія закрываў акулярамі ад блізарукасці. Сярэдняга ўзроўню інтэлігентнасці, кемлівы, празмерна нервовага настрою, канспіратарскіх здольнасцей, гарачы дэмакрат з адценнем рэвалюцыянера, дзейсны, рухавы, адважны, выяўляў шмат з французскага тэмпераменту. Чалавек чысты, шляхетны, гарачы патрыёт, прыроджаны канспіратар”[229].

Браніслаў нарадзіўся 8 кастрычніка 1834 года ў французскай Брэтані. Яго бацька, Юзаф Шварцэ, удзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гадоў і вымушаны быў выправіцца ў эміграцыю. Бунтарскі характар бацькі перадаўся сыну, які ў 1848 годзе ўдзельнічаў у еўрапейскай “вясне народаў”: 14-гадовы хлопец змагаўся на барыкадах Парыжа супраць караля Луі Філіпа ў імя Рэспублікі і такім чынам першы раз трапіў за краты.

У 1852 годзе па заканчэнні Парыжскай вышэйшай політэхнічнай школы Браніслаў атрымаў спецыяльнасць інжынера і пераехаў у Вену, дзе правёў два гады, будуючы аўстрыйскую чыгунку. У 1859 годзе ён перабіраецца ў Варшаву, наладжвае кантакты з кіраўнікамі патрыятычнай моладзі, якая пазней утварыла Гарадскі камітэт, ператвораны надалей у Нацыянальны камітэт. Па дамоўленасці з імі Шварцэ ў красавіку 1860 года ўладкаваўся ў французскую кампанію, якая будавала чыгунку Санкт-Пецярбург – Варшава[230]. Браніслаў заняў пасаду памочніка будаўніка на станцыі Беласток.

Пераважную большасць інжынераў і будаўнікоў на чыгун-

[229] Janowski, J. Pamiętniki o powstaniu styczyniowem / J. Janowski. – Warszawa, 1931. – T. 3. – S. 366.

[230] Złotorzycka, M. Zeznania warszawskie Bronisława Szwarcego (1862–1863) / M. Złotorzycka // Przegląd Historyczny, 1961. – № 3 (52). – S. 526.

цы складалі далёка не французы або бельгійцы. Перш за ўсё гэта былі колішнія эмігранты і іх дзеці з замежнымі пашпартамі ды былыя ссыльныя паўстанцы 1830–1831 гадоў, якія ў 1856 годзе атрымалі амністыю ад новага імператара Аляксандра II. Яны не адмовіліся ад ідэалаў сваёй маладосці і распачалі дзейнасць па стварэнні канспіратыўных арганізацый. У далейшым яны ўсе прынялі ўдзел ва ўзброеным выступленні, як, напрыклад, інжынер з Гродна Караль Фрычэ, паўстанцкі камандзір, які загінуў гераічнай смерцю.

Браніслаў Шварцэ меў магчымасць афіцыйна выкарыстоўваць чыгунку для шматлікіх раз'ездаў, падчас якіх закладаў таемную арганізацыю і, як адзначае польскі гісторык Стэфан Кеневіч, ператварыў беластоцкую арганізацыю ў "звяно паміж Варшавай і Вільнай, асяродак рэвалюцыйнай прапаганды на беларускай мове"[231].

Пасля расстрэлу 27 (15) лютага 1861 года ў Варшаве дэманстрацыі гараджан, у выніку чаго пяць чалавек было забіта, на наступны дзень Браніслаў Шварцэ накіроўваецца ў сталіцу Каралеўства Польскага, дзе прымае ўдзел у з'ездзе моладзі. Ён прызывае рыхтавацца да ўзброенай барацьбы, але, аб'яўлены вар'ятам, вымушаны адправіцца назад у Беласток. Крыўда паслужыла штуршком да гартавання самастойнай арганізацыі. Ужо ў хуткім часе яна складалася з больш чым сотні ўдзельнікаў, палова з якіх былі чыгуначнікі.

Браніслаў асабіста браў удзел ва ўсіх маніфестацыях, як касцельных, так і звычайных выступленнях. На іх ён выказваў думку пра неабходнасць збірання грошай і зброі для будучага паўстання. Менавіта "Колам" Шварцэ была арганізавана буйнейшая маніфестацыя ў Беластоку – працэсія да Тыкоціна з мэтаю братання з жыхарамі Каралеўства[232].

8 красавіка ў Варшаве пачалася чарговая маніфестацыя. Пасля атрымання тэлеграмы пра яе кіраўнік руху ў Беластоку Леапольд Плуцінскі вырашыў накіраваць туды цягнік з сябрамі "кола". Толькі другая тэлеграма, з паведамленнем пра

[231] Kieniewicz S. Bronisław Szwarce, Olga Morozowa, przeł. Wiktoria i René Śliwowscy, wstępem opatrzyła Wiktoria Śliwowska, Wrocław 1982 : [recenzja] // Przegląd Historyczny. 1983. – T. 74. №. 3. – S. 555.

[232] Szwarce, B. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862 / B. Szwarce // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 443

задушэнне выступлення, у якім расійскімі войскамі было забіта больш за 100 чалавек, прымусіла ўсё адмяніць.

## *Заснаванне Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі*

Каліноўскі, выпраўляючыся ў канцы лютага 1861 года з Пецярбурга на радзіму, меў на мэце замацавацца ў Вільні, дзе ішла актыўная праца па стварэнні таемных цэнтраў падпольнай арганізацыі. Ён павінен быў дапамагаць Людвіку Звяждоўскаму ў аб'яднанні прыхільнікаў рэвалюцыйных сродкаў барацьбы, "чырвоных", каб мець магчымасць супрацьстаяць "белым". Суполка "белых" з ліку Якуба Гейштара, Францішка Далеўскага, Аляксандра Аскеркі, Антонія Яленскага пачала арганізоўвацца ў Вільні яшчэ ў 1860 годзе і мела ўжо пэўную структуру.

У сувязі з немагчымасцю замацавацца ў Вільні, Каліноўскі вымушаны быў змяніць першапачатковыя планы. Ён прымае рашэнне пачаць стварэнне паўстанцкай арганізацыі ў Гродне, стратэгічнае значэнне якога было не нашмат меншае за Вільню.

Ці было гэтае рашэнне цалкам самастойным? Рускі гісторык В. Ратч у ненадрукаваных нататках указваў, што замацаванне Каліноўскага ў Гродне адбылося па дамове з кіраўніцтвам "чырвоных" у Вільні: "Канстанцін быў пасланы для той жа ролі, як Э. Дамбоўскі ў Галіцыю перад 1846 годам"[233], – г.зн. для падрыхтоўкі паўстання на Гродзеншчыне, першым крокам да якой стала стварэнне таварыства з ліку паплечнікаў.

Устаноўчай сустрэчай для заснавання гродзенскай арганізацыі стаў таемны з'езд у горадзе Саколка напрыканцы сакавіка 1861 года. Тады ў яе склад увайшлі Фелікс Ражанскі, Ідэльфонс Мілевіч, Ян Ванькові, чыноўнікі Эразм Заблоцкі і Станіслаў Сангін, Валер Урублеўскі, ксяндзы Гінтаўт, Ігнат Казлоўскі і Ян Зажыцкі: "Усе названыя прытрымліваліся дэмакратычных прынцыпаў, і таму іх называлі чырвонай партыяй, прымаючы пад увагу, што развівалі праграму: падрыхтоўкі народа да народнага паўстання супраць маскоўскага панавання. Паўстанне прадугледжвала вызваленне і знішчэнне прыгону

[233] Цыт. Паводле: Кісялёў, Г. Вялікі сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі / Г. Кісялёў // Выбранае / Г. Кісялёў. – Мн., 2016. – С. 59.

праз польска-шляхецкі элемент, абвяшчала знішчэнне прыгону праз два гады, гэта значыць у 1863 годзе"[234].

Саколка была абрана нездарма: з 1857 года тут пражываў паплечнік Каліноўскага – Валер Урублеўскі, які ўваходзіў у склад створанага ў першыя дні сакавіка 1861 года беластоцкага таемнага таварыства "Кола" на чале з Браніславам Шварцэ.

Валер Урублеўскі нарадзіўся 27 (15) снежня 1836 года ў мястэчку Жалудок Лідскага павета. Вучыўся ў Віленскай гімназіі разам з Цітусам і Канстанцінам Далеўскімі, Зыгмунтам Мінейкам і Францішкам Багушэвічам. Па яе заканчэнні ў 1853 годзе паступіў у Лясны інстытут у Пецярбургу. Удзельнік таемных таварыстваў Яраслава Дамброўскага і Зыгмунта Серакоўскага, якія гартавалі кадры для будучага паўстання з мэтаю аднаўлення Рэчы Паспалітай, ліквідацыі саслоўнай няроўнасці і вызвалення сялян. На адной з сустрэч Валер пазнаёміўся з братамі Віктарам і Канстанцінам Каліноўскімі. Пасля заканчэння навучання Урублеўскі ў званні прапаршчыка атрымаў прызначэнне інспектарам у новастворанае пісарска-егерскае вучылішча, арганізаванае непадалёк ад Белавежскай пушчы.

Калі Урублеўскі прыбыў у Саколку, яна ўяўляла сабой невялікі горад з колькасцю жыхароў 3412 чалавек (на 1858 год), цэнтр павета Гродзенскай губерні, праз які яшчэ нават не была пракладзена чыгунка. Саколка складалася фактычна з дзвюх вялізных вуліц – Гродзенскай і Беластоцкай: "Паміж гэтымі вуліцамі і пасярэдзіне горада шырокая плошча, забудаваная невялікімі мураванымі і часткова драўлянымі домікамі; у цэнтры плошчы, за чыгуннай агароджай, стаіць даволі прыгожая мураваная праваслаўная царква. Іншыя шэсць вуліц вельмі нязначныя, так што ўвесь горад як бы складаецца з адной доўгай шасіраванай вуліцы, па баках якой, на адлегласці да 50 сажняў, параскіданы невялікія драўляныя хаткі, дзе-нідзе прыхаваныя садамі. Акрамя праваслаўнай царквы маецца каталіцкі касцёл, сінагога і дзве габрэйскія школы"[235]. З прамысловых аб'ектаў

---

[234] Rożański, F. Z województwa grodzieńskiego / F. Rożański // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 396.

[235] Бобровский, П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. / П. Бобровский. – Санкт-Петербург, 1863. – Часть 2. – С. 942.

меліся толькі млын і піваварня Арлоўскага. Штотыдзень па панядзелках ладзіўся гандаль, а кірмаш адбываўся толькі 29 верасня, на Святога Міхаіла. Горад быў ціхім: за 11 гадоў напярэдадні паўстання ў ім здарылася толькі адно забойства, адно самагубства і былі знойдзены два мёртвыя немаўляці.

У 1847 годзе ў Саколцы было заснавана егерскае вучылішча, для якога на наступны год адкрылі падрыхтоўчы клас на 20 чалавек і пачалі закладку будынкаў, завершаных у 1852 годзе. У 1853 годзе з дазволу міністра дзяржаўных маёмасцей адбылося адкрыццё Сакольскага пісарска-егерскага вучылішча, склад якога вызначылі ў 100 вучняў[236]. У ім у асноўным рыхтавалі лясных аб'ездчыкаў і егераў з ліку сыноў дзяржаўных (непрыгонных) сялян з Беларусі і Літвы.

Урублеўскі быў у асяродку вучняў сапраўдным аўтарытэтам, яшчэ ва ўніверсітэце ён вылучаўся здольнасцямі ў стральбе, фехтаванні і арыентаванні на мясцовасці, што скарыстаў падчас паўстання. Менавіта пад яго ўплывам многія з выпускнікоў Сакольскага вучылішча далучыліся да атрадаў у 1863 годзе.

У Саколцы Урублеўскі жыў у доме пры вучылішчы. Разам з ім у адным будынку жыла сям'я Гутоўскіх, сваякоў Апаліна Гафмейстара, сасланага ў 1848 годзе ў глыб Расійскай Імперыі за ўдзел у таемнай арганізацыі, будучага актыўнага ўдзельніка паўстання 1863–1864 гадоў. Яны пазнаёміліся ў 1857 годзе. Гафмейстар успамінаў пра Урублеўскага, што той “любіў усё палка, горача, пры тым жа захапляўся ўсялякай музыкай, усялякай карцінай, і таму называю яго энтузіястам”[237].

Напрыканцы 1850-х гадоў праз Саколку праходзіць Варшаўска-Пецярбургская чыгунка. Падчас паўстання меркавалася выкарыстаць яе магчымасці, каб злучыць размешчаныя пасярод лясоў, будучых баз партызанскай барацьбы, населеныя пункты – Саколку, Лапы і Парэчча.

Узгадку пра першы ўстаноўчы сход гродзенскай арганізацыі пакінуў Эразм Заблоцкі: “Размова ішла пра варшаўскія падзеі; Канстанцін Каліноўскі і Урублеўскі сказалі мне, што складваецца арганізацыя народнага польскага ўрада, якая хутка павінна сфарміравацца па ўсёй Літве, і прапанавалі мне пры-

[236] Там жа, с. 501.

[237] НАРБ. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 62-62 адв. Таксама гл.: Кісялёў, Г. Арол са зламаным крылом / Г. Кісялёў // Сыны і пасынкі Беларусі / Уклад. Барыс С.В. – Мн.: “Полымя”, 1996. – С. 193.

няць у ёй удзел"[238]. Падчас сустрэчы ўдзельнікі арганізацыі былі прыведзены да прысягі ксяндзом Казлоўскім, на што ўскосна ў сваіх паказаннях Віленскай следчай камісіяй, дадзеных 29 сакавіка 1864 года, указвае Заблоцкі. У Саколцы былі прыняты наступныя рашэнні: Урублеўскі разам з Заблоцкім павінны будуць наведацца ў Вільню для наладжвання сувязяў з іншымі "чырвонымі", а Каліноўскі з Ражанскім выправяцца ў вандроўку па вёсках Гродзеншчыны для вывучэння думак сялян і змен у іх становішчы пасля царскага маніфеста ад 19 лютага.

Канстанцін Каліноўскі вяртаецца ў Гродна, апранае, як і Фелікс Ражанскі, сялянскі кажух і выпраўляецца ў падарожжа па вёсках, называючыся Васілём Світкаю. Яны вывучаюць сялянскую грамаду, распаўсюджваюць нелегальныя выданні, вызначаюць кола праблемаў, якія турбуюць сялян, а галоўнае – наладжваюць асабістыя сувязі, дзякуючы чаму распачатае ў далейшым паўстанне "здолела пратрымацца з вясны да позняй восені, бо харчы і праваднікоў дастаўлялі паўстанцам выключна толькі сяляне, нягледзячы на цяжкасці і строгую адказнасць, якая пагражала ім з боку маскоўскага ўрада"[239].

Урублеўскі з Заблоцкім вясною 1861 года наведаліся ў Вільню, дзе сустрэліся з Эдмундам Вярыгам, Янам Козелам і іншымі прадстаўнікамі суполкі мясцовых "чырвоных" з мэтаю арганізацыі супрацоўніцтва[240].

Далучэнне да рэвалюцыйнай арганізацыі адбывалася толькі па рэкамендацыі. Прыклад таму – Ідэльфонс Мілевіч, які прыехаў у Гродна з Пецярбурга. Папярэдне ён атрымаў рэкамендацыйны ліст ад студэнта Маскоўскага ўніверсітэта Міхаіла Цеханоўскага, з якім пазнаёміўся ў Віктара Каліноўскага, да яго брата доктара Цэлесціна Цеханоўскага[241]. Цеханоўскі ж пазнаёміў Мілевіча з братамі Эразмам і Баляславам Заблоцкімі, а тыя, у сваю чаргу, з Канстанцінам Каліноўскім. Мілевіч, пра-

[238] НАРБ. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 1 – 1 адв.

[239] Rożański, F. Z województwa grodzieńskiego / F. Rożański // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 397.

[240] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 1 адв.

[241] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. Материалы Виленской следственной комиссии о лицах, принадлежащих к Гродненской революционной организации. – Арк. 1.

цуючы землямерам, меў магчымасць па справах службы свабодна перамяшчацца па Гродзенскім павеце, “дзе і пражыў большай часткаю ў вёсках да снежня 1861 года, у якім вярнуўся зноў у Гродна і прабыў там да першых дзён мая 1862 года”[242].

Таксама ў арганізацыі падтрымлівалася вялікая ступень канспіратыўнасці, аб чым сведчыў яе ўдзельнік Адольф Талочка: “…у арганізацыі гэтай выконвалася, каб ведалі пра сябе толькі асобы, якія мелі непасрэдныя з сабою адносіны, першы ад трэцяга аддзяляліся другім”[243].

Створаная Каліноўскім і яго паплечнікамі Гродзенская рэвалюцыйная арганізацыя з’явілася ў сакавіку 1861 года пры падтрымцы беластоцкага “Кола” Браніслава Шварцэ. Але ўжо з першых месяцаў існавання, нягледзячы на “чырвоную” афарбоўку абодвух структурных адзінак, выявілася розаснасць іх падыходаў у пытанні падпарадкавання Варшаве: у той час як Шварцэ бачыў сваю арганізацыю адгалінаваннем Варшаўскага цэнтра, Каліноўскі адмаўляўся прызнаваць гэты, няхай і даволі фармальны, кантроль, імкнучыся наладзіць адносіны з “чырвонымі” Вільні, структурныя адзінкі якіх нашмат саступалі ў сваёй арганізаванасці нават беластоцкаму “Колу”. Гэта рана ці позна павінна было перарасці ў адкрыты канфлікт, што і здарылася вясною 1862 года.

## *У пошуках сацыяльнай базы: сялянскі рух*

Пасля вяртання на радзіму, пры немагчымасці ўладкавацца на дзяржаўную службу, уся дзейнасць Каліноўскага ў 1861 годзе была скіравана на ўмацаванне Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, прадстаўнікі якой займаліся вывучэннем становішча сялянства і прапагандай сярод яго. Хаджэнне ў народ стала своеасаблівым актам ініцыяцыі для новых удзельнікаў рэвалюцыйнай арганізацыі. Людвіка Радзевіч узгадвала пра свайго брата Іосіфа Яманта: “Передавая моладзь ішла “ў народ”, каб разам з ім працаваць у імя лепшай будучыні… Памятаю, як залівалася гарачымі слязамі, убачыўшы напрацаваныя рукі майго брата Іосіфа, студэнта Пецярбургскага ўніверсітэта,

[242] Там жа, арк. 1.
[243] Там жа, арк. 96.

які вярнуўся дахаты пасля працяглай адсутнасці з аднаго з такіх хаджэнняў "у народ". У яго рэчах мы знайшлі рэшткі разарванай на кавалкі світкі. Высветлілася, што пры расстанні на напамін пра сябе ён разарваў яе на тонкія матузы для тых, каго называў "братамі сваімі" і ў сэрцах якіх намагаўся ўзбудзіць такія ж пачуцці, якімі быў ахоплены"[244].

Аднак увайсці ў асяродак сялян было не так проста, як можа падацца, аб чым сведчыў Адам Буцькевіч: "Каб патрапіць у гэтае кола, патрэбна абавязкова быць апранутым у іх сярмягу, есці іх хлеб і стравы, працаваць разам у хаце і па-за хатай, нават насіць тыя нявольніцкія кайданы, якія носяць у падданстве яны. Іначай не патрапіць да таго кола. Хай толькі хтосьці чужы паміж імі знойдзецца, адна асоба ці чалавек, падазраваны, што ёсць воўкам у авечай скуры, дык адразу, як па камандзе, уся сабраная грамада замаскіруецца, і тыя словы, што падаюць з іх вуснаў, не адкрыюць іх унутраных пачуццяў і думак"[245].

Высновы Каліноўскага пра магчымасці выкарыстання сялянскага руху ў інтарэсах паўстання канчаткова выкрышталізоўваліся вясною 1861 года, якая ў Расійскай Імперыі стала часам неймавернай сацыяльнай і грамадзянскай актыўнасці, выкліканай да жыцця аграрнаю рэформаю. Абурэнне яе палажэннямі паднялося не толькі з боку сялян, якія разлічвалі на значна большае, але і сярод памешчыкаў, якія не былі гатовы ў адносінах да прыгоннага насельніцтва нават на тыя саступкі, на якія ішоў урад Аляксандра II.

Маніфест аб пачатку рэформы Аляксандр II падпісаў 19 лютага (3 сакавіка па н. ст.) 1861 г., у гадавіну свайго ўступлення на трон. Нягледзячы на тое, што сяляне атрымлівалі асабістую свабоду, уся зямля, якая і асацыявалася ў вясковага насельніцтва з "воляй", заставалася ва ўласнасці памешчыкаў. У сваю чаргу, памешчыкі павінны былі выдзеліць частку зямлі для надзялення сялян, якія не мелі магчымасці на працягу 9 гадоў яе пакінуць і былі абавязаны да часу яе выкупу выконваць паншчыну. Таму фактычна былыя прыгонныя сяляне цяпер станавіліся часоваабавязанымі. Дзяржава выступіла сапраўдным аба-

[244] Паводле: Шалькевич, В.Ф. Кастусь Каліноўскі / В.Ф. Шалькевіч. – Мн.: Газ. "Голас Радзімы", 1985. – С. 147.

[245] Цыт. паводле: Токць, С. Беларуская прыгонная вёска і панскі двор XIX ст. у святле мемуарнай літаратуры / С. Токць // Arche. – студзень-люты 2014. – № 1–2 (122–123). – С. 214.

ронцам памешчыкаў, прадаставіўшы тым гарантыі выплачвання грошай за зямлю замест сялян, якія затым на працягу 49 гадоў павінны былі выплачваць грошы дзяржаве. Для рэалізацыі рэформы ствараўся інстытут міравых пасрэднікаў, якія рэгулявалі адносіны паміж сялянамі і памешчыкамі і складалі паміж імі ўстаноўчыя граматы.

Прадбачачы незадаволенасць сялянства, улады перакінулі ў Беларусь дадатковыя 12 батальёнаў, перанеслі абвяшчэнне маніфеста на 8–12 сакавіка, у красавіку пачалі спешна канфіскоўваць у сялян паляўнічыя стрэльбы, пакідаючы іх толькі ў памешчыкаў "у такой колькасці, у якой яны самі прызнаюць неабходнай"[246]. Па вёсках размясцілі казацкія пасты. У ліку новых вайсковых адзінак у краі апынуўся і Стараінгерманландскі полк, які 3 мая 1863 будзе ўдзельнічаць у Мілавідскай бітве, паспеўшы да таго ў красавіку 1861 праявіць сябе задушэннем выступленняў сялян у ваколіцах Дзятлава.

Упершыню з часу вайны з Напалеонам пачаліся шырокія хваляванні сялянства. Калі за 1858–1860 гады ў Беларусі адбылося толькі 40 сялянскіх хваляванняў, з якіх 11 былі задушаны пры дапамозе войскаў[247], то толькі за сакавік-чэрвень 1861 года іх колькасць дасягнула лічбы ў 273, з якіх 108 было задушана пры дапамозе зброі[248].

Першай рэакцыяй на абвешчаны маніфест стала расчараванне: "У чацвер 9 сакавіка ў Мінску чыталі маніфест. Соцкія і дзясяцкія зганялі ў сабор з вуліц мужыкоў, якія прадавалі дровы… Сабраныя мужыкі слухалі, слухалі і, даслухаўшы, сказалі: "Праваліся вы з вашай вольнай. Паны падкупілі і не даюць яшчэ сапраўднай". Незадаволенасць мужыкоў большае, у асаблівасці да памешчыкаў…"[249]. На фоне расчаравання сяляне пачалі адмаўляцца ад выканання павіннасцей. Самыя значныя выступленні адбыліся ў маёнтку Заблудава, у Іўі і Лыскаве. І нягледзячы на тое, што яны праходзілі ў форме не-

[246] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 41.

[247] Ковкель, И.И. История Беларуси: С древнейших времен до нашего времени / И.И. Смирнов. – 5-е изд. – Мн.: Аверсэв, 2005. – С. 127.

[248] Там жа, с. 132.

[249] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 36.

падпарадкавання, без прымянення сялянамі сілы, расійскія войскі іх жорстка задушылі.

У Ашмянскім павеце ў непадпарадкаванні памешчыкам удзельнічалі каля 10 тысяч сялян. Цэнтрам хваляванняў стала мястэчка Іўе, дзе 4 тысячы чалавек на чале з сялянамі Сямёнам Полкам і Іосіфам Гарбачом адчулі на сабе сілу расійскага штыка: “Пры спробе, па загаду члена губернскай прысутнасці, пяхоты схапіць галоўных завадатараў натоўп кінуўся на штыкі канвоя…”[250]. Карны атрад паручніка графа Тышкевіча патапіў выступленне ў крыві. Такая ж сітуацыя здарылася і ў маёнтках Зальмуйжа і Людвіямпаль Віцебскай губерні, дзе тысячы сялян аказалі супраціўленне расійскаму войску. Самыя жорсткія катаванні і здзекі прымяняліся ў адносінах да кіраўнікоў сялян. Аднак гэтыя падзеі ўсё ж вымушалі ўлады ісці на саступкі, абмежаваўшы колькасць павіннасцей на карысць памешчыкаў: згоны не больш 8 дзён з працоўнай душы, паншчыну не больш 23 дзён з сялянскай гаспадаркі на год[251].

Уціхаміраннем сялян у падначаленым яму краі ў ліпені 1861 года вымушаны быў заняцца асабіста Назімаў, які планаваў з Вільні праз Ліду і Слонім даехаць па Брэсцка-Бабруйскай шашы да Брэст-Літоўска, а адтуль рушыць на Высока-Літоўск, Беласток і Гродна. На шляху руху генерал-губернатара на паштовых станцыях яго сустракалі шматлікія сяляне, сагнаныя паліцыяй з усёй ваколіцы. Назімаў імкнуўся за кошт звароту да існуючай сацыяльнай няроўнасці паміж сялянствам і панамі ўскалыхнуць старыя крыўды, каб адцягнуць увагу вясковага насельніцтва ад адмоўнага ўспрымання абвешчанага маніфеста ад 19 лютага. Ва ўмовах пашырэння маніфестацыйнага руху ў гарадах Беларусі і Літвы генерал-губернатар намагаўся супрацьпаставіць ім сялянскую незадаволенасць і паказаць, што яе сапраўднай крыніцай з’яўляюцца дзеянні “паноў”. Назімаў прамаўляў сялянам па-руску: “Ці ведаеце вы, што цяпер вы вольныя. Ніхто цяпер не мае права вас караць, улада паноў ужо скончылася. Яны вас ва ўсім прыгняталі. Памятайце, што яны з вамі рабілі. А тыя эканомы апошні дух з вас выбівалі. Цяпер гэтага не будзе: вы вольныя! Я гэта для вас зрабіў. Маліцеся за цара. Толькі падумайце

[250] Там жа, с. 38.
[251] Там жа, с. 41.

самі, што для вас зроблена за гэтыя апошнія гады, ці чуваная гэта справа, каб на працягу пяці гадоў не браць рэкрута. А да гэтага як было? О, усё гэта вашы паны (сціскаючы кулакі). Яны вас… Урад даўно думаў пра вашую волю, але паны… Але цяпер усё іх панаванне скончылася. Ужо ні над чым у іх няма ўлады! Гэта ім непрыемна, вельмі непрыемна… але хопіць ужо гэтага, з імі баста! Яны цяпер спяваюць па касцёлах… пытаюць бога, каб вярнуліся былыя тыранскія часы, каб зноў маглі прыгнятаць! Дакладна чуеце, як яны пра гэта спяваюць?"[252]. Падчас руху з Воранава да Слоніма адзін з памешчыкаў пасля прамовы Назімава заўважыў: "Я не хачу дыскутаваць з вамі, пан генерал, наколькі гэта было так, як вы гаворыце; з таго піва, якое вы, пан генерал, наварыце, мы, дасць Бог, як-небудзь выйдзем. Ці выйдзе Расія цэлай, пра гэта, здаецца, вы не думаеце"[253].

Прыбыўшы ў Слонім, Назімаў у першы дзень выступіў перад мясцовымі жыхарамі, адзначыўшы, што зорка, якую ён носіць на грудзі, дадзеная яму за вызваленне сялян ад панскага панавання, а затым звярнуўся да памешчыкаў: "Я ведаю, гэта вашыя жонкі, гэта ўсё жанчыны спяваюць, але вы для падтрымання хатняга парадку павінны выкінуць іх за вокны! Паліцыя іх там прыме"[254].

На наступны дзень генерал-губернатар паспрабаваў вырашыць адзін з канфліктаў паміж мясцовым памешчыкам і абшчынай, якая адмовілася ад выканання паншчыны. Ім было загадана з'явіцца ў горад, дзе да іх звярнуўся генерал-губернатар: "Ніхто не мае права вас наказваць: ні пан, ні земскі суд, ні губернатар, – Назімаў зрабіў асаблівы націск на апошнім слове, – ні нават я сам. Аднак вы павінны, як і раней, выконваць павіннасці, пазначаныя ў інвентары". У адказ прагучаў голас аднаго селяніна: "Як жа выконваць паншчыну і гвалты, калі ў Слоніме на кірмашу абвесцілі, што гэтага рабіць ужо не трэба". У адказ генерал абламаў палку, якую трымаў у руцэ, аб галаву і спіну прамоўцы і загадаў: "Стараста! Адбарабаніць яму 50 палак". Пасля гэтага здарэння сяляне, якія змазвалі колы губернатарскай брычкі, размаўлялі паміж сабой: "Маскаль заўсёды па-маскоўску: набраў ад паноў грошай, так што і брычкі не па-

[252] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. – М.: Наука, 1964. – С. 39.
[253] Там жа.
[254] Там жа.

дымеш, і народ збівае. Учора, пакуль яшчэ не накармілі, не напаілі і не заплацілі, казаў інакш”[255].

Нягледзячы на шырокае кола ўдзельнікаў, сялянскім выступленням не хапала арганізаванасці. Іх раз’яднанасць, няўзгодненасць выкарыстоўваліся ўладамі для хуткага задушэння. Пакаранымі станавіліся найбольш актыўныя прадстаўнікі сялянскай грамады, якія выпраўляліся ў рэкруты або на катаргу ў Сібір. Буйныя землеўладальнікі разлічвалі на далейшую падтрымку расійскіх войскаў у барацьбе з сялянскім супраціваам, што ніяк не перашкодзіла многім з іх прыняць удзел у паўстанні 1863–1864 гадоў. Менавіта пра недапушчэнне такіх выпадкаў казаў Канстанцін Каліноўскі ў спрэчках з Якубам Гейштарам у сакавіку 1861 года. Але яго заклікі так і засталіся непачутымі.

## *Разгортванне маніфестацыйнага руху*

У пачатку сакавіка 1861 года маніфестацыйны рух пачаў паступова распаўсюджвацца на тэрыторыі Беларусі і Літвы: спачатку ў Ковенскай губерні, затым у Віленскай, Гродзенскай і далей. Першай у шэрагу акцый стала паніхіда ў віленскім касцёле Святога Яна, ініцыяваная графам Янам Тышкевічам. Менавіта па яго загаду было задушана выступленне сялян у маёнтку Біржы, а яго брат у складзе расійскага войска душыў сялянскае выступленне ў раёне Іўя.

Паступова жалоба ахоплівала і іншыя гарады Беларусі: Беласток, Гродна, Ваўкавыск, Слонім, Брэст, Мінск, Магілёў, каб, урэшце, 27 сакавіка 1861 года дабрацца і да Віцебска. Сярод удзельнікаў маніфестацый большасць складалі дробныя чыноўнікі і жанчыны[256]. Да маніфестацый далучаецца творчая інтэлігенцыя кшталту сям’і Дуніна-Марцінкевіча, дачка якога Каміла нават была названа вар’яткай і адпраўлена ў турэмную бальніцу.

Жанчыны гралі важную ролю ў разгортванні

[255] Там жа, с. 40.

[256] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 56. Жандарскі палкоўнік Лосеў сцвярджаў паводле назірання за маніфестацыяй у Віцебску, што яна арганізавана “таварыствам з фанатычных дам і дробных чыноўнікаў… з маючых у Віцебску вышэйшыя месцы ніхто на гэтай цырымоніі не быў”.

маніфестацыйнага руху не толькі як актыўныя ўдзельніцы, але і як завадатаркі, такія як Ванда Жаркевіч у Мазырскім павеце[257]. Пасля красавіцкіх выступленняў пачынае распаўсюджвацца “Адозва польскай моладзі да ліцвінак і русінак”, у якой адзначалася: “Прыкладзіце руку да Вялікай справы і надыдзе трыумф Нацыі”[258].

Характэрнай з’явай становіцца арганізацыя камітэтаў па зборы сродкаў. У знак жалобы на жыхарах краю з'яўляецца адзежа чорных колераў, упрыгожаная жалобнай біжутэрыяй. У асяродку шляхты зрабіліся моднымі нацыянальныя польскія касцюмы. Толькі са жніўня 1861 года ўлады пачалі актыўна абмяжоўваць іх выкарыстанне, а створаным паліцэйскім судам было даручана выпісваць штрафы, быў дадзены і дазвол на арышты[259]. Так, у Гродне да канца 1861 года да судовай адказнасці за форму адзення былі прыцягнуты 15 чалавек, 4 з іх пакараны штрафам і арыштам, а 3 – штрафам[260]. Усяго па Беларусі і Літве да адказнасці было прыцягнута каля 300 чалавек[261].

Модным зрабіўся зварот да твораў польскай культуры. Так, у Мінску быў арганізаваны святочны прыём сыну Адама Міцкевіча, які ехаў у Навагрудак, а ў чэрвені мінчукі, нягледзячы на забарону, правялі паніхіду па Іахіме Лелявелі, замаскіраваўшы яе пад выглядам паніхіды па нейкім гараджаніне. 18 (6) жніўня адбылося шэсце да магілы Канарскага, якая знаходзілася на кальвінскіх могілках Вільні.

Расійская паліцыя вяла актыўны нагляд за ўсімі праявамі нязгоды. У гарадах, дзе адбываліся маніфестацыі, складаліся спісы іх удзельнікаў, як у Беластоку або Гродна[262].

Спачатку ўдзельнікаў маніфестацый высылалі ў вёскі, па-

---

[257] Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях: Дакументы і матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. – Мінск, 2014. – С. 50.

[258] Там жа, с. 56.

[259] Буднік, І.Ф. Да падзеяў 1863–64 гг. на Гарадзеншчыне / І. Буднік. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2013. – С. 21. Міністр унутраных спраў праінфармаваў гродзенскага губернатара Шпеера, што неабходна “судам паставіць у абавязак не абцяжарвацца фармальнасцямі па гэтым прадмеце, паколькі доказы адзення служаць дастатковым фактам абвінавачвання”.

[260] Там жа, с. 22.

[261] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 65.

[262] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 34. – Спр. 3. Списки жителей гор. Гродно, подозревавшихся в политической неблагонадежности.

куль генерал-губернатар Назімаў не здолеў дабіцца іх адпраўкі ва ўнутраныя губерніі Расійскай Імперыі. Аднак і гэта не дапамагала: рэпрэсіі яшчэ больш раздзімалі вогнішча маніфестацый. Нарэшце пасля таго, як 8 красавіка ў Варшаве расійскае войска разагнала чарговую маніфестацыю, забіўшы больш за 100 чалавек, не лічачы некалькіх соцень цяжка параненых, маніфестацыйны рух набыў яскравую палітычную афарбоўку.

У маі 1861 года ў Віленскім кафедральным саборы была арыштавана суполка моладзі (Б. Дыбоўскі, браты Ліманоўскія, К. Карэва і інш.) за спяванне рэлігійна-патрыятычных гімнаў, што выклікала дэманстрацыю: віленчукі рушылі да палаца Назімава з патрабаваннем вызвалення арыштаваных.

Спробы імператара залагодзіць тэрыторыю Каралеўства Польскага некаторымі саступкамі ў чэрвені 1861 года прывялі да новай хвалі выступленняў, якія больш шырока ахапілі таксама Літву, Беларусь і Украіну. Асабліва з нагоды гадавіны Люблінскай уніі, якую вырашылі ўрачыста адсвяткаваць 12 жніўня (31 ліпеня па ст. ст.) 1861 г. і патрабаваць уз'яднання Літвы з Царствам Польскім у межах адзінай адміністрацыі, не парушаючы правы цара[263]. У Коўне шматтысячнае шэсце (па дадзеным улад – 8 тыс. чалавек) рушыла ў бок Нёмана, насустрач калоне з Царства Польскага. Войскі, якія першапачаткова перашкаджалі руху, расступіліся, звялі пантонны мост, і людскі паток зліўся ў адзін.

6 жніўня ў Вільні на вуліцы выйшла пяць тысяч гараджан з нагоды гадавіны смерці Канарскага. Але дэманстрацыя была затрымана войскамі.

У Гродне таксама была спроба арганізаваць такое ўрачыстае мерапрыемства. 26 жніўня калона гарадзенцаў на чале з ксяндзом Маеўскім, які дамовіўся з кіраўніцтвам губерні, рушыла да кляштара ў Ружанастоку на тэрыторыі Царства Польскага, але афіцыйныя ўлады ў апошні момант перадумалі. Каб прадухіліць магчымы рух працэсіі, быў разабраны драўляны мост праз Нёман. Гродзенскі ксяндз Маеўскі быў сасланы на паўгода ў Сібір.

У выніку пашырэння маніфестацыйнага руху 3 верасня (22 жніўня па ст. ст.) у Літве і Заходняй Беларусі было ўведзена ваеннае становішча.

[263] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 58.

Восенню ў Краі пачалі распаўсюджвацца весткі пра выступленні ў сталіцы Расійскай Імперыі. Гэта былі студэнцкія хваляванні, якія пачаліся 18 верасня, працягваліся да 20 снежня, скончыліся закрыццём Пецярбургскага ўніверсітэта і рэпрэсіямі ў адносінах да 331 студэнта з 1439[264]. У выніку на радзіму вымушаны былі адправіцца І. Здановіч, Э. Вярыга, Ф. Багушэвіч і шматлікія іншыя студэнты, выхаваныя на новых ідэях. І гэта ў той час, калі ўзнікла расійская рэвалюцыйная арганізацыя, названая пазней "Зямля і воля", якая рыхтавала сялянскую рэвалюцыю на вясну 1863 года.

Урэшце пад націскам росту незадаволенасці 14 кастрычніка 1861 года ваеннае становішча было ўведзена і ў Каралеўстве Польскім. Спроба правесці 15 кастрычніка ў Варшаве маніфестацыю з нагоды гадавіны смерці Тадэвуша Касцюшкі скончылася чарговым разгонам і арыштам 1878 людзей у касцёлах. Таму, як вынік, 17 кастрычніка ў Варшаве быў арганізаваны Гарадскі камітэт, які распачаў падрыхтоўку паўстання.

У цэлым у Паўночна-Заходнім краі Расійскай Імперыі з сярэдзіны мая па сярэдзіну снежня 1861 года адбылося 227 маніфестацый, большасць з якіх – 116 – прыпала на Вільню[265]. Пераважная частка гарадоў і мястэчак не была закранутая рухам. Нягледзячы на рост свядомасці грамадства, выступленні ў Беларусі і Літве не сталі каталізатарам для аб'яднання, а тым больш арганізацыі незадаволеных царскай палітыкай сіл, і, па словах Канстанціна Каліноўскага, "усё гэта разыгралася без ніякіх вынікаў"[266].

[264] Там жа, с. 62.

[265] Там жа, с. 65.

[266] Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / Уклад. З. Кузменка. – Мн.: Галіяфы, 2014. – С. 66. У тлумачальнай запісцы следству ад 28 лютага 1864 года Каліноўскі адзначаў: "Хваляванні ў Царстве, якія выяўляюцца ў розных дэманстрацыях, не маглі не мець уплыву на Літву. Але калі ў Царстве подобныя з'явы паслужылі да ўтварэння Цэнтральнага Камітэта, які стаіць на чале народнай арганізацыі, у Літве ўсё гэта разгулялася без ніякіх вынікаў. Урад, звяртаючы толькі ўвагу на дэманстрацыйныя выхадкі ў тутэйшым краі, надаваў ім сур'ёзны характар. Калі розныя тэорыі, пазбаўленыя практычнасці, не бачачы дзённага святла, маглі мець уплыў на запальчывы і ўлюблівы характар жыхароў Царства Польскага, то ў больш сур'ёзнай Літве і пры сваёй таямнічасці, яны павінны былі прайсці без уплыву".

## *“Гутарка старога дзеда”*

Восенню 1861 года пачынаюць актыўна ўтварацца колкі “чырвоных” у іншых гарадах па-за межамі Вільні, Беластока і Гродна, якія імкнуліся радыкальным, узброеным шляхам адрадзіць былую Рэч Паспалітую і разлічвалі на падтрымку ў гэтай справе шырокіх колаў сялянства. У той час, калі ў Варшаве былі моцныя пазіцыі “белых”, якія разлічвалі на замежную дапамогу ў дасягненні сваіх мэт, менавіта Беласток становіцца цэнтрам гартавання “чырвоных” на тэрыторыі Каралеўства Польскага і намагаецца ўключыць у свой асяродак суполкі, створаныя ў Беларусі і Літве.

24 верасня Браніслаў Шварцэ пісаў за мяжу генералу Людвіку Мераслаўскаму пра складанае становішча па падрыхтоўцы паўстання на Беласточчыне. Ён апісваў, як мясцовы вясковы люд пакуль да барацьбы не падрыхтаваны, але з кожным днём сітуацыя паляпшаецца. Адна з важнейшых перадумоў – гэта “гвалтоўны перавод пры Мікалаю І літоўскіх уніятаў у праваслаўных, рэлігійны рычаг можна на Літоўскай Русі найэфектыўней парушыць, асабліва пры глыбокай нянавісці да маскалёў”[267], спроба чаго і была зроблена праз зварот да дадзенай тэмы ў выдаванай нелегальна “Гутарцы двух суседаў”. Знайшла яна адлюстраванне і ў “Мужыцкай праўдзе”. Але на гэтым шляху ўзнікла нечаканая перашкода: “Каталіцкае духавенства, абяззброенае, па большай частцы адыходзіць ад нас… да такой ступені, што самі ў маскоўскім духу сялян супраць нас падбухторваюць”[268].

Нягледзячы на цяжкасці, Шварцэ і яго паплечнікі мелі ўпэўненасць, што частку сялян можна далучыць да паўстання праз прапаганду. З гэтай мэтай з Украіны, дзе была моцная “чырвоная” арганізацыя на чале з украінскім паэтам Апалонам Кажанёўскім, жыхар Каліша Баляслаў Дэнель прывёз у Беласток шрыфт, якім Шварцэ разам з Грынявіцкім і Адольфам Белакозам у доме прыхадскога ксяндза друкавалі “пабеларуску лацінскімі літарамі рэвалюцыйную народную “Гу-

[267] Złotorzycka, M. Bronisław Szwarce o sytuacji okręgu białostockiego w 1861 roku / M. Złotorzycka // Przegląd Historyczny, 1954. – T. 45. – № 4. – S. 762.

[268] Там жа.

тарку старога дзеда”[269]. Тая павінна была пераканаць сялян, што толькі ад адроджанай Рэчы Паспалітай яны атрымаюць “зямлю і волю”:

Kali staniem z Palakami,
Budziem roúnymi z panami,
Usim szczaście Boh nam daść,
I prapadzie Maskoúska úłaść!

Да сённяшняга часу прапаноўваюцца некалькі кандыдатур на аўтарства гэтага ананімнага твора. Сярод іх Уладзіслаў Сыракомля, беларускі верш якога “Добрыя весці” быў змешчаны ў адным з выданняў “Гутарак”, яго сакратар Вінцэсь Каратынскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, на якога ўказваў мінскі ваенны губернатар Кушалёў[270]. Аўтарства “Гутаркі” таксама прыпісваюць удзельнікам Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Феліксу Ражанскаму[271] і Канстанціну Каліноўскаму, на апошняга з якіх указваў адзін з кіраўнікоў паўстання ў Каралеўстве Польскім Оскар Авейдэ[272].

Напярэдадні паўстання “Гутарка” была вельмі папулярнай у Беларусі і Літве. Яе чыталі і перапісвалі. Улады фіксавалі яе распаўсюджанне як на Беласточчыне[273], так і далёка на ўсход – на Полаччыне і Мазыршчыне. Нягледзячы на тое, што шараговыя рускія чыноўнікі на месцах расцэньвалі іх не інакш як “польскія вершы”[274], вышэйшае кіраўніцтва разумела, што гэта

[269] Szwarce, B. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862 / B. Szwarce // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 444.

[270] Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч: Жыццё і творчасць / Аўтар-склад. У.І. Содаль. – Мн.: Нар. асвета, 1997. – С. 6: “Памешчыкам Марцінкевічам напісаны на народным беларускім дыялекце абуральны верш “Гутарка старога дзеда”, які мае на мэце ўзбудзіць сялян заходніх губерняў супраць урада… Ім жа, Марцінкевічам, перакладзены на той жа дыялект забаронены гімн…”.

[271] Powstanie styczniowe na Białostocczynie w 150. rocznicę wybuchu. – Białystok, 2013. – S. 14.

[272] Авейде, О. Показания и записки о польском восстании 1863 года / О. Авейде. – М., 1961. – С. 488.

[273] Швед, В.В. Перадпаўстанцкі рух у Гродзенскай губерні ў 1861–1862 гадах / В.В. Швед // Горад Святога Губерта: альманах лакальнай гісторыі. – Гродна, 2014. – Выпуск 8. – С. 90: “Гутарку двух суседаў” знайшлі 25 снежня 1861 года ў сваёй вёсцы сяляне Янка Гула і Казімір Аніська маёнтка графіні Патоцкай Турасль-Дольная Беластоцкага ўезда.

[274] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 34. – Спр. 29. Дело об обнаружении

“друкаваныя вершы пад загалоўкам “Гутарка” на беларускай мове, якая збольшага ў тутэйшым народзе існуе”[275].

М. Акялайціс пераклаў яе на літоўскую мову пад назвай “Pasaka senelio” (“Гутарка старога”). У Мемелі яна была надрукавана ў 1864 годзе вялізным тыражом у 10 тысяч экзэмпляраў, але прускія ўлады канфіскавалі выданне. За распаўсюджванне “Гутаркі” адпраўлялі на катаргу, як, напрыклад, селяніна Троцкага павета Хама Буткевіча[276].

---

рядовым Памчекно Онуфрием запрещенных стихов под названием “Гуторка” в мест. Боцьки Бельского у. –Арк. 8 адв.

275 Там жа, арк. 1. На падставе выяўленых у м. Боцькі Бельскага павета экзэмпляраў “Гутаркі старога дзеда” аб гэтым 13 лютага 1862 года вайсковаму губернатару горада Гродна і гродзенскаму губернатару Дрэнякіну паведамляў вайсковы начальнік горада Бельска і Бельскага павета палкоўнік Нямідаў.

276 Кісялёў, Г. Сейбіты вечнага / Г. Кісялёў. – Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1963. – С. 144.

## *Падзеі ў Варшаве ў канцы 1861 – першай палове 1862 года*

14 кастрычніка 1861 года ў Каралеўстве Польскім было ўведзена ваеннае становішча, пасля якога два дзясяткі "чырвоных" Варшавы ўтварылі Гарадскі камітэт, называны таксама Камітэтам руху[277]. Каб вызначыць становішча ў правінцыі, у іншыя часткі былой Рэчы Паспалітай былі накіраваны 8 агентаў, сярод якіх будучы партызанскі камандзір Раман Рагінскі. Вільню і Беласток у кастрычніку-лістападзе наведаў Ян Франкоўскі, які даў "штуршок"[278] да актывізацыі працы суполкі на чале з Л. Звяждоўскім.

18 снежня агенты сустрэліся ў Варшаве і зрабілі выснову, што грамадскае меркаванне "дастаткова падрыхтаванае да паўстання"[279]. Аднак у гэты час ініцыятары руху бачылі хутчэй патрэбу ў яго пашырэнні, чым цэнтралізацыі, а таксама ў зборы сродкаў на закупку зброі (планавалася сабраць па 200 тысяч злотых або 30 тысяч рублёў з ваяводства), ускладаючы вялікія спадзяванні на афіцэрскую школу на чале з Л. Мераслаўскім у італьянскай Генуі. Тым больш што варшаўскія "чырвоныя" самі не мелі адзінства, аб'ядноўваючы як прыхільнікаў левых поглядаў, так і прыхільнікаў самых крайніх сродкаў дзеянняў для іх дасягнення.

У студзені 1862 года Вільню наведаў Яраслаў Дамброўскі, ён меў тут спатканне са Звяждоўскім. Дамброўскі скончыў акадэмію Генеральнага штаба і накіроўваўся да месца службы – у Варшаву, маючы на мэце прыспешыць падрыхтоўку неадкладнага паўстання.

У Варшаве вясною Гарадскі камітэт атрымаў новую назву – Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК). Дамброўскі да чэрвеня 1862 года здолеў захапіць у ім уладу і прадставіў распрацаваны сумесна з рускімі афіцэрскімі суполкамі план выступлення. Яго сэнс заключаўся ў падвойным удары на Варшаўскую цытадэль і Модлін, у чым дапамогу павінен быў аказаць "Камітэт

---

[277] Kieniewicz, S. Powstanie styczniowe / S. Kieniewicz. – Warszawa, 2009. – S. 207.

[278] Записки Оскара Авейде о польском восстании 1863 года. – Варшава, 1866. – Часть III. – С. 177.

[279] Kieniewicz, S. Powstanie styczniowe / S. Kieniewicz. – Warszawa, 2009. – S. 208.

рускіх афіцэраў у Польшчы” на чале з Андрэем Патабнёй[280]. Пасля паспяховага захопу сталіцы Кароны Польскай планавалася распачаць фарміраванне рускіх рэспубліканскіх войскаў для пераносу рэвалюцыі ўглыб Расіі.

Аднак напярэдадні рэалізацыі плана Дамброўскі сутыкнуўся ў Камітэце з апазіцыяй на чале з Агатонам Гілерам і шэрагам іншых удзельнікаў арганізацыі, якія вярнуліся з сібірскай ссылкі. Да таго ж уладам стала вядома аб падрыхтоўцы да выступлення, таму 26 чэрвеня імператарскі намеснік Людэрс асудзіў да смяротнага пакарання трох схопленых афіцэраў, удзельнікаў таемнай арганізацыі – Яна Арнгольта, Пятра Сліўіцкага і Францішка Расткоўскага. Яшчэ два чалавекі – салдаты Васіль Каплінскі і Лейб Шчур – былі асуджаны на 6 і 12 гадоў катаргі адпаведна.

27 чэрвеня ў якасці помсты за пакараных сяброў Патабня здзейсніў замах на Людэрса, стрэліўшы яму ў шыю. Але той застаўся жывы. Пасля правалу выступлення і распачатых арыштаў сярод афіцэраў у Варшаве крайнія “чырвоныя” разгарнулі запасны план, пачаўшы тэрор у адносінах да найвышэйшых асоб царскай адміністрацыі: 3 жніўня быў здзейснены замах на намесніка імператара ў Каралеўстве Польскім, яго брата Канстанціна, а 7 і 15 жніўня – беспаспяховыя замахі на графа Веляпольскага. Аднак гэтыя спробы скончыліся чарговымі арыштамі, у тым ліку 14 жніўня за кратамі апынуўся Яраслаў Дамброўскі.

## *Канфлікт Каліноўскага і Шварцэ*

У канцы 1861 года ўскладняюцца адносіны Браніслава Шварцэ і Канстанціна Каліноўскага, выкліканыя імкненнем кіраўніка беластоцкага “Кола” падпарадкаваць суполкі “чырвоных” у Беластоку, Саколцы і Гродне варшаўскаму камітэту. Да адкрытага канфлікту справа тады не дайшла. Шварцэ нават наведаў Гродна, падставаю для чаго з’явілася беспаспяховая спроба вызвалення аднаго з удзельнікаў таварыства Францішка Гадлеўскага, забранага ў салдаты[281]. Але, відавочна, мэта была больш надзённая – вырашэнне прабле-

[280] Там жа, s. 234.

[281] Szwarce, B. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862 / B. Szwarce // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 444.

мы ўзаемаадносін з кіраўніцтвам Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Браніслаў Шварцэ хацеў бачыць яе структурнай адзінкай беластоцкага "Кола", разам з якім тая павінна была дзейнічаць у адным рэчышчы, згодна з загадамі з Варшавы.

Пасля таго, як перамовы не апраўдалі яго чаканняў, Шварцэ вырашыў паўздзейнічаць на Каліноўскага і яго суполку праз Вільню, дзе арганізацыя першапачаткова развівалася "пад уплывам намаганняў"[282] Браніслава. Пасрэднікам у гэтых перамовах выступіў яго найбліжэйшы паплечнік і сябар па парыжскай школе Геранім Кеневіч[283]. Вясною 1862 года Шварцэ выязджае "для паразумення"[284] з Віленскім камітэтам. Але яго місія правалілася, паколькі, як высветлілася, віленчукі настойліва праводзілі лінію на самастойнае ад Варшавы кіраўніцтва паўстаннем у Беларусі і Літве. Актыўную ролю ў гэтым адыгрываў якраз кіраўнік Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Канстанцін Каліноўскі, які з самага пачатку дзейнасці праз Э. Заблоцкага і В. Урублеўскага наладзіў стасункі з Л. Звяждоўскім. Да таго ж з канца 1861 года і сам Каліноўскі з перапынкамі жыў у Вільні "на Прэабражэнскай вуліцы ў доме, здаецца, Келчэўскай"[285].

Не атрымаўшы згоду ад "чырвоных" Гродна і Вільні, Шварцэ паспрабаваў заручыцца падтрымкай В. Урублеўскага. Той узначальваў таемнае аб'яднанне ў Саколцы, якое фармальна падпарадкоўвалася "Колу", фактычна ж з'яўлялася часткай Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Шварцэ чакала чарговае паражэнне: "Нават Валеры Урублеўскі, якога я прывёў да прысягі ў Саколцы, і хутчэй у лясной школе пад Саколкай, даў сябе адцягнуць гродзенскаму Юндзілу і перастаў слухаць Варшаву"[286].

[282] Записки Оскара Авейде о польском восстании 1863 года. – Варшава, 1866. – Часть III. – С. 177.

[283] Геранім Кеневіч быў інжынерам пры Ніжагародскай чыгунцы. Дзякуючы яму Беластоцкае кола наладзіла адносіны з маскоўскай суполкай "Зямля і воля". Пазней Кеневіч быў расстраляны за так званы "Казанскі бунт".

[284] Szwarce, B. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862 / B. Szwarce // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 444.

[285] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. Материалы Виленской следственной комиссии о лицах, принадлежащих к Гродненской революционной организации. – Арк. 1 адв.

[286] Там жа, s. 447.

Пасля наведвання Гродна, Вільні і Саколкі Шварцэ так і не зрабіў неабходных высноў. Як вынік, у сярэдзіне 1862 года рознасць поглядаў на накірунак будучага паўстання перарасла ў адкрыты канфлікт паміж лідарамі беластоцкай і гродзенскай арганізацый – Браніславам Шварцэ і Канстанцінам Каліноўскім. Зачэпкаю да яго паслужыла імкненне Шварцэ перадаць Брэсцкае ваяводства[287], праз якое праходзіла Пецярбургская чыгунка, у склад Кароны. Аргументам для таго з'яўлялася важнае значэнне чыгункі для лёсу ўсяго паўстання.

Гэта настроіла супраць Шварцэ і многіх удзельнікаў беластоцкага "Кола". У выніку ў маі-чэрвені 1862 года ён займаўся тым, што ратаваў "сваю чыгуначную арганізацыю ад Віленскага камітэта"[288], паколькі Каліноўскі палічыў дзеянні Шварцэ ўмяшальніцтвам Варшавы і таму таксама вырашыў скарыстацца зручным момантам, каб далучыць кадры беластоцкага "Кола" да сваёй структуры.

У гэты час Браніслаў Шварцэ жыў і працаваў на чыгуначнай станцыі Лапы, майстэрні якой служылі месцам вырабу і захоўвання зброі для будучага паўстання. Яго частыя раз'езды ў Гродна, Вільню і Варшаву выклікалі падазрэнне ў жандараў, якія ў пачатку чэрвеня вырашылі арыштаваць чыгуначніка. Браніслава ўжо чакалі на працы і на кватэры, калі на вуліцы яго запыніла жонка аднаго з рускіх афіцэраў і папярэдзіла пра пагрозу. Браніслаў неадкладна сеў на таварны цягнік і дабраўся да Варшавы, дзе хаваўся сем месяцаў. За яго галаву было абяцана 5000 рублёў. Аднойчы выпадкова на вуліцы ён сустрэўся з кіраўніком Беластоцкай дыстанцыі чыгункі Алёхіным, але той, нягледзячы на тое, што быў рускім, так і не паведаміў уладам пра месцазнаходжанне Браніслава.

Шварцэ па прыездзе ў сталіцу Каралеўства Польскага адразу апынуўся ў віхуры падзей. Ён быў уведзены ў Цэнтральны камітэт, але яго недасведчанасць у варшаўскіх справах стала прычынаю шэрагу асабістых праблем і памылак. Да таго ж, выхаваны ў Францыі, ён не мог усвядоміць сапраўднага стану рэчаў, які панаваў у былой Рэчы Паспалітай. Ён сам сябе

[287] Тэрыторыя Гродзенскай губерні кіраўніцтвам паўстанцкай арганізацыі была падзелена на дзве адзінкі – Гродзенскае і Брэсцкае ваяводствы.

[288] Szwarce, B. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862 / B. Szwarce // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 446.

называў дзіваком і параўноўваў сваё становішча ў Варшаве па характары з тым, у якім апынуўся ў далейшым дыктатар паўстання Людвік Мераслаўскі. Яго крыўда ў адносінах да асобы Канстанціна Каліноўскага ўвасобілася ў абвінавачанні перад ЦНК кіраўніка Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі ў "сепаратызме".

Затым Шварцэ быў накіраваны ў Кракаў, каб падрыхтаваць мясцовую паўстанцкую арганізацыю Галіцыі на выпадак паўстання. І амаль адразу пасля вяртання ў Варшаву, 23 (11) снежня 1862 года ён быў арыштаваны расійскімі ўладамі, аказаўшы ўзброенае супраціўленне[289].

У другой палове 1862 года Гродзенская рэвалюцыйная арганізацыя выйшла за межы губернскага і павятовых цэнтраў. Былі зроблены першыя прызначэнні "акрэнговых" у Гродзенскім павеце: ксёндз Чаповіч – у Масты, а памешчык Станіслаў Сільвестровіч – у Друскенікі, Азёры да Скідзеля[290]. Іх мэтаю з'яўляўся збор грошай і пошук людзей для будучых паўстанцкіх атрадаў.

Канстанцін Каліноўскі абраў гэтых людзей у сувязі з тым, што яны, нягледзячы на сваё сацыяльнае становішча, падзялялі яго погляд на патрэбу радыкальных ператварэнняў у адносінах да сялянства. Так Станіслаў Сільвестровіч пасля адмены прыгоннага права перавёў сялян свайго маёнтка Гожа[291] на ўмераны чынш, чым выклікаў незадаволенасць суседзяў-памешчыкаў:

---

[289] 13 мая 1863 года Б. Шварцэ быў асуджаны на смерць, але пасля петыцыі ад жыхароў роднага горада – Дзінана ў Брэтані – за яго заступілася французская імператрыца Яўгенія, у выніку чаго Шварцэ замянілі прысуд пажыццёвым турэмным зняволеннем. Ён сем гадоў правёў у поўнай ізаляцыі ў Шлісельбургскай крэпасці, у камеры, дзе яго папярэднікам быў расійскі анархіст М. Бакунін. Затым па стане здароўя ён на пяць гадоў быў накіраваны ў форт Верны. Яшчэ сем гадоў пражыў у Томску, пакуль у 1881 годзе не быў арыштаваны ў сувязі з дзейнасцю таемнай арганізацыяй "Чырвоны крыж Народнай волі". Пасля года следства яшчэ сем гадоў ён пражыў у вёсцы Тунка каля Іркуцка. Ажаніўся з сібірачкай, меў траіх дзяцей. З'яўляўся настаўнікам Юзафа Пілсудскага, які ў 1889 годзе прыбыў у ссылку ў вёску Тунка. У 1891 годзе атрымаў дазвол пакінуць Расійскую Імперыю. Працаваў журналістам у Кракаве, затым перабраўся ў Львоў на пасаду чыноўніка. У 1893 годзе выдаў кнігу "Сем гадоў у Шлісельбургу". Памёр 18 лютага 1904 года.

[290] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 109 адв.

[291] Праз маёнтак Гожа ў час паўстання была наладжана сувязь з Каралеўствам Польскім. Гл.: Вашкевіч, А. Дарогаю 1863 года / А. Вашкевіч // Мінулае Гродзеншчыны. – Гродна, 2004. – Вып. 10.

“Бываючы пры гэтым у маіх суседзяў, у Царстве Польскім, дзе я меў родных, якія жылі недалёка, чуючы пастаянна пра новыя маніфестацыі, якія часцей усяго ўрад пакідаў беспакарана, я жыў увесь час у надзеях, і думаў, што ўсё пойдзе вельмі лёгка, калі хутка цэлы край будзе падрыхтаваны да паўстання. Аднак гэтыя прыгатаванні мы не мелі да апошняй хвіліны. Сродкаў матэрыяльных, грошай, не было каму і ў каго збіраць, бо самы багаты клан у краі, памешчыкі, не падманвалі сябе надзеяй, і як больш дасведчаныя, заўчасна не далі б ніякай дапамогі”[292]. Таму праводзімая Сільвестровічам і Чаповічам дзейнасць не атрымлівала ні водгуку, ні спачування.

## *Спрэчкі ў Літоўскім камітэце*

У 1861 годзе ў Вільні на фоне разгортвання маніфестацыйнага руху пачалася праца па закладанні таемнай арганізацыі. Першапачаткова сярод яе нешматлікіх членаў знаходзіліся настаўнік і журналіст Вацлаў Пшыбыльскі[293] і Францішак Далеўскі, які вярнуўся з ссылкі і ўладкаваўся супрацоўнікам чыгункі. Іх мэтаю было не дапусціць радыкалізацыі ствараемага Літоўскага камітэта. Аднак пасля высылкі ў Волагду Пшыбыльскага, адыходу Далеўскага і ўмацавання Звяждоўскага ў арганізацыі павялічваецца роля “чырвоных”.

У сакавіку 1862 года менавіта ў Вільні была прадпрынята спроба аб’яднаць агульныя намаганні “чырвоных”, якіх прадстаўлялі Оскар Авейдэ і Аляксандр Агрызка, і “белых”, ад якіх прысутнічаў прадстаўнік варшаўскай дырэкцыі Юргенс[294].

292 НАРБ у г. Гродна. Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. Материалы Виленской следственной комиссии о лицах, принадлежащих к Гродненской революционной организации. – Арк. 109 – 109 адв.

293 Вацлаў Пшыбыльскі (28.09.1828, Вільня – 25.12.1872, Бухарэст) скончыў у 1849 годзе Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт, пасля чаго выкладаў у гімназіях. У 1860 годзе ў Вільні з’явіўся яго пераклад на польскую мову “Хаціны дзядзі Тома” Гарыет Бічэр Стоу. Высланы ў Волагду, адкуль вызвалены да часу паўстання 1863 года. Знаходзіўся ў Варшаве, уваходзіў у склад ЦНК, у якім быў сакратаром па справах Літвы. Пасля задушэння паўстання праз Галіцыю выправіўся на эміграцыю ў Парыж як камісар паўстанцкага ўрада за мяжою. Перабраўся ў Канстанцінопаль, дзе працаваў на Асманскую імперыю.

294 Записки Оскара Авейде о польском восстании 1863 года. – Варшава, 1866. – Часть III. – С. 39–40: Юргенс, адданы сваім перакананням, згаджаўся ўтварыць арганізацыю з мэтай заахвоціць арганічныя прагрэсіўныя пра-

Гэтая сустрэча скончылася беспаспяхова і пакінула ў "чырвоных" самыя адмоўныя ўражанні ў адносінах да "белых"[295].

З самага пачатку ахінуты вялікай таемнасцю, Літоўскі камітэт нараджаў плёткі пра сваю дзейнасць у шэрагах памешчыкаў і страх перад магчымай сацыяльнай рэвалюцыяй, прымушаў "белых" да самаарганізацыі. Але летам 1862 года стала відавочнаю адсутнасць адзінства ў Літоўскім камітэце, якое ў вачах "белых" выглядала "поўнай бязладзіцай"[296] і ўяўляла "цэлы шэраг своеасаблівых з'яў"[297].

Звяждоўскі ў сваёй дзейнасці падпарадкоўваўся Пецярбургскім арганізацыям на чале з Сеÿракоўскім і Агрызкам. Але да лета 1862 года Каліноўскаму ўдалося пераканаць, што "яму значна выгодней будзе самому стаць на чале, чым плясціся ў хвасце пецярбургскіх слупоў вялікага будавання"[298]. І гэта нягледзячы на тое, што з моманту першага прыезду Каліноўскага ў Вільню ў сакавіку 1861 года паміж ім і Звяждоўскім увесь час узнікалі спрэчкі, у тым ліку і па пытанні сялянскай уласнасці на зямлю, аб чым сведчыў В. Ратч: "Звяждоўскі пад уплывам інтрыгі гатэля Ламбер[299], пачаўшы ўсведамляць неабходнасць надзяліць сялян пяскамі і балотамі, назваў тэорыі камунізма, створаныя Цэнтралізацыяй для рускіх універсітэтаў і перакладзеныя Герцэнам, універсітэцкімі брэднямі.

цы і клопаты грамадства, звязаць цяжкі і раз'яднаны шляхецкі элемент, ажывіць яго гэтым, зрабіць дзейным, клапатлівым пра інтарэсы краю, практычным, а з тым разам утрымаць шляхту ад зыходу на згубны, бо заўчасны, шлях змовы. Калі ж, дадаваў Юргенс, разам з гэтым галоўнай практычнай працай будзе магчыма зрабіць што-небудзь на карысць дапушчальнага ў аддаленай будучыні паўстання, то і гэтай дадатковай карысці адхіляць не варта".

[295] Там жа, с. 66: "…яна была ў поўным значэнні самаю безразважнаю і самаю нікчэмнаю анамаліяй, якая толькі існаваць можа; анамаліяй, якая замест таго, каб высвятліць і палепшыць становішча краю, рабіла яго ўсё больш і больш цёмным, заблытаным і сумным; замест таго, каб утрымаць развіццё агітацыі, апроч сваёй волі і жадання павінна была яе павялічыць і пашырыць".

[296] Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Вильно, 1867. – Т. 1. – С. 181.

[297] Там жа.

[298] Там жа, с. 185.

[299] "Гатэль Ламбер" – збіральная назва кансерватыўнай часткі польскай эміграцыі сярэдзіны XIX стагоддзя, цэнтрам якой з'яўляўся гатэль "Ламбер" у Парыжы, набыты ў 1843 годзе Чартарыйскімі.

Аднак каб паслухаць гэтыя брэдні, вашая акадэмія статкам урывалася ў нашыя аўдыторыі, – запярэчыў Каліноўскі.

Так! Мы дасылалі статак баранаў з акадэміі, каб падахвочваць да бляяння такі ж статак ва ўніверсітэце, – адказаў Звяждоўскі”[300].

Дыскусіі выклікалі і два ключавыя моманты ў падрыхтоўцы паўстання – удзел у барацьбе шляхты і адносіны з Варшавай. Але падставаю для збліжэння паслужыў канфлікт з Браніславам Шварцэ, у якім Звяждоўскі выступіў на баку Каліноўскага як стваральніка Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі.

Менавіта падчас абмеркаванняў, па заўвазе рускага афіцыйнага гісторыка В. Ратча, прагучалі адныя з самых радыкальных выказванняў Каліноўскага, якія пасля пераходзілі з твора ў твор. У іх ліку “сякера не павінна спыняцца і над калыскаю шляхецкага дзіцяці”[301]. Аднак цалкам выказванне Каліноўскага гучала як: “Паўстанне павінна быць чыста народным – шляхта, якая з намі не пайдзе, няхай загіне – тады сялянская сякера не павінна спыняцца над калыскаю шляхецкага дзіцяці”[302]. Паўната цытавання значна змяншае ступень радыкалізму выказвання, паказвае, што Каліноўскі не заклікаў да татальнага вынішчэння шляхты, але кіраваўся прынцыпам “хто не з намі, той супраць нас”. Вытокам гэтых слоў, відавочна, з’яўляецца заклік “Да сякеры клічце Русь”, які прагучаў у герцэнаўскім “Колоколе” ў сакавіку 1860 года[303].

Падчас спрэчак у ствараемым Літоўскім камітэце прагучала і іншае выказванне Каліноўскага: “Такой бесталковай башцы, як Варшава, нельга даручаць будучы лёс Літвы”[304]. Магчыма, яно таксама вырвана з кантэксту, але перадае галоўнае імкненне Каліноўскага па стварэнні арганізацыі, якая б, перш

[300] Урывак з чарнавога запісу, зробленага В. Ратчам. Паводле: Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Каліноўскі, К.; уклад., прадм., пасляслоў. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 354.

[301] Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Вильно, 1867. – Т. 1. – С. 181.

[302] Dąbrowski, J. Rok 1863 / J. Dąbrowski. – 3-e wyd. – Poznań, 1929. – S. 129.

[303] Письмо из провинции // Колокол. – 1 марта 1860. – № 64. – С. 535.

[304] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Каліноўскі, К.; уклад., прадм., пасляслоў. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 181.

за ўсё, улічвала мясцовыя інтарэсы. Нездарма летам 1862 года з Каралеўства Польскага ў Гродна да Каліноўскага і Урублеўскага прыязджаў агент з Варшавы[305]. На жаль, у дакументах маецца толькі ўзгадка пра гэтую сустрэчу. Але сам яе факт сведчыць пра ўмацаванне пазіцыі Каліноўскага ў іерархіі таемных арганізацый, сетка якіх разгортвалася на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Пасля гэтага візіту Каліноўскі вырашыў наведацца ў Вільню для перамоў з прадстаўнікамі Літоўскага камітэта, у якім планаваў даць месца і свайму сябру Заблоцкаму, каб мець магчымасць супрацьстаяць "белым"[306].

Хутчэй за ўсё прыезд варшаўскага агента ў Гродна быў ініцыяваны ў сувязі з падрыхтоўкай да рэалізацыі плана Дамброўскага. У такім выпадку становіцца зразумелым, чаму летам 1862 года Літоўскі камітэт па прыкладу варшаўскай арганізацыі атрымаў назву Камітэт руху. Пяцёрку яго кіраўніцтва склалі Людвік Звяждоўскі (старшыня), супрацоўнік чыгункі Эдмунд Вярыга, былы каўказскі афіцэр лекар Баляслаў Длускі, настаўнік музыкі Ахіл Банольдзі і Канстанцін Каліноўскі[307].

Віленская арганізацыя канчаткова выйшла з-пад уплыву Пецярбурга. Але пытанне аб далейшай інтэграцыі з Варшавай так і засталося адкрытым, паколькі 2 (14) жніўня 1862 года быў арыштаваны Яраслаў Дамброўскі. У Каралеўстве Польскім пачаліся арышты ўдзельнікаў таемных арганізацый. У лік асоб, чые прозвішчы сталі вядомы расійскім уладам, патрапіў і Людвік Звяждоўскі. Аб гэтым 23 жніўня (4 верасня) асобая канцылярыя па справах ваеннага становішча пры намесніку ў Каралеўстве Польскім паведаміла ва ўпраўленне віленскага генерал-губернатара. У выніку 22 кастрычніка 1862 года скампраметаваны Звяждоўскі вымушаны быў пакінуць Вільню і выехаць у Маскву на новае месца службы – у грэнадзёрскі корпус.

---

305 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 1 адв.

306 Там жа, арк. 2: "Пры гэтым Каліноўскі дадаў, што ён прапаноўвае мне пасаду ў арганізацыі таму, каб у ёй было больш людзей аднаго з ім становішча, г. зн. якія не належаць да класа памешчыкаў, інакш апошнія забяруць усю ўладу ў свае рукі, я прыняў яго прапанову".

307 В. Ратч называе Малахоўскага замест Ахіла Банольдзі. Гл.: Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Вильно, 1867. – Т. 1. – С. 181.

## *“Апошняя мазурка ў Літве”*

20 красавіка 1862 года, на Вялікдзень, Канстанцін Каліноўскі выехаў з Вялікай Бераставіцы, дзе быў у гасцях у свайго сябра Фелікса Ражанскага. Той наняў яму падводу фурмана Міхася Чывеля, каб Канстанцін мог наведаць сям’ю ў Якушоўцы. Па прыездзе да бацькі Каліноўскі не стаў паглыбляцца ў перaказ падзей свайго жыцця, адзначыўшы, што “ёсць надзея атрымаць месца, патрэбна толькі больш клопатаў”[308]. У пачатку мая ён зноў накіраваўся ў Вялікую Бераставіцу, але затрымаўся там нядоўга, каб паспяшацца ў Гродна. Праз два тыдні Канстанцін зноў прыбыў у бацькоўскі маёнтак “за рэчамі і пасцеллю”[309]. Ён сказаў бацьку, што мае надзею атрымаць месца следчага ў крымінальнай палаце, “а таму і патрэбна там служыць да адкрыцця вакансіі, на што я [Сымон Каліноўскі – аўт.] яму сказаў: вось і слава Богу, што ты атрымаеш месца, бяры рэчы і ад’язджай з Богам”[310].

Аднак такія размовы былі толькі для заспакаення сваякоў. Насамрэч Каліноўскага турбавалі зусім іншыя праблемы. У першую чаргу – новы праект, на які прадстаўнікі Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі ўскладалі вялікія надзеі. Ім стала выданне ў пачатку ліпеня 1862 года сумесна з сябрамі Валерам Урублеўскім і Феліксам Ражанскім першага нумару “Мужыцкай праўды”. Юзаф Каліноўскі адзначаў, што для Канстаціна Каліноўскага “друкаванае слова было заўсёды яго слабасцю, ён прыпісваў яму нейкае асаблівае значэнне”[311].

Пасля гэтага Каліноўскі накіроўваецца ў Кейданы, на вяселле сястры яго сяброў Далеўскіх – Апалоніі – і капітана расійскага Генеральнага штаба Зыгмунта Серакоўскага, па сумяшчальніцтву аднаго з кіраўнікоў таемнай арганізацыі ў Літве і Беларусі.

Шлюб адбыўся ў нядзелю, 30 ліпеня (11 жніўня) 1862 года ў фарным касцёле Св. Юзафа[312]. Якуб Гейштар узгадваў: “Калі

[308] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 248.

[309] Там жа.

[310] Там жа.

[311] Кісялёў, Г. Так сейце ж, дзецюкі! / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь: Даследаванні і знаходкі з гісторыі беларускай літаратуры і рэвалюцыйнага руху другой паловы XIX стагоддзя – Мінск: Беларусь, 1966. – С. 16.

[312] Гэта дата была выгравіравана на ўнутраным баку шлюбных залатых пярсцёнкаў. Менавіта па адным з іх былі ідэнтыфікаваны парэшткі Зыгмунта Серакоўскага, знойдзеныя ў 2017 годзе на Замкавай гары ў Вільні.

мы вярталіся і не хапала пажаданняў, я адзін неяк стаў на ўзбоччы, бо мне было цяжка на сэрцы. Зыгмунт, сваім звычаем, паклаўшы мне руку на плячо, загаварыў: “А што ж, Куба, ці ты мне не пажадаеш?”. О, я б яму і неба пажадаў! З узрушэннем я адказаў, звяртаючыся да абодвух, зычыў ім, каб знайшлі ў сабе ўзаемную радасць і моц для змагання з жыццём, бо шлюб – гэта саюз на вякі і не толькі на сумесную радасць, але і сумесны боль”[313].

Вяселле Зыгмунта і Апалоніі, якое пазней назвалі “апошняй мазуркай у Літве”[314], прыцягнула ўвагу рускіх жандараў. Край знаходзіўся на вайсковым становішчы, усе масавыя мерапрыемствы былі забароненыя. У дом Беркмана, дзе праходзіла вяселле, завіталі “блакітныя мундзіры”, але, пабачыўшы аксельбанты Генеральнага штаба на жаніху і яго сябру, паспяшаліся рэціравацца.

Адначасова з Канстанцінам Каліноўскім на гэтым мерапрыемстве прысутнічалі браты Далеўскія, ксёндз Антон Мацкевіч і прадстаўнік пецярбургскай афіцэрскай таемнай арганізацы Ян Станкевіч. Вяселле было выкарыстана для прыкрыцця сустрэчы і абмеркавання падзей у Варшаве і далейшых планаў па падрыхтоўцы паўстання на тэрыторыі Беларусі і Літвы.

У той час як Каліноўскі быў на вяселлі ў Кейданах, Яманты ў Вільні каля Вострай Брамы 31 ліпеня 1862 года прымалі ўдзел у маніфестацыі з нагоды падпісання Люблінскай уніі аб утварэнні ў 1569 годзе Рэчы Паспалітай. Усе жанчыны былі ў канфедэратках з рознакаляровымі стужкамі блакітнага, малінавага і белага колераў, а старэйшая сястра Людвіка ўвогуле атрымала 30 рублёў штрафу за нашэнне крыжа і спяванне забароненых песень.

Ад’язджаючы з жонкаю ў замежны адпачынак, Серакоўскі 18 жніўня паспеў сустрэцца ў Вільні з варшаўскім камісарам Дзюлеранам, а 21 жніўня быў ужо ў Варшаве, дзе меў спатканне з прадстаўнікамі Цэнтральнага камітэта. Гаворка падчас сустрэч ішла пра тое, што ў выпадку паўстання Серакоўскі ўзначаліць узброенае выступленне ў Беларусі і Літве.

У гэты час Каліноўскі трапляе ў Вільню і, хутчэй за ўсё, менавіта тады Марыя Ямант, “Марыська чарнаброва”,

[313] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. 2 t. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 168.

[314] Там жа.

становіцца яго нарачонай. Адбываюцца заручыны: Канстанцін у прысутнасці родных уручае пярсцёнак сваёй нявесце[315]. Магчыма, якраз тады, таксама ў Вільні, тое самае зрабіў і яго сябар Цітус Далеўскі ў адносінах да сястры Марыі – Алёны Ямант.

Каліноўскі надоўга не затрымліваецца ў горадзе. У сярэдзіне жніўня ён ад'язджае ў Гродна і далей у Беласток, каб падрыхтаваць да выдання другі нумар "Мужыцкай праўды". Аб занепакоенасці ўлад распаўсюджаннем выдання сведчыць той факт, што ўжо 22 жніўня міністра ўнутраных спраў запатрабавала ад гродзенскага губернатара І.У. Галера вызначыць, кім і адкуль распаўсюджваюцца лісткі "Мужыцкай праўды".

## *Вяртанне Віктара Каліноўскага ў Якушоўку*

Пасля 10-гадовай адсутнасці на радзіму вяртаецца Віктар Каліноўскі. З колішняй сям'і пасля смерці 29 студзеня 1858 года бабулі Тэрэзіі ў яго з родных засталіся толькі бацька і брат Канстанцін. Якушоўскія Каліноўскія былі яму чужымі. Але заставацца ў Пецярбургу, дзе здароўе пад уплывам дрэннага клімату канчаткова пагоршылася, ён больш не мог. З-за сухотаў ён усё менш і менш часу мог прысвячаць даследаванням, якія не жадаў спыняць, як не жадаў і адкладваць сваю дзейнасць у рэвалюцыйнай арганізацыі.

Нягледзячы на лісты бацькі, адносіны з якім на фоне пагаршэння здароўя Віктара палепшыліся, ён не хацеў спыняць працу і вяртацца дадому. І наўрад ці б пакінуў паўночную сталіцу Расійскай Імперыі, каб не арышт у Варшаве Яраслава Дамброўскага і пагроза раскрыцця ўсёй арганізацыі. Таму 16 жніўня 1862 года Віктар Каліноўскі пакінуў дом № 2-3 на Міхайлаўскай плошчы ў "абрыдлым мне Пецярбургу"[316], у якім знаходзіўся "толькі дзеля любімай Бібліятэкі"[317] і, каб заблытаць паліцыю, якая магла выйсці на яго прозвішча, быццам бы выехаў у Маскву, але насамрэч накіраваўся да сям'і ў Якушоўку.

---

[315] Шалькевіч, В. Невядомыя старонкі з жыцця Кастуся Каліноўскага / В. Шалькевіч // Сыны і пасынкі Беларусі / Уклад. Барыс С.В. Мн.: "Полымя", 1996. – С. 170.

[316] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 255.

[317] Там жа.

Віктар, які планаваў працягнуць свае гістарычныя росшукі, “многа прывёз папераў сваёй працы”[318], сярод якіх былі і шматлікія старадрукі з сабранай ім бібліятэкі. Але здароўе яго канчаткова сапсавалася. І тут, у сям’і, дзе не трэба было, у адрозненне ад чужога Пецярбурга, хаваць свой сапраўдны стан, ён хутка згас і 25 кастрычніка памёр. 27 кастрычніка Віктар Каліноўскі быў пахаваны ў Свіслачы на публічных прыходскіх могілках. Сабраныя ж ім дакументы пазней былі прададзены яго сваячніцай Эльжбетай Данцэвіч “за некалькі соцень рублёў у Варшаве”[319].

Канстанцін так і не паспеў развітацца са старэйшым братам, у памяць па якім на могілках Свіслачы ўжо ў 1990-я гады быў адноўлены крыж.

## *“Рух”*

1 верасня 1862 года імператар Аляксандр II падпісаў маніфест пра рэкруцкі набор, які павінен быў прайсці ў студзені 1863 года. У Каралеўстве Польскім пра яго пачалі паведамляць толькі з 24 верасня (6 кастрычніка) 1862 года. У выніку пад пагрозай выпраўлення ў войска апынулася каля 12 тысяч чалавек, якіх улады лічылі магчымымі ўдзельнікамі запланаванага ўзброенага выступлення. У той жа час у Вільні 6 верасня адбылося пахаванне паэта Уладзіслава Сыракомлі (Л. Кандратовіча), якое аб’яднала не толькі насельніцтва горада, але нават “белых” і “чырвоных” усяго Краю. Праўда, толькі на час урачыстасцей, на якіх прысутнічала каля 10 тысяч чалавек[320].

[318] Звесткі пра паперы Віктара Каліноўскага прыводзіць яго сястра Казіміра Багушэвіч, якая напісала 7 лютага 1905 года ліст па просьбе краязнаўца Людвіга Чаркоўскага, выкарыстаны пазней для напісання біяграфічнай даведкі да ўспамінаў Я. Гейштара. Цалкам лісты надрукаваныя: Смалянчук, А. Асоба Кастуся Каліноўскага як даследчая праблема / А. Смалянчук // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы міжнар. навук. канферэнцыі, Менск, 25 верасня 2009 г. – Мн.: 2011. – С. 20.

[319] Там жа.

[320] Лосеў паведамляў: “Труну неслі маладыя людзі, апранутыя ў чамарках і канфедэратках, і вакол труны маладыя людзі складалі ланцуг, узяўшыся за рукі, апранутыя ў такі ж гарнітур, на могілках былі прамоўлены прыватнымі асобамі словы, але ў сэнсе іх нічога не складалася супраць урада. Пахаванне г. Кандратовіча скончыліся без выяўлення нацыянальных пачуццяў у вялікіх памерах, як чакалася, да спакою, можа быць, паслужылі і прынятыя меры перасцярогі мясцовымі ўладамі, а таксама і каталіцкае духавенства было папярэджана, што яно будзе адказваць, калі адбудуцца якія-небудзь беспарадкі”. Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 61.

Канстанцін Каліноўскі быў у блізкіх стасунках з Уладзіславам Сыракомлем, на кватэры якога ў Вільні ўвесь час збіралася моладзь розных поглядаў. Ужо з пачаткам паўстання Каліноўскі навучаў рускай мове дзяцей паэта[321].

Пасля няўдалай спробы Дамброўскага варшаўскі ЦНК з 5 ліпеня пачаў выданне газеты "Рух", рэдагаванай Агатонам Гілерам. У газеце змяшчаліся праграмныя артыкулы. Так, у першым з іх заяўлялася, што для поспеху паўстанне павінна стаяць на нацыянальным грунце, а яго мэта – вызваленне ў межах да падзелу 1772 года "ў духу Польшчы, складзенай з трох народаў, Польшчы, Літвы і Русі"[322]. Ніякага іншага варыянту апроч цэнтралізаванай польскай дзяржавы ЦНК не прадугледжваў[323].

"Чырвоныя" ў Вільні, у тым ліку Канстанцін Каліноўскі, чыталі "Рух". Хутчэй за ўсё, адсылкаю менавіта да першага нумара газеты з'яўляецца назва польскамоўнага выдання Літоўскага правінцыяльнага камітэта, якое з'явілася ў студзені 1863 года[324].

У другім нумары "Руху" было заяўлена пра патрэбу ўтварэння Нацыянальнага ўрада[325] і паведамлялася пра набажэнства па "пакутніках" – рускіх афіцэрах Арнгольдту, Сліўіцкім і Расткоўскім, расстраляных у Модліне. У трэцім нумары выказвалася думка аб неабходнасці аб'яднання для барацьбы ўсіх саслоўяў, у тым ліку мяшчанства і сялянства. Цікавасць уяўляе той факт, што ў нумары знайшлося месца для апісання аднаго з выпадкаў, які здарыўся ў Гродна, дзе мясцовы губернатар Галер, беручы за ўзор Назімава, "аб'язджае і падбухторвае вясковае насельніцтва сваёй губерні, намагаючыся ў іх выклікаць давер да цара, недавер да паноў і адукаванага класу народа"[326]. Падставаю да гэтага становяцца

[321] Шалькевич, В.Ф. Кастусь Калиновский. Страницы биографии / В.Ф. Шалькевич. – Мн.: Университетское, 1988. – С. 110.

[322] Ruch. – 5 lipca 1862. – № 1.

[323] Міхалюк, Д. Нелегальны польскамоўны друк пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага / Д. Міхалюк // Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, Лондан, 27–29 сакавіка 2014 г. – Мінск, 2015. – С. 39.

[324] Ruch. – 5 lipca 1862. – № 1: "Акрамя нацыянальнай асновы вызвалення Польшчы да перадразборавых межаў, паўстанне Польшчы разгорне **сцяг вольнасці** чалавека і роўных правоў для ўсіх".

[325] Ruch. – 8 lipca 1862. – № 2.

[326] Ruch. – 29 lipca 1862. – № 3. – S. 2.

паводзіны землеўладальнікаў, якія спадзяюцца на дапамогу ўлад у іх кантролі над сялянскай масай: “Калі б не страх і абурэнне, трэба было б дзякаваць дурасці тых людзей: самі падаюць маскве нож, які яна ў рукі сялян на іх праціснуць намагаецца, а які яны з нежаданнем адкідваюць”[327].

Найбольш важным з’яўляецца пяты нумар газеты, у якім была надрукавана праграма нацыянальнай арганізацыі з 9 пунктаў, у тым ліку “незалежнасць краю толькі зброяй здабыта быць можа”[328], а таксама, што “Нацыянальная арганізацыя дамаўляецца з суседнімі народамі, асабліва славянскімі”[329]. Апошняя ўзгадка з’яўлялася закамуфляваным сведчаннем перамоў прадстаўнікоў ЦНК З. Падлеўскага, А. Гілера і У. Мілевіча з лонданскім рускім рэвалюцыйным цэнтрам, у які ўваходзілі А. Герцэн, М. Агароў і М. Бакунін. Аднак выкладзеная ў “Руху” праграма пакідала шмат пытанняў, у тым ліку аб далейшых адносінах з утвораным ЦНК таемных арганізацый Літвы і Беларусі.

## *Каліноўскі ў Слоніме*

7 кастрычніка 1862 года ў 17 гадзін праз вёску Шэйнякі Слонімскага павета (сёння – в. Шэпякі Пружанскага раёна) па паштовым тракце са Слоніма ў Ваўкавыск праехала кібітка, з якой невядомы падарожны раскідваў скруткі папер. Непісьменныя тутэйшыя сяляне Марцін Мікуцін, Антон Агіевіч і Міхаіл Лукашэвіч сабралі іх і адправіліся да сваіх адукаваных вяскоўцаў[330]. У хуткім часе змест напісанага на лістках ведалі ўсе Шэйнякі, а затым некалькі падабраных экзэмпляраў былі перададзены і ў суседнія вёскі. У гэты ж дзень адзін са скруткаў у канаве каля Вострава знайшоў селянін Кіпрыян, але ў яго вёсцы не знайшлося адукаваных, каб прачытаць напісанае[331].

[327] Там жа.

[328] Ruch. – 17 września 1862. – № 5.

[329] Там жа.

[330] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 6. Дело о революционной деятельности Кастуся Калиновского. – Арк. 1 адв.

[331] Сачек, М.Н. Документы ЦГИА БССР в Гродно о жизни и деятельности Кастуся Калиновского / М.Н. Сачек // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 64.

Таму пад падставай таго, што два знойдзеныя ў Востраве экзэмпляры нелегальнага выдання – гэта “паскуднае пісьмо”[332], іх забраў шляхціч Валадковіч.

“Дзецюкі! Жывучы пад рондам маскоўскім, кожны ведае, што ён нас абдзірае і глуміць…” – менавіта так пачынаўся знойдзены сялянамі дакумент, у якім да іх звяртаўся “Яська-гаспадар з-пад Вільні”, які тлумачыў грабежніцкі характар аграрнай рэформы, праведзенай 19 лютага 1861 года.

Весткі пра невядомыя брашуры, з якіх “сяляне чытаючы паміж сабою здабываюць разнастайную думку”[333], дайшла да ведама прыстава Слонімскага павета Л. Агацiна. Ён пачаў шукаць крыніцу агідных ідэй, якія распаўсюджваліся сярод сялян. У выніку, рухаючыся па ваўкавыскім тракце з вёскі да вёскі Агацін 27 кастрычніка дабраўся да Шэйнякаў. Тут мясцовы стараста Людвіг Ляўсковіч паведаміў царскаму служачаму вестку, якая ўжо на наступны дзень рапартам была адаслана да гродзенскага генерал-губернатара Івана Уладзіміравіча фон Галера: сярод сялян распаўсюджваецца забароненае выданне, якім аказаўся трэці нумар “Мужыцкай праўды”.

Пагражаючы арыштам, Агацін атрымаў два экзэмляры “Мужыцкай праўды” і апісанне невядомага падарожнага: апрануты ў авечы кажух з каўнерам ад адной доўгай скуры чорнага баранчыка, на галаве фуражка з зоркаю грамадзянскага ведамства, на выгляд гадоў 36-ці, сярэдняга росту, брунет з чорнымі вусамі. Сяляне таксама апісалі светлавалосага з русымі вусамі фурмана з Ружанскай паштовай станцыі. Менавіта гэта стала зачэпкаю для далейшых росшукаў.

Агацін неадкладна накіраваўся на Ружанскую паштовую станцыю, дзе здабыў наступны запіс з кнігі: 5 кастрычніка за № 16668 быў запісаны шляхціч, які вяртаўся са Слоніма ў Ваўкавыск. Яго імя – Вікенцій Каліноўскі[334].

Ад фурмана Талая, які суправаджаў Каліноўскага, Агацін даведаўся: падазраваны ў раскідванні “Мужыцкай праўды” працуе ў адным з прысутных месцаў Ваўкавыска, а з Ружанскай станцыі ён ездзіў у Падароск. Далей Агацін 30 кастрычніка

[332] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 47.

[333] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 6. – Арк. 1.

[334] Там жа, арк. 1 адв.

накіраваўся ў Слонім, каб высветліць, калі Каліноўскі прыбыў у горад і пры якіх абставінах з яго выбыў.

Каліноўскі меў падарожную ад гродзенскага віцэ-губернатара, выдадзеную для асабістых патрэб 5 кастрычніка. Аднак што ён рабіў у Слоніме, з якога выбыў 7 кастрычніка ў 11 гадзін, так і засталося для прыстава невядомым.

Канстанцін Каліноўскі ў Слоніме сустракаўся з некалькімі афіцэрамі 3-й артылерыйскай батарэі, сярод салдат якой пазней пачала распаўсюджвацца адозва "Что надо делать войску"[335]. Менавіта да гэтага колка належаў харунжы батарэі Міхал Цюндзявіцкі, асуджаны за распаўсюджванне "Мужыцкай праўды" ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні, імя якога стаіць першым у доўгім спісе пакараных смерцю ўдзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі.

Другая сустрэча адбылася з мэтаю арганізацыі працы мясцовай паўстанцкай суполкі, для прыкрыцця таемных сходаў якой выкарыстоўваліся грамадская публічная бібліятэка на чале з бібліятэкарам Цэзарыем Казігродскім і самадзейны тэатр гарадскога доктара Антона Макржэцкага.

Усё гэта засталося невядомым уладам, але Агацін высветліў, што са Слоніма Каліноўскі спачатку накіраваўся да Міжэвічаў на трох канях з фурманам Васюкевічам. Адтуль жа ён дабраўся да Ружанаў, дзе і наняў Талая, каб ехаць у Ваўкавыск. 6 лістапада гэтая інфармацыя паступіла ў Гродна.

## *Утварэнне Літоўскага правінцыяльнага камітэта*

Пытанні аб далейшай дзейнасці Літоўскага камітэта і адносінах з Варшавай да ад'езду Звяждоўскага так і не былі вырашаны. Таму напрыканцы кастрычніка 1862 года ў Вільню былі выкліканы прадстаўнікі ваяводскіх суполак: ад Віленскага ваяводства – Ежы Кучэўскі-Порай і Антон Залескі,

[335] Аўтарам пракламацыі быў Мікалай Агароў, адзін са стваральнікаў арганізацыі "Зямля і воля", якая падтрымлівала паўстанне 1863–1864 гадоў. У пракламацыі адзначалася: "Што стане рабіць Цар, калі салдаты не пойдуць супраць народа? Зразумела, што па няволі аддасць народу і зямлю, і волю, хоць народ толькі з-за гэтага і клапоціцца. Стала быць, калі войска не пойдзе супраць народа, воля і зямля дастануцца народу без разні, без кроплі крыві – спакойна".

якія з'яўляліся памешчыкамі Троцкага павета, ад Мінскага – доктар Пётр Чакатоўскі, ад Ковенскага, трохі пазней, на распачатыя ўжо перамовы прыбыў Баляслаў Свалькен. Гродзенскую арганізацыю прадстаўлялі Эразм Заблоцкі і Канстанцін Каліноўскі. Ад варшаўскага Камітэта руху прысутнічаў Нестар Дзюлеран[336].

Перамовы праходзілі на Дамініканскай вуліцы ў доме Даўкшы. Удзельнікі абмеркавання павінны былі прыняць праграму Цэнтральнага нацыянальнага камітэта, прапанаваную ў ліпені 1862 года. Згодна з ёю, усім жыхарам тэрыторыі Рэчы Паспалітай у выпадку перамогі паўстання дэкларавaліся поўныя свабода і роўнасць перад законам, братэрства паміж саслоўямі, надзяленне сялян зямлёй з выплатай дзяржаўнай кампенсацыі памешчыкам, пры гэтым ні слова не гаварылася пра беззямельных сялян і права на іншыя ўгоддзі, такія як лясы або пашы.

Як вынік, Канстанцін Каліноўскі, які выступіў супраць такой абмежаванай праграмы "чырвоных", адразу апынуўся ў апазіцыі і паспрабаваў сарваць перамовы, што ён рабіў самымі простымі сродкамі: не даваў магчымасці гаварыць іншым, пярэчыў на любыя выступленні. Тады яму было прапанавана пакінуць пасяджэнне і дачакацца, пакуль астатнія ўдзельнікі сустрэчы дамовяцца паміж сабою, каб потым ужо ўступіць у перамовы з ім. Чаму іншыя ўдзельнікі віленскай сустрэчы вымушаны былі лічыцца з меркаваннем Каліноўскага? Гэта было звязана з тым, што ён фактычна кантраляваў самую дзейсную суполку ва ўсёй арганізацыі ў Беларусі і Літве, пры гэтым далучыў да яе ў маі-чэрвені 1862 года яшчэ і беластоцкае "Кола".

Аднак калі да гэтага прысутных аб'ядноўвала непрыманне радыкальных поглядаў Каліноўскага, у якіх бачылі ні што іншае, як імкненне "скарыстаць кожны сацыяльны стымул, каб выклікаць хваляванні, не дбаючы сёння пра тое, якія будуць з гэтага вынікі"[337], то цяпер стала зразумелым, што дамовіцца паміж сабою іншым не нашмат лягчэй: Эдмунд Вярыга вялікую ўвагу надаваў ролі мяшчанства ў будучым паўстанні, у той час

[336] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 172.

[337] Там жа, с. 172.

як Антон Залескі верыў у шырокую падтрымку шляхты і яе найважнейшую ролю. Зыгмунт Чаховіч увогуле лічыў, што ад праграмы або накірункаў працы нічога не залежыць, паколькі самае галоўнае – гэта наканаванне і сляпы выпадак. Козел-Порай быў згодны ў сваіх поглядах з Дзюлеранам.

У той жа час Каліноўскі зразумеў, што найважнейшым пытаннем на віленскай сустрэчы з'яўляецца далёка не абмеркаванне праграмы, а тое, якое становішча будзе мець Літоўскі камітэт адносна Варшаўскага ЦНК.

У выніку абмеркавання, якое зацягнулася на некалькі дзён, у адсутнасць Каліноўскага было прапанавана прагаласаваць за варшаўскую праграму "чырвоных", для чаго Дзюлеран "унёс прапанову поўнай і безумоўнай залежнасці ад Камітэта руху"[338]. Супраць выступілі толькі Эдмунд Вярыга і Пётр Чакатоўскі. На пасяджэнні таксама была прынята пячатка Літоўскай арганізацыі з надпісам: "Адвага/Развага". Двухгербавая пячатка з Арлом і Пагоняю з'явіцца ў Вільні толькі ў студзені 1863 года.

На наступны дзень сустрэча працягнулася абраннем складу Літоўскага правінцыяльнага камітэта, у які ўвайшлі Зыгмунт Чаховіч, Эдмунд Вярыга, Канстанцін Каліноўскі і стваральнік мінскай арганізацыі "чырвоных" вайсковы інжынер Ян Козел, які замяніў у Вільні Звяждоўскага. Ён быў вядомы выказваннем пра тое, што "ў руках рэвалюцыянера і гаршчок страшная зброя"[339]. Да мясцовага кіраўніцтва "чырвоных" таксама далучыўся Банольдзі як начальнік горада Вільні.

## *Інструкцыі да павятовых і акруговых начальнікаў*

Галоўнымі мэтамі паўстанцкай арганізацыі пасля ўтварэння Літоўскага правінцыяльнага камітэта (далей – ЛПК) Каліноўскі бачыў аб'яднанне яе таемных структур і пашырэнне дзейнасці па-за межамі губернскіх цэнтраў, перш за ўсё ў паветах. Для гэтага 28 кастрычніка 1862 года Каліноўскі ад імя ЛПК уласнаручна напісаў дзве інструкцыі – да павятовых і акруговых начальнікаў. Узорам для іх стала "Падрабязная інструкцыя"

[338] Там жа, с. 174.
[339] Там жа.

да акруговых начальнікаў, выдадзеная варшаўскім Камітэтам руху яшчэ напрыканцы 1861 года. Але на гэтым іх падабенства заканчваецца.

Інструкцыі былі складзены з улікам палажэнняў аб адзіным падатку, выкладзеных у № 6 (12 кастрычніка) і № 7 (18 кастрычніка)[340] варшаўскай газеты "Рух", дзе ставілася задача цэнтралізаванага збору сродкаў, паколькі на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай пачалі з'яўляцца махляры, якія карысталіся зручным момантам і выцягвалі грошы ў асоб, што спачувалі паўстанню[341]. Таму ў выпадках збору сродкаў неабходна было мець даверанасць з пячаткаю ЦНК, пры гэтым патрэбна было выдаваць шнуравы квіток з выразна прапісанай лічбай узятай квоты[342].

У інструкцыях Каліноўскага адсутнічаюць дадзеныя пра "даверанасці" ад імя ЦНК і ўзгадкі пра варшаўскі цэнтр. Гаворыцца толькі пра агульныя квіткі: "Без квітка ніхто не мае права прымаць і даваць грошы"[343]. У той жа час у першых пунктах абодвух дакументаў падкрэсліваецца падкантрольнасць павятовых і акруговых начальнікаў непасрэдна ЛПК, ігнаруючы ЦНК.

Інструкцыі апісваюць іерархічную структуру ствараемай арганізацыі. Галоўны элемент у ёй – ваяводскі, перад якім справаздачацца павятовыя начальнікі.

Павятовыя павінны былі збіраць падаткі для ўтрымання павятовай касы, з якой "узмацняць сродкамі, паводле загаду ЛПК, галоўную касу Камітэта і весці дакладны рахунак"[344]. Асобную складку даручалася збіраць на зброю. Таксама павятоваму начальніку даручалася інфармаваць пра перамяшчэнне ўрадавых войскаў, спрабаваць усталяваць сувязь

[340] Ruch. – 18 października 1862. – № 7. У арт. VI адзначана: "Збор падатку здзяйсняецца чыноўнікамі арганізацыі, спецыяльна прызначанымі для гэтай дзейнасці, і ў выключна для гэтых мэтаў забяспечанымі паўнамоцтвамі".

[341] Ruch. – 12 października 1862. – № 6: "Дайшлі да Цэнтральнага нацыянальнага камітэта звесткі, што некаторыя асобы адважваюцца няўмела збіраць складкі, быццам бы на народную справу".

[342] Там жа.

[343] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 92.

[344] Там жа, с. 92.

з арміяй і арганізаваць тайную паліцыю ў падначаленым яму павеце[345].

Павет, у залежнасці ад памераў і мясцовых умоў, дзяліўся на акругі, якіх магло быць ад 2 да 5, куды, "паводле прадстаўлення павятовага ваяводскаму"[346], прызначаліся акруговыя начальнікі. Акругі, "для аблягчэння прапаганды, упарадкавання арганізацыі і масавага выступлення"[347], павінны былі дзяліцца на парафіі і гміны. Парафіяльныя і гмінныя начальнікі прызначаліся па прадстаўленні павятовым начальнікам ваяводскаму начальніку. У "Інструкцыі да акруговых начальнікаў" таксама прысутнічаюць назвы такіх пасад, як "дзясятнік" і "сотнік"[348], дзейнасць якіх павінна была распаўсюдзіцца сярод вясковага насельніцтва. Наяўнасць назваў гэтых пасад з'яўляецца пацвярджэннем таго, што Каліноўскі "настойваў на ўвядзенне арганізацыі з сялян"[349], што пацвярджаецца і выказваннямі на гэты конт В. Ратча.

Пры ўступленні ў арганізацыю новыя члены даюць прысягу "на поўнае падпарадкоўванне і захаванне таямніцы як на свабодзе, так і ў турме"[350].

Акруговы начальнік прапануе павятоваму прэтэндэнтаў на пасады парафіяльных і гмінных начальнікаў, дзясятнікаў і сотнікаў, сочыць за выкананнем тымі сваіх абавязкаў, раз на тыдзень дае справаздачу павятоваму, збірае рэгулярныя ўзносы падатку (паміж 15 і 20 кожнага месяца), вядзе прапаганду, займаецца рэвалюцыйнай самаадукацыяй, рыхтуе зброю.

Інструкцыі былі змацаваны авальнай пячаткай з выявай поціску рукі з надпісам "Адвага/Развага"[351], зацверджаным у якасці сімвала ЛПК. Гэты сімвал з'яўляўся выявамаю масонскай ложы Аб'яднаных славян яшчэ з 1820-х гадоў, а таксама знакам створанай расійскай таемнай арганізацыі "Зямля і воля". Гэтая знакі і словы сімвалізавалі ідэі пра агульнаславянскую федэра-

[345] Там жа, с. 93.

[346] Там жа, с. 92.

[347] Там жа.

[348] Там жа, с. 93.

[349] Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Т. 1. – Вильно, 1867. – С. 144.

[350] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 93.

[351] Там жа, с. 329.

цыю, што прапагандаваў герцэнаўскі “Колокол”, даволі шырока распаўсюджаныя ў асяродку афіцэрскай і студэнцкай моладзі. Так, у Гродна ў былога студэнта Маскоўскага ўніверсітэта Закрэўскага падчасператрусу былі знойдзеныя вершы, якія ўтрымлівалі заклік: “Пусть же ныне и до века нас связует воедино назначенье человека, гражданина, славянина”, “Братья, дайте же нам руки, чтобы вместе честно жить!”[352].

Напісаныя Каліноўскім напярэдадні паўстання дакументы на справе ніколі ў поўную сілу не працавалі. Як і выкладзены ў 3-м пункце інструкцыі да акруговых начальнікаў пункт, што “ніхто не можа выйсці з народнай арганізацыі”[353]. Аднак 20 снежня ў першым нумары “Chorągiew swobody” выйшла абвестка ЛПК пра “аднаразовы нацыянальны падатак, без розніцы састаўных частак Народа – у выглядзе надзвычайнай ахвяры на падтрымку дзеянняў, якія імкнуцца да вызвалення Бацькаўшчыны”[354]. Адзначалася, што зборам павінны будуць займацца службоўцы Арганізацыі, “якія маюць упаўнаважанні і літаграфаваныя квіткі з пячаткамі Цэнтральнага і Літоўскага правінцыяльнага камітэтаў”, што з’яўлялася сведчаннем чаканага кансэнсусу ад перамоў, якія адбываліся ў Варшаве паміж прадстаўнікамі таемных суполак у снежні 1862 года.

## *Пад пагрозай арышту*

1 лістапада гродзенскі губернатар Галер загадаў жандарскаму штаб-афіцэру маёру М. Лелякову расследаваць справу пра распаўсюджванне “Мужыцкай праўды” ў Шэйняках і адшукаць Каліноўскага. Лелякоў перадаручыў заданне свайму ад’ютанту капітану Вітэ[355].

Уся гродзенская жандармерыя накіравалася на пошукі Каліноўскага. Як вынік – 8 лістапада стала вядома пра яго прыезд у Вялікую Бераставіцу да ксяндза Ігната Казлоўскага. Вітэ неадкладна накіраваўся туды. Але на месцы нікога не аказала-

[352] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 358.

[353] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 93.

[354] Там жа, с. 94.

[355] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 130.

ся. Прыйшлося чакаць Казлоўскага, які толькі ў 9 гадзін вечара вярнуўся дахаты.

З'яўленне жандараў не стала для ксяндза нечаканасцю. Таму на пытанні Вітэ адносна Вікенція Каліноўскага, якога яны шукалі, святар спакойна патлумачыў, "што не Вікенцій, а Канстанцін Каліноўскі, будучы даўно знаёмым, заехаў у хату яго, ксяндза, 4-га дня ўвечары, г.зн. у нядзелю, і прасіў дазволіць яму, Каліноўскаму, пераначаваць; але паколькі ксёндз Казлоўскі быў выкліканы дэканам Гінтаўтам у Гродна для атрымання жалавання, то Каліноўскі разам з ім на другі дзень паехаў з парабкам, нанятым ад жыхара м. Бржэставіцы Старжынскага, пераначаваўшы ў м. Індура ў заезнай хаце, але як гаспадара клічуць, не ведае, а 6 лістапада адправіліся ў Гродна, дзе сустрэлі цяжкасці ў пераправе праз раку Нёман, пакінуўшы рэчы і коней з чалавекам на занёманскім фарштаце ў заезнай чырвонай драўлянай габрэйскай хаце па мянушцы невядомай, размешчанай пры спуску ў горы, па правым баку, а самі адправіліся ў горад, дзе ксёндз Казлоўскі за атрыманнем ад дэкана Гінтаўта жалавання, дзве ночы начаваў у ксяндза Шмігера без Каліноўскага, дзе ж Каліноўскі ў горадзе кватараваў, не ведае. Прычым растлумачыў, што гэтага дня, а менавіта 8 лістапада, перад ад'ездам сустрэўся з Каліноўскім пры варотах хаты ксяндза Шмігера, рэчы ж свае Каліноўскі забраў з кватэры ў адсутнасць яго, ксяндза Казлоўскага, бо ключ ад пакоя знаходзіўся ў вышэйсказанага парабка, прычым дадаў, што Каліноўскі застаўся ў Гродне і намякнуў, што мае намер ехаць у Вільню для адшукання службы"[356].

У Вітэ не было часу на далейшыя допыты ні ксяндза Ігната Казлоўскага, ні парабка Міхаіла Чывеля, якія суправаджалі Каліноўскага ў Гродна. І пасля праведзенага беспаспяховагаператрусу ў хаце святара жандар вымушаны быў працягнуць далейшыя пошукі, на падставе якіх 13 лістапада гродзенскі губернатар падпісаў наступную рэзалюцыю: "Паведаміць варшаўскаму обер-паліцмайстру і пану начальніку Віленскай губерні, а таксама гарадскім і земскім паліцыям у губерні. Пра ўсё данесці пану міністру ўнутраных спраў і пану генерал-губернатару. Вельмі патрэбнае"[357].

Ваўкавыскі земскі спраўнік Алішэўскі ўстанавіў пастаянны

[356] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 6. – Арк. 7–8.

[357] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 130.

сакрэтны нагляд за Якушоўкаю, дзе жыла сям'я Каліноўскіх, якая 25 кастрычніка страціла старэйшага сына – Віктара, які памёр ад сухотаў. І ўсё ж, нягледзячы на рызыку, у сярэдзіне лістапада Канстанцін Каліноўскі прабраўся ў бацькоўскі маёнтак, каб наведаць магілу брата.

У Якушоўцы, нягледзячы на ўгаворы бацькі, ён правёў усяго адзін дзень. Рэдкі госць на радзіме, Канстанцін вымушаны быў адказваць на шматлікія пытанні родных, галоўным чынам па месца свайго працаўладкавання, адносна якога, акрамя скаргаў, "што нельга жыць без жалавання"[358], нічога больш не сказаў. Сымон Каліноўскі, які пазычыў сыну на дарогу 25 рублёў, пазней паведамляў паліцэйскім: "За ім па пятах ехалі, аднак яны былі на гэтым баку Нёмана, а Канстанцін як дабраўся да Гродна, дык ужо не маглі знайсці"[359]. Паліцыя прыехала ў Якушоўку на наступны дзень пасля ад'езду Канстанціна, але так і не здолела яго злавіць. Гродзенскі жандарскі штаб-афіцэр Лелякоў 23 лістапада вымушаны быў данесці аб гэтым губернатару Галеру з тлумачэннем: "Па атрыманым жа сведчанням, ён быццам бы выправіўся па чыгуначнай дарозе ў г. Вільню, але ці знаходзіцца ён цяпер там, ці выехаў, далей невядома"[360]. Галер загадаў неадкладна паведаміць аб беспаспяховых пошуках Каліноўскага генерал-губернатару і міністру ўнутраных спраў, а "станаваму прыставу аб'явіць вымову за непраследаванне па гарачых слядах, як указана ў законе"[361].

Уся паліцыя Гродзенскага і Ваўкавыскага ўездаў была ўзнята на пошукі. У выніку 30 лістапада ваўкавыскі земскі спраўнік Алішэўскі пісаў гродзенскаму губернатару, што "Каліноўскі да гэтага часу ў павеце не знойдзены, а між тым даходзяць да мяне чуткі, што ён ужо пайманы"[362]. Адказам на яго запыт, ці варта далей шукаць падазраванага ў палітычных злачынствах, было: "Абавязкова. Чуткам верыць няма чаго"[363]. У гэты час Сымон Каліноўскі атрымаў ад сына ліст, адпраўлены

[358] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 248.

[359] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 131.

[360] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 6. – Арк. 13.

[361] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 132.

[362] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 6. – Арк. 14.

[363] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 134.

5 снежня са сталіцы Імперыі – Пецярбурга[364]. Гэты ліст у выніку быў забраны атрадам палкоўніка Казанлі і яго далейшы лёс невядомы.

17 снежня Вітэ, каб самому высветліць абставіны "аб следаванні Вікенція, ён жа Канстанцін, Каліноўскага з Ваўкавыска ў г. Слонім і назад"[365], накіроўваецца ў Ружаны. Капітан жандараў паўторна праводзіць допыт Івана Талочкі, які вазіў Каліноўскага з Ружан на Падароскую паштовую станцыю. Але, на дзіва, фурман адмовіўся пацвярджаць, што Каліноўскі раскідваў сялянам якія-небудзь паперы. Наадварот, Талочка патлумачыў, што скруткі дакументаў раскідваў невядомы, які ехаў на чацвёрцы рудых коней з Падароскай станцыі праз Шэйнякі. Фурманам у таго быў Салата, які выправіўся з Ружан раней, чым Каліноўскі. Да таго ж Каліноўскі не мог фізічна гэтага зрабіць, паколькі ўжо ў 16 гадзін 7 кастрычніка быў дастаўлены ў Падароск. Аднак Вітэ, як дасведчаны жандар, убачыў у гэтых словах спробу заблытаць следства. Паведаміўшы пра тое свайму кіраўніцтву, ён працягнуў працу і высветліў, што з Падароска Каліноўскі адправіўся ў Ваўкавыск з нейкім Бегічам, які ў горадзе заехаў на сваю кватэру, а сам Каліноўскі – у заезны двор габрэя Мартхілевіча, адкуль 10 кастрычніка накіраваўся ў Гродна.

У кастрычніку-снежні 1862 года жандары на Гарадзеншчыне некалькі разоў мелі магчымасць схапіць Каліноўскага, але кожны раз ён выбіраўся з расстаўленых на яго пастак і ў выніку здолеў паспяхова дабрацца да Вільні. Тут ён у ЛПК адхіліў ад улады стаўленіка Варшавы Нестара Дзюлерана, намагаючыся дабіцца ад варшаўскага ЦНК прызнання роўных правоў, а ў канцы лістапада выехаў у Пецярург, дзе вяліся перамовы з прадстаўнікамі рускай арганізацыі "Зямля і воля" і Камітэтам рускіх афіцэраў у Польшчы аб будучым іх удзеле ў сумесным паўстанні. Да таго ж на працягу чатырох месяцаў былі выдадзены тры нумары "Мужыцкай праўды" (№ 3, 4, 5)! Нягледзячы на ўсе далейшыя спробы высветліць месцазнаходжанне Канстанціна Каліноўскага, расійскім уладам гэта не ўдавалася ажно да студзеня 1864 года, калі яму здрадзіў Вітольд Парфіяновіч.

[364] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. – Арк. 248 адв.
[365] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 6. – Арк. 15.

## *Погляды Каліноўскага на нацыянальнае пытанне*

Каліноўскі Канстанцін лічыў відавочным неабходнасць вырашэння двух найважнейшых пытанняў – сацыяльнага і нацыянальнага – яшчэ да пачатку паўстання, “каб пасля вызвалення, скончыўшы барацьбу з Расіяю, не прыйшлося б працягваць яе міжусобіцамі”[366]. Яго непрыманне супрацы з Варшаваю было звязана з верагоднасцю, што там “уваскрэсне старажытнае магнацтва з усімі шляхецкімі традыцыямі, з нацяжкаю прыстасаванымі да XIX ст.”[367]. А пасля вяртання эміграцыі тая будзе імкнуцца аднавіць былыя правы і прывілеі, у тым ліку ў Беларусі і Літве.Таму Каліноўскі выступаў супраць поўнага зліцця ў адзінае цэлае Польшчы і Літвы як частак былой Рэчы Паспалітай, каб потым існавала магчымасць аддзяліцца ў выпадку перамогі шляхты ў Польшчы: “Ён хацеў (бачыць) Літву не з адноўленымі на новы лад старымі шляхецкімі традыцыямі, але Літву, якую ён мог бы перастварыць з усеагульным ураўненнем правоў і станаў, на новых пачатках камуністычных брэдняў, што прапаведавалі Герцэн і К°, знаходзячы нават, што галіцыйская разня недастатковая, каб пазбавіць народ ад усялякага ўплыву шляхецтва, якога і падрастаючыя нашчадкі могуць уваскрасіць з часам дамаганні сапраўдныя”[368].

Канстанцін Каліноўскі не выступаў супраць аднаўлення Рэчы Паспалітай. Ён выступаў супраць вяртання ў ёй старых парадкаў ды пераходу ўлады да шляхты і найбольш заможных яе прадстаўнікоў, што жылі за мяжой у эміграцыі, – магнатэрыі. Таму ён імкнуўся адасобіць Літву і Беларусь, “скарыстацца разладам паміж Расіяю і Польшчай”[369], каб правесці змены ў сацыяльным становішчы грамадства, якія паслужаць прыкладам для суседзяў.

Гэтыя погляды Каліноўскага набывалі ў ім усё большую моц на фоне разгортвання канфлікту з камісарам ЦНК Нестарам Дзюлеранам.

[366] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., пасляслі. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 152.

[367] Там жа, с. 153.

[368] Там жа, с. 153.

[369] Там жа, с. 154.

## *Перамовы з ЦНК*

Пасля ўтварэння Літоўскага правінцыяльнага камітэта паглыбіўся канфлікт Каліноўскага з Дзюлеранам. Нестар Дзюлеран быў варшавянінам, сынам афіцэра польскага войска і ўнукам французскага графа, прэтэндэнта на трон Навары. Ён вылучаўся прыгажосцю, а пра яго любоўныя прыгоды пераказвалі шматлікія плёткі, што не дадавала яму аўтарытэту сярод удзельнікаў таемнай арганізацыі: “Падставаю яго выезду да Вільні было не камісарства, даручанае яму Цэнтральным камітэтам, але папросту ўцёкі ад старой і брыдкай жонкі, з якой ажаніўся дзеля грошай (узяў за яе 40 тысяч злотых) і якая яму жыццё атруціла”[370].

Пасля прыбыцця ў Вільню Дзюлеран уладкаваўся на Варшаўска-Пецярбургскую чыгунку, маючы прызначэнне камісарам варшаўскага ЦНК пры Літоўскім камітэце[371]. Пасля ад’езду Звяждоўскага ў Вільні не засталося аўтарытэтных асоб, якія б падтрымлівалі яго ў выступленнях супраць тэорый Каліноўскага. Да таго ж Дзюлеран хацеў разбудоўваць арганізацыю па варшаўскім узоры (паклаўшы ў яе аснову дзясяткі) і падначаленую непасрэдна ЦНК. Ён лічыў віленскіх “чырвоных” слабымі і што яны нікога не рэпрэзентуюць, таму ўзяўся за прапаганду ў асяродку гараджан і землеўласнікаў патэнцыяльна “белых”.

Віленскія “чырвоныя” лічылі гэты крок заўчасным, пагрозай для ўсёй арганізацыі, бачылі галоўную патрэбу ў працы сярод вясковага насельніцтва. Да гэтага канфлікта дадалася спрэчка вакол беластоцкай арганізацыі. Спрэчку ініцыяваў Бранiслаў Шварцэ, які, перабраўшыся ў Варшаву і ўвайшоўшы ў кіруючае кола ЦНК, не забыўся на старую крыўду страты становішча лідара ў арганізацыі. Таму захады Дзюлерана ў вачах Каліноўскага і яго паплечнікаў выглядалі чарговым крокам Варшавы падпарадкаваць усю арганізацыю сабе. Інструкцыі да павятовых і акруговых начальнікаў засведчылі паглыбленне гэтага канфлікту.

Як вынік, пасля захопу ўлады ў беластоцкай арганізацыі і пераходу яе пад кантроль ЦНК у лістападзе 1862 года ЛПК

---

[370] Przyborowski, W. Dzieje 1863 roku. T. 3. / W. Przyborowski.– Kraków: W.L. Anczyc, 1902. – S. 6.

[371] Там жа.

выключае са сваіх шэрагаў варшаўскага камісара: “раззлаваны Каліноўскі выштурхаў Дзюлерана з пасяджэння”[372]. А таксама “загадаў забіць Шварцэ пры першым яго з’яўленні ў межах Літвы”[373]. Аднак Каліноўскі разумеў, што без каардынацыі сумесных дзеянняў немагчымы поспех у агульнай барацьбе. Таму ў Варшаву быў накіраваны яго сябар і паплечнік Эдмунд Вярыга.

Шварцэ паспрабаваў узяць гэтыя перамовы пад уласны кантроль, але Вярыга адмовіўся ад усялякіх кантактаў з ім. Таму з ім спаткаўся Оскар Авейдэ. На сустрэчы Вярыга прадставіў рапарт, у якім адзначалася, што Літоўскі камітэт аб’ядноўвае ў таемных суполках 3000 чалавек. Сярод яго структур самая развітай з’яўляецца гродзенская арганізацыя. Акрамя гродзенскай і віленскай, ваяводскія арганізацыі створаны ў Ковенскай і Мінскай губернях. У Вільні і іншых губернскіх гарадах, “у якіх знаходзіцца больш хрысціян-католікаў, ствараліся дзясяткі, якія могуць служыць апорай Камітэту і яго ўладам і могуць быць карыснымі для іх дзеяння”[374]. Таксама ў рапарце адзначалася выданне двух падпольных лісткоў на беларускай мове: “Гутарка старога дзеда” і “Мужыцкая праўда”, – а таксама падрыхтаваны да друку на польскай мове “Сцяг свабоды”.

Вярыга выклаў Авейдэ патрабаванні Літоўскага камітэта: 1) выдаць устаў, які б вызначаў узаемныя адносіны двух камітэтаў; 2) абодва яны павінны быць прызнаны цалкам роўнымі, а Цэнтральны – толькі першым паміж роўнымі; 3) упаўнаважаныя ад абодвух камітэтаў, пастаянныя агенты ці камісары, павінны быць таксама роўнымі як у адносінах да прызначанай ім ролі, так і ў адносінах правіл для іх прызначэння і выдалення; 4) прызначыць канчатковы тэрмін паўстання не інакш як са згоды абодвух камітэтаў; 5) не пасылаць з Варшавы ў Літву рашуча ніводнага агента, за выключэннем пастаяннага віленскага; 6) выдаліць безадкладна Дзюлерана і таксама безадкладна аддаць беластоцкую арганізацыю ў распараджэнне Літоўскага камітэта[375].

---

[372] Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Т. 1. – Вильно, 1867. – С. 186.

[373] Записки Оскара Авейде о польском восстании 1863 года. – Варшава, 1866. – Часть III. – С. 179.

[374] Там жа.

[375] Там жа, с. 180.

ЦНК адмовіўся прыняць гэтыя палажэнні. У выніку пасля перамоў Вярыга пайшоў на саступкі: 1) першынство і ўлада ЦНК засталіся недатыкальнымі; 2) камісар яго ў Вільні карыстаўся большымі правамі, чым упаўнаважаны літоўскі агент у Варшаве; 3) улада ЛПК у межах "правінцыі", г.зн. Літвы і Беларусі, прызнавалася поўнай і выключнай, аднак жа яна абмяжоўвалася загадамі ЦНК, кантролем камісара і неабходнасцю яго згоды пры рашэнні некаторых пытанняў першаступеннай вагі. Для гэтага была ўстаноўлена асобная камісарская пячатка; 4) пастаноўлена было больш не дасылаць з Варшавы агентаў у Літву; 5) тэрмін паўстання вырашана было прызначыць са згоды літоўскага ўпаўнаважанага агента; у адваротным выпадку "Літва" вызвалялася ад абавязку прыняць яго. Таксама Дзюлеран будзе выдалены, а замест яго адправяць Юлія Верашчынскага. Беласток вернецца пад кантроль Літоўскага камітэта.

Аднак недавер паміж Варшавай і Вільняй стаў настолькі моцным, што камітэт на чале з Канстанцінам Каліноўскім адмовіўся зацвердзіць гэтыя ўмовы. Таму ў Варшаву ў пачатку снежня 1862 года накіроўваецца яшчэ адзін член ЛПК – Баляслаў Длускі. Паўтара месяцы перамоў не прынеслі ніякага плёну. Оскар Авейдэ ўзгадваў: "…нягледзячы на такі працяглы час, нягледзячы на ўсе магчымыя саступкі з боку Цэнтральнага камітэта і на мае самыя напружаныя намаганні, згода паміж намі не адбылася. Недавер і настойлівасць правінцыялаў былі сляпыя, а Длускі быў упарты, цвёрды да закаснеласці літовец, прытым чалавек тупы і які губляўся ў дробязях"[376].

У выніку з-за пытання аб субардынацыі да часу паўстання паміж ЛПК і ЦНК не было заключана ніякіх умоваў адносна будучага паўстання. Да таго ж у Вільні адсутнічаў варшаўскі камісар, а ў Беластоку паралельна існавалі структуры абодвух кіруючых цэнтраў, што значна аслабляла адну з самых моцных арганізацый.

Менавіта гэты канфлікт напярэдадні пачатку паўстання, памножаны на інтрыганства з боку Шварцэ і Дзюлерана, прывёў Канстанціна Каліноўскага і яго бліжэйшых паплечнікаў да адкрытага "літоўскага сепаратызму". І гэта нягледзячы на тое, што тая ж гродзенская арганізацыя, як і віленская, якая ёй

[376] Там жа, с. 182.

папярэднічала, пачыналася не больш як падначаленая “народнага польскага ўрада”. Але ў выніку прыходзіла разуменне, што мэты ЦНК па аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, не толькі не закранаюць сацыяльны аспект у тым сэнсе, як гэта разумеў Каліноўскі, але ўвогуле носяць дэкларатыўны характар. У такой форме, як паказваў досвед Вялікай французскай рэвалюцыі, заставалася магчымасць прыходу да ўлады “контррэвалюцыянераў”. Каліноўскі не жадаў гэтага дапусціць, таму лічыў неабходным умацаваць пазіцыі радыкальнага кола “чырвоных” у Беларусі і Літве і тым самым стварыць магчымасць перамогі сапраўднай “рэвалюцыі” для іншых ахопленых паўстаннем рэгіёнаў. Дзеянні ж Варшавы па падпарадкаванні структурных адзінак арганізацыі, якія перш за ўсё разумеліся як рэсурсныя цэнтры (зброя, грошы, амуніцыя), выклікалі неабходнасць намацвання з боку Вільні свайго шляху. Але гэты працэс быў перарваны абвесткаю пра пачатак паўстання.

## *Сялянскі рух у 1862 годзе*

У 1862 годзе сялянскі рух набывае новы накірунак – байкот міравых пасрэднікаў і адмова ад падпісання ўстаўных грамат, па якіх сяляне прызнавалі сваё "часоваабавязанае" становішча (самая распаўсюджаная форма супраціву, якая ахапіла 42 губерні Расійскай Імперыі), выступы супраць перасяленняў людзей з зямлі, якую яны адвеку апрацоўвалі ("бацькаўшчыны"), на новыя месцы, менш урадлівыя ("пясочак"). У выніку такіх дзеянняў памешчыкі адабралі ў сялян да 1/3 іх уладанняў, асабліва значныя змяншэнні сялянскіх надзелаў мелі месца ў Гродзенскай і Ковенскай губернях.

Сяляне ў спадзяванні на "добрага цара" і з надзеяю даравання сапраўднай волі ў лютым 1861 года накіроўвалі ў дзяржаўныя ўстановы шматлікія скаргі, як у выпадку Дабрамысельскай воласці Слонімскага павета: сяляне памешчыка Керсноўскага вёсак Млавіцы, Кулькі і Скарышкі былі пазбаўлены "бацькаўшчыны", адмовіліся падпісваць устаўныя граматы і скардзіліся губернатару на памешчыка ды расійскіх чыноўнікаў. Такія скаргі сяляне вёсак амаль тры гады падавалі на імя губернатара, але адказу і дапамогі не атрымлівалі. У апошняй з іх, дасланай у сярэдзіне сакавіка 1863 года сяляне апісвалі сваё цяжкае становішча: "Памешчык забраў у нас землі каля нашых хат і адвёў нам на адлегласці 10 вёрстаў ад паселішча зусім нязручную"[377], якая знаходзілася ў багністым месцы, дзе коні і валы проста не маглі працаваць. Сяляне былі пазбаўлены ўсякіх сродкаў да існавання, але працягвалі супрацьстаянне з памешчыкам, нават нягледзячы на пагрозы расстрэлу, арышты сялянскіх лідараў і прызначэнне іншага старасты без згоды грамады. Таму не дзіва, што вясною 1863 года многія сяляне вёсак Млавіцы, Кулькі і Скарышкі пайшлі ў паўстанцы.

У другой палове 1861 года ў маёнтку графіні Патоцкай Рудка Бельскага павета сяляне шасці вёсак адмовіліся ад паншчыны і палічылі, што "цар хоча, каб паноў не было, каб уся зямля была раздадзена мужыкам"[378]. Іх супраціў працягнуўся ў 1862 годзе,

[377] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 43.

[378] Там жа, с. 42.

калі яны выгналі прадстаўнікоў упраўляючага і адмовіліся прымаць устаўныя граматы. А ў студзені 1863 года яны аднымі з першых далучыліся да распачатага паўстання, знішчыўшы казачы пост у маёнтку.

Падобныя дзеянні, як у вёсках Слонімскага або Бельскага паветаў, мелі месца і ў іншых вёсках Беларусі. Кіраўнік IV корпуса жандараў Гільдэбрант лічыў прычынай упартага супраціву сялян дзейнасць рэвалюцыйных суполак, якія складаліся "з дробных дваран, нязначных чыноўнікаў, ксяндзоў, студэнтаў, гімназістаў, жанчын", якія "мараць нават захапіць за сабой сялян"[379]. Сярод вяскоўцаў актыўна распаўсюджваліся разнастайныя нелегальныя выданні, да ліку якіх належала "Мужыцкая праўда".

## *Месца выдання "Мужыцкай праўды"*

У першы месяц свайго распаўсюджання ў ліпені 1862 года "Мужыцкая праўда" яшчэ не ўяўляла цікавасці для Міністэрства ўнутраных спраў і III аддзялення. Яна з'яўлялася толькі адной з дзясяткаў нелегальных выданняў, якія пашыраліся сярод сялянства. Першым у іх шэрагу з чэрвеня 1861 года стаяў "Великорус"[380]. Затым з'яўляюцца шматлікія ананімныя польскамоўныя друкаваныя і рукапісныя тэксты, у большасці ўсяго ў некалькіх дзясятках экзэмпляраў, як, напрыклад, "Прадстаўленне цэха бронзавага, сталярскага, горнічнага і іншых цэхавых людзей да дэлегацыі горада", у якім сцвярджалася: "Калі да Айчыны не будзе любові, тады будзе дрэнна"[381]. У сувязі з гэтым спачатку ішла недаацэнка "Мужыцкай праўды", якую з-за лацінскага шрыфту блыталі з пракламацыямі на польскай мове. Аднак пасля звароту ўвагі на змест першага нумара і выкарыстанне "мужыцкай" мовы 22 жніўня 1862 года намеснік міністра ўнураных спраў Трайніцкі запатрабаваў ад гродзенскага губернатара Галера неадкладна выявіць крыніцу гэтага выдання.

---

379 Там жа, с. 42.

380 За яго распаўсюджванне быў асуджаны на тры гады катаржных прац супрацоўнік "Современника" паручнік гвардыі В. Обручаў. Гэтае ж выданне было ўзгадана ў прысудзе па справе афіцэра Арнгольта. Усе тры нумары пракламацыі былі надрукаваны ў "Колоколе", а таксама ў гельдэльбергскім "Летучем Листке". Материалы для истории революционного движения в России в 60-х гг. – Париж, 1905. – С. 25.

381 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 2. – Арк. 425.

Падазрэнне пала на наглядчыка Гродзенскай губернскай друкарні, па сумяшчальніцтву рэдактара "Гродзенскіх губернскіх ведамасцей" Івана Штарка, які належаў да Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі і займаўся перадачай даручэнняў па Гродзенскім павеце[382]. На яго ў сваіх паказаннях звяртаў увагу Ігнат Геніюш, які быў начальнікам ваяводскага бюро[383]. Нягледзячы на тое, штоператрусы не далі жаданых вынікаў, Штарка адправілі ў адстаўку, а пасля пачатку паўстання ў 1863 годзе саслалі на жыхарства ў Томскую губерню пад нагляд паліцыі.

Слонімскі спраўнік Парадоўскі 18 жніўня 1862 года сцвярджаў, што газета выдаецца ў Вільні[384]. У якасці ключавой зачэпкі да таго ён прыводзіў не толькі подпіс "Яська-гаспадар з-пад Вільні", але і ўказваў на шырокае распаўсюджанне "Мужыцкай праўды" ў падначаленым яму павеце. Падставай для гэтага Парадоўскі называў шлях у сталіцу края, які пралягае праз Дзятлава і па якім бесперапынна рухаюцца сялянскія вазы. Рапарт пра знойдзеныя на вуліцы ў Дзятлаве (на той час мястэчка Здзецел) два экзэмпляры газеты "завернутыя ў тканую анучу разам з дзвюма пяцігрошавымі польскімі манетамі"[385], з прыкладаннем аднаго з іх быў накіраваны міністру ўнутраных спраў. Другі прадставілі Віленскаму ваеннаму губернатару і генерал-губернатару Гродзенскаму, Ковенскаму і Мінскаму.

Аднак беластоцкі афіцэр маёр Штэйн 12 верасня тлумачыў гродзенскаму губернатару Галеру: "Хаця ў іх напісана, што яны выдадзены быццам бы ў Вільні, але я адназначна даведаўся, што яны прывозяцца з Варшавы"[386]. У выніку 17 верасня 1862 года Галер паведамляў міністру ўнутраных спраў Валуеву, што нелегальныя выданні з'яўляюцца з Царства Польскага, дзе друкуюцца і дастаўляюцца чыгункаю, кіраўніцтва якой складаецца з ліку эмігрантаў. 1 кастрычніка Валуеў пераслаў атрыманыя звесткі да шэфа жандараў Далгарукава і галоўнага ўпраўляючага шляхамі зносін Чэўкіна.

Ускосна гэта пацвярджалася тым фактам, што ў ноч на 1 ве-

382 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. – Арк. 46.
383 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. , 3. – Спр. 2. – Арк. 85.
384 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 22. – Спр. 1121. – Арк. 223–225.
385 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 22. – Спр. 1121. – Арк. 226.
386 Кісялёў, Г. Так сейце ж, дзецюкі! / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 35.

расня 1862 года некалькі экзэмпляраў "Мужыцкай праўды" разам са шматлікімі іншымі нелегальнымі выданнямі былі знойдзены ў Варшаве па вуліцы Хмельнай на кватэры выпускніка мясцовай школы мастацтваў мастака Аляксандра Сахачэўскага. Сахачэўскі быў звязаны з польскім рэвалюцыянерам-дэмакратам Генрыхам Абіхтам, які паспеў папрацаваць у друкарні герцэнаўскага "Колокола". Да таго ж і сябар Каліноўскага Эразм Заблоцкі ў паказаннях адзначаў, што "рэвалюцыйныя газеты і брашуры" атрымлівалі "з Варшавы па чыгунцы"[387].

Да сённяшняга часу месцам выдання "Мужыцкай праўды" называюцца Саколка, Вялікая Бераставіца, Гродна, Вільня. А. Смірноў выказваў думку, што "Мужыцкая праўда" друкавалася "ў падпольнай друкарні, схаванай у пушчы, паблізу гарадка Саколка, дзе пражываў сябра К. Каліноўскага Валерый Урублеўскі"[388]. Гэтую ж думку падтрымліваў Г. Кісялёў, звяртаючы ўвагу на тое, што некаторыя з нумароў газеты, і перш за ўсё апошнія, маглі з'явіцца ў Вільні. Але верагодней за ўсё, "Мужыцкая праўда" паўстала ў Беластоку[389], магчыма нават, на тым жа друкарскім станку, на якім была надрукавана "Гутарка старога дзеда". Пасля таго, як Б. Шварцэ вымушаны быў збегчы ў Варшаву, беластоцкае "Кола" апынулася ў складзе Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі на чале з Канстанцінам Каліноўскім. У выніку ў яго рукі трапіў друкарскі станок, на якім выпускалася "Гутарка старога дзеда" на шрыфце, прывезеным з Украіны Б. Дэнелем[390]. Тэхнічнае абсталяванне было вырашана выкарыстаць неадкладна. Менавіта гэта паслужыла падставаю да з'яўлення "Мужыцкай праўды", на падрыхтоўку якой спатрэбіўся ўвесь чэрвень 1862 года. Да таго ж менавіта ў гэты час у Беластоку жыў Канстанцін Каліноўскі.

З моманту знаходжання "Мужыцкай праўды" афіцыйныя ўлады называлі яе то лістком, то газетай, не ўкладаючы ў гэ-

[387] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 38.

[388] Паводле: Кісялёў, Г. Вялікі сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі / Г. Кісялёў // Сейбіты вечнага. – Мінск, 1963. – С. 71.

[389] Guściora, F. Powstanie styczniowe na Polesiu / F. Guściora. – Brześć nad Bugiem, 1937. – S. 8.

[390] Szwarce, B. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862 / B. Szwarce // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 444.

тыя паняцці глыбокага сэнсавага напаўнення. Як “лятучы лісток” яна падаецца ў “Северной пчеле”[391], а Антон Луцкевіч называе яе не інакш як “цыкль адозваў”, якія “з газэтай не мелі нічога супольнага”[392]. Аднак у айчыннай гісторыі “Мужыцкая праўда” замацавалася менавіта як “першая беларуская рэвалюцыйная газета”[393]. Падаецца, што як газету яе пазіцыянавалі і ствaральнікі, робячы перыядычным выданнем з пастаяннай назвай і тэматыкай, актуальнай для кола патэнцыяльных чытачоў з ліку сялян. Да таго ж прысутнічала нават спроба ўстаўкі “навін”, як гэта зроблена ў № 5.

А. Смірноў ацэньваў тыраж “Мужыцкай праўды” ў 3-4 тысячы экзэмпляраў. У аснову сваіх падлікаў ён паклаў думку, што газета перасылалася пачкамі па 10 экзэмпляраў па акругах. Але гэтыя падлікі былі вельмі ўмоўныя. Г. Кісялёў адзначаў, што “тыраж газеты наўрад ці калі-небудзь перавышаў тысячу экзэмпляраў”[394].

Але значэнне “Мужыцкай праўды” ў тым, што “гэтыя сем невялічкіх лісткоў ляжаць у падмурку ўсёй далейшай беларускай дэмакратычнай прэсы”[395].

## *Яська-гаспадар з-пад Вільні*

Ключавым персанажам “Мужыцкай праўды” з’яўляецца “Яська-гаспадар з-пад Вільні”, які (ці лепш сказаць праз якога) намагаецца паказаць сваю далучнасць да сялян, вартую даверу (“вы адно мяне, такога самага мужыка, як і вы, паслухайце добра”, № 2)[396]. Гэта чалавек новага часу (“цяпер настаў такі

[391] Паводле: Светское тиранство // Колокол. – 1 мая 1863. – № 162. – С. 1340.

[392] Луцкевіч, А. Праўда аб “Мужыцкай Праўдзе” / А. Луцкевіч. Барацьба за вызваленьне. – Вільня, 2009. – С. 444.

[393] Мараш, Я.Н. “Мужыцкая праўда” – первая белорусская революционная газета / Я.Н. Мараш // Материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К.Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 44–49.

[394] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 54.

[395] Там жа, с. 18.

[396] Цыт. з “Мужыцкай праўды” паводле: Янушкевіч, Я. Тварам да шыбеніцы: Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. Анталогія / Рэд. Янушкевіч Я. – Ракаў, 2013.

час", № 1), у адрозненне ад пераважнай большасці сялян адукаваны ("я вычытаў у старых ксёнжках", № 2) і абцяжараны жыццёвым досведам ("лепш знаючы ад вас", № 3). Менавіта гэтай выключнасцю тлумачыцца тое, што ён вырашыў "расталкаваць людзям, у чом праўда" (№ 2), "уздумаў напісаці пісьмо, каб не маглі туманіць розуму вашага" (№ 3). І найважнейшае тое, што ён "такі самы з дзедаў-прадзедаў мужык, як і вы, но яшчэ уняцкай веры" (№ 6).

У першых нумарах "Мужыцкай праўды" робіцца націск на тое, што "Яська-гаспадар з-пад Вільні" не навязвае чытачу або слухачу свой пункт гледжання: "Усё гэта я вам расталкую, а хто мае праўду ў сэрцы і дабра хоча, той мяне паслухае" (№ 5). Аднак у выданні, першапачаткова задуманым як апошняе (№ 6), ён падкрэслена зазначае: "Учыў я вас, як рабіці трэба, і ўчыці буду".

"Яська-гаспадар з-пад Вільні" намагаецца апеляваць да зразумелай сялянам тэзы: праўда бывае розная, не заўсёды яна кіруецца справядлівасцю. У аснове ж "мужыцкай праўды" – імкненне да вольнасці, свабоды, шчасця. Таму газета – гэта паказальнік таго, хто сапраўдны "прыяцель" не толькі з ліку іншых сялян, але і "з панскага роду".

Выданне намагаецца пераканаць селяніна ў тым, што яно напісана "мужыком" для "мужыкоў", пра яго праблемы і такім чынам разбурыць стэрэатып пра тое, што селянін варты толькі цяжкай працы. "Цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці". Нягледзячы на тое, што гэта дасягалася далёка не заўсёды, вобраз "Яські-гаспадара з-пад Вільні" перажыў паўстанне 1863–1864 гадоў.

| № | Тэма | Галоўная тэза |
|---|---|---|
| 1 | Маніфест аб адмене прыгоннага права | "А гэты маніфэст, што цар з сэнатам і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт ведае да чаго ён падобны, – ніякай у нём няма праўды, няма з яго для нас ніякай карысці" |
| 2 | Паншчына | "Калі мужыкі хочуць ужэ самі бараніці сваю зямлю, так няхай жа не служаць паншчыны да і не плацяць у казну аброку за зямлю" |
| 3 | Вольнасць | "нам ні маніхвэстаў царскіх, а вольнасці патрэба" |

| | | |
|---|---|---|
| 4 | Ронд | “Не народ зробены для ронду, а ронд для народу” |
| 5 | Рэкрутчына | “нашымі грудзьмі цар маскоўскі застаўляецца, і нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрагае нас усіх у вечну няволю” |
| 6 | Вера | “Тагды, дзецюкі, хто адно верыць у Бога, яго сына і духа святога, няхай зараз пакідае сызму і пераходзіць на праўдзівую веру дзядоў і прадзедаў” |
| 7 | Маніфест аб пачатку паўстання | “Зямля вольна даецца ўсім мужыкам, бо гэта іхня зямля з дзядоў-прадзедаў” |

## *Першы нумар (канец чэрвеня – пачатак ліпеня 1862 г.)*

Першы нумар “Мужыцкай праўды” быў па-сапраўднаму праграмным, пачынаючы са зварота “Дзецюкі!” і заканчваючы подпісам “Яська-гаспадар з-пад Вільні”. Паміж імі сканцэнтраваны моцны сацыяльны запал, якога бракуе наступным нумарам і ў адносінах якога ад нумара да нумара паступова змяняецца націск.

Першы нумар абрынуўся крытыкай на маніфест аб адмене прыгоннага права, які так і не прынёс жаданай волі селяніну, увасобленай ва ўласнасці на зямлю. У той жа час ён папярэджвае пра марнасць сялянскіх спадзяванняў на істотныя змены “чэраз рок”, г.зн. 1863 год, да якога, пакуль уводзіліся ўстаўныя граматы, захоўвалася ўлада памешчыкаў над сялянамі, і калі, згодна чуткам, павінен быць дараваны “другі маніфест”. Галоўны аргумент супраць: “калі праз шэсць лет нічога не зрабілі”, то няма больш на што разлічваць, акрамя чарговага ашуканства. Маніфест быў накіраваны не на дараванне волі, а на стварэнне за сялянскія грошы дарэмных канцылярый, судоў і пісараў: “Як бы гэта не ўсё роўна браць у сраку чы з судом чы без суда”, дзе абразлівы выраз характарызуе атрыманае пасля ўвядзення рэформы 1861 года права валаснога суда прымяняць у адносінах да сялян нароўні з арыштам або грашовым спагнаннем фізічнае пакаранне – 20 удараў розгамі.

Галоўнымі ворагамі ў “Мужыцкай праўдзе” названы “маскалі, чыноўнікі і многа паноў”. “Дурны” ж маніфест –

гэта справа "цара з сенатам і з панамі". У іншым месцы падкрэсліваецца, што "ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацiся, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць".

Радыкалізм першага нумару "Мужыцкай праўды", які сваім з'яўленнем напалохаў землеўладальнікаў, быў відавочны, паколькі менавіта "паны" падкрэслена названы тымі, хто перашкаджае сялянскай волі.

Сябрамі сялян з'яўляюцца "людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з местачковых, што хочуць нашай свабоды". Асабліва важна ў гэтым пераліку гучыць узгадка пра людзей "з панскага роду", да якіх належаў сам Канстанцін Каліноўскі і яго паплечнікі. Гэтае азначэнне яшчэ раз пацвярджае той факт, што сярод саміх паноў у мужыкоў няма сяброў. Але "панам" пакідаўся шанец зрабіць усё "па свентай справядлівасці" і далучыцца да мужыкоў. Чаму так адбывалася, сказана ўжо ў другім нумары "Мужыцкай праўды". У адваротным выпадку – "так чорт іх пабяры!". Менавіта ў гэтым сэнсе актуальны ўзгаданы вышэй выраз пра "сякеру над калыскаю шляхецкага дзіцяці".

У першым нумары, нягледзячы на подпіс "Яська-гаспадар з-пад Вільні", няма той асабовасці, моцнага "Я", якім прасякнуты наступныя нумары. Тут толькі "мы, мужыкі, браты вашыя", за выключэннем апошняга сказа. Такім прыёмам узмацняецца націск у адказ на галоўныя пытанні: у чым сіла і праўда? А яны менавіта ў адзінстве, праз якое толькі самі мужыкі могуць заваяваць уласную вольнасць: "Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе".

У "Мужыцкай праўдзе", па заўвазе Сяргея Токця, "упершыню ў гісторыі грамадскай думкі Беларусі мужыкі разглядаюцца не як патэнцыйны саюзнік шляхты, якім трэба апекавацца, якіх трэба выхоўваць, прасвятляць і далучаць да высокай культуры, але як сіла, здольная самастойна вырашаць свой лёс"[397].

[397] Токць, С. Нацыянальны і сацыяльны дыскурсы ў тэкстах "Мужыцкай праўды" і "Рассказов на белорусском наречии" / С. Токць // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы міжнар. навук. канф., Менск, 25 верасня 2009 г. – Мн., 2011. – С. 28.

## *Другі нумар (канец жніўня 1862 года)*

Другі нумар “Мужыцкай праўды” дае адказ пра прычыну паходжання сацыяльнай няроўнасці, увасобленай у паншчыне, якая існуе, нягледзячы на тое, што “Бог стварыў усіх людзей вольнымі і ўсім даў адзінакую душу”.

Газета апелюе да легенды пра даўнія часы, калі быў “народ наш вольны і багаты”, калі зямлі і лесу было многа, а народу мала”. Менавіта з тых часоў, згодна спрошчанай трактоўцы выдання, бярэ выток паншчына.

Але зроблена было гэта не з-за недахопу ведаў у аўтараў “Мужыцкай праўды”[398], а мэтанакіравана, каб паказаць, чаму “панам” у № 1 пакінута магчымасць падтрымаць мужыкоў у іх барацьбе: паны – гэта тыя ж сяляне, што ў даўнейшыя часы замест заняткаў гаспадаркай пайшлі бараніць Бацькаўшчыну ад ворагаў (“Немец і Маскаль”), якім “багацтва нашае калола ў очы”. Пры гэтым “Маскаль” узгадваецца ў нумары 8 разоў, а “Немец” толькі тры. У той час, як адныя ваявалі, “Кароль Польскі ды і Літоўскі” напісаў такое права: “Гэтыя, што не хочуць ісці бараніці сваей зямлі, няхай абрабляюць поле гэтым, што б’юцца за вольнасць і шчасце ўсіх”.

Усё змянілася пасля таго, калі “Маскаль з Немцам хітрасцею нас пабіў і пайшоў ронд маскоўскі”. Цяпер з мужыка таксама патрабуюць рэкрута: “Так якая ж тут ужэ справядлівасць, калі ўсенька, што цяжка, зваляюць на мужыка, калі з яго дзяруць астатню шкуру, б’юць і плакаць не даюць!”. У выніку гэта прывяло да паўстання на чале з Тадэвушам Касцюшкам, які выдаў 7 мая 1794 года Паланецкі ўніверсал, названы ў “Мужыцкай праўдзе” як “Маніхвэст” (з вялікай літары): “Калі мужыкі хочуць ужэ самі бараніці сваю зямлю, так няхай жа не служаць паншчыны да і не плацяць у казну аброку за зямлю”. Аднак пасля паражэння паўстання ўніверсал быў скасаваны: “Ма-

[398] У савецкі час такі погляд называўся памылковым, паколькі Каліноўскі лічыўся выключна абаронцам сялянства і ворагам шляхты. Магчымасць таго, што гэта было зроблена спецыяльна, не пакідалася. Лушчыцкі, І. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне ХІХ ст. / І. Лушчыцкі. – Мн., 1958. – С. 220: “…аўтар памыляецца ў прычынах паяўлення прыгоннага права. Ён іх бачыць не ў змене спосабу вытворчасці матэрыяльных даброт, не ў эканамічнай структуры грамадства, а ў знешніх абставінах – нападзе на краіну знешніх ворагаў”.

скаль спыніў Маніхвэст Касьцюшкі, каб не пабунтаваў усіх мужыкоў”.

“Яська-гаспадар з-пад Вільні” падкрэслівае, “што мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу паном, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць”. Ён гаворыць, што “калі будзе вайна з маскалём за нашу вольнасць, то той час трэба ўсім ісці на вайну проціў маскаля”, каб найхутчэй прагнаць “маскаля з яго сабачым рондам”, “каб ніколі, ніякай, нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плаціілі, і каб на век вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы”.

Такім чынам, у другім нумары аўтары “Мужыцкай праўды” імкнуцца зменшыць тыя сацыяльныя супярэчнасці, якія існавалі паміж шляхтаю і сялянствам і якія былі акрэслены ў першым нумары. Такая думка пасавала будучаму паўстанню, у якім неабходна было аб’яднаць высілкі ўсяго грамадства, каб перамагчы галоўнага ворага.

## *Трэці нумар (верасень 1862 года)*

Трэці нумар “Мужыцкай праўды” пачынаецца з заявы пра прычыну яе з’яўлення: “…каб не маглі туманіць розуму вашага”. “Яська-гаспадар з-пад Вільні” не заклікае верыць яму на слова, адзначаючы: “чытайце з увагаю”, “талкуйце паміж сабою”. Для ўзмацнення тэксту ўвесь час робіцца зварот да сялянскай набожнасці (“З намі Бог і праўда”, “Бог нам дапаможа!!!”). У нумары прысутнічае заклік перадаваць “пісьмо” ў іншыя вёскі, што, як пацвярджаюць архіўныя дакументы, актыўна выконвалася і садзейнічала пашырэнню абшару распаўсюджання выдання.

Асноўная крытыка нумара скіравана на “ронд маскоўскі”, які “нас абдзірае і глуміць”, думаючы, “што народ дурны”. Але з часу завяршэння ў 1856 годзе Крымскай вайны (“калі Пранцуз пад Свістаполем заўсім пабіў маскаля”) сітуацыя карэнным чынам змянілася: “народ робіцца разумнейшым”, усведамляючы, што “Бог стварыў чалавека, каб ён карыставаў з вольнасці справядлівай”.

“Мужыцкая праўда” паказвае, на чым грунтуецца сіла “маскаля”: на адсутнасці вольнасці ў сялянства, на рэкрутчыне і

вялікіх падатках. Менавіта іх змены быццам бы запатрабаваў "Француз" у імкненні аслабіць свайго саперніка. Узгадка з'яўляецца адлюстраваннем шырока распаўсюджаных у народных колах ілюзій, што адмена прыгону адбылася пад замежным націскам, а таксама спадзяванняў, што "француз прыйдзе"[399]. Гэтая вера заставалася ў сялян і ва ўмовах распачатага ў 1863 годзе паўстання, аб чым сведчыць ліст ад 9 (21) снежня 1863 года, адрасаваны Аддзелам Літвы да А. Банольдзі[400].

Нягледзячы на тое, што народ быў чарговы раз ашуканы абвешчанай аграрнай рэформай, здарылася самае важнае: "пачулі, што і мужык можа быць вольны". Фактычна "Мужыцкая праўда" сведчыла пра рост свядомасці вясковага насельніцтва[401].

Сяляне пачалі задавацца пытаннем, што ж такое вольнасць: "... чалавек вольны, гэта калі мае кусок сваей зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць – калі плаціць малыя падаткі, і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу народу, – калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці свайго краю тагды толька, калі які непрыяцель надыйдзе, – калі робіць усенька, што спадабае і што не крыўдзіць бліжняга і хвалы боскай, – і калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзяды, прадзеды". Такім чы-

[399] Авейде О. Показания и записки о польском восстании 1863 года, с. 109: "Паўстанне ў Літве, як мне добра вядома, не толькі трымалася, але і з'явілася адно толькі пад уплывам незразумелай веры, што "француз прыйдзе".

[400] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 125: "яны з нецярплівасцю паводле традыцыйнай народнай прывязанасці і веры да французскага народа чакаюць вясны і, як яны кажуць: Француза...".

[401] На дадзены факт, засведчаны ў № 3 "Мужыцкай праўды", звярнуў увагу Г. Кісялёў: "Сам Каліноўскі пісаў, што рост свядомасці народных мас адбываецца літаральна на вачах: "От яшчэ нядаўна гаварылі нашыя, што яны створаны для таго, каб служылі паншчыну і былі нявольнікамі, а гаварылі для таго, што нічога не ведалі і нічога меці не хацелі, а чы сягодня гэтак скажуць, калі ўжэ ведаюць многа і многа хочуць?". Усё гэта былі прыкметы духоўнага адраджэння народа, які паступоваператварыўся ў нацыю". Кісялёў, Г. К. Каліноўскі і беларуская культура / Г. Кісялёў // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 21.

нам, “Мужыцкая праўда” паказвала, што “нам ні маніхвэстаў царскіх, а вольнасці патрэба”, “і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробімо”.

## *Чацвёрты нумар (кастрычнік 1862 года)*

Чацвёрты нумар “Мужыцкай праўды” вядомы перш за ўсё выразам “не народ зроблены для ронду, а ронд для народу”, вытокам якога маглі стаць як лекцыі, чытаныя Спасовічам у Пецярбургскім універсітэце, так і пракламацыя “Да маладога пакалення”, якая распаўсюджвалася ў Расійскай Імперыі ў 1861 годзе і, хутчэй за ўсё, была вядома Канстанціну Каліноўскаму[402]. Нумар прысвечаны вобразу грамадска-палітычнай сістэмы, прыкладам якой названы ўрады “ў Француза, чы ў Англічаніна”. Аднак акрэсленая Каліноўскім і яго паплечнікамі мадэль у рэчаіснасці не існавала і з’яўлялася чарговым зваротам да народных стэрэатыпаў: “Для таго, каб была справядлівасць і праўда на свеце, а злыя людзі не збыткавалі і крыўды другім не рабілі, е ронд, што бярэ падаткі, робіць школы, наўчае кажнага, каб жыў па праўдзе, становіць суд; а калі гэта не памагае і робіцца несправядлівасць, то наймае войска і так сцеражэ кажнага ад ліха і здзерства”.

Створаная ў “Мужыцкай праўдзе” мадэль уяўляла сабой “ідэал усенароднай, дэмакратычнай дзяржавы”[403], антыпод існуючай Расійскай Імперыі, у якой “суды маскоўскія – гэта воўчая яма”, дзе “скубуць як могуць”; у якой адсутнічаюць школы на роднай мове: “У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе заўсім перарабіці на маскаля”; у якой не выконваецца асноўная функцыя дзяржавы па абароне ўсіх яе грамадзян: “Бяспечнасці пад

[402] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 299. “Не народ существует для правительства, а правительство для народа”. Аўтарамі пракламацыі з’яўляліся М.В. Шалгуноў і М.Л. Міхайлаў. У выніку паэт Міхаіл Ларыёнавіч Міхайлаў, які працаваў губернскім сакратаром, быў пазбаўлены ўсіх правоў і сасланы на катаржныя працы ў рудніку на шэсць гадоў. Яго пракламацыя была выдадзена ў 1862 годзе ў Гейдэльбергу ў № 1 “Летучих Листков”. Материалы для истории революционного движения в России в 60-х гг. – Париж, 1905. – С. 1.

[403] Майхрович, А.С. Белорусские революционные демократы. Важнейшие аспекты мировоззрения / А.С. Майхрович; под ред. Н.С. Купчина, В.М. Конона. – Мн.: “Наука и техника”, 1977. – С. 44.

маскалём ніякай няма", паколькі войска ўжываецца не супраць знешніх ворагаў, а для задушэння народных хваляванняў.

"Ронд маскоўскі" параўноўваецца з "ліхім панам": "Ён думае толькі пра тое, як абадраці і заўсім людзей зглуміці". Для спрашчэння "ронд" апісваецца як чалавек: цар з'яўляецца галавою, а чыноўнікі – яго рукамі і нагамі, якія ажыццяўляюць тое, што цар надумаў. Гэта выпад супраць легенды пра "добрага цара-бацюшку", каб паказаць сялянам, што "глум, здзерства і несправядлівасць выходзіць ад самога цара".

Аднак у канцы чацвёртага нумару робіцца заключэнне, што "прыходзіць яму ўжэ канец, бо мужык пачуў вольнасць". Атрыманне волі можа адбыцца толькі шляхам узброенага выступлення: "Калі мужык разгуляецца, то, як свет шырокі, кроў вашая пальецца!!!"

## *Пяты нумар (лістапад 1862 года)*

Пяты нумар "Мужыцкай праўды" быў адным з самых папулярных з усёй серыі. Узнятае ў ім пытанне рэкрутчыны ва ўмовах распачатага ў канцы 1862 – пачатку 1863 года набору было настолькі актуальным, што нумар, згодна заўвазе С. Александровіча, быў перавыдадзены[404]. Калі першы варыянт з'явіўся ў лістападзе 1862 года, то другі пабачыў свет у снежні. Ён адрозніваўся ніжэйшай якасцю набору, шэрагам разначытанняў, а таксама не меў допісу пасля асноўнага тэксту.

Рэкрутчына ў нумары выступае як "маскоўскае жыццё – горка ўжэ доля", у выніку якога чалавек губляе сувязь з сялянскай грамадой і вымушаны змагацца за інтарэсы Расійскай Імперыі супраць прадстаўнікоў уласнага народа: "Забыці там трэба, што есць у нас наша бацькаўшчына, што есць у нас наша радня, а аддаці жыццё не за дабро і шчасьце ўсіх, а за ліха і вечну няволю нашых братоў". Аднак замест падзякі за выкананы абавязак рэкрут вымушаны, "праслужыўшы 25 лет да торбу ўзяўшы, ідзі жабраваці!" Віноўнікам такой з'явы называецца "цар, сабача яго вера, як гэты воўк, закрыўшыся, вяліць лавіці, у дыбы скуці і гнаці ад радні далёка".

Працягваючы ўзняты ў № 2 зварот да легендарнага мінулага, "Мужыцкая праўда" ўзгадвае час, калі рэкрутчыны не было, але

404 Літаратура і мастацтва. – 12 чэрвеня 1962 г. – № 47 (1684).

“за тое, што чалавек шоў на вайну, бараніў сваю бацькаўшчыну, то ронд польскі даваў зямлю, даваў вольнасьць, даваў шляхецтва”, сведчаннем чаго названы шляхецкія аколіцы побач з сялянскімі паселішчамі.

“Ронд польскі”, якому нададзены пэўныя станоўчыя рысы, з’яўляецца ў серыі нумароў упершыню. Зроблена гэта ў сувязі з допісам, змешчаным у канцы – пра выступленне супраць рэкрутчыны мужыкоў “кала Варшавы”: “Тады цар паняволі мусіў дараваці” – і з’яўляецца водгукам перамоў, якія адбываліся паміж ЛПК і ЦНК у Варшаве. Паколькі рэкруцкі набор пачаўся ў Варшаве толькі ў ноч з 14 на 15 студзеня 1863 года, то ўзгаданае выступленне – гэта хутчэй за ўсё ўзгадка пра сялянскія хваляванні супраць рэкруцкай камісіі ў Рыпіне 18 лістапада 1862 года, аб чым у Вільню мог паведаміць Баляслаў Далеўскі[405].

У той жа момант, як і ў № 3, робіцца націск на замежную дапамогу з боку Францыі, вера ў якую была шырока распаўсюджана сярод сялян: “Ідзе пранцуз даваці вольнасці мужыкам”.

Пяты нумар больш шырока выкарыстоўвае рэлігійны аспект, з’яўляючыся ўступам да наступнага нумара “Мужыцкай праўды”. Цяпер у выданні гаворыцца не проста пра “вольнасць”, але пра “нашу вольнасць і веру”.

Выкананне рэкрутчыны, пры дапамозе якой цар “нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрагае нас усіх у вечну няволю”, названа справай, якая ажыццяўляецца супраць Божай волі: “А што граху набярэшся перад Богам, спрыяючы маскалеві, таго ніколі Бог не даруе”. Таму “Мужыцкая праўда” заклікае выступаць супраць здачы ў рэкруты: “За мужыцкую крыўду стойце смела, усе разам”.

## *Ненадрукаваны нумар*

У 1989 годзе ў Вільні ў касцёле Святога Францыска Асізскага, больш вядомым як бернардынскі, быў знойдзены рукапісны дакумент пад назваю “№ 6 Мужыцкая праўда”[406]. Яго змест цалкам адрозніваецца ад надрукаванага нумару газеты. І ўсё ж гэты варыянт з’яўляецца ўнікальным і вылучаецца з усяе серыі,

[405] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 300.

[406] 1863–1864 metų sukilimas Lietuvoje. – Lietuvos nacionalinis muziejus, 2013. – S. 102–105.

таму што ўздымае пытанні: хто такія чытачы, да якіх звяртаюцца аўтары "пісьма", і "як называецца гэта зямля".

У адрозненне ад папярэдніх нумароў, тут не маецца звароту "Дзецюкі" ў пачатку, нягледзячы на тое, што ён прысутнічае ў самім тэксце сем разоў. Акрамя таго, няма традыцыйнага подпісу "Яська-гаспадар з-пад Вільні" ў завяршэнні. У той жа час важным допісам з'яўляецца надпіс, зроблены папольску і адрасаваны да тых, хто павінен быў надрукаваць нумар: "Літоўскі правінцыяльны камітэт дазваляе друкаванне з умоваю нязмены і вяртання арыгіналу". Тут жа пазначана месца і дата з'яўлення тэксту: "Вільня, д. 12 кастрычніка 1862 г.". Гэта значыць, што ён напісаны ўжо пасля стварэння Літоўскага правінцыяльнага камітэта, напярэдадні чаго вяліся ініцыяваныя Канстанцінам Каліноўскім спрэчкі вакол адносін з варшаўскім ЦНК. Таму, відавочна, дата пададзена па старым стылі[407]. У пацвярджэнне таго, што "пісьмо" сапраўды паходзіць ад ЛПК, змешчана пячатка арганізацыі ў выглядзе поціску рук з надпісам "Адвага/Развага".

Найбольш важнае ў дакуменце – заява пра тое, што "зямля наша з вякоў вечных называецца літоўская, а мы то называемся Літоўцы". Фактычна аўтар нумару "Мужыцкай праўды" вызначае ідэнтычнасць тых, каму адрасавана выданне. Робіцца гэта таму, што "вы, Дзецюкі, пэўне, не ведаеце, хто вы такія". "Літоўцы" вылучаюцца як суб'ект, які са старажытных часоў быў злучаны ў дынастычны саюз з палякамі, "што жывуць каля Варшавы". Дадзеная сувязь паказана ў ідэалістычным святле і працягвае спрошчанае разуменне гісторыі, паказанае ў № 2 "Мужыцкай праўды". Саюз з палякамі быў абарончы па сваім характары, нёс "адну вольну для ўсіх", а ўтворанае дзяржаўнае ўтварэнне называлася "Польш". Але не ўсе падтрымлівалі гэты саюз, і перш за ўсё, яго праціўнікі былі "з вялікага панскага роду", а таксама "цар маскоўскі", паколькі "вольнасць такая ім вельмі калола вочы".

Дадзены нумар "Мужыцкай праўды" ў дадатак да пазначаных пытанняў адказвае і на пытанне, якім чынам "маскаль пад сябе загарнуў" зямлю, акрэсленую ў дакуменце як "літоўская". Зрабіў гэта ён, дзякуючы "гыцлям", якія "адно чыхалі на нашу вольнасць". Хто ж гэта такія? Гэта паланізм,

[407] Глядзі главу "Утварэнне Літоўскага правінцыяльнага камітэта".

які значыць "кат", або, фігуральна, "нягоднік, ашуканец". Але ў адным месцы тэксту слова "гыцлі" надпісана над выкрасленым "Паны". Такім чынам, гэта прадстаўнікі шляхты, якія пайшлі на змову з маскоўскім царом і здрадзілі сваёй радзіме. У 1831 годзе іх дзеянні сталі прычынаю паражэння паўстання, якое ўзнялі "маладзёж" і "местачковыя". Таму асоба, ад імя якой напісана "пісьмо", заклікае адносна будучага паўстання: "…не аддавайце ў рукі паноў ніякага ронду", што сугучна з дзеяннямі Канстанціна Каліноўскага па ўмацаванні рэвалюцыйнай арганізацыі за кошт "чырвоных".

Дадзены нумар так і не быў надрукаваны. Прычына таго, хутчэй за ўсё, у распачатых перамовах паміж ЛПК і ЦНК у Варшаве. Замест дадзенага тэксту з'явіўся іншы, з заклікамі да звароту да ўніяцтва, ліквідаванага ў Беларусі і Літве ў 1839 годзе. Магчыма, аўтары выдання палічылі, што дадзены тэкст яшчэ заўчасны. Таксама існуе магчымасць, што гэтаму проста перашкодзілі. У любым выпадку, у такой форме ў публіцыстыцы Канстанціна Каліноўскага паняцці "літоўцы" і "літоўская зямля" падчас паўстання не гучаць. А ў "Лістах з-пад шыбеніцы" іх месца займаюць "мужыкі Беларусы".

## *Шосты нумар (снежань 1862 года)*

У канцы снежня 1862 года ўбачыў свет шосты нумар "Мужыцкай праўды", які, відавочна, задумваўся як апошні. Да гэтага часу вядомасць "Яські-гаспадара з-пад Вільні" пашырылася, пераўзыходзячы абшар распаўсюджання самога нелегальнага выдання. Вобраз пачаў замацоўвацца ў сялянскай свядомасці, ператвараючыся ў "брэнд". Нумар апелюе да яго аўтарытэту, таму замест пасыла папярэдніх нумароў "чытайце з увагаю" (№ 3) з'яўляецца новы – "учыў я вас, як рабіці трэба, і учыці буду".

І калі раней тлумачэнні даваліся праз прызму рацыянальнасці, то ў шостым нумары асноўны націск робіцца на рэлігію, якая з'яўлялася, у сукупнасці з сацыяльнай няроўнасцю, найбольш важкай тэмай у сялянскім асяродку: "Бог яшчэ злітуецца над намі і дасць нам шчасце, і дабро ў нас будзе". Галоўная ідэя нумара: адсутнасць шчасця "на гэтам

і на тамтам сьвеце", усе нягоды, якія выпалі на долю сялянства, звязаныя з тым, што яно выраклася "справядлівай уніяцкай веры" ў выніку скасавання ўніяцтва ў 1839 годзе.

"Мужыцкая праўда" тлумачыць, што чалавек быў створаны, "каб знаў закон Божы, знаў свайго Бога". Але "цар маскоўскі, ён-то перакупіўшы многа папоў, вялеў нас у сызму запісаці, ён-то плаціў грошы, каб мы толькі пераходзілі на праваслаўе, і, як гэты антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую – уніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам на векі; а зрабіў гэта для таго, каб мог нас без канца драці, а Бог справядлівы не меў злітавання над намі". "Мужыцкая праўда" адзначае, што Папа Рымскі адправіў перапыненае маскалямі "сваё благаславенне" і "што прышле ксяндзоў, што будуць прымаці на ўніяцкую веру". Аднак, зразумела, гэта не мела ніякага дакументальнага пацвярджэння.

Такім чынам, усе шэсць нумароў "Мужыцкай праўды", за выключэннем больш радыкальнага першага, апелявалі да светапогляду селяніна, акцэнтуючы ўвагу на яго страхах, перажываннях і памкненнях. У завяршэнне газета заклікала маліцца за людзей, "што дабро нам думаюць, што хочуць, каб мы былі вольныя, як шляхта, мелі сваю зямлю, як шляхта, хвалілі Бога па праўдзе і заслужылі на Неба на тамтам свеце".

Канстанцін Каліноўскі ж пасля гэтага пераключыўся на выданне польскамоўнай газеты "Сцяг свабоды".

## *Сёмы нумар (чэрвень 1863 года)*

Сёмы нумар выйшаў праз паўгода пасля папярэдняга і друкаваўся адначасова з "Прыказам... да Народу зямлі Літоўскай і Беларускай", на што ўказвае яго паліграфічнае выкананне. З'яўляючыся самым аб'ёмным выпускам, ён адначасова падагульняе ўсе астатнія і дае парады, "што нам цяпер трэба рабіці"[408].

У пераліку ворагаў сялян "паны" канчаткова былі заменены на "папы", якія разам з чыноўнікамі і маскалямі названы галоўнымі памагатымі цара. У той жа час падкрэсліваецца, што ніякай "справядлівай вольнасці" сялянам не дадуць, паншчы-

[408] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 36.

ну ж замянілі на чынш. Гаворка ў нумары ішла пра ўведзены з 1 сакавіка 1863 года абавязковы выкуп сялянскіх надзелаў у губернях Паўночна-Заходняга краю Расійскай Імперыі. Нягледзячы на тое, што сяляне станавіліся ўласнікамі зямлі, яны павінны былі сплочваць выкупныя плацяжы ў павятовыя казначэйствы: "век цэлы плаці да на век нясі астаткі, штоб адплаціцца палатам да праўленням".

Другой ганебнай з'явай, згодна з № 5, з'яўляецца рэкрутчына. Праўда, у нумары "рэкрут" называны як "некрут" – гэта той, "хто йшоў у маскалі"[409]. Падставаю для першага пасля перапынку ў шэсць гадоў набору названа тое, што "цар са сваімі маскалямі не падужае мужыкоў, што падняліся ў Польшчы, і не падолее Пранцуза, што за Польшчу ўступіўся". Пры гэтым Польшча выступае ў становішчы "іншага" ("у Польшчы мужыкі, таксама, як і мы, спадзяялісь на цара да ждалі волі ад няго"; "памог бы Пранцуз і нам, як памагае мужыкам у Польшчы"). Гэта ідзе ўразрэз з выказваннем Валерыя Булгакава, што "у ягонай (маецца на ўвазе Каліноўскага – В.Г.) публіцыстыцы ня знойдзеш ацэнкі альбо характарыстыкі палякаў, зробленай з пазыцыі вонкавага назіральніка"[410].

У сёмым нумары параўноўваецца "польскі" і "царскі маніхвэсты": "Польскі маніхвэст даў зямлю, не бярэ некрута, скінуў падушнэ, павярнуў унію". Замест рэкрутчыны, заяўляе "Мужыцкая праўда", уводзіцца ўсеагульная служба: "ўсі мужыкі, і паны, і мяшчане, усяк адслужыць 3 гады ў свaeй зямлі і зноў сабе вольны". Яшчэ раз падкрэсліваецца спадзяванне на замежную дапамогу: "А Пранцуз на нас толькі ждзе: да каму ж ён памагаць стане, калі ў нас будзе ціха".

Таксама "Мужыцкая праўда" заклікала дапамагаць сем'ям тых, хто "за нас пойдуць біцца" ў паўстанцкія атрады. І завяршаецца № 5 аптымістычным "А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам да бацькам".

Выданне звяртае ўвагу на махлярства, да якога сялян заклікаюць "царскія служкі", вымушаючы іх дасылаць вернападданніцкія лісты да цара, апошнія з якіх у 1863 годзе актыўна друкаваліся на старонках губернскіх ведамасцей. У той жа час "Мужыцкая праўда" намагаецца паказаць, што сярод ся-

[409] Там жа, с. 38.

[410] Булгакаў, В. Гісторыя беларускага нацыяналізму / В. Булгакаў. – Вільня, 2006. – С. 134.

лян "мала знайшлося такіх", якія працягваюць падтрымліваць царскі ўрад. Аднак гэта не адпавядала рэчаіснасці. Таму аўтары выдання намагаюцца выклікаць спалох у тых, хто жадае зарабіць на здачы паўстанцаў расійскім уладам: "А такіх, што за грошы не пабаяліс служыць ворагам нашым, што не хацелі мужыкам зямлі да праўды на свеце да спрэчны былі новай вольнасці да новаму польскаму маніхвэсту, гэтакіх вешаюць, як подлых сабак, селішча іх апусцелі, пайшлі з дымам іх хат, прапала марна худоба".

## *Моўныя сродкі "Мужыцкай праўды"*

Наўрад ці хто іншы, акрамя саміх аўтараў, меў магчымасць прачытаць усе выдадзеныя нумары. Таму кожны выпуск адначасова завершаны, і ў той жа час з'яўляецца працягам папярэдніх.

Папулярнасць "Мужыцкай праўды" ў асяродку беларускага сялянства была прадвызначана, "у першую чаргу – выбарам слова"[411]. Сярод іх хапае і абразлівых, напрыклад, "чорт", "дурны", "срака" (№ 1), "лапсэсар" у адносінах да асэсара (№ 2), "сабачы" ў адносінах да "ронда" (№ 2). Т. Тамашэвіч адзначае: "З мэтай даступнай і непасрэднай гутаркі з народам К. Каліноўскі "звяртаецца" да прыёму градацыйнага нарошчвання фразеалагічных адзінак, пры якім кожны наступны вобразны слоўны комплекс, ужыты побач з папярэднім, узмацняе сацыяльны змест апошняга (напрыклад: "дзяруць астатнюю шкуру, б'юць і плакаць не даюць" – № 2)"[412]. Да таго ж аўтары "Мужыцкай праўды" выдатна аб'ядноўваюць і па некалькі фразеалагізмаў у адно, як "цар толькі лёстачкамі душу вымае" (№ 7), дзе спалучаны два ўстойлівыя словазлучэнні: лёстачкі падпускаць (слаць) – 'лісліва гаварыць, мякка слаць' і душу вымаць – 'даводзіць да адчаю, глуміцца, здзекавацца з каго'[413].

Другі важны прыём "Мужыцкай праўды" – гэта выкарыстанне параўнанняў: "К. Каліноўскі ўмее будаваць разгорну-

[411] Тамашэвіч, Т.І. Да характарыстыкі моўных асаблівасцей газеты "Мужыцкая праўда" / Т.І. Тамашэвіч // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 29.

[412] Там жа, с. 30.

[413] Там жа, с. 30.

тае параўнанне, напоўненае сацыяльным зместам, які раскрываецца праз вельмі натуральныя супастаўленні бытавога характару… Параўнанні, якія выкарыстаны ў газеце, лёгка даступныя для селяніна, зразумелыя. І ў гэтым іх вобразная і пераканаўчая сіла"[414].

"Мужыцкая праўда" таксама ўдала спалучала прыёмы і сродкі гутарковага і публіцыстычнага стыляў. Гэтага патрабавала форма адозвы. Пачатак кожнага нумара напісаны на ўзор востра сацыяльнай публіцыстыкі. Аўтар ставіць вузлавыя пытанні, праблемы, выкліканыя часам, пытанні лагічныя, надзённыя, якія не могуць не крануць простага "мужыка", пакінуць яго ўбаку. Затым у простай, прыземленай форме аўтар дае адказы, выкрывае здрадніцкую сутнасць цара, вуснамі селяніна страсна пераконвае субяседніка ў існуючай сацыяльнай несправядлівасці, з якой трэба змагацца касой і сякерай"[415].

У выкарыстанні моўных сродкаў Каліноўскі і яго паплечнікі абапіраліся на гаворкі Свіслаччыны. Гэта гутарковая мова, выкарыстанне багатых вобразных сродкаў, метафарычнасці за кошт ужывання шматлікіх фразеалагізмаў – устойлівых словазлучэнняў з цэласным сэнсам. Усяго ў "Мужыцкай праўдзе" каля пяцідзесяці фразеаўжыванняў[416].

"Асноўнае ядро слоўніка "Мужыцкай праўды" – размоўнабытавыя і агульнаўжывальныя словы. Шмат у газеце прастамоўных слоў і выразаў.

Э. Блінова заўважае: "Ужыванне прастамоўна-грубаватых і нават вульгарных слоў тлумачыцца імкненнем аўтара наблізіць мову газеты да жывой гутаркі селяніна, а таксама развянчаць асобу цара-"бацюшкі" і паноў, пасылаючы ў іх адрас моцнае народнае слова"[417].

Звычайныя словы ў публіцыстычным тэксце набывалі своеасаблівае тэрміналагічнае значэнне: грамада, народ, мужыцтва, панства, здзерства, вольнасць. У выніку нездарма Т. Тамашэвіч называе газету "агітацыйна-прапагандысцкім рупарам"[418].

---

414 Там жа, с. 31.
415 Там жа, с. 31.
416 Там жа.
417 Там жа, с. 32.
418 Там жа, с. 29.

## *Распаўсюджванне “Мужыцкай праўды”*

За 1862 год паўстанцкая арганізацыя выйшла за межы Віленскай і Гродзенскай губерняў, распаўсюдзіўшыся ў гарадах губерняў Ковенскай і Мінскай. Адным з накірункаў дзейнасці паўстанцаў было ўладкаванне на пасады сельскіх настаўнікаў і валасных пісарчукоў студэнтаў, якія, “працуючы з энергіяй і самаахвярнасцю, разгарнулі сваю карысную дзейнасць”[419]. Менавіта яны сталі галоўнымі распаўсюджвальнікамі “Мужыцкай праўды”. Гэта рабілася ў асноўным шляхам падкідвання яе нумароў падчас руху па дарогах або ноччу па палетках, у чым прымаў удзел і Валеры Урублеўскі.

Выданне перш за ўсё было накіравана на сялянскую моладзь, якая была гатова да абароны ўласных правоў. Нездарма адзін з распаўсюджвальнікаў выдання, батрак з вёскі Вайнёўцы Сакольскага павета Казімір Станкевіч чытаў яе іншым “скрытна ад старых”[420]. Сяляне верылі “Мужыцкай праўдзе”, аб чым сведчаць словы іншага селяніна, 44-гадовага Мацея Цюхны, пакаранага смерцю за распаўсюджванне газеты: “Прачытай і будзеш усё ведаць”[421]. У канцы снежня 1862 года ў Войнаўцах распаўсюджваўся № 5 “Мужыцкай праўды”, два экзэмпляры якога патрапілі ў рукі сакольскага акруговага начальніка дзяржаўных маёмасцей Сакалова.

Распаўсюджваў газету былы студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта, удзельнік студэнцкіх хваляванняў 1861 года, за якія восем тыдняў адсядзеў у Кранштацкай крэпасці, Іосіф Горчак са Скраблякоў.

Змест газеты завучвалі на памяць і пераказвалі па суседніх вёсках – Мінкоўцы, Номікі, Чапляеўка і іншых. Так непісьменны селянін Міхась Зянцюк з вёскі Номікі даведаўся пра газету ў канцы ліпеня – пачатку жніўня 1862 года і на памяць пераказваў яе змест іншым. Улады адправілі Міхаіла Зенцюка і яго аднавяскоўца Казіміра Хмару ў амурскія батальёны.

Першы факт з’яўлення “Мужыцкай праўды” быў

---

[419] Rożański, F. Z województwa grodzieńskiego / F. Rożański // W czterdziestą rocznicę powstania styczmiowego. – Lwów: Komitet Wydawniczy, 1903. – S. 396.

[420] Кісялёў, Г. Так сейце ж, дзецюкі! / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 24.

[421] Там жа.

зафіксаваны 10 ліпеня 1862 года, калі селянін вёскі Бярозаўка Брэсцкага ўезда Місей Геліч на полі знайшоў надрукаваны лісток. У гэты ж дзень "Мужыцкую праўду" на сваіх палях знайшлі сяляне і суседніх вёсак – Ясенаўка, Падбуржа і Радовічы. Усяго ў рукі паліцыі трапілі пяць экзэмпляраў пад № 1. Але частку аркушаў сяляне паспелі схаваць. Падобная гісторыя паўтарылася на Беласточчыне, дзе пра з'яўленне "Мужыцкай праўды" паліцыя даведалася толькі ў верасні, калі былі выяўлены некалькі зацёртых, пажоўклых старонак першага і другога нумароў выдання.

10 кастрычніка губернатар Пахвіснеў паведаміў Валуеву пра першыя выпадкі з'яўлення нелегальнага, з яго слоў, "перыядычнага выдання" ў падначаленай яму Віленскай губерні.

11 студзеня № 2 і № 3 газеты былі знойдзены салдатамі Неўскага пяхотнага палка ў вёсцы Ёдаўцы Свянцянскага павета. Цікавасць уяўляе тое, што адабралі "Мужыцкую праўду" ў вясковага старасты Андрэя Буйко. Да справы яшчэ прыцягнулі аканома маёнтка Лянцоўшчына Фелікса Тамашэвіча і аканома з мызы Каралінава Мацвея Пятроўскага. У выніку высветлілася, што "Мужыцкая праўда" яшчэ ў лістападзе 1862 года была перададзена Пятроўскаму сакратаром міравога пасрэдніка маёнтка Вішнева Тыбурцыем Ходзькам. Ходзька, Тамашэвіч і Пятроўскі, з'яўляючыся шляхцічамі, былі высланы на катаргу на 4 і 6 гадоў. Паводле слоў Пятроўскага, яму ў рукі трапілі зусім новыя, быццам толькі што аддрукаваныя нумары. Але за некалькі месяцаў яны прайшлі праз шматлікія сялянскія рукі, у выніку чаго выглядалі пажоўклымі і сцертымі[422].

10 студзеня 1863 года на Ваўкавыскім паштовым тракце ў вёсцы Капцёўшына сяляне знайшлі два пакункі з паперамі. Гродзенскі павятовы спраўнік у рапарце ад 14 студзеня паведамляў губернатару, што першы з іх – "Мужыцкая праўда", а другі – "Гутарка старога дзеда"[423].

З пачаткам паўстання "Мужыцкая праўда" пачы-

---

[422] Кісялёў, Г. Так сейце ж, дзецюкі! / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 37.

[423] Сачек, М.Н. Документы ЦГИА БССР в Гродно о жизни и деятельности Кастуся Калиновского / М.Н. Сачек // Кастусь Каліноўскі (1838–1864): материалы республиканской научной конференции, посвященной 150-летию со дня рождения выдающегося белорусского революционера-демократа и мыслителя К. Калиновского. – Гродно, 1988. – С. 64.

нае дабірацца ўсё больш на ўсход. Рапартам ад 21 студзеня віцебскі губернскі жандарскі штаб-афіцэр Турцэвіч паведамляў упраўляючаму III аддзяленнем Патапаву пра знойдзеныя ў губерні экзэмпляры, тры з якіх (№ 3, 4, 5) высылаў з рапартам. А 28 студзеня Турцэвіч ужо паведамляў пра распаўсюджванне газеты па вёсках Дзінабургскага павета "з мэтай выклікаць у простым народзе паўстанне супраць усіх улад"[424].

22 студзеня 1863 года Антаніна Кірэеўна з мястэчка Асінгарадок Дзісенскага павета "доўга не спала і сядзела ля аконца, у той час надвор'е было яснае і ноч светлая ад месяца; між тым каля паўночы заўважыла, што праехалі па той вуліцы, дзе яна жыве, у павозцы на адным кані вялікага росту два нейкія невядомыя чалавекі; апранутыя яны былі: з іх адзін у бурносе шэрага сукна, а другі ў чорным адзенні, пасля чаго неўзабаве павярнулі назад і накіраваліся на другую вуліцу, каля карчмы па дарозе ў вёску Ласіцы..."[425]. Зранку на дамах, прыдарожных слупах, варотах і гаспадарчых пабудовах сялян у мястэчках Асінгарадку і Верхні, у вёсках Ласіцы і Верацейкі былі знойдзены прыбітыя цвікамі чацвёрты, пяты і шосты нумары "Мужыцкай праўды". Значная частка выданняў была параскідана па дарогах, вёсках і корчмах Вілейскага павета.

24 студзеня "нейкія газеты на беларускай мове, накіраваныя супраць цара і ўрада"[426] чытаў сялянам сын арандатара фермы Мілейкава паблізу Крэва Ляшчынскі.

27 студзеня ў мястэчку Жалудок Лідскага павета вікарны ксёндз Станіслаў Ішора зачытаў прыхаджанам маніфест Часовага ўрада аб пачатку паўстання і абвясціў "мужыкам, каб не хадзілі на паншчыну". Ён таксама паклікаў да сябе арганіста Адама Калясінскага: "Ён чытаў мне, не ведаю, нейкую "Харунгев свабоды". І зноў схаваў, а мне даў нейкія друкаваныя аркушыкі "Яська – з-пад Вільні гаспадар" і казаў, каб я параскідваў па рынках ці каму аддаў прачытаць..."[427].

Генадзь Кісялёў адзначаў: "Вельмі паказальна, што першыя пакаранні смерцю ў Мінску і Вільні звязаны менавіта з распаўсюджваннем "Мужыцкай праўды"[428].

[424] Кісялёў, Г. Так сейце ж, дзецюкі! / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 43.

[425] Там жа, с. 57.

[426] Там жа, с. 62.

[427] Там жа, с. 60.

[428] Там жа, с. 60.

У пачатку лютага "Мужыцкую праўду" сваім сялянам чытаў Юліян Барткевіч, які арандаваў мызу графа Лапацінскага Аннадвор Дзісненскага павета, за што арандатар быў сасланы ў Сібір. У гэты ж час "Мужыцкая праўда" распаўсюджвалася сярод рабочых металургічнага завода графа Храптовіча ў мястэчку Вішнева Ашмянскага павета. Нават рыхтаваўся план начнога нападу на атрад рускіх войскаў з мэтаю захопу артылерыі, але яго так і не здзейснілі. Распаўсюджваннем газеты ў Вішнева займаліся механік Мікодым Пятровіч і селянін Іван Юша, якія 7 лютага былі арыштаваны казакамі і па загаду Мураўёва ў верасні 1863 года сасланы разам з сем'ямі ў Табольскую і Пермскую губерні.

У гэты ж час газету чыталі ў хаце лесніка Нехнядовіча недалёка ад Іўя. Прысутнічалі сяляне вёскі Галімшчына. Газету прынёс лясны аб'ездчык Уладзіслаў Свярчынскі. Гэта быў трэці нумар "Мужыцкай праўды". Свярчынскі, які прыбыў з Варшавы, распавядаў пра паламаную чыгунку паміж Варшавай і Гроднам і пра тое, што "ў крэпасці ў Модліне злучылася гвардыя з палякамі"[429]. Паколькі Свярчынскі быў замежным падданым, яго выслалі за мяжу.

У лютым 1863 года два экзэмпляры газеты былі знойдзены каля вёсак Стараельня і Заполле Навагрудскага ўезда Мінскай губерні. 28 лютага адзін аркуш разам з маніфестам Часовага правінцыяльнага ўрада Літвы і Беларусі аб пачатку паўстання быў накіраваны мінскім губернатарам Кажэўнікавым генерал-губернатару Назімаву ў Вільню.

6 лютага 1863 года ў карчме пры вёсцы Камень Барысаўскага павета газету сялянам прачытаў Міхал Цюндзявіцкі, пакараны за гэта смерцю.

10 лютага 1863 года ў Лондане ў газеце "Głos wolny", што выдаваў А. Жабіцкі[430], быў перадрукаваны № 6 "Мужыцкай праўды", пра якую было сказана: "таемнае пісьмо, выдаванае ў Мінску на беларускім нарэччы"[431].

Адзін з удзельнікаў скасавання царкоўнай уніі полацка-віцебскі архіепіскап Васілій 21 студзеня 1863 года накіраваў ліст да обер-пракурора Свяцейшага Сінода генерала Ахмата-

[429] Там жа, с. 62.

[430] У далейшым член Генеральнага савета І Інтэрнацыянала

[431] Przygotowania do powstania na Litwie i Białorusi // Głos wolny. – 10 lutego 1863. – № 5. – S. 23.

ва: "Я атрымліваю пэўныя звесткі, што род газеты, якая выдаецца ў Вільні рэвалюцыйным таварыствам на беларускай мове, – "Мужыцкая праўда", мэта якой усхваляць просты народ супраць урада рускага і схіліць да агульнай разні, – у вялікім мностве пашыраецца ў Дзісненскім павеце Віленскай губерні, сумежным з Дрысенскім і Лепельскім Віцебскай губерні, і, зразумела, распаўсюдзіцца хутка ў гэтых паветах пры нахабным садзеянні прапагандыстаў, якіх нямала хаваецца ў тутэйшай губерні"[432].

25 лютага пра знойдзены экзэмпляр газеты ў Люцынскім павеце ў вёсцы Выстоў паведамляў люцынскі благачынны Кушын: "…такіх шмат ёсць у сялян, і падбухторшчыкі смела ездзяць, калі мужыкам тлумачаць, і падобныя лісткі наклейваюць пры карчмах, пры капліцах, а ў вёсках падкідваюць"[433]. Распаўсюджваннем газеты займаліся паўстанцы з маёнтка Марыенгаўзен, дзе пад кіраўніцтвам адстаўнога паручніка Антонія Рыка вялася падрыхтоўка да выступлення, была наладжана друкарня "Зямлі і волі". Сястра Антонія Марыя Рык перадала № 6 "Мужыцкай праўды" канторшчыку Рамуальду Бжазінскаму, які падчас праводзімага паліцыяйператрусу ў маёнтку, паведаміў пра гэта ўладам.

Пэўнай праблемай для распаўсюджвання газеты ва Усходняй Еўропе было тое, што яна друкавалася лацінкай. Так, дачка ўладальніцы маёнтка Ігнапаль Полацкага павета Марыя Свіршчэўская ў сакавіку 1863 года, дэманструючы сялянам "Мужыцкую праўду", казала: "Гэтую кніжку пісаў у Польшчы мужык Яська… Хто трапіць з рускага боку ў Польшчу, гэтыя кніжачкі рускаму кладуць у кішэнь…"[434].

Вясною 1863 года распаўсюджваннем "Мужыцкай праўды" займаўся 34-гадовы селянін Крэўскай сельскай грамады Вікенцій Тамашэвіч. За яго адукаванасць у юнацтве яго абралі старшынёю грамады, але ён добраахвотна пакінуў пасаду. Тамашэвіч перадаў селяніну Феліцыяну Грыневічу № 2 "Мужыцкай праўды" і № 3 "Гутаркі двух суседаў". Аднак вядома гэта стала ўладам толькі ў верасні 1863 года. Дзякуючы Тамашэвічу, як адзначаў ашмянскі ваенны начальнік Пахомаў

[432] Кісялёў, Г. Так сейце ж, дзяцюкі! / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 43–44.

[433] Там жа, с. 45.

[434] Там жа, с. 47.

у лісце да Мураўёва 14 кастрычніка 1863 года, “не зусім паспяховай” стала арганізацыя сельскага каравула ў мястэчку Крэва. Тамашэвіч быў сасланы ў Астраханскую губерню, адкуль вярнуўся на Радзіму толькі ў 1881 годзе.

1 сакавіка 1863 года свяшчэннік Груздоўскай царквы Ашмянскага павета Кладніцкі накіраваў валожынскаму благачыннаму Адамовічу “падкінутыя сялянам падбухторваючыя і мяцежныя паперы” – № 4, 5, 6 “Мужыцкай праўды” і “Гутарку старога дзеда”. Яны былі знойдзены яшчэ ў канцы студзеня каля хаты, у якой вартавалі падрыхтаваных для здачы рэкрутаў з вёскі Капач, і адрасаваны селяніну гэтай вёскі Васілю Сыраквашу, які тлумачыў: “Маруднасць мая ў адсылцы гэтых папер епархіяльнаму начальству вынікала з апаскі, каб яны не былі адабраны выпадкова ў пасланца”[435].

6 мая 1863 года на досвітку трэці нумар “Мужыцкай праўды” знайшла сялянка вёскі Сакі Кобрынскага павета. Газета была ўсунута ў пляцень пры яе гародзе.

30 мая 1863 года тры экзэмпляры “Мужыцкай праўды” былі адабраны ў прапаршчыка 1-га рэзервовага стралковага батальёна Гераніма Швайніцкага на станцыі Жослі ў Троцкім павеце. У выніку ён быў звольнены са службы і адпраўлены ў Арэнбургскую губерню пад строгі нагляд паліцыі.

У чэрвені 1863 года на дарозе каля мястэчка Еўе Троцкага павета быў знойдзены № 7 “Мужыцкай праўды”, які быў перасланы мясцовым прыходскім свяшчэннікам у Трокі благачыннаму.

У першай палове ліпеня 1863 года селянін вёскі Парчэўцы Сакольскага павета знайшоў адзін з нумароў “Мужыцкай праўды” па дарозе з Кузніцы ў Саколку.

8 ліпеня ўначы сёмы нумар “Мужыцкай праўды” быў прыклеены на слупе за вёскай Стары Корнін Бельскага павета і такі ж падкінуты да хаты старшыні.

У жніўні 1863 года ў Вежацкай воласці ў вёсцы Стаўпы невядомы прыбіў сёмы нумар “Мужыцкай праўды” і “Прыказ… да народу” да хаты селяніна Сцяпана Касюціча. Паўгода гэтыя дакументы вандравалі з хаты ў хату, пакуль не былі перададзены ўладам. У распаўсюдзе быў абвінавачаны валасны пісар Леў Мянчынскі, які належаў да сялян Сакольскага павета. Ён быў сасланы ў Томскую губерню на пасяленне.

[435] Там жа, с. 64.

Сёмы нумар газеты і “Прыказ… да народу зямлі літоўскай і беларускай” знайшлі таксама ў вёсцы Такары Брэсцкага павета. 22 жніўня 1863 года сялянскія дзеці, якія выганялі раніцай валоў, знайшлі 8 экзэмпляраў дакументаў перад хатамі старасты, соцкага і суддзі. У гэты час у Такарах знаходзілася вялікая колькасць паліцыі, паколькі за некалькі тыдняў да таго ў паўстанцкі атрад з вёскі пайшлі шэсць часоваабавязаных праваслаўных сялян, якія збілі вартаўніка і пабілі вокны ў двары памешчыка Такарэўскага. Маці былога салдата Мар’я Федарук распавядала, што сын яе Янка пакутаваў ад памешчыка і збег ад яго. За распаўсюджванне “Мужыцкай праўды” ў Такарах быў арыштаваны толькі валасны пісар Феафіл Сеген, абвінавачаны ў самавольным знішчэнні двух экзэмпляраў газеты, пазней высланы ў Самарскую губерню.

У кастрычніку 1863 года салдатамі падчас рэкагнасцыроўкі ў Церабінскіх лясах Брэсцкага павета быў знойдзены сёмы нумар газеты разам з дэкрэтамі варшаўскага Нацыянальнага ўрада ад 10 (22) студзеня аб надзяленні сялян зямлёю.

31 кастрычніка 1863 года быў праведзеныператрус у Гродзенскай палаце дзяржаўных маёмасцей, падчас якога знайшлі 37 экзэмпляраў “Мужыцкай праўды” № 3 і 5. Таксама тут жа быў знойдзены пярсцёнак з надпісам “1861.L. 27 d.”, які ўказваў на дату расстрэлу дэманстрацыі ў Варшаве 27 лютага 1861 года, а таксама партрэт Гарыбальдзі з запіскай: “(Хай) даверany неадкладна разашле ўмелым (людзям) кожнай вёскі непрыкметным спосабам у форме пісем пад асабістай адказнасцю. Зямляк, не парушай веры, у адваротным выпадку – спалі”[436]. Да справы былі прыцягнуты тытулярныя саветнікі Петр Вяржбіцкі, Людамір Абрэмскі[437], які займаў пасаду паўстанцкага ваявод-

[436] Там жа, с. 49.

[437] Быў ураджэнцам Слонімскага павета, але жыў у Гродне. З кастрычніка да арышту 12 лістапада 1863 года знаходзіўся на службе ў Гродзенскай палаце дзяржаўных маёмасцей. Жыў разам з жонкай і сваячніцамі Францыскай і Тэкляй Янушкевічаўнамі, а таксама Францам Данілецкім. НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. – Арк. 121.

Ахрышчаны ў м. Дзярэчын, бацька – Павел з дваран Плоцкай губерні Царства Польскага, маці – Францішка з Багушэвічаў, дваранка Слонімскага павета. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, пасля заканчэння трох класаў у 1840 годзе паступіў на дзяржаўную службу ў штат Гродзенскай гарадавой паліцыі, адкуль з красавіка 1841 года быў пераведзены ў Гродзенскую палату дзяржаўных маёмасцей. Меў ганаровы знак за 15 гадоў бездакор-

скага касіра, калежскія сакратары Рамуальд Сінкевіч, Юрый Сарасек, калежскі рэгістратар Іван Дзенісевіч і казённы селянін Антон Матусевіч. Аднак жандары так і не высветлілі, каму дакладна належаць паперы. Таму толькі Рамуальд Сінкевіч, у распараджэнні якога знаходзілася шафа са знойдзенымі нелегальнымі выданнямі, быў сасланы ў Томскую губерню.

З-за знаходак у Гродне было прынята рашэнне правесці раптоўныя ператрусы ў валасных упраўленнях, у валасных пісараў і старшынь з мэтай адшукання "Мужыцкай праўды" ці іншых забароненых папер. У выніку высветлілася, што ў Кобрынскім павеце "Мужыцкая праўда" была прыбіта на крыжах ва ўсіх валасцях, што належаць Палаце дзяржаўных маёмасцей. Аднак знайсці хоць адзін экзэмпляр у паліцыі не атрымлівалася, пакуль у вёсцы Моталь дыякан мясцовай царквы не паведаміў ваеннаму начальніку 5-га стана Кобрынскага павета штабс-капітану Чарнапятаву, што бачыў газету ў асавецкай валаснай канцылярыі. У выніку ў пісара Андрэя Кржывіцкага былі знойдзены нумары 4 і 5 "Мужыцкай праўды". Толькі цяжкая хвароба, ад якой той памёр у чэрвені 1864 года, уратавала яго ад арышту. Як адзначалася, у Кржывіцкага меліся яшчэ нейкія вершы "на простанароднай літоўскай мове"[438].

31 кастрычніка ў выніку раптоўнага ператрусу ў будынку Ашмянскай дваранскай апекі былі знойдзены 12 экзэмпляраў № 2 "Мужыцкай праўды" і 21 экзэмпляр № 3 і № 4 і "Гутаркі двух суседаў". А таксама выяўлена існаванне "Бібліятэкі ашмянскай моладзі", бібліятэкарам у якой быў пісьмавадзіцель апекі Фульгеній Акушка. Бібліятэка была філіялам таемнага таварыства.

"Мужыцкую праўду" працягвалі знаходзіць і пасля задушэння паўстання. 21 кастрычніка 1864 года сяляне вёсак Заваршаны і Дзявяткі Пружанскага павета ссыпалі збожжа ў запасны хлебны магазін у маёнткуКіватычы, калі ўбачылі схаваныя пад павеццю паперы. Непісьменныя сяляне перадалі пакунак з надпісам "Шарашоўскаму акруговаму Муху, № 7" валасному пісару, які, параіўшыся са святаром, адправіў зна-

най службы. Жанаты на дваранцы Марыі Завітоўскай. Меў двух сыноў – Максіміліяна (11 гадоў), Рышарда (8 гадоў) і дачку Ядвігу (5 гадоў). НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. – Арк. 128.

[438] Кісялёў, Г. Так сейце ж, дзецюкі! / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 50.

ходку станавому прыставу. У пакунку мелася вялікая колькасць экзэмпляраў сёмага нумару “Мужыцкай праўды” і “Прыказа... да народу зямлі літоўскай і беларускай”, а таксама незапоўнены бланк “Акта аб надзяленні зямлёй сялян”. Экзэмпляры былі зусім новымі[439].

Па суседству размяшчаўся маёнтак Лышчыкі, якім валодаў арыштаваны ўладамі памешчык Аляксандр Властоўскі. У час паўстання ён выконваў функцыі начальніка Ківатыцкай акругі. Властоўскі падтрымліваў сувязі з уладальнікамі маёнтка Маце, які належаў бацькам Уладзіслава Малахоўскага – Тэафіліі Малахоўскай, удзельніцы маніфестацыйнага руху і паўстання, якая вымушана была выправіцца за мяжу, каб не трапіць пад рэпрэсіі, і Юльяну Малахоўскаму, які памёр у 1865 годзе ў турме. Менавіта Властоўскі перапраўляў па ваколіцы пакеты з нелегальнай літаратурай кшталту таго, што быў знойдзены ў маёнтку Ківатычы і адпраўлены начальніку Шарашоўскай акругі, які меў псеўданім Муха. Гэта быў памешчык маёнтка Галены Мядард Скачынскі. Властоўскі ж за сваю дзейнасць быў прыгавораны да смяротнага пакарання, замененага катаргай.

У снежні 1865 года падчасператрусу ў хаце селяніна Казіміра Лукашунаса, які камандаваў паўстанцкім атрадам, у мястэчку Дусяты Новааляксандраўскага павета Ковенскай губерні быў знойдзены № 7 “Мужыцкай праўды”.

9 сакавіка 1960 года “Мужыцкая праўда” была знойдзена ў Вільнюсе падчас рамонтных прац на гарышчы старога дома па вуліцы Горкага, 31. Гэта былі надрукаваныя № 2 і № 3 і рукапісныя № 1 і № 3. Акрамя таго тут жа меўся рукапісны варыянт “Гутаркі старога дзеда” і твор пад назвай “Песня Саўкі Цягліка”.

[439] Там жа, с. 51.

## *Напярэдадні*

У 1862 годзе К. Каліноўскі зрабіў два свае фотаздымкі. На першым з іх ён у чорным гальштуку. 7 лютага 1905 года яго сястра Казіміра Багушэвіч адаслала гэтую фотакартку ў Вільню, каб тая была выкарыстана пры публікацыі мемуараў Я. Гейштара[440]. Арыгінал не захаваўся, але была зроблена копія, якая цяпер прадстаўлена ў Нацыянальным музеі Літвы (былы Гісторыка-этнаграфічны музей у Вільнюсе). Яшчэ адзін фотаздымак К. Каліноўскага ў поўны рост, каля люстэрка, зрабіў яго сябар Ахіл Банольдзі. Арыгінал захоўваецца ў Музеі польскага войска ў Варшаве. Яшчэ два меркаваныя фотаздымкі К. Каліноўскага былі вызначаны памылкова. Так, у 1859 годзе здымак паўстанца з стрэльбай А. Смірноў прыпісаў асобе Каліноўскага[441]. Яшчэ адна выява, выяўленая Вольгай Гарбачовай[442], па выніках праведзенай крыміналістычнай экспертызы не пацвердзілася[443].

Жандары, якія беспаспяхова шукалі К. Каліноўскага, не мелі яго графічных выяў і карысталіся толькі апісаннем прыкмет: “каля 30 гадоў, росту сярэдняга, мажны, цёмна-русы, твар вялікі, рысы грубаватыя”[444]. Таму Каліноўскі, ужываючы іншыя прозвішчы, спакойна вандраваў па тэрыторыі Гродзенскай губерні і, урэшце, перабраўся ў Вільню, дзе пасяліўся на кватэры ўдавы віленскага губернскага архітэктара Юзэфы Грагатовіч на Зарэччы, насупраць касцёла Св. Варфаламея. Адначасова з ім тут жылі Стэфанія Фальская і Браніслава Сідаровіч. У пачатку 1863 года Каліноўскі пакінуў гэтую кватэру, якую пасля некалькі разоў наведваў, пазнаёміўшыся з дачкою гаспадыні Марыяй Грагатовіч. Тая прыехала ў Вільню ў сакавіку 1863 года. Нічога не ведаючы пра заняткі Каліноўскага, яна ў далей-

---

[440] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. 2 t. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 234.

[441] Смирнов, А. Кастусь Калиновский / А. Смирнов. – М., 1959. – С. 64.

[442] Гарбачова, В. Паўстанцы 1863 года на фотаздымках / В. Гарбачова // Arche. – 2010. – № 12. – С. 105.

[443] Янушкевіч, Я. Еўрапеоід, але ці Каліноўскі? / Я. Янушкевіч // Наша ніва.– 18 сакавіка 2015. – № 11. – С. 14.

[444] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 6. – Арк. 37.

шым зрабілася адной з галоўных сведак, дзякуючы якой будзе пацверджана асоба арыштаванага К. Каліноўскага, які прадставіўся настаўнікам Макарэвічам[445].

Мабільнасць Каліноўскага ва ўмовах паліцэйскага вышуку здзіўляе. 5 снежня 1862 года яго бацька атрымаў ад сына ліст з Пецярбурга, дзе адзін з лідараў ЛПК мог прымаць удзел у перамовах Зыгмунта Падлеўскага з ЦНК і Андрэя Патэбні з Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы і "Зямлёй і воляй", пра што адзначаў Г. Кісялёў[446]. Але Раство 1862 года Каліноўскі, да якога ў госці прыехаў Ідэльфонс Мілевіч, сустракае ўсё ж у Вільні на кватэры Ямантаў. Калі ж 1 студзеня 1863 года Мілевіч ад'язджае назад у Гродна[447], Каліноўскі зноў выпраўляецца ў Пецярбург, дзе жыве на вуліцы Вялікай Пасадскай, 16 і займаецца ўладкаваннем папер старэйшага брата Віктара. 8 студзеня Канстанцін ад'ехаў у Вільню.

Пасля вяртання з Пецярбургу Каліноўскі з'язджае з кватэры Грагатовіч і перабіраецца ў іншае памяшканне, "каля Баніфратараў, дом Кільчэўскай", пад імем Макарэвіча[448]. Менавіта тут яго застала навіна пра пачатае 10 (22) студзеня 1863 года ў Польшчы паўстанне, падставаю да якога паслужыў рэкруцкі набор. Вестку пра гэтую падзею разам з экзэмплярамі маніфеста ў Вільню прывёз Юза Пятроўскі, агент ЦНК, камісар Аўгустоўскага ваяводства.

## *Газета "Сцяг свабоды"*

1 студзеня 1863 года (20 снежня па ст. ст.) у Вільні з'явіўся першы нумар газеты "Chorągiew swobody", якая стала афіцыйным органам Літоўскага правінцыяльнага камітэта, ператоранага затым у Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы. Назва выдання ўвасоблена ў выяве паўстанца, узброенага сякераю і касою, які трымае ў руках харугву з Пагоняй і Арлом. Змест яе раскрыты ў канцы праграмнага артыкула: "Дык разам да працы, браты, а калі надыдзе час, паднімем СЦЯГ СВАБОДЫ, і пра-

[445] Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / Уклад. З. Кузменка. – Мн.: Галіяфы, 2014. – С. 23.

[446] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 134.

[447] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 1 адв.

[448] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 137.

клятая сіла захопнікаў згіне, як імгла перад сонцам"[449]. Аўтарам малюнка мог быць мастак Антон Залескі з Троцкага ўезда, член ЛПК, які шэраг сваіх твораў прысвяціў падзеям паўстання 1863–1864 гадоў.

Эпіграфам да газеты сталі словы Адама Міцкевіча: "Я адчуваў, што пра абавязак разважаць няможна"[450], – маецца на ўвазе, што абавязак павінен выконвацца без разважанняў. Праграмны артыкул першага нумару напісаны пад уплывам папулярных у асяродку шляхты былой Рэчы Паспалітай ідэй польскага месіянізму, распрацаваных Міцкевічам, названым "вялікім дзяржаўным мужам"[451]. У адпаведнасці з дадзеным філасофскім накірункам, тэкст напоўнены адсылкамі да біблейскага сюжэту, рэлігійных паняццяў[452]. Нездарма праблеме веры прысвечаны і № 6 "Мужыцкай праўды", над якой Каліноўскі і яго паплечнікі працавалі напярэдадні выдання "Сцяга свабоды". Але гэта не больш чым прапагандысцкія сродкі, пры дапамозе якіх аўтары выдання намагаюцца выкласці ўласныя ідэі і ўздзейнічаць на пачуцці насельніцтва тэрыторыі Беларусі і Літвы. Пацвярджэннем таму з'яўляецца адвольна трактаваная тэорыя палітычнага быцця заняволеных народаў[453]. Само існаванне такіх народаў падзелена на тры эпохі:

[449] Цыт. паводле: Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 51.

[450] Pisma Adama Mickiewicza na nowo przejrzane, dopełnione, i za zezwoleniem jego w tem siódmem s kolei wydaniu do druku podane. Tom IV. – Paryż, 1844. – S. 281.

[451] Цыт. паводле: Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 49.

[452] Сярод іх: "нібы ў запаветным каўчэгу пад шатрамі ізраільцянаў у пустыні", "благаславеннага светача", "пакутніцтва", "шлях да ўваскрасення з мёртвых ідзе толькі праз Галгофу", "Але нарэшце над змучаным сваім народам злітаваўся Усявышні", "нашы малітвы", "у імя Божае", "пякельныя сілы". "Бог зазззяе бляскам справядлівасці, адродзіцца сілай згоды і роўнасці сваіх сыноў".

[453] А. Міцкевіч на прыкладзе польскага народа падае сваё бачанне на гэты конт наступным чынам: "І закатавалі польскі народ, і апусцілі ў труну, а каралі ўсклікнулі: "Мы забілі і пахавалі вольнасць".

А ўсклікнулі бессэнсоўна, бо, здзяйсняючы апошняе злачынства, перавысілі меру няпраўд сваіх, і скончылася сіла іх тады, калі больш усяго радаваліся.

Бо народ польскі не памёр, цела яго ляжыць у труне, а душа яго выйшла з зямлі, гэта значыць з грамадскага жыцця, да агменяў, гэта значыць да

1) адразу пасля страты незалежнасці, калі “элементы разлажэння, якія выклікалі ўпадак народа, шумяць і гуртуюцца вакол прыгнятальніка”, але “паступова традыцыя нацыянальнай годнасці, якая захавалася ў сэрцах нямногіх, нібы ў запаветным каўчэгу пад шатрамі ізраільцянаў у пустыні, пачынае чыстым промнем свяціць сярод непрагляднай ночы няволі”;

2) “эпоха світанку”, калі “паасобныя раннія ахвяры зрэдку падаюць каля гэтага благаславеннага светача надзеі, сілкуючы яго нявіннай пакутніцкай крывёю”, пакуль не надыходзіць пара, “калі тайныя змовы і паасобныя ахвяры робяцца неадпаведнымі часу, бо ўвесь народ паверыў у свае сілы, у магутнасць свайго духу, бо адчуў, што ўсялякі бруд асеў на дно і не адважваецца ўжо беспакарана выплываць наверх”;

3) “эпоха даверу, узаемнай салідарнасці, велізарнай маральнай сілы”. Але яна не можа доўга працягвацца, таму што ўвесь народ “парываецца да дзеяння, спяшаецца на барацьбу з прыгнятальнікам за сваю свабоду і незалежнасць”.

З расстрэлам мірнай дэманстрацыі ў Варшаве 27 лютага 1861 года на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, у адносінах зямель якой у тэксце ўжываецца назва “Польшча”, фактычна існуе “становішча рэвалюцыі”. Але непасрэдна да пачатку барацьбы неабходна прыкласці апошнія намаганні па гартаванні ўсіх сіл, у тым ліку і з сялянамі, якія ў шляхецкай традыцыі названы “малодшымі нашымі братамі”. Гэта быў яшчэ не заклік да паўстання[454], а зварот да гартавання ўсіх сіл напярэдадні яго:

---

жыцця хатняга людзей, якія пакутуюць у няволі ў краіне і па-за краінай, каб бачыць трыванне іх.

А трэцяга дня душа вернецца да цела, і народ уваскрэсне, і вызваліць усіх людзей Еўропы з няволі.

І прайшло ўжо два дні; адзін дзень звязаны з першым узяццем Варшавы, а другі дзень звязаны з другім узяццем Варшавы, і трэці дзень настане, але не завершыцца.

І як з уваскрасеннем ХРЫСТА спыніліся на зямлі ўсёй крывапралітныя ахвяры, так з уваскрасеннем польскага народа спыняцца ў Хрысціянстве войны”.

Mickiewicz, A. Księgi narodu polskiego i pielgrzymstwa polskiego / A. Mickiewicz. – Paryż, 1832. – S. 28–30.

[454] Польскі гісторык Дарота Міхалюк лічыць інакш: “Гэтымі словамі Літоўскі правінцыяльны камітэт заклікаў насельніцтва да паўстання”. Міхалюк, Д. Нелегальны польскамоўны друк пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага / Д. Міхалюк // Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, Лондан, 27–29 сакавіка 2014 г. – Мінск, 2015. – С. 49.

“Час выбуху, час агульнага паўстання ў імя святых правоў нашага народа блізіцца, і, паколькі сумнявацца ў нашых маральных сілах ужо ніхто не адважваецца, трэба падлічыць і падрыхтаваць сілы матэрыяльныя”.

Поспех у гэтай барацьбе будзе дасягнуты толькі сумеснымі дзеяннямі ўсіх сіл “народа” (“нацыі”), які ўжываецца ў тэксце газеты “без этнічнага адцення” [455] і пад якім маюцца на ўвазе жыхары зямель колішняй Рэчы Паспалітай, незалежна ад паходжання і веравызнання[456]. Спробы вырашэння гэтага пытання “не ў парламенцкіх пікіроўках, не ў дыпламатычна-грамадскіх спекуляцыях, а ў дзеянні, бо ва ўмовах татарска-нямецкай палітыкі захопнікаў мы марна спрабавалі б весці нашы справы на карысць айчыны”. Пад “татарска-нямецкай палітыкай” мелася на ўвазе палітыка расійскага самадзяржаўя[457].

У якасці прыкладу марнасці такіх дзеянняў у газеце прыводзіўся артыкул “Пра Мінскія сеймікі”, выбары ў якія адбыліся ў лістападзе 1862 года. На іх было вырашана выступіць за далучэнне Мінскай губерні да Каралеўства Польскага, у выніку чаго сеймік быў распушчаны. Але, як падкрэсліваў сам Каліноўскі, “заявы мінскія, хоць вельмі нявінныя, былі, аднак, асуджаныя многімі”[458], што было выклікана спадзяваннем шляхты на “матэрыяльнае і маральнае паляпшэнне краю пры цяперашнім палітычным становішчы яго”[459]. Аднак нават такія спробы не прымаліся расійскім урадам: “Таму Літоўскі Правінцыяльны Камітэт як арганізацыйная сіла ў Літве і на Беларусі заклікае ўсіх грамадзян, якія шчыра любяць айчыну, без розніцы стану і вызнання, да аднадушных дзеянняў, каб заваяваць цяпер нацыянальную незалежнасць”.

---

455 Там жа, с. 50.

456 “Абвяшчаючы прынцып раўнапраўнасці ўсіх станаў і вызнанняў, без крыўды чыёй-небудзь уласнасці і свабоды сумлення, заклікаючы да адзінства працы ўсе без выключэння пласты польскага грамадства ў імя Свабоды і Народа, Правінцыяльны Камітэт не сумняваецца, што задавальняе агульныя памкненні, аднадушныя патрабаванні краю”.

457 Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 307.

458 Так Каліноўскі ахарактарызаваў “мінскі сеймік” у тлумачальнай запісцы ад 28 лютага 1864 года. Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / Уклад. З. Кузменка. – Мн.: Галіяфы, 2014. – С. 66.

459 Там жа.

У сувязі з імкненнем прапагандысцкага ўздзеяння на шляхту і на фоне спроб дамовіцца аб адзінстве сумесных дзеянняў як з “белымі” ў краі, так і варшаўскім ЦНК, з якім перамовы вёў Баляслаў Длускі, ЛПК названы толькі “арганізацыйнай сілай у Літве і Беларусі”. У гэтым плане арганічна выступае заклік да яднання ў межах былой Рэчы Паспалітай, названай “польскай зямлёй”: “Паўсюль, дзе нацыянальная жалоба, адкідаючы блюзнерскія трактаты прыгнятальнікаў, грозна пазначыла межы польскай зямлі, нас звязвае салідарнасць прынцыпаў і мэты”.

У той жа час у газеце прысутнічае ўзгадка пра адзін з важнейшых пунктаў праграмы “чырвоных” у Літве і Беларусі – пра сумесныя дзеянні з прадстаўнікамі рускіх дэмакратаў супраць царызму, які названы галоўным ворагам: “Народ маскоўскі скаланаецца ад нашай векавой крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам быць жадае і адказнасць перад нашчадкамі за нашу жалезную няволю рашуча ўскладае на гатовы пасці царызм”.

Усяго пабачыла свет тры нумары газеты, два з якіх (ад 1 студзеня і 19 лютага) адносяцца да часу кіраўніцтва паўстанцкай арганізацыяй Канстанцінам Каліноўскім. Трэці быў выдадзены 8 чэрвеня (27 мая), ужо пасля пераходу ўлады ў рукі “белых” на чале з Якубам Гейштарам.

## *“Чырвоныя” і “белыя”*

Напярэдадні паўстання сфарміраваліся два лагеры яго ўдзельнікаў, якія адрозніваліся як палітычнымі поглядамі, так і шляхамі дасягнення агульнай для іх мэты – аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, напярэдадні першага падзелу яе тэрыторыі Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Іх называюць “белыя” і “чырвоныя”.

На хвалі росту патрыятычных настрояў у грамадстве і правядзення маніфестацый ў 1860–1861 гадах у Польшчы радыкальныя таемныя афіцэрскія і студэнцкія суполкі пачынаюць аб’ядноўвацца восенню 1861 года вакол аднаго цэнтра – гарадскога камітэта, які першапачаткова падтрымліваў цесныя сувязі з заснаваным пасля паражэння паўстання 1830–1831 гадоў у эміграцыі Польскім дэмакратычным таварыствам.

Яны разлічвалі на хуткі пачатак паўстання і ажыццяўленне рэформ, сярод якіх вызваленне сялян без усялякіх грашовых спагнанняў. Найважнейшымі дзеячамі гэтага лагера былі Оскар Авейдэ, Стэфан Бабpoўскі, Яраслаў Дамброўскі, Людвік Мераслаўскі, Зыгмунт Падлеўскі, Агатон Гілер, Зыгмунт Серакоўскі, Браніслаў Шварцэ.

Аднак сярод “чырвоных” насамрэч не было адзінства. Правая, памяркоўная іх частка, разлічвала на аднаўленне адзінай Рэчы Паспалітай без усякіх паслабленняў у адносінах іншых народаў на яе тэрыторыі, разлічвала на дапамогу памешчыкаў, якім абяцалася захаванне маёнткаў і аплата кошту зямлі, перададзенай сялянам. Таксама ў праграму, зацверджаную летам 1862 года, уключаліся замена падушнага падатку (з асобы) падымным (з гаспадаркі), увядзенне трохгадовай вайсковай службы замест 15-гадовай рэкрутчыны, аднаўленне ўніяцкай царквы.

У той жа час левая частка “чырвоных”, да якой належаў і Канстанцін Каліноўскі, напярэдадні паўстання разлічвала на аднаўленне Рэчы Паспалітай на федэратыўных пачатках, ліквідацыю сацыяльнай няроўнасці шляхам знішчэння саслоўнага падзелу грамадства, неадкладнае надзяленне сялян зямлёю без выкупа. А таксама яны бачылі неабходнасць працягу барацьбы ў суседніх краінах, перш за ўсё на тэрыторыі Расіі, без чаго нельга будзе замацаваць поспех паўстання на адноўленай Рэчы Паспалітай.

Нездарма ў Варшаве быў утвораны Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы, які ўяўляў сабою федэрацыю брыгадных, палкавых і батальённых гурткоў 1-й арміі. У яго ўваходзілі вайскоўцы з розных куткоў Расійскай Імперыі, такія як А. Патэбня або паручык К. Крупскі, бацька жонкі У. Леніна.

“Белыя” аб’ядноўвалі вакол сябе памешчыкаў, шляхту ліберальных поглядаў і буржуазію, праціўнікаў вайсковых метадаў барацьбы. Яны дамагаліся ў першую чаргу палітычнай аўтаноміі для Каралеўства Польскага і саступак з боку царскага ўрада ў стварэнні ўласнай адміністрацыі і войска, а ў далейшым разлічвалі на дапамогу замежных дзяржаў у справе вяртання незалежнасці ў межах 1772 года. Пры гэтым яны спадзяваліся на перадачу Каралеўству іншых тэрыторый былой Рэчы Паспалітай. Прыкладам найбольшага іх аб’яднання з’яўлялася

Земляробчае таварыства на чале з Анджэем Замойскім. Сярод “белых” вылучалася суполка “мільянераў” на чале з Эдвардам Юргенсам, якая разлічвала на доўгатэрміновую працу з сялянствам і мяшчанствам і бачыла важнейшым крокам прызнанне аўтаноміі Каралеўства Польскага.

“Белыя” разлічвалі захаваць землеўладанне і ўласныя прывілеі. Яны прапаведавалі “працу ад пачаткаў” – распаўсюджванне адукацыі на польскай мове сярод сялян і гараджан, а таксама “арганічную працу” – супрацоўніцтва прадстаўнікоў усіх пластоў грамадства ў справе ўсебаковага развіцца краю, пры якой “памешчык маляваўся сябрам, дарадцам, апекуном і абаронцам сялянскага саслоўя”.

Дзейнасць “белых” з’яўлялася водгукам на пашырэнне ўплыву “чырвоных”. Яны таксама імкнуліся ўвесці сваіх людзей на пасады ў варшаўскі Цэнтральны нацыянальны камітэт, а з пачаткам паўстання захапіць уладу, каб не дапусціць радыкалізацыі барацьбы і перарастання яе ў сацыяльную рэвалюцыю. Вялізны ўплыў на такое стаўленне аказала “Галіцыйская разня” 1846 года і пашырэнне сялянскіх выступленняў у Беларусі і Літве вясною 1861 года.

## *10 дзён разгубленасці*

“…паўстанне ў Царстве заспела Літву зусім непадрыхтаванаю,”[460] – менавіта так ахарактарызаваў становішча таемнай арганізацыі ў Беларусі і Літве сам Канстанцін Каліноўскі ў “Тлумачальнай запісцы”, напісанай 28 лютага 1864 года, знаходзячыся ўжо за кратамі і ўзгадваючы навіну пра пачатак выступлення. Яго дапаўняе іншы прадстаўнік ЛПК Ян Козел: “Вестка гэтая была нам паведамлена пры ўсім Камітэце, і ўсе адзінагалосна адказалі, што мы ні за што не адказваем, што ніхто не гатовы і што мы маем пісьмовае паведамленне, што Цэнтральны камітэт не дапусціць паўстання. Між тым паўстанцы ўзялі чыгунку ад Варшавы да Гродна, Рагінскі ўвайшоў у Гродзенскую губерню, Букавецкі – агент Мераслаўскага – пачаў у Свянцянскім. Адным словам, пачалі і без нашага дазволу”[461].

[460] Там жа. – С. 67.

[461] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 127.

У трагічныя студзеньскія дні 1863 года Каліноўскі павінен быў зрабіць выбар, ад якога залежаў лёс усяго краю. Разумеючы гэтую адказнасць, ён неадкладна выпраўляе Яна Козела для вызначэння далейшых крокаў да З. Серакоўскага ў Пецярбург, адкуль той паехаў наведаць яшчэ Л. Звяждоўскага ў Маскве.

У той жа час ЛПК, знаходзячыся ў стане разгубленасці і доўгай нерашучасці[462], выпусціў невялічкую абвестку, змацаваную выяваю пячаткі з поціскам рукі і надпісам “Адвага/Развага”.

“Браты! Каралеўства паўстала – нашы паўсюдна б’юць маскалёў! Кроў, што льецца за Нёманам, кліча нас да зброі! Барацьба з захопнікамі за нашы святыя правы, за нашу свабоду блізіцца і ў нас! Дык разам і згодна, і Бог нам дапаможа!

Божа, збаў Польшчу”[463].

З пачаткам паўстання Канстанцін Каліноўскі намагаўся дабіцца ўваходжання ў склад ЛПК адной з найбольш аўтарытэтных асоб Вільні – Францішка Далеўскага – нават стоячы перад ім на каленях, але той усё роўна адмовіўся[464]. Чаму так адбылося з кумірам моладзі, у тым ліку і кумірам Каліноўскага? Чаму Францішак Далеўскі, які сам раней вылучаўся радыкальнымі поглядамі, цяпер здрадзіў ім? Адказ на гэта дае Апалінар Гафмейстар, які таксама прайшоў ссылку і службу ў салдатах за свае перакананні: “Увогуле ўсё польскае грамадства прызвычаілася глядзець на ўсіх вернутых з Сібіры палітычных злачынцаў як на людзей, якія даказалі патрыятызм на справе, хоць тое ж грамадства не разумее тых узрушэнняў і той сталасці паняццяў, якія ў нас выклікалі шматгадовыя пакуты”[465].

У наступныя дзесяць дзён у Вільні адбываюцца шматлікія таемныя сустрэчы, мэтаю якіх Каліноўскі бачыў крытычны аналіз магчымасцей далучэння “Літвы” да паўстання ў Кароне Польскай. У выніку пошуку кампрамісу паміж разнастайнымі палітычнымі сіламі 1 лютага (22 студзеня па ст. ст.) ЛПК быў

462 Там жа.

463 Цыт. паводле: Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., пасляслоў. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 95.

464 Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. 2 t. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 231.

465 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 57 адв.

пертвораны ў Часовы правінцыяльны ўрад у Літве і Беларусі, які "ад імя польскага Нацыянальнага ўрада" абвясціў маніфест аб ураўнаванні ўсіх жыхароў краю ў правах і надзяленні сялян зямлёю ("на вечныя часы ў поўнае ўладанне без чыншаў і выкупаў"), за якую памешчыкі атрымаюць кампенсацыю з "нацыянальных фондаў". Таксама адзначалася, што за атрыманыя правы і зямлю ўсе грамадзяне павінны "бараніць польскі край, грамадзянамі якога з'яўляюцца з сённяшняга дня". Маніфест заяўляў пра скасаванне ўсіх законаў Расійскай Імперыі, што "гэта зямля польская, а не маскоўская".

Такім чынам, Канстанцін Каліноўскі ва ўмовах распачатага ў Каралеўстве Польскім паўстання нават пры нездавальняючай падрыхтаванасці таемнай арганізацыі ў Літве і Беларусі вырашыў далучыцца да гэтай барацьбы, разумеючы, што толькі ў такім выпадку маецца шанец на перамогу. Ён пайшоў пры гэтым на фармальнае падпарадкаванне Нацыянальнаму ўраду і дубляванні выдадзенага ім маніфеста пра пачатак паўстання. У любым выпадку ён разумеў, што дзеянні Расійскай Імперыі будуць накіраваны на ліквідаванне таемных структур і па-за межамі Каралеўства і паўстанне будзе немагчымым яшчэ доўгі час. Таму "выпрацаванае гісторыяю спачуванне Літвы да Польшчы, якое ўзмацнілася ўсяго больш за час панавання Расіі (факт, на які варта звярнуць увагу) перасіліла ўсялякія адваротныя паўстанню абставіны, і Літва зварухнулася"[466].

## *Пачатак паўстання ў Беларусі і Літве*

Пасля абвяшчэння паўстання неадкладнай задачай з'яўлялася стварэнне атрадаў з ліку добраахвотнікаў у кожным павеце, падначаленым Часоваму правінцыяльнаму ўраду ў Літве і Беларусі, кіраўніком якога з'яўляўся Канстанцін Каліноўскі. Для кансультацыі па гэтым пытанні ён у пачатку лютага выехаў у Гродна для сустрэчы з Валерыем Урублеўскім і Станіславам Сангіным, у кватэры якога, размешчанай у заезным доме на Маставой вуліцы каля манастыра, спыніўся пад імем Чарноцкага.[467] У выніку Валерый Урублеўскі, прызначаны кіраўніком паўстанцкіх сіл на тэрыторыі Гродзенскай губерні,

[466] Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / Уклад. З. Кузменка. – Мн.: Галіяфы, 2014. – С. 68.

[467] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 41 – 41 адв.

ад'ехаў Саколку для арганізацыі атрада, а Сангін накіраваўся ў атрад Рамана Рагінскага, да якога актыўна пачалі далучацца сяляне на Падляшшы, дзе выступленні распаўсюджваліся стыхійна.

Затым Каліноўскі вяртаецца ў Вільню, і, каб дадаць працэсу стварэння паўстанцкіх атрадаў арганізаванасці, друкуе шэраг дакументаў. Першы сярод іх – "Інструкцыя для ваенных начальнікаў, ваяводскіх і павятовых", якая заклікала "сабраць сілы, падрыхтаваць зброю, скласці план дзеянняў і пачаць барацьбу"[468].

Вяртаючыся з Масквы, Ян Козел наведаў Барысаў, дзе меў шэраг сустрэч з сябрамі вайсковай арганізацыі Серакоўскага-Дамброўскага, якім даручыў стварэнне атрадаў у Мінскай і Магілёўскай губернях. Прыбыўшы ж у Гродна, Я. Козел атрымаў ад В. Урублеўскага загад неадкладна ехаць у Каралеўства Польскае, "каб убачыцца з Лангевічам і дамовіцца аб зносінах і дзеяннях паўстанцаў у Царстве Польскім і Заходнім краі"[469]. Аднак Мар'ян Лангевіч[470] быў ужо разбіты.

Другім дакументам стала "Паўстанцкая інструкцыя" з васьмі пунктаў, адрасаваная камандзірам атрадаў. У ёй абвяшчалася тактыка партызанскай вайны, а на камандзіраў атрадаў ускладаўся абавязак рэалізацыі маніфеста ад 22 студзеня і "неадкладна прывесці ў выкананне дэкрэт Часовага ўрада аб надзяленні сялян зямлёй"[471]. Аднак самым радыкальным быў восьмы пункт: "Найбольш вядомых прыгнятальнікаў сялян для прыкладу караць смерцю па рашэнні вайсковага суда перад сабраным сялянскім народам, не дапускаючы самачыннай расправы"[472]. Такое развіццё падзей, якое адпавядала поглядам Канстанціна Каліноўскага на неабходнасць перарастан-

[468] Цыт. паводле: Швед, В.В. Рэквіем паўстанцам 1863–1864 гг. Гродзенская губерня / В.В. Швед. – Мінск: Альфа-кніга, 2017. – С. 108.

[469] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 128.

[470] Мар'ян Лангевіч (1827–1887) – генерал і дыктатар паўстання 1863–1864 гадоў. Дзейнічаў у Сандамірскім ваяводстве Каралеўства Польскага, дзе меў шэраг поспехаў у бітвах. 11 сакавіка 1863 года абвясціў сябе дыктатарам (кіраўніком) паўстання. Але ўжо 19 сакавіка пад націскам пераўзыходзячых па колькасці рускіх войск накіраваўся ў Галіцыю, дзе быў арыштаваны аўстрыйскімі ўладамі.

[471] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии /А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 110.

[472] Там жа.

ня паўстання ў "сацыяльную рэвалюцыю", выклікала вялікую заклапочанасць як з боку яго палітычных праціўнікаў, так і пакідала пытанні сярод паплечнікаў.

27 студзеня на тэрыторыю Беларусі перайшоў атрад камісара Падляскага ваяводства Рамана Рагінскага і далучанага да яго атрада аднаго з аўтараў "Мужыцкай праўды" Станіслава Сангіна, якія пачалі 750-кіламетровы рэйд на Палессе і захапілі на кароткі час горад Пружаны. Першыя атрады арганізоўваліся ў Віленскай губерні: Феліска Віславуха ў Свянцянскім павеце, Клетыя Карэвы ў Троцкім і Людвіга Нарбута ў Лідскім паветах. Менавіта апошняму 16 (28) лютага Каліноўскі накіраваў прадпісанне з прапановай звязацца са слонімскімі паўстанцамі і рухацца ў накірунку Мінскага ваяводства. Асобна было загадана пакараць памешчыка Яраслава Табенскага з маёнтка Зеляпішы, "як таго, хто нясе шкоду агульнай справе"[473], паколькі ён выступаў супраць надзялення сялян у адпаведнасці з паўстанцкім маніфестам.

Таксама Часовы ўрад Літвы і Беларусі імкнуўся пашырыць сваю ўладу на тэрыторыю Інфлянтаў.

Але пачыналіся першыя складанасці. У ноч на 19 лютага ў Вільні быў арыштаваны Эдмунд Вярыга[474]. Гэта была ўжо другая значная страта сярод кіраўніцтва "чырвоных" Літвы і Беларусі пасля схопленага 26 студзеня Антонія Залескага, які выправіўся ў Троцкі павет для фарміравання атрада. З улікам таго, што Ян Козел яшчэ не вярнуўся з Масквы, а Баляслаў Длускі 12 лютага быў накіраваны ў Коўна ў якасці начальніка ўзброеных сіл Ковенскага ваяводства, у Вільні з лідараў Часовага правінцыяльнага ўрада заставаліся толькі Каліноўскі і Чаховіч. Скарыстаўшыся зручным момантаў, "белыя" на чале з Якубам Гейштарам і Нестарам Дзюлеранам здзейснілі пераварот.

---

473 Там жа.

474 Эдмунд Вярыга быў арыштаваны ў Вільні ў доме М. Шкленіка, будучага цесця Францішка Багушэвіча. Быў асуджаны на 8 гадоў катаргі, якую адбываў у Кадаінскіх рудніках разам з М. Чарнышэўскім. Затым працаваў у Пецярбургу ва ўпраўленні Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі і на металургічных заводах Украіны. Памёр 10 (23) верасня 1902 года ў маёнтку Амнішава Барысаўскага павета (цяпер – Задор'еўскі сельскі савет Лагойскага раёна). Кісялёў, Г. Вярыга Эдмунд Іванавіч / Г. Кісялёў // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Лагойскага раёна. У 2 кн. – Мн., 2003. – Кн. 1. – С. 150–151.

Аднак распачатая Каліноўскім актыўная дзейнасць па пашырэнні паўстання за кошт сялянскага насельніцтва Літвы і Беларусі прымусіла расійскія ўлады 1 сакавіка скасаваць часоваабавязанае становішча ў Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай і Мінскай губернях, а таксама зменшыць выкупныя плацяжы. Загад аб гэтым падпісаў імператар Аляксандр II. На Усходнюю Беларусь ён быў пашыраны толькі 2 лістапада.

## *Пераварот і захоп улады "белымі"*

Адразу пасля атрымання весткі пра пачатак паўстання ў Кароне Польскай "белыя" Вільні вымушаны былі неадкладна вырашаць, што рабіць ім. 25 студзеня быў абраны новы Камітэт, у які ўвайшлі Я. Гейштар, Ф. Далеўскі, Аскерка, А. Яленскі і І. Лапацінскі. У пачатку лютага Антоній Яленскі быў накіраваны ў Варшаву для правядзення перамоў з тамтэйшымі "белымі". У выніку было прынята рашэнне аб далучэнні да паўстання, каб не дапусціць яго радыкалізацыі з боку "чырвоных" на чале з Канстанцінам Каліноўскім. У паспяховасці гэтага плана многае залежала ад пазіцыі кіраўніцтва Нацыянальнага ўрада ў Варшаве, які ўзначальвалі "чырвоныя" на чале з Бабро ўскім. Аднак з гэтым удалося справіцца пры дапамозе Нестара Дзюлерана.

Дзюлеран, "адхілены "чырвонымі" літоўцамі, паспеў зблізіцца з "белымі", без усялякага загада на тое з Варшавы"[475]. Ён увайшоў у змову з віленскай арганізацыяй "белых" на чале з Якубам Гейштарам з мэтаю здзяйснення перавароту па захопе ўлады. Каб заручыцца падтрымкаю, ён у сярэдзіне лютага наведвае ў Варшаве Бабро ўскага, перад якім ставіць пытанне пра "неабходнасць скасаваць існуючы правінцыйны камітэт і скарыстаўшыся ахвотнасцю "белых", перадаць ім справы па ўтварэнні і кіраўніцтве рэвалюцыяй у правінцыі"[476]. Апісваючы гэтую сітуацыю, О. Авейдэ зазначае: "Старая аксіёма, што без шляхты ніхто нічога не зробіць у Літве, і відавочная слабасць камітэта "чырвоных" заахвоцілі Бабро ўскага прыняць прадстаўленне Дзюлерана"[477].

[475] Записки Оскара Авейде о польском восстании 1863 года. – Варшава, 1866. – Ч. IV. – С. 33.

[476] Там жа.

[477] Там жа.

Але была і яшчэ адна прычына, на якую звяртае ўвагу Авейдэ: "Калі ўспыхнула паўстанне, правінцыйны камітэт пастанавіў неадкладна прытрымлівацца нашага прыкладу, нягледзячы ні на свае процілеглыя нашым перакананні, ні на спрэчкі з Варшавай, ні на слабасць толькі што пачаўшай развівацца сваёй арганізацыі"[478]. Таму на карысць "белых" Вільні згуляла перш за ўсё іх гатоўнасць цалкам падпарадкоўвацца Варшаве ў форме Аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы.

Праз тыдзень пасля вяртання Дзюлерана новы склад Аддзела быў зацверджаны, а Канстанціну Каліноўскаму і яго камітэту было загадана "спыніць іх дейнасць і выдаць паслядоўнікам сваім пячатку, дакументы, перапіску і грошы"[479].

Калі з "белымі" усё было зразумела, то найбольшую агіду ў Каліноўскага выклікала іншае: ён не мог уявіць, што на гэты пераварот пагадзіліся, здавалася б, свае ў палітычных адносінах варшаўскія "чырвоныя". У другой палове лютага 1863 года Н. Дзюлеран, які "меў прэтэнзіі гуляць ролю маленькага правінцыйнага дыктатара"[480], прыбыў з Варшавы з загадам стварэння Аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы, і інструкцыяй, у якой загадана перадаць уладу "белым" Якуба Гейштара. Таксама загадвалася Літоўскаму камітэту руху перадаць уладу і пячатку Аддзелу[481]. Дзюлеран прызначаўся камісарам з роўным іншым пяццю ўдзельнікам голасам.

Кіраўнікі новаўтворанага Аддзела сабраліся на кватэры Антонія Яленьскага на Пагулянцы, дзе былі падзелены паўнамоцтвы: Гейштар быў прызначаны на кіраўніка і заняўся ўнутранымі справамі, Аскерка – вайсковым бокам, Яленьскі – касаю, Лапаціньскі – карэспандэнцыяй, Францішак Далеўскі ўзяў пячатку і разам з Аскеркам заняўся горадам Вільняй. Дзюлеран як камісар Нацыянальнага ўрада меў на сабе кантроль і роўны голас у абмеркаваннях.

Канстанцін Каліноўскі, пастаўлены перад ультыматумам, вымушаны быў перадаць Якубу Гейштару паперы і здаць кіраўніцтва арганізацыяй. Так 27 лютага (11 сакавіка) быў здзейснены "белы пераварот". У сувязі з гэтым Каліноўскі

[478] Там жа, с. 32.
[479] Там жа, с. 34.
[480] Там жа, с. 188.
[481] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. 2 t. – Wilno, 1913. – T. 1. – S. 232.

напісаў пратэст на імя кіраўніцтва Нацыянальнага ўрада, "у якім наракаў, што шляхце даручаецца накірунак паўстання"[482]. Дзюлеран паклаў пратэст у кішэню, у якой пранасіў больш за тры месяцы[483]. Каліноўскі ж у ім заяўляў:

"Правінцыяльны камітэт саступае і падпарадкоўваецца галаве паўстання таму, па-першае, што не жадае распачынаць згубных для рэвалюцыі звадаў і нязгод, а, па-другое, таму, што не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва спраў з рук сваіх праціўнікаў.

Аднак члены камітэта лічаць сваім абавязкам аб'явіць разам з тым, што яны лічаць гібеллю і здрадай рэвалюцыі перадачу кіраўніцтва ў рукі контррэвалюцыянераў – заўсёдных ворагаў і рэвалюцыйнага руху наогул, і прынцыпаў маніфеста ад 22 студзеня ў прыватнасці, што яны пратэстуюць супраць такога рашэння Цэнтральнага камітэта, здымаюць з сябе ўсякую адказнасць перад будучыняй за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасці, якія прынясе процілеглае духу і тэндэнцыям паўстання кіраўніцтва літоўскай справай"[484].

Гэтым крокам Канстанцін Каліноўскі здымаў з сябе маральную адказнасць перад нашчадкамі ў далейшым выкананні "літоўскай справы", якая для яго ўсё відавочней адрознівалася ад "справы польскай". Аднак, нягледзячы на супрацiў перавароту, ён пагадзіўся стаць памочнікам А. Аскеркі ў кіраўніцтве Вільняю.

27 лютага Якуб Гейштар падрыхтаваў дэкрэт аб ліквідацыі Літоўскага правінцыяльнага камітэта і перадачы яго паўнамоцтваў Аддзелу, кіруючаму правінцыямі Літвы[485], які цалкам падпарадкоўваўся польскаму Нацыянальнаму ўраду. З назвы прыбралі не толькі складнік "Беларусь". У дакуменце ўвогуле адсутнічае якая б ні была ўзгадка пра "Часовы правінцыяльны ўрад у Літве і Беларусі", які ўсяляк ігнаруецца і не прызнаецца легітымным. Яго пастановы былі адмененыя, паколькі нават "чырвоныя" Варшавы не былі гатовы да

482 Там жа, s. 235.

483 Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Т. 1. – Вильно, 1867. – С. 198.

484 1863 г. Каля 27 лютага. Пратэст супраць "белага" перавароту. Крыніца: http://kalinouski.arkushy.by/archives/pratest.htm [Дата доступу: 03.01.2018]

485 Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 11–12.

рэалізацыі дэклараваных імі поглядаў у пытаннях сацыяльным і самавызначэння на тэрыторыях, якія разглядаліся не інакш як састаўная частка "Польшчы". Таму, нягледзячы на пазнаку "правінцыяльны", іх клопатам з'яўлялася наяўнасць фактычна Часовага ўрада Літвы і Беларусі.

Пасля дамовы з віленскімі "белымі", замацаваўшыся падтрымкаю землеўладальнікаў, Нацыянальны ўрад у Варшаве палічыў праблему вырашанай. Аднак у выніку заахвоціў Канстанціна Каліноўскага стаць на шлях "ліцвінскага сепаратызму". Толькі ў такіх абставінах ён бачыў магчымасць для перамогі сацыяльнай рэвалюцыі. Заставалася дачакацца зручнага моманту.

## *Камісар Гродзенскага ваяводства*

Пасля здзейсненага "белымі" перавароту Я. Гейштар не мог пакідаць палітычнага апанента ў Вільні, дзе пазіцыі Канстанціна Каліноўскага на фоне пралікаў Аддзела паступова ўмацоўваліся, і таму пасля шматлікіх просьб ён адсылае таго ў Гродна.

Напярэдадні Вялікадня, які прыпадаў на 31 сакавіка 1863 года, Каліноўскі апошні раз спаткаўся з Гейштарам, ад якога павінен быў атрымаць мандат на пасаду ўрадавага камісара Гродзенскага ваяводства: "Менавіта перад яго ад'ездам я меў з ім доўгую спрэчку; пасля таго, як даў яму інструкцыі, ён рабіў мне розныя папрокі, што тычыліся падыходу ў трактаванні людзей і справы. Я выслухаў як мага цярплівей, што палічыў за слушнае ў яго заўвагах, прыняў, але асноўны пункт паўтарыў без змены. Калі ён хацеў мне яшчэ зрабіць папрокі, я запытаўся ў яго катэгарычна: ці прызнае ўладу і хоча ёй быць паслухмяны. Пытанне ён зразумеў і нават ацаніў яго энергію…"[486]. Пасля дэманстравання сваёй улады як кіраўніка Аддзела Якуб Гейштар яшчэ раз зрабіў націск на неабходнасць улічваць інтарэсы шляхты, якая разглядалася як асноўная рухаючая сіла паўстання: "Я даручыў Каліноўскаму, каб не прызнавалася ніякай розніцы паміж саслоўямі; шляхты-памешчыкаў не адштурхоўваць, лічыць іх неабходнай сілай у паўстанні. Жыватворным духам"[487].

[486] Там жа, с. 236.
[487] Там жа, с. 236.

Пасля размовы з Гейштарам Канстанцін Каліноўскі, маючы пашпарт на імя Чарноцкага, ад'ехаў у Гродна, дзе да таго ў ноч з 2 на 3 (з 14 на 15) сакавіка была здзейснена спроба захопу моладдзю цягніка і выпраўлення на ім у раён збору паўстанцаў каля Парэчча. Але акцыя скончылася няўдачай, "якая надоўга астудзіла нашыя хваравітыя розумы"[488]. Таму Каліноўскі адразу ж з Гродна выпраўляецца ў Беласток, да якога сцягваюцца паўстанцкія сілы. Тут Канстанцін Каліноўскі выдае загад на беларускай мове аб сваім уступленні на пасаду і піша інструкцыю да павятовых камісараў, якіх заклікае да энергічных дзеянняў, і, нягледзячы на патрабаванні Гейштара, прадпісвае "старацца паставіць на пасады арганізацыі сялян"[489].

У Беласток прыбывае прызначаны ў сакавіку на пасаду начальніка ўзброеных сіл Гродзенскага ваяводства Ануфрый Духінскі. Начальнікам яго штаба становіцца Валерый Урублеўскі, які сам з'яўляўся кіраўнікам паўстанцаў Гродзеншчыны да перавароту "белых".

Адтуль Каліноўскі выпраўляецца ў красавіку 1863 года ў Брэст да Апалінара Гафмейстара, якога застаў у карчме купца Глухоўскага за чытаннем газет. Канстанцін прадставіўся прозвішчам Чарноцкі, падчас размовы паведаміў, што ён з'яўляецца камісарам Народнага ўрада, і "стаў тлумачыць, што калі ў Каралеўстве Польскім ужо тры месяцы вядзецца бой за незалежнасць, то варта і ў Заходніх губернях не сядзець бяздзейна"[490]. Каліноўскі прапанаваў Гафмейстару пасаду гродзенскага грамадзянскага ваяводы, для ўпэўненасці назваўшы прозвішчы Урублеўскага і Заблоцкага, вядомых Гафмейстару па Гродне. Далей іх размова перайшла на Гродзенскую рэвалюцыйную арганізацыю: "Каліноўскі казаў мне, што Гродзенская губерня пад назвай ваяводства падзяляецца на тры часткі. Паветы Гродзенскі, Ваўкавыскі і Слонімскі аддаюцца ў кіраванне Эразму Заблоцкаму, Сакольскі, Беластоцкі і Бельскі – Валяр'яну Урублеўскаму і Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі – мне. Усялякі з нас трох павінен кіраваць незалежна і зносіцца толькі з камісарам і ад яго атрымліваць загады"[491].

[488] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 110.

[489] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 146.

[490] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 60.

[491] Паводле: Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы /

Апалінар Гафмейстар быў скептычна настроены наконт распаўсюджвання паўстання ў Беларусі і Літве, паколькі лічыў, што яно пачалося несвоечасова: памешчыкі ва ўмовах распачатай аграрнай рэформы настроілі супраць сябе сялянства, да таго ж зброя, якой можна было скарыстацца, адабрана ўладамі пасля ўвядзення ваеннага становішча. Пры гэтым, узгадваючы сваю размову з Каліноўскім, ён пазней блытана дадаваў: той "сцвярджаў, што, падараваўшы сялянам зямлю, яны не стануць супраць паўстання, хоць і сцвярджаў, што дарыць зямлю няма чаго, таму што не ўсялякі ў стане гэта зрабіць, потым гэта было б парушэннем права ўласнасці і, нарэшце, сяляне нават не прымуць, жадаючы лепш атрымаць зямлю з рук цара"[492]. Такія словы з вуснаў Гафмейстара пра Каліноўскага, які пры сустрэчы карыстаўся прозвішчам Чарноцкі, тлумачацца падагульненнм, якое брэсцкі памешчык зрабіў пасля сустрэчы: "Людзі, падобныя Чарноцкаму, не глядзелі шмат ні на прыстойнасці, ні на грамадства і казалі прама, што ім трэба было"[493].

Чаму ж, нягледзячы на разнагалоссі, якія выявіліся падчас першай сустрэчы, Канстанцін Каліноўскі вырашыў усё роўна прызначыць Апалінара Гафмейстара ваяводскім? Прычына таму – выкананне патрабавання Якуба Гейштара, выстаўленае падчас выпраўлення новапрызначанага камісара Гродзенскага ваяводства з Вільні. Тое пацвярджае і сам Гафмейстар: "Як здаецца, галоўная мэта Чарноцкага не складалася ў тым, каб забраць здольнага чалавека, а каб толькі ён быў памешчык, і, адпаведна, які карыстаўся большай значнасцю ў меркаванні агульным, чым асоба, якая належала да ніжэйшых саслоўяў"[494].

Паколькі пасля першай сустрэчы Гафмейстар адмовіўся ад прапанаванай пасады ў рэвалюцыйнай арганізацыі, на наступны дзень Каліноўскі наведаўся на кватэру, у якой пасяліўся Гафмейстар, прынёс яму загад, змацаваны пячаткай гродзенскага камісара, і загадаў неадкладна выпраўляцца ў Беласток, куды накіраваўся і сам.

---

К. Каліноўскі; уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 365.

[Але] ў выніку Гродзенская губерня была падзелена толькі на дзве часткі, кіраўнікамі якіх былі прызначаны Гафмейстар і Заблоцкі.

[492] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 60 адв.

[493] Там жа, арк. 62 адв.

[494] Там жа, арк. 56 адв. – 57.

У Беластоку Гафмейстар знайшоў кватэру Каліноўскага. З ім разам выправіліся на Баярскую вуліцу, у дом доктара Юльяна Бірфрэйнда, які стаяў паміж Казначэйствам і Млынаваю вуліцай. Тут у невялікім пакойчыку адбывалася апошняя падрыхтоўка да паўстання ў Краі: "Духінскі сядзеў за сталом, на якім ляжала вялікая геаграфічная карта, і горача размаўляў з Урублеўскім, які стаяў ля яго, абапершыся на карту... Каліноўскі – чалавек грубых манер – не рэкамендаваў нават мяне Духінскаму, ці таму, што не хацеў перашкаджаць іх прэнням з Урублеўскім, ці ж ад прыроджанай нядбайнасці..."[495]. У невялічкі пакойчык увесь час уваходзілі новыя людзі, іншыя яго пакідалі, што зрабіла на Гафмейстара ўражанне "таўкучага кірмашу"[496]. З-за гэтага размову прыйшлося перанесці.

На наступны дзень Гафмейстар разам з Каліноўскім наведалі Духінскага ўжо на іншай кватэры, у Ігната Арамовіча. У размове з Гафмейстарам Духінскі хацеў пераканацца ў тым, што яму паведаміў Каліноўскі: пачынаць паўстанне варта з паўночных зямель губерні[497]. Пасля размовы пра шараговыя справы, як прызначэнне Духінскага за подпісам генерала Высоцкага, Гафмейстар разам з Каліноўскім пакінуў кіраўніка паўстанцкіх узброеных сіл і адправіўся на сваю кватэру. Тут гродзенскі камісар перадаў Гафмейстару інструкцыю для ваявод, павятовых і акруговых начальнікаў, а таксама загадаў адвесці пячатку з надпісам "Начальнік Гродзенскага ваяводства" ў Гродна Эразму Заблоцкаму[498]. Апалінар Гафмейстар пакідаў Беласток з непрыемнымі ўражаннямі, асабліва ў адносінах Духінскага, які "да такой ступені не быў азнаёмлены з тутэйшым краем, што нават не ведаў, што ў Брэсце знаходзіцца крэпасць"[499].

---

[495] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 73.

[496] Там жа, с. 180.

[497] Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., пасляcл. і камент. Г. Кісялёва – Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. – С. 365: "Як відаць з усяго становішча, Духінскі жадаў даведацца становішча спраў у нашым краі і ці ледзь не для таго паклікаў мяне ў Беласток, маючы на ўвазе тую акалічнасць, што паўднёвыя паветы Гарадзенскай губерні населены пераважна праваслаўным народанасельніцтвам, якія мала маюць дробнай шляхты, і якія затым могуць быць варожымі справе паўстання. Паўночныя ж ён меркаваў спрыяльнымі. Такое гледжанне на справы, здаецца, ён запазычаў ад Чарноцкага".

[498] Там жа, с. 366.

[499] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 74.

## *Гродзенская ваяводская арганізацыя*

У красавіку 1863 года ў Гродна прыехаў памешчык Гафмейстар на сустрэчу з Э. Заблоцкім. Гафмейстар быў прызначаны ваяводскім Гродзенскай губерні, Заблоцкаму ж ён паведаміў, што той узначаліць тры паветы – Гродзенскі, Ваўкавыскі і Слонімскі, якімі павінен будзе заведаваць на падставе інструкцыі, атрыманай у хуткім часе ад Каліноўскага з Беластока.

Пазней пад кіраўніцтва Заблоцкага перайшлі яшчэ Беластоцкі павет на чале з павятовым памешчыкам Напалеонам Алдакоўскім і Сакольскі на чале з міравым пасрэднікам Грынявецкім (яго памочнікам, які пасля арышту Грынявецкага сам стаў павятовым, быў Адольф Эйсымонт). Грынявецкага прызначыў асабіста Валерый Урублеўскі. Начальнікам горада Беластока стаў настаўнік музыкі Белакоз, у Саколцы – доктар Лебядзінскі, павятовым касірам – сакратар губернскага ўпраўлення Сержпутоўскі. Сержпутоўскі з Грынявецкім наведваліся ў Гродна да Заблоцкага. У Бельску павятовым стаў міравы пасрэднік Пянькоўскі, брат памешчыка Леона Пянькоўскага, які пасля Гафмейстара стаў ваяводскім у Брэсце.

Каліноўскі патрабаваў ад Заблоцкага заняцца арганізацыяй у падуладных яму паветах: прызначыць павятовых начальнікаў, пры якіх па пяць рэферэнтаў, а таксама акруговых; штотыдзень атрымліваць справаздачы аб дзейнасці павятовых і ў сваёй справаздачы прадастаўляць іх ваяводскаму камісару, а таксама падтрымліваць сувязь з павятовымі, каб не дапускаць невыканання імі сваіх абавязкаў[500].

Гафмейстар параіў Заблоцкаму звярнуцца па дапамогу да памешчыка Станіслава Солтана, які сам адмовіўся ад пасады ваяводскага, спаслаўшыся на хваробу жонкі: “Солтан узяў на сябе сфарміраваць арганізацыю ва ўездах Гродзенскім і Ваўкавыскім, а Францішак Юндзіл – у Слонімскім, паколькі ён быў памешчыкам гэтага павета”[501].

Пры дапамозе Солтана былі прызначаны: павятовым Гродзенскага ўезда – Станіслаў Сільвястровіч, акруговымі: 1) памешчык і былы міравы пасрэднік Іван Камінскі, які адначасова быў і рэферэнтам, ён жа на час адсутнасці павятовага будзе займаць

[500] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 2 адв.
[501] Там жа.

яго месца, 2) памешчык Пётр Пакубята, 3) ксёндз Чаповіч, 4) Рэдых – упраўляючы маёнткам Свіслач памешчыка Пуслоўскага. Касірам Гродзенскага павета быў прызначаны Севярын Ромер[502]. Памешчык Люцыян Завістоўскі быў рэферэнтам камунікацыі, ваенным жа рэферэнтам быў Вайсятыч – упраўляючы маёнткам памешчыцы Дрыконскай.

У Ваўкавыскім павеце павятовым начальнікам стаў доктар Мечыслаў Гліндзіч, пасля якога гэты пост заняў доктар Сабяслаў Пансет. Начальнікам горада стаў сакратар міравога пасрэдніка Мушынскі. Рэферэнты: апекі і камунікацыі – памешчык Уладзіслаў Тарасевіч, жанаты на дачцэ губернскага загадчыка дваранства Кржывіцкага, ваенным – адстаўны падпаручнік Калупайла, касы – Фердынанд Калупайла. У Слонімскім павеце павятовым быў доктар Сімановіч, начальнікам горада – доктар Вільчэўскі[503].

Пасля атрымання мандату, які звычайна дасылаўся праз пасыльных, адбываўся збор з мэтаю знаёмства і вызначэння накірункаў дзейнасці. Так, падначаленыя Сільвястровіча былі выкліканы ў Гродна ў гасцініцу Ромера, дзе таксама прысутнічаў Э. Заблоцкі. Першы абавязак, які атрымалі рэферэнты, – збор сродкаў з памешчыкаў[504].

Пры Заблоцкім кіраўніком бюро быў чыноўнік дзяржаўнай палаты Ігнат Генiюш, а пры ім займаліся перапісваннем папер чыноўнік той жа палаты Адольф Талочка і Ідэльфонс Мілевіч. Кіраўніком горада быў прызначаны доктар Цэлестын Цеханоўскі, яго памочнікамі сталі настаўнік Гродзенскага шляхетнага

[502] У 1864 годзе меў 44 гады. З дваран Курляндскай губерні. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, з 1846 года знаходзіўся на дзяржаўнай службе і меў крыж Св. Ганны 3 ступені. Займаўся прадпрымальніцтвам, пабудаваў на Дамініканскай (цяпер Савецкай) вуліцы ў Гродне ўласны гатэль. Пасля пачатку паўстання заняў пасаду касіра паўстанцкай арганізацыі ў Гродзенскім павеце. Жонка С. Ромера Тэадора кіравала жаночай арганізацыяй, збірала сродкі і медыкаменты для паўстанцаў. С. Ромер быў высланы ў Томскую губерню, яго жонка – у Казанскую, аднак паехала за мужам. Ромеры адбывалі пакаранне ў Табольску, адкуль праз шмат гадоў вярнуліся на радзіму. Пахаваны С. Ромер у мястэчку Лішкава на тэрыторыі сучаснай Літвы. Гатэль Ромера, канфіскаваны і прададзены ўладамі, хаця і меў афіцыйную назву “Маскоўскі”, аднак сярод гродзенцаў доўгі час называўся “гатэлем Ромера”, або “гатэлем паўстанцаў”. НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 217.

[503] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 3.

[504] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 111 адв.

пансіёна Іосіф Руткоўскі і чыноўнік канцылярыі начальніка Гродзенскай губерні Уладзіслаў Жалкоўскі: “Перапіска ішла праз маёнтак Калбасін памешчыцы Свяржвінскай па тракту ў Сакольскі ўезд, а ў Ваўкавыскі – праз маёнтак Навасёлкі памешчыка Згерыдовіча”[505]. У перапраўцы лістоў паўстанцам дапамагалі чыноўнікі Гродзенскай губернскай паштовай канторы Бенецкі і Грыневіч. Гэтая ж камунікацыі выкарыстоўваліся для адпраўкі паведамленняў Канстанціну Каліноўскаму, які ў сувязі з пагрозаю арышту жыў у Беластоку, куды лісты адсылаліся на адрас Бальтазара Сасноўскага[506].

Каліноўскі ж дасылаў паперы з Беластока ў Гродна да свайго агента – чыноўніка губернскага праўлення Канстанціна Савашкевіча, які перадаваў іх кіраўніку горада Гродна. Той, у сваю чаргу, сарціраваў паперы і адпраўляў іх да Заблоцкага ў ваяводскае бюро і ў паветы. Калі ж Савашкевіч стаў павятовым, замест яго быў прызначаны чыноўнік земскага суда Адам Баяроўскі[507].

Акрамя гэтага ў структуру арганізацыі ўваходзілі гарадскія і павятовыя жаночыя камітэты. Загадчыцаю жаночага камітэта Гро-дзенскага ўезда была жонка прадвадзіцеля дваранства Тэадора Ромер, а гарадскою – жонка касіра Багатка[508].

Вярбоўка ў Гродзенскую ваяводскую арганізацыю далёка не заўсёды адбывалася добраахвотна. Так, Адольф Талочка распавядаў, што Эразм Заблоцкі сказаў яму: “…або з намі, або супраць нас. А хто супраць нас, таму смерць, гэта наша правіла, і яно, як вядома, старанна выконваецца, і ў нас у Гродне ёсць таксама чысцілець… “Чысцілець” павінен быў “чысціць грамадства ад шкодных асоб” [509].

Для паўстання патрэбны былі грошы, у сувязі з чым С. Солтан пры дапамозе Генюша і Мілевіча зрабіў раскладку падаткаў. “Для прачытання яе былі запрошаны Солтанам”[510] у апошніх днях красавіка ці першых мая 1863 года[511] прызначаныя ім некаторыя

[505] Там жа, арк. 3 адв.
[506] Там жа, арк. 94.
[507] Там жа, арк. 5 адв.
[508] Там жа, арк. 5.
[509] Там жа, арк. 127.
[510] Там жа, арк. 3 адв.
[511] Там жа, арк. 5. Заблоцкі ж памылкова адносіць гэты сход на лета 1862 года.

чыноўнікі Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў ва ўладкаваны гатэль Ромера, які быў адкрыты ў канцы 1862 года.

Спачатку сустрэча пачалася ў нумары Юндзіла, дзе прысутнічалі Солтан, Камінскі, Багатка, Заблоцкі, да якіх далучыўся князь Юрый Чацвярцінскі. Юндзіл выдзеліў з "памешчыцкай касы"[512] касіру Багатку 3000 рублёў срэбрам. Солтан вырашыў на падставе № 10 газеты "Рух", прынесенага Мілевічам, патлумачыць правілы раскладкі падаткаў. Але яшчэ да гэтага па запрашэнні Юндзіла грамада пайшла снедаць у іншы нумар гасцініцы, дзе іх ужо чакалі сам уладальнік будынка Ромер, Рэдых Вайсоціч, Дашкевіч і Станіслаў Сільвестровіч. На сустрэчы былі зачытаны інструкцыі членам арганізацыі, а таксама № 10 газеты "Рух". Тут жа былі складзены "патрыятычныя заклікі да грамадства, і на абавязкі арганізацыі клалася распаўсюджванне як іх, так роўна рэвалюцыйных газет і брашур, якія перапраўляліся з Варшавы чыгункаю"[513]. Памешчыкі першапачаткова былі абкладзены падаткам у 10 % з гадавога прыбытку, у Ваўкавыскім павеце павінны былі плаціць па тры рублі з хаты.

На сходзе было разгледжана, якія прыбыткі атрымліваў з маёнткаў кожны з памешчыкаў Гродзенскага павета. Таму раскладка 10 % з даходаў не рабілася, але яна была "прынята за аснову, каб хутчэй можна было сабраць з Гродзенскай губерні 43000 рублёў, якія патрабаваў Літоўскі аддзел, каб аплаціць зброю з-за мяжы, акрамя таго раскладку гэтую пастанавілі прыняць увогуле пры аплаце падаткаў ва ўездах Гродзенскай губерні"[514]. Была складзеную Солтанам чарнавую раскладку перапісаў Геніюш, і яе разаслалі іншым павятовым, каб ужо не кіравацца раскладкаю з № 10 газеты "Рух". У гэтай жа паперы ўдзельнікі сустрэчы зрабілі і раскладку "на жыда, г.зн. на гарадскіх жыхароў і чыноўнікаў"[515]. Зборам гэтага падатку займаўся доктар Маркевіч[516].

Нягледзячы на вызначаную лічбу ў 40 тысяч рублёў, з усіх паветаў Гродзенскай губерні з сакавіка па жнівень уда-

512 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 4.
513 Там жа, арк. 4.
514 Там жа, арк. 11 – 11 адв.
515 Там жа, арк. 11.
516 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 44 адв.

лося сабраць толькі каля 15 тысяч рублёў[517]. І гэта дасягалася за кошт непасрэднага ўмяшальніцтва Каліноўскага ў дзейнасць павятовых. Так, аднойчы ён прыязджаў падчас аб’езду губерні да Сільвястровіча ў кватэру і прымаў ад яго рапарт, па выніках якога зрабіў вымову пра “дрэнна арганізаваную сувязь у павеце”[518] і дрэнныя вынікі па зборы сродкаў.

## *Крызіс “белых”*

Пасля захопу ўлады “белымі” на чале з Гейштарам і Дзюлеранам новае кіраўніцтва толькі стварала бачнасць працы, ускладаючы вялікую надзею на шырокі ўздым шляхецкага саслоўя. Аднак праблемы ў іх пачаліся ўжо з таго, што ва ўмовах таемнай арганізацыі было першачарговым. Оскар Авейдэ, наведаўшы Вільню, заўважыў, што “члены камітэта не мелі ніводнага рэзчыка пячатак, не маглі дастаць у Літве літар для друкарні; адшукаць кур’ера для адпраўкі ў Варшаву складала ўжо для іх найвялікшую цяжкасць. Пра фальшывыя пашпарты і пра рэвалюцыйную паліцыю не было ў іх і ўзгадкі”[519].

Новыя ўлады, у адпаведнасці з выкананнем сакавіцкага статута Нацыянальнага ўрада, замест падзелу губерняў на больш дробныя ваяводствы проста падмянілі адныя паняцці другімі. Выключэнне складалі толькі Віцебская і Гродзенская губерні, падзеленыя кожная на два ваяводствы[520]. У сваім імкненні перадзелу ўлады “белыя” адштурхнулі ад арганізацыі актыўных “чырвоных”[521]. Шляхта з задавальненнем прымала прызначэнні, пры гэтым усяляк ігнаруючы патрэбу рэальнай

[517] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 1. – Спр. 40. – Арк. 129.

[518] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 112 адв.

[519] Записки Оскара Авейде о польском восстании 1863 года. – Варшава, 1866. – Ч. IV. – С. 73.

[520] Там жа: “Прамым наступствам такога недахопу было тое, што ніводны камісар, ніводны начальнік не толькі не былі ў стане кіраваць справамі даручаных ім участкаў, але нават не ведалі, што ў іх адбывалася”.

[521] Там жа, с. 74: “Другім галоўным недахопам адміністрацыі ў Літве было тое, што “белыя”, атрымаўшы ўладу ў свае рукі, зусім выдалілі ад удзелу ў кіраванні справамі жывы, малады, уласна рэвалюцыйны элемент. Важныя пасады камісараў, начальнікаў ваяводстваў і паветаў даставаліся амаль выключна вельмі добрым і вельмі спакойным, проста кажучы, гнілым шляхцічам абшарнікам”. Там жа: “Наогул кіраўнікі ваяводстваў былі баязліўцы і цяжкія, гультаяватыя нягоднікі. Праехаць 15 вёрст здавалася такім спадарам чымсьці надзвычайным, а весці прыстойную перапіску – ледзь не смяротным прысудам”.

працы і выкананне абавязкаў, якія пад гэтым разумеліся. Гэты факт Оскар Авейдэ ўвогуле лічыў ледзь не "адной з галоўнейшых прычын згубы Літоўскага паўстання"[522].

Бачачы слабасць Аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы, 28 красавіка (10 мая) у Варшаве быў прыняты дэкрэт аб ператварэнні яго ў Выканаўчы аддзел Літвы, аб чым было абвешчана толькі 14 (26) чэрвеня. Я. Гейштар і Н. Дзюлеран, нарэшце, усведамляюць, што без падтрымкі сялян немагчыма працягваць далейшую барацьбу, таму выдаюць у Вільні шэраг адозваў, накіраваных на прыцягненне сялянства да паўстання. Днём Канстытуцыі Рэчы Паспалітай – 3 мая – датуецца маніфест ад імя польскага Нацыянальнага ўрада, надрукаваны па-беларуску лацінкай са словамі "Браты Беларусы, прыйшла пара добрая"[523]. На ім стаіць пячатка Аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы. Дакумент зазначае, што "ўсе сыны адной Польшчы Айчызны нашай, што ўсем мужыкам аддаецца на ўвесь век земля, якая была ў іх ужывальносці без жадной паньшчызны і чыншы ні якого отроботку". Важна ў гэтым дакуменце тое, што ўслед за паўстанцкім маніфестам абяцаецца 5 маргоў зямлі беззямельным сялянам, "которые пойдуць на Маскаля". Завяршаецца ён словамі, што "у кажной хаце хараніце гэты Маніхвест, як грамату на свободу праўдзівую". І ўсё ж яго адрознасць ад той жа "Мужыцкай праўды" відавочная, нават пазнакаю "Вы", "Вашай" у адносінах да "мужыкоў", "Братоў Беларусаў".

Тое ж датычыць і агітацыйнага выдання, вядомага як "Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай", якое, відавочна, было падрыхтавана аўтарамі Маніхвеста ад 3 мая, выйшла ў друкарні польскага Нацыянальнага ўрада і было змацавана яго пячаткаю ў выглядзе герба з каронай над выявамі Арла, Пагоні і Архангела Міхаіла[524], тады як, напрыклад, К. Каліноўскі змацоўваў уласныя адозвы пячаткамі з надпісам "Урадавы камісар Гродзенскага ваяводства".

"Пісьмо…", карыстаючыся ўжо замацаваным у свядомасці сялянскіх жыхароў Гродзенскай губерні вобразам "Яські-

[522] Там жа, с. 74.

[523] Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А.Ф. Смирнов. – М., 1963. – С. 20.

[524] Pismo Jaśka Hapadara z pad Wilni da mużykou ziemli Polskoj // Historja powstania narodu polskiego w 1861–1864 r. / A. Giller. – Paryż, 1867. – T. 1. – S. 326–327.

гаспадара з-пад Вільні" імкнецца заахвоціць іх да ўдзелу ў паўстанні, абяцаючы "землю, справедлівую вольносць і Веру нашых Бацькоў, калі Пранцуз і цэлы свет ідзе нам памагаці". У гэтым плане "Пісьмо…" паўтарае асноўныя тэзы "Мужыцкай праўды", адрозніваючыся ад яе шэрагам моўных канструкцый і выразам, які асабліва не пасуе ёй: "…мы, што жывемо на землі Польской, што емо хлеб Польскі, мы, Палякі з векоў вечных".

Магчыма, з'яўленне № 7 "Мужыцкай праўды" ў чэрвені 1863 года было выклікана якраз такой недарэчнай прапагандысцкай дзейнасцю з боку Аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы. Да таго ж пасля рашучых дзеянняў адміністрацыі Міхаіла Мураўёва, які прыбыў у Вільню 14 мая, усталяваная "белымі" сістэма ўлады разбуралася на вачах. Чыноўнікі кідалі свае справы, закопвалі ў зямлю пячаткі, не паведаміўшы пра тое нават свайму кіраўніцтву. Неабходна было неадкладна выпраўляць сітуацыю.

## *Выправа ў Мілавідскі лагер*

Кастанцін Каліноўскі вярнуўся ў Гродна, "каб уладкаваць арганізацыю, а разам з тым заахвоціць яе членаў, і для таго, каб яшчэ больш пераканацца ў бяздзейнасці чыноўнікаў арганізацыі"[525]. У маі разам з Заблоцкім яны накіраваліся ў Ваўкавыскі і Слонімскі паветы.

Спачатку яны завіталі да памешчыка Спірыдовіча, адтуль у маёнтак Алекшыцы памешчыка Завістоўскага, якога не аказалася дома, і таму Каліноўскі "напісаў яму і пакінуў вымову"[526], паколькі загаддзя паведамляў пра свой прыезд. Далей да Біспінга ў маёнтак Вярэйкі, дзе начавалі: "…сустрэў нас там нейкі мужчына высокага росту, бландзін, які тлумачыўся з Каліноўскім, колькі памятаю, па-французску, і той даў нам коней"[527]. Магчыма, гэтай асобай быў англічанін Фартэск'ё Андэрсан, які з'яўляўся настаўнікам англійскай мовы для Біспінга і бавіў час у Масалянах і Вярэйках, займаючыся рыбалоўствам[528].

[525] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 40.
[526] Там жа.
[527] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. – Арк. 63–63 адв.
[528] Па выніках дадзенага перыяду ўласнага жыцця Андэрсан напісаў кнігу, выдадзеную ў Лондане ў 1864 годзе: Anderson, B.A. Seven month's residence in Russian Poland in 1863 / B.A. Anderson. – London, 1864.

Нягледзячы на тое, што сам Біспінг адсутнічаў, ён быў арыштаваны і ў чэрвені 1864 года дапытаны. Аляксандр Камільевіч Біспінг меў 20 гадоў, нарадзіўся ў маёнтку Струбніца Ваўкавыскага ўезда. Выхоўваўся спачатку ў Мітаўскай губернскай гімназіі ў Курляндыі, затым у Бонскім універсітэце ў Германіі. Валодаў маёнткамі Вярэйкі і Верцялішкі. У жніўні 1863 года арыштаваны і сасланы ў Арэнбургскую губерню на жыхарства, дзе жыў у горадзе Уфа з кастрычніка 1863 да пачатку чэрвеня 1864 гадоў[529].

Пасля Вярэйкаў быў маёнтак Гнезна памешчыка Канстанціна Тарасовіча. Паколькі ў Ваўкавыскім павеце размяшчалася шмат войскаў, Каліноўскі з Заблоцкім вырашылі ехаць у Слонімскі павет, дзе наведаліся ў маёнтак Луконіца да памешчыка Ягалкоўскага, куды быў запрошаны Іосіф Стравінскі[530], прызначаны павятовым Слонімскага павета замест арыштаванага доктара Сімановіча[531]. Пасля абеду той з'ехаў у Слонім, каб забраць пячатку і паперы. Затым былі маёнткі Орды і Свяржынскага, у апошнім з якіх адбылася сустрэча з памешчыкам Керсноўскім. Побач са станцыямі Мілавіды і Чамялы размяшчаўся паўстанцкі лагер, куды Каліноўскі з Заблоцкім прыбылі ўвечары і "на шашы аглядзелі атрады"[532].

У гэты час у Мілавідскі лагер ужо прыбылі ваўкавыскі атрад Стравінскага (каля 270 чалавек), гродзенскі Лянкевіча (каля 25), пружанскі Улодка (каля 50), навагрудскі Міладоўскага (каля 140) і слонімскі Юндзіла (311 чалавек)[533].

[529] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. – Арк. 176.

[530] Меў у 1864 г. 47 гадоў. Нарадзіўся ў Слоніме, вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, адкуль у 1832 годзе адпраўлены ў вышэйшую навучальную ўстанову. Аддадзены ў вайсковую службу. У 1856 годзе быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 3-й ступені, а ў 1857 годзе атрымаў ад імператрыцы залатую табакерку. Пакінуў службу ў 1861 годзе. Па прапанове кіраўніка Гродзенскай губерні Шпеера прыняў пасаду міравога пасрэдніка ў Слонімскім уездзе. НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 273 – 273 адв.

[531] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 120. Але сам Стравінскі ўказваў на наступнае: "...факт прыняцця намінацыі не магу прызнаць несапраўдным – але факт гэты здзейсніўся зусім не так, як пра яго заяўлена ў сведчанні спадара Заблоцкага – ні ён, ні хто-небудзь іншы не мог быць сведкам уручэння мне намінацыі, бо такую я атрымаў у запячатаным пакуначку не ў паказаным Заблоцкім месцы, але ў сябе ў хаце". Там жа, арк. 312 адв – 313.

[532] Арамовіч, І. Мары. Успаміны аб партызанскім руху ў Гарадзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 гг. / І. Арамовіч // Arche. – 2010. – № 12. – С. 32.

[533] Герасімчык, В. Мілавідская бітва / В. Герасімчык // Слонімскі край. – № 5. – 2016. – С. 2.

Каліноўскі першапачаткова выдаў Ляндэру, Юндзілу і шэрагу іншым паўстанцкім камандзірам кніжкі для вядзення ўліку і праверыў ранейшыя расходы. Гэтая праверка працягвалася да трох гадзін ночы. Даведаўшыся ж, што набліжаюцца расійскія войскі, Каліноўскі з Заблоцкім рушылі ў адваротны шлях. А ранкам 22 мая (3 чэрвеня) каля вёскі Мілавіды адбылася бітва, у якой паўстанцы, страціўшы 18 чалавек, прымусілі адступіць рускія войскі, якія панеслі страты ў колькасці 9 забітых і 41 параненага[534]. У 1933 годзе на месцы бітвы была адкрыта мемарыяльная капліца, каля якой у 1990 годзе з’явіўся памятны знак – мемарыяльная пліта з надпісам па-беларуску.

У адваротным накірунку Канстанцін Каліноўскі праехаў тым жа шляхам: праз маёнткі Керсноўскага, Свяржынскага, Ягалкоўскага, дзе яго і Э. Заблоцкага сустрэлі сабраныя памешчыкі, якія ведалі, што тыя будуць вяртацца. Была размова са Стравінскім пра характар тых адносін, якія ўскладзены на Солтана[535], ад якога вырашылі ехаць да маёнтка Ятвеск былога міравога пасрэдніка Ляскоўскага, побач з якім знаходзіўся маёнтак Сымона Каліноўскага – Якушоўка.

Тут яны правялі ўсяго гадзіну і, папрасіўшы ў Ляскоўскага коней замест сваіх стомленых, накіраваліся ў Якушоўку. Каліноўскі яшчэ паспеў скласці адзін з лістоў, пасля чаго госці з’ехалі. Праз дзве гадзіны ў Ятвеск прыбыў адзін з атрадаў 2-й пяхотнай дывізіі генерала Манюкіна ў амаль тысячу чалавек, якія накіроўваліся ў Ялоўку. Ляскоўскі выдзеліў ім праваднікa і напісаў запіску ў Ялоўку, каб у мястэчку салдатам выдалі 10 вёдзер гарэлкі. Але, расхваляваўшыся з-за нядаўняга візіту да яго Каліноўскага з Заблоцкім, “не паясніў, хто менавіта тую гарэлку павінен даць”[536] на яго рахунак. Таму Ляскоўскі вырашыў выехаць у Ялоўку на брычцы, на якой з Якушоўкі вярнуўся адзін Заблоцкі. І ў той час як Каліноўскі пасля Якушоўкі накіраваўся ў іншыя паўстанцкія атрады, Заблоцкі рушыў у Гродна праз маёнтак Кватары Антона Гліндзіча, Станіслава Радавіцкага, а таксама прыбыў да Вайсятыча. Паабедаўшы, утраіх яны паехалі да памешчыка Івана Камінскага, дзе пераначавалі, і на наступны дзень Радавіцкі вярнуўся дахаты, а Заблоцкі з

[534] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 34. – Спр. 220. Дело о повстанческом движении по Слонимскому у. в 1863 г. – Арк. 62 адв.

[535] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 120 адв.

[536] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 2. – Арк. 340 адв.

Вайсятычам і Камінскім накіраваліся яшчэ да аднаго акруговага – Рэдыха ў маёнтак Свіслач, дзе паабедалі, і Заблоцкі ўжо адзін вярнуўся ў Гродна.

Па вяртанні ў Гродна Канстанціна Каліноўскага заспела навіна пра шматлікія арышты ў Вільні, якія фактычна паралізавалі дзейнасць Аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы, на чале з Я. Гейштарам.

У маі 1863 года на кватэры ў доме Фукса на Дамініканскай вуліцы ў Гродне, дзе жыў Мілевіч, Каліноўскі сустрэўся з Заблоцкім і папярэдзіў яго, што ў сувязі са шматлікімі арыштамі ў Вільні ён выпраўляецца туды і Заблоцкага прызначае камісарам Гродзенскага ваяводства[537], пры гэтым пры спробе Эразма адмовіцца ад пасады сказаў: “Не, брат, цяпер не час аднеквацца, калі замежныя дзяржавы вядуць перамовы так паспяхова на нашу карысць, а вы – баязліўцы, падаючы духам, хочаце даць Расіі сродкі пераканаць іх, што толькі дзіцячыя гульні, а няма сапраўднага патрыятызму”[538]. Ксёндз Андрэй Чаповіч прызначаўся адказным за Гродзенскі, Ваўкавыскі і Слонімскі паветы і быў прызначаны памочнікам камісара, пры гэтым памочнікі мелі права кантактаваць з Каліноўскім непасрэдна.

Сам Каліноўскі разам з Заблоцкім наведаў С. Солтана, якому была прапанавана пасада ваяводскага, але ён адмаўляўся, спасылаючыся на хваробу жонкі, і замест сябе прапанаваў двух кандыдатаў – Івана Камінскага і доктара Цеханоўскага. Аднак нягледзячы на гэту прапанову, ваяводскім быў прызначаны Сільвястровіч, былі гродзенскі павятовы, месца якога заняў акруговы Іван Каменскі[539]. Пасля арышту Сільвястровіча разам з Жыгімонтам Урублеўскім і кіраўніком горада Цеханоўскім месца апошняга заняў Іосіф Рудкоўскі. Але ў верасні быў арыштаваны і ён, разам з Камінскім, тады кіраўніком горада стаў Уладзіслаў Жалкоўскі.

У чэрвені 1863 года ў сувязі з пераездам Каліноўскага ў Вільню яго месца заняў Заблоцкі. Ваяводскім жа чатырох паветаў – Гродзенскага, Сакольскага, Ваўкавыскага і Слонімскага – стаў Сільвястровіч.

537 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 41 адв.
538 Там жа, арк. 41 адв – 42.
539 Там жа, арк. 42 адв.

## *Вяртанне ў Вільню*

Пакідаючы Гродзенскую ваяводскую арганізацыю, Каліноўскі лічыў, што пакідае яе ў руках адказнага паплечніка – Эразма Заблоцкага, які прыкладзе ўсе намаганні для падтрымання яе дзейнасці. Менавіта так і сталася. Па прыбыцці ў Вільню ён адаслаў праз пошту бланкі з водціскам пячаткі[540], якая захоўвалася ў Адольфа Талочкі[541], а таксама пытанні для высвятлення маральнага стану ваяводства[542]. Перасылка карэспандэнцыі ажыццяўлялася праз маёнтак Калбасіно памешчыцы Свяржынскай[543].

Заблоцкі актывізаваў працу, якая асаблівы плён давала ў Гродзенскім павеце, аб чым ён 16 ліпеня паведамляў у Варшаву Цэзару Мараўскаму: "Ужо ўсё па-старому"[544]. Ліст, адасланы ад імя бацькі Цэзара, намесніка Брэсцкага павятовага суда Нікадзіма Мараўскага, хавае ў сабе важную інфармацыю пра стан арганізацыі і магчымасці перамяшчэння яе прадстаўнікоў чыгункай: "Чыгуначная дарога з Беластока да Гродна зусім скончана, і гэта нас вельмі радуе, таму што можаш прыехаць да нас"[545]. Але найважней гучала надзея пра тое, што, нарэшце, у Варшаве быў пачуты голас Літвы і Беларусі: "З вялікай прыемнасцю мы чыталі твой ліст, таму што зноў бачна тваё добрае размяшчэнне"[546].

Услед за Гроднам Каліноўскі аднаўляе паўстанцкую дзейнасць у Вільні, дзе арганізацыя на чале з Я. Гейштарам пасля серыі арыштаў фактычна перастала існаваць. Гейштар і Дзюлеран былі вымушаны ўвесці Каліноўскага і яго паплечніка У. Малахоўскага ў кіраўніцтва. 10 чэрвеня да іх далучыўся афіцэр Юзаф Каліноўскі, які заняўся арганізацыяй вайсковых спраў.

Першым дзеяннем Канстанціна Каліноўскага ў якасці ўдзельніка Аддзела стала выданне на беларускай мове "Прыказа… да народу зямлі літоўскай і беларускай" ад 11 чэрве-

---

540 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 40. – Арк. 58.
541 Там жа, арк. 70.
542 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 115.
543 Там жа, арк. 119.
544 Там жа, арк. 188 адв.
545 Там жа.
546 Там жа, арк. 189.

ня, у якім адзначалася: "Дзела наша – не дзела панскае, а справядлівай вольнасці, якой вашыя дзяды і бацькі здаўна ждалі…"[547]. Гэта адзін з самых радыкальных дакументаў, напісаных Каліноўскім, у якім ён намагаецца праводзіць прынцып "хто не з намі, той супраць нас": "Цяпер то настаў час, што кожнаму будзе адмерана так, як ён сам сабе намерыць. Пан будзе ліхі – пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі – то і мужыка павесім, а дворы іх і сёла з дымам пойдуць і будзе справядлівая вольнасць – бо гэтага сам Бог ужэ хоча і Прачыстая Маці!"[548]. Каліноўскі, стаўшы ўдзельнікам яшчэ Аддзела, кіруючага правінцыямі Літвы, і прадстаўляючы "справядлівы Ронд Польскі на Літве і Беларусі", заклікаў сялян "не памагаць ужэ больш маскалю ні ў чом, бо ён, мусіць, ужэ не дужы, калі просіць вашай помачы"[549]. Адначасова быў надрукаваны і апошні, сёмы нумар "Мужыцкай праўды".

14 чэрвеня Аддзел, кіруючы правінцыямі Літвы, у адпаведнасці з дэкрэтам польскага Нацыянальнага ўрада быў перайменаваны ў Выканаўчы аддзел Літвы, для якога на замову Каліноўскага разьбяр Генрых Штэйман падрыхтаваў новую пячатку. На ёй меўся надпіс: "Літоўскі Камітэт. Свабода. Роўнасць. Незалежнасць". Але ценем на гэтую падзею лягла смерць Зыгмунта Сеpакоўскага, пакаранага 15 чэрвеня на Лукішскай плошчы ў Вільні.

Істотным крокам на ўмацаванне пазіцыі Каліноўскага і яго паплечнікаў на чале паўстання стаў ад'езд выкліканага ў Варшаву ў сярэдзіне ліпеня Нестара Дзюлерана, які перадаў Канстанціну старую пячатку. Але не паспеў той даехаць да месца, як з Вільні ў Варшаву быў накіраваны праект новага статута ўзаемаадносін двух цэнтраў паўстання на аснове роўнасці. Да праекта была прыкладзена новая пячатка, што выклікала абурэнне з боку Гейштара. Але акрамя пратэсту ён больш нічога не мог зрабіць, як у свой час пасля перавароту сам Каліноўскі.

Умацаваўшы пазіцыі ў Выканаўчым аддзеле, Каліноўскі прыступіў да ажыццяўлення плана, які выкрышталізоўваўся ў яго з моманту адхілення ад улады і ўсведамлення неабходнасці

[547] Калиновский, К. Из печатного и рукописного наследия / К. Калиновский. – Мн., 1988. – С. 73.

[548] Там жа.

[549] Там жа, с. 74.

радыкальных дзеянняў, на якія нават варшаўскія "чырвоныя" не былі гатовыя. Таму ён быў рашуча настроены на здабыццё гістарычнай Літвою незалежнасці[550]: "Літва і Беларусь – самастойная дзяржава"[551]. У выпадку адхілення Варшавай дамовы аб раўнапраўных узаемаадносінах Каліноўскі быў гатовы разарваць усякія стасункі з Польшчаю[552].

На кватэры Ямантаў у канцы ліпеня 1863 года адбылася сустрэча Каліноўскага з камісарам варшаўскага Нацыянальнага ўрада Лявонам Главацкім, братам вялікага польскага пісьменніка Баляслава Пруса. Тэмаю абмеркавання сталі супярэчнасці ў разуменні мэт паўстання і імкненне з боку Вільні да яго радыкалізацыі, перш за ўсё ў пытаннях адасаблення былога Княства ад Польшчы і перадачы зямлі сялянам, чым Каліноўскі настройваў супраць сябе мясцовых памешчыкаў, не гатовых нават у імя радзімы ісці на ахвяры. Сакратар Каліноўскага Юзаф Ямант ужо некалькі месяцаў "вёў палеміку з Варшавай, якая не разумела мясцовых адметных умоў Літоўскага краю"[553].

Вырашаць дадзеную сітуацыю 20 ліпеня ў Вільню выправіўся член варшаўскага ўрада Оскар Авейдэ. Дзюлеран жа быў зняты з пасады і прыцягнуты да адказнасці за тое, што давёў да ўскладнення адносін. Авейдэ прыбыў у Вільню разам з карэспандэнтам Герцэна і Агарова, удзельнікам няўдалай марской экспедыцыі Феліксам Зянковічам.

Сустрэчы Авейдэ і Каліноўскага праходзілі на кальвінскіх могілках Вільні, хутчэй за ўсё, побач з магілай Канарскага, пра што сведчыў Усевалад Крастоўскі, карыстаючыся крыніцамі, якія да нашага часу не захаваліся: "Але дарэмна бегаў Авейдэ на віленскія нямецкія могілкі для спатканняў і перамоў з Каліноўскім. Гэты апошні не згаджаўся ні на што і заявіў, што яму няма справы да Кароны, што Літва і Беларусь зусім асобная і самастойная дзяржава… У часе яго кіпучай дзейнасці і нават пасля арышту паміж… віленскім насельніцтвам, таксама як і на Жмудзі, доўгі час хадзілі цёмныя чуткі, што недзе,

[550] Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Т. 1. – Вильно, 1867. – С. 184.

[551] Там жа, с. 231.

[552] Там жа, с. 232.

[553] Калиновский, К. Из печатного и рукописного наследия / К. Калиновский. – Мн., 1988. – С. 127.

маўляў, у Вільні пражывае “Круль Літвы”, які хоча “адхіліцца ад палякаў” і завесці “сваё ўласнае крулеўства”[554].

Але падзеі ў гэты час пачынаюць разгортвацца вельмі хутка. Касір Гродзенскага ваяводства накіраваў наступны рапарт у Літоўскі выканаўчы аддзел: “Гонар маю паведаміць, што ў нас амаль усякі дзень захопнікі арыштуюць людзей і сярод якіх узялі Мядзёра і Бобу; таму прысутнасць Міля тут неабходна. Каса нашая з кожным днём змяншаецца. Вітанне і братэрства”[555].

## *Дыктатар паўстання ў Беларусі і Літве*

У канцы ліпеня Каліноўскі вядзе перамовы з Авейдэ пра статус узаемаадносін Вільні і Варшавы ў кіраўніцтве паўстаннем. Ход гэтых перамоў трапна апісвае В. Ратч, зазначаючы, што Авейдэ так і не ўдалося “ўламаць Каліноўскага, угаварыць яго любоўю да польскай Айчыны, пра якую самазванец-дыктатар Літвы і Беларусі рашуча ведаць не жадаў”[556].

У гэты час, 26 ліпеня, У. Малахоўскі ў якасці кіраўніка Вільні падпісаў смяротны прысуд віленскаму прадвадзіцелю дваранства А. Дамейку, які ініцыяваў вернападданніцкі ліст шляхты на імя Мураўёва і атрымаў ордэн Станіслава 1-й ступені. Таксама для здзяйснення забойства віленскага губернатара Мураўёва з Варшавы прыбыў 26-гадовы Ян Бянькоўскі, які павінен быў пакараць царскага саноўніка ў Віленскім саборы ў дзень нараджэння імператрыцы 27 ліпеня. Але ён так і не здолеў прабрацца да яго дастаткова блізка.

Для здзяйснення ж пакарання Дамейкі прапанаваны Малахоўскім выканаўца па загаду Каліноўскага быў заменены, паколькі меў жонку і некалькіх дзяцей[557]. Аб забойстве Дамейкі 30 ліпеня ў Вільні з’явіліся шматлікія абвесткі. Але, як высветлілася, яны былі заўчаснымі: ні адзін з сямі нанесе-

[554] Цыт. паводле: Швед, В.В. Рэквіем паўстанцам 1863–1864 гг. Гродзенская губерня / В.В. Швед. – Мінск: Альфа-кніга, 2017. – С. 61.

[555] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 142. Паўстанцкія мянушкі Баляслава Заблоцкага і Ільдэфонса Мілевіча.

[556] Ратч, В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России / В.Ф. Ратч. – Т. 1. – Вильно, 1867. – С. 233.

[557] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. 2 t. – Wilno, 1913. – T. 2. – S. 76.

ных удараў не прывёў да яго смерці. Дамейку ўратаваў тоўсты халат.

У Вільні пачаліся арышты, падчас якіх ужо 31 ліпеня быў схоплены Якуб Гейштар, паспеўшы да таго перадаць пячатку Аддзела Цітусу Далеўскаму, які з гэтага часу становіцца найбольш блізкім паплечнікам Каліноўскага. 3 жніўня ў рукі жандараў трапіў разьбяр Штэйман, паказанні якога настолькі напалохалі ўлады, што было прынята рашэнне для эканоміі часу “скарачаць па магчымасці формы справаводства”[558].

Каб не трапіць пад арышт, у Пецярбург вымушаны быў накіравацца Малахоўскі, які атрымаў ад Каліноўскага заданне аднавіць сувязі з “Зямлёй і воляй”. Ужо ў сярэдзіне жніўня ён даслаў ліст, у якім звяртаўся з просьбай даслаць у сталіцу імперыі друкарскі станок для рускіх рэвалюцыянераў. Аднак у Пецярбургу яго не забралі, і станок вярнуўся назад у Вільню і 20 верасня быў знойдзены ўладамі.

Удзельнікі ж замаху на Дамейку былі схоплены выпадкова: адзін з кінжальшчыкаў, рускі праваслаўны Мірошнікаў, у адной з размоў са знаёмым прагаварыўся пра свой удзел у арганізацыі. У выніку жандары выйшлі на асобу Бянькоўскага, які 6 жніўня быў схоплены на чыгуначным вакзале, збіраючыся выправіцца ў Варшаву і спецыяльна, каб заблытаць паліцэйскіх, пафарбаваў валасы. Усяго пасля паказанняў Мірошнікава былі схоплены 10 кінжальшчыкаў, сямёра з якіх былі павешаны ў Вільні, а яшчэ трое, у тым ліку і здраднік, адпраўлены на катаргу.

У такіх абставінах усё большая адказнасць ускладалася на Каліноўскага, які адхіліў ад кіравання ўзброенымі сіламі Гродзенскага ваяводства Духінскага і прызначыў замест яго Валерыя Урублеўскага, а таксама выдаў загад-адозву да паўстанцаў, якія адбіліся ад сваіх атрадаў, аб тым, што барацьба будзе працягнута і зімой.

Арышты працягваліся: 5 жніўня быў схоплены паўстанцкі камісар Віленскага ваяводства Мечыслаў Дарманоўскі, 7 жніўня – Фелікс Зянковіч, а 22 жніўня быў арыштаваны Оскар Авейдэ, які да гэтага паспеў дамовіцца, пайшоўшы на саступкі, з Літоўскім камітэтам і перадаў свае паўнамоцтвы камісара ў Літве і Беларусі Каліноўскаму. У выніку той зрабіўся фактыч-

[558] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 159.

ным дыктатарам паўстання, сканцэнтраваўшы ў сваіх руках паўнату ўлады. Але карыстацца ёю ва ўмовах разгорнутага мураўёўскага тэрору фактычна не мелася магчымасцей.

Многія паўстанцкія дзеячы вымушаны былі пакідаць Вільню, як стрыечны брат мужа Элізы Ажэшкі – Станіслаў, які з'яўляўся кіраўніком паўстанцкай паліцыі Вільні і якому з сабою Каліноўскі даў рэкамендацыйны ліст у Гродна за подпісам "Хам…" (Хамовіч). Ажэшка павінен быў звярнуцца па дапамогу да доктара Заблоцкага, для чаго 4 жніўня выехаў у Гродна. Па дарозе ён быў схоплены разам з лістом, які пры ім быў. Нягледзячы на тое, што непасрэдна ў лісце не было пагрозлівай для Гродзенскай арганізацыі інфармацыі, але такой інфармацыяй валодаў сам Ажэшка, які моцна захварэў, патрапіў у Вільні ў шпіталь, дзе ўказаў у кастрычніку 1863 года на арыштаванага доктара Баляслава Заблоцкага, паставіўшы тым самым усю суполку пад пагрозу выкрыцця. Дзякуючы паказанням, ён уратаваў жыццё і быў адпраўлены ў Сібір на катаржныя работы.

Баляслаў Заблоцкі меў 29 гадоў. Нарадзіўся ў маёнтку Крыжы Ковенскай губерні, выхоўваўся ў Лідскім пяцікласным вучылішчы, пасля чаго скончыў Маскоўскі ўніверсітэт "са ступенню павятовага лекара", дзе пасябраваў з Віктарам Каліноўскім. Пасля гэтага стала жыў разам з братам Эразмам у Гродне. Ён вылучаўся сваёй хваравітасцю і ўражлівасцю. У горадзе была папулярнай гісторыя пра тое, як ён прасіў рукі сваячніцы графа Валіцкага, уладальніка маёнтка Віланова каля Азёраў. Усё было б добра, але тая ўжо была заручаная з іншым. 26 верасня 1863 г. Баляслаў Заблоцкі быў арыштаваны, а затым сасланы ва ўнутраныя губерні Расійскай Імперыі.

Арганізацыя рассыпалася пад ціскам арыштаў, страціўшы сувязі з рэгіянальнымі аддзеламі. Шляхта перастала падтрымліваць паўстанцаў, адкрыта пераходзячы на бок улад, таму спроба арганізаваць падпісванне контрадрасоў (адмысловых публічных лістоў у супрацьстаянне вернападданніцкім зваротам шляхты) правалілася. Адзіным шанцам працягнуць паўстанне заставалася ўзрушэнне сярод сялянства. Нездарма 10 верасня Каліноўскі прызначыў Іосіфа Яманта камісарам Мінскага ваяводства, даручыўшы яму высветліць, што можна зрабіць для прыцягнення сялян да паўстання і ці маюць

уплыў на іх "рэвалюцыйныя лісткі, а калі маюць, то якога характару павінны быць адозвы"[559]. Ужо 12 верасня Іосіф выправіўся ў Мінск, адкуль 13 верасня прыехаў Міхаіл Аскерка разам з 18-гадовым студэнтам Кіеўскага ўніверсітэта Вітольдам Парфіяновічам. Аскерка завёў Парфіяновіча на кватэру Ямантаў і пазнаёміў з Каліноўскім, які даў Парфіяновічу даручэнне ў Пецярбург, звязанае з дастаўкай грошай і пашпартоў некаторым мінскім паўстанцам. 17 верасня Парфіяновіч разам з Аскеркам выбылі з Вільні.

Падтрымліваць паўстанцаў услед за шляхтаю перастаў і каталіцкі касцёл. 6 верасня з адпаведным заклікам выступіў жэмайцкі біскуп Мацей Валанчус. 16 верасня да яго з адкрытым лістом звярнуўся Канстанцін Каліноўскі, які вышэйшае каталіцкае духавенства назваў "сапраўднымі прэлатамі". Але гэтыя захады былі марныя, як і загад камандзіру Ашмянскага атрада Чаховічу па мянушцы Астоя не складаць зброю.

Каля 24 верасня Парфіяновіч вяртаецца з Пецярбурга і зноў знаходзіць Каліноўскага ў Ямантаў. Тут дыктатар паўстання ў Беларусі і Літве прызначае Парфіяновіча камісарам Магілёўскага ваяводства і гаворыць аб неабходнасці збіраць подпісы пад контрадрасамі, а таксама ўручае яму "аб'яву жонда, напісаную ў гэтым жа сэнсе, дзе між іншым заклікаліся патрыёты не падаць духам". Праз тыдзень Парфіяновіч вярнуўся ў Пецярбург.

У гэты ж час рускія ўлады даведаліся пра сапраўднае імя кіраўніка віленскай арганізацыі Канстанціна Каліноўскага, якога першапачаткова, згодна паказанням Дарманоўскага, пераблыталі з Канстанцінам Хамовічам. 25 верасня Міхаіл Мураўёў накіраваў шыфраваную тэлеграму гродзенскаму губернатару Скварцову арыштаваць Каліноўскага і Баляслава Заблоцкага, прозвішча якога ўсплыло ў паказаннях Ажэшкі. Але ў Гродне пераблыталі прозвішча Каліноўскага, якое прачыталі як "Кайноўскі", у чарговы раз не дазволіўшы звязаць справы аб раскідванні "Мужыцкай праўды" на Слонімшчыне ў кастрычніку 1862 года і постаць колішняга гродзенскага камісара, цяпер жа дыктатара паўстання ў Беларусі і Літве.

[559] Калиновский, К. Из печатного и рукописного наследия / К. Калиновский. – Мн., 1988. – С. 125.

# *Апошнія месяцы*

Апошні год свайго жыцця Каліноўскі жыў у Вільні пад рознымі прозвішчамі, сярод якіх былі Хамовіч, Макарэвіч, затым Ігнацій Вітажэнец. Для кожнага з іх ён рыхтаваў пэўную легенду. Так, Вітажэнец – гэта шляхціч Віленскага ўезда, выхаванец Віленскай гімназіі. Ва ўніверсітэце не вучыўся, з лета да кастрычніка 1863 года знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Віславуха, пасля чаго вярнуўся ў Вільню, дзе наняў кватэру ў гімназіі. Займаўся "зборам гістарычных характараў славянскіх народнасцей"[560].

Яшчэ ў верасні 1863 года з Варшавы яму, Каліноўскаму, Даманскі прывёз намінацыю на званне паўнамоцнага камісара Літвы[561], тым самым Варшава пасля пагроз адасаблення Вільні зацвердзіла прапанаваныя ёй умовы.

Мэтаю Каліноўскага, які заставаўся ў Вільні нягледзячы на рэкамендацыі сяброў пакінуць горад і выправіцца ў эміграцыю, з'яўлялася падтрыманне падпольнай арганізацыі і замяшчэнне яе членаў, арыштаваных мураўёўскімі жандарамі. Сярод арыштаваных у ноч на 26 верасня 1863 года апынуўся яго сябар Ігнат Здановіч, які адмовіўся ад дачы падрабязных паказанняў, у тым ліку ў адносінах дыктатара паўстання ў Літве і Беларусі, у адрозненне ад арыштаванага цывільнага начальніка Віленскага ваяводства Францішка Канаплянскага, які 6 кастрычніка даў падрабязныя паказанні ў следчай камісіі пра дзейнасць Каліноўскага як свайго непасрэднага кіраўніка[562].

У кастрычніку Каліноўскі пад імем Вітажэнца жыў спачатку некалькі дзён у віленскай гасцініцы Пузыны, а затым у сярэдзіне месяца здымае кватэру пад № 16 у чыноўніка Жаброўскага[563]

[560] Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / Уклад. З. Кузменка. – Мн.: Галіяфы, 2014. – С. 21.

[561] НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 3.

[562] Кісялёў, Г. Летапіс жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага / Г. Кісялёў // З думай пра Беларусь. – Мн.: Беларусь, 1966. – С. 168.

[563] Канстанцін Жаброўскі – чыноўнік Віленскай казённай палаты, 31 год, католік, жанаты на Соф'і Вейс, мае дачку 4 гадоў. Ураджэнец Вількамірскага ўезда Ковенскай губерні, навучэнец Слуцкай гімназіі. З 1855 года знаходзіўся ў Вільні, з 1861 года пражываў у будынку гімназіі разам з цесцем Феліксам Вейсам, настаўнікам малявання Віленскай гімназіі.

ў “гімназіяльным доме пры Замкавай вуліцы” (так званыя Святаянскія муры)[564].

За прыватныя заняткі пры канцылярыі Віленскай дырэкцыі вучылішч Жаброўскі замест грошай 29 верасня 1863 года атрымаў кватэру, якая складалася з двух пакояў. Паколькі Жаброўскі жыў у цесця, то падаў аб'яву аб здачы кватэры. У сярэдзіне кастрычніка да яго з'явіўся Каліноўскі, які аглядзеў кватэру, прадставіўся Вітажэнцам і вырашыў яе наняць. Трохі пагандляваўшыся, ён аплаціў кватэру за паўгода наперад, заплаціўшы праз тры дні пасля іх першай сустрэчы 30 рублёў срэбрам[565]. Пашпарт Вітажэнца быў перададзены ўпраўляючаму дома Уладзіславу Станкевічу, які пасля праверкі паліцыяй вярнуў яго назад.

Прыслугоўваў Каліноўскаму дворнік Ігнацій Шоцік, казённы селянін Віленскага ўезда, 40 гадоў, каталік, жанаты, які пяты год служыў пры Віленскай гімназіі. За сваю працу Ігнацій ад Каліноўскага атрымліваў 2 рублі срэбрам штомесяц.

Першапачаткова кватэра Каліноўскага была без мэблі, таму, як паказаў Ігнацій, тая яму была дастаўлена ад спадарыні Длускай, якая таксама жыла ў Святаянскіх мурах. Праз пару тыдняў гэтую мэблю Длускай вярнулі, а замест яе ў габрэяў была набыта іншая.

У арганізацыі жытла Каліноўскаму дапамагала паўстанцкая сувязная Караліна Яцына, пакараная пазней высылкай у Сібір. На наступны дзень пасля засялення Каліноўскага яна прынесла яму цёплую коўдру, а яшчэ праз дзень – дзве шклянкі са сподачкам. Пасля гэтага яна прыходзіла да Каліноўскага адзін-два разы на тыдзень і заўсёды каля 9 гадзін раніцы.

Каліноўскі звычайна ўставаў каля 9 гадзін, і, напіўшыся гарбаты, у 10 гадзін накіроўваўся з хаты па справах (калі прыходзіла спадарыня Яцына, то выходзіў пазней). Вяртаўся амаль заўсёды ў 12 або пад абед. У пачатку 6-й вечара да яго ў пакой дворнік Ігнацій прыносіў самавар. Пасля гарбаты Каліноўскі зноў выходзіў з кватэры і вяртаўся ў 8 або да паловы 9-й[566]. Яго месцажыхарства наведваюць Мілевіч, Далеўскі, Шадурскі, Пашкоўскі, Грэгатовіч, Юзаф Каліноўскі, граф

[564] Там жа.

[565] Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / Уклад. З. Кузменка. – Мн.: Галіяфы, 2014. – С. 33.

[566] Там жа, с. 35–36.

Марыконі, доктар Мацкевіч, Зяменцкі[567]. Іосіф Мілевіч разам з Юзафам Каліноўскім некалькі разоў схілялі Канстанціна да пакоры расійскаму ўраду і спынення дзейнасці паўстанцкай арганізацыі[568]. Але беспаспяхова.

Звычайна Каліноўскі выпраўляўся ў госці да Ямантаў, дзе найчасцей бываюць іх сваякі Радзевічы, Караліна і Ганна Макрыцкая, Казіміра Дзванкоўская, доктар Міхаіл Аскерка, Юзаф Каліноўскі, Парфіяновіч, Цітус Далеўскі і зрэдку граф Марыконі і паўстанцкі экспедытар Шадурскі[569]. Пасля сустрэчы з паплечнікамі па Віленскім камітэце і з нарачонай Марыляй Ямант далей Каліноўскі заходзіў на канспіратыўныя кватэры, дзе пісаў лісты.

19 кастрычніка ён прызначыў свайго сябру і паплечніка па Літоўскім камітэце Б. Длускага ваенным камісарам Літвы і Беларусі за мяжою з правам распараджацца замежным грашовым фондам віленскага паўстанцкага цэнтра.

25 кастрычніка на Гродзеншчыне царская паліцыя арыштоўвае Канстанціна Хайноўскага, якога (за падабенства прозвішча) лічаць Каліноўскім, і таго выпраўляюць у Вільню. Але 27 кастрычніка, калі высветлілася памылка, з Вільні ў Гродна губернатару Скварцову накіроўваюць сапраўдныя прыкметы Каліноўскага. Робіцца дапушчэнне, што гэта менавіта той чалавек, які ў кастрычніку 1862 года раскідваў газету “Мужыцкая праўда” ў Слонімскім павеце. 30 кастрычніка Скварцоў рассылае цыркуляр пра пошукі Каліноўскага па ўсёй Гродзенскай губерні. А ён у гэты час жыве ў Вільні, і нават час ад часу наведваецца ў мясцовыя рэстарацыі, напоўненыя царскімі шпікамі.

3 лістапада па прапанове Каліноўскага арганізатарам узброеных сіл і выконваючым абавязкі ваеннага начальніка Ковенскага ваяводства прызначаны ксёндз Антон Мацкевіч, які ў хуткім часе быў схоплены і 16 снежня ў Коўне быў пакараны смерцю.

Каліноўскі накіроўвае ўсе свае сілы на падрыхтоўку ўмоў для паўстання на вясну 1864 года: “Калі б мясцовыя ўмовы прымусілі начальніка распусціць свой атрад, то салдатам вы-

567 НАРБ у г. Гродна. – Ф. 3. – Воп. 3. – Спр. 1. – Арк. 3 адв.
568 Там жа, арк. 4.
569 Там жа, арк. 3.

даваць адпускныя білеты, каб часовы роспуск атрада не меў выгляду канчатковага роспуску войскаў". Так, 4 снежня Каліноўскі адправіў Б. Длускаму за мяжу ліст з просьбай распрацаваць і надрукаваць ваенныя статуты, а таксама арганізаваць зімой ваенную школу.

У канцы кастрычніка-пачатку снежня Каліноўскі начуе на канспіратыўнай кватэры на Зарэчнай вуліцы, але дом неспа-дзявана акружылі паліцыянты і салдаты. Канстанцін выбраўся ў бялізне праз акно на пакрыты шыферам дах і, пакуль праводзіўся вобыск, знаходзіўся там. Л. Радзевіч-Ямант успамінала: "Толькі такая маральная і фізічная сіла, як у яго, здолела вытрымаць гэтае страшэннае выпрабаванне".

5 снежня царскія ўлады арыштавалі ў Коўне цывільнага начальніка Ковенскага ваяводства Людвіга Дзічкоўскага, які паведаміў кіраўніку асобай камісіі палкоўніку Шалгунову падрабязныя звесткі пра Віленскі паўстанцкі цэнтр, кіруючую ролю ў ім Канстанціна Каліноўскага і назваў дакладны адрас пражывання сакратара Каліноўскага і яго блізкага сябра Цітуса Далеўскага (жыў пад імем Парфіяновіча), якога арыштавалі 8 снежня на кватэры ўдавы паэта Сыракомлі на вуліцы Рудніцкай.

Царскія жандары ўсё бліжэй і бліжэй падыходзілі да Каліноўскага. У снежні Юзаф Каліноўскі ў размове з Канстанцінам указваў на безнадзейнасць далейшай барацьбы і на небяспечнасць яго становішча: "…раіў паехаць самому з Вільні. Ён не згаджаўся з маёй думкай і гаварыў, што абавязак, ускладзены і прыняты ім, пакінуць не можа". Не змянялі сітуацыю і пакаранні яго самых блізкіх сяброў: 21 снежня ў Вільні на Лукішскай плошчы павешаны Ігнацій Здановіч, а 30 снежня тут жа быў расстраляны Ціт Далеўскі.

У канцы снежня ў Коўне Каліноўскі з лістом адправіў Стэфанію Фальскую, якая была арыштавана і ў прысутнасці палкоўніка Шалгунова паведаміла, што ведае Каліноўскага пад прозвішчам Макарэвіча. У гэты час, 25 снежня Каліноўскі сустракаўся на кватэры Ямантаў з Вітольдам Парфіяновічам і запрасіў таго да сябе на кватэру ў Святаянскія муры – гэта была вялікая памылка, якая каштавала Канстанціну жыцця. Жандары падбіраюцца ўсё бліжэй, а ён у гэты час яшчэ апантана працуе, намагаючыся арганізаваць выданне за мяжой га-

зеты “Głos z Litwy”, першы нумар якой убачыў свет 20 студзеня ў Кёнігсбергу.

21 студзеня Каліноўскаму споўнілася 26 гадоў. Ці святкаваў ён гэты апошні свой дзень народзінаў…

## *Арышт*

9 лютага (28 студзеня па ст ст.) у 9 гадзін вечара ў віленскім палацы генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва атрымалі чарговую шыфраваную тэлеграму з Мінска ад жандарскага палкоўніка Лосева. Але гэтая, пад № 28 адрознівалася ад папярэдніх, паколькі ў ёй паведамлялася інфармацыя пра няўлоўнага дыктатара паўстання ў Літве і Беларусі: “На Святаянскай вуліцы ў Святаянскіх мурах жыве злачынец Каліноўскі, ваявода, пад імем Вітажэнец…”[570]. Але паколькі дакладнага нумару дома і кватэры, у якой ён жыў, Парфіяновіч не ведаў пры дачы паказанняў, Лосеў паведаміў асобу, якая павінна ведаць, дзе жыве Каліноўскі, назваўшы Юзэфу Баневіч, якая жыла ў дамініканскім доме[571]. Паліцыя была паднята па трывозе. Па атрыманым ад здрадніка Вітольда Парфіяновіча адрасе неадкладна выправіўся палкоўнік М.А. Саранчоў.

Улады не ведалі толькі нумара кватэры, у якой спыніўся Каліноўскі. Саранчоў асабіста праглядзеў дамавую кнігу мяркуемага месца жыхарства “дыктатара Літвы”, але з-за спешкі не знайшоў сярод запісаных прозвішча Вітажэнца. Прынята было рашэнне ачапіць увесь Святаянскі квартал, для чаго спатрэбіліся дзве роты салдат.

Цёмная зімовая ноч. Каліноўскі ў сваім пакоі ў доме Віленскай гімназіі не спіць, перабірае паўстанцкія дакументы. За дзвярыма ўсё гучней і гучней разносяцца чыесьці мітуслівыя крокі. Канстанцін хавае паперы, бярэ са стала знічку і выходзіць у калідор. Ён спускаецца па лесвіцы, калі агеньчык выхоплівае два салдацкія цені. Каліноўскі не разгубіўся, і на пытанне аб прозвішчы спакойна адказаў: “Вітажэнец”. Таго, што адбылося далей, лідар паўстання ў Беларусі і Літве не чакаў – яго схапілі. З рук выпала знічка і тут жа згасла, а яго, напаўраспранутага, пацягнулі ўніз.

Каліноўскі быў дастаўлены ў былы дамініканскі кляш-

[570] LVIA. – F. 419. – Ap. 2. – B. 190. – L. 62.

[571] Юзэфа Баневіч паходзіла з Ашмянскага павета, была жонкай дробнага чыноўніка і гаспадыняй адной з канспіратыўных кватэр у Вільні.

тар, дзе засядала Асобая следчая камісія пад старшынствам палкоўніка Шалгунова. Яго змясцілі ў камеру № 3. Легенду на выпадак арышту Канстанцін прыдумаў загаддзя, і таму падчас першага начнога допыту спакойна адказваў, што ён "Вітажэнец з дваран Віленскага ўезда", у паўстанні сапраўды прымаў удзел, знаходзіўся ў атрадзе Віславуха, але нядоўга – толькі лета і частку восені, да кастрычніка, цяпер жа "займаўся распрацоўкай матэрыялаў гістарычных характараў славянскіх народнасцей"[572].

Але Каліноўскага апазнала Марыя Грагатовіч, у якой жыла адна з паўстанцкіх сувязных – Стэфанія Фальская. Пасля гэтага хаваць сапраўднае прозвішча не мела сэнсу. У гэты час на кватэры ў Віленскай гімназіі, дзе хаваўся Каліноўскі, памочнікі прыставаў Сеташэўскі і Вішнеўскі "рабілі найпільнейшы і паўсюдны ператрус". Была знойдзена вялікая колькасць папер, перададзеных калежскаму саветніку А. Лапцеву – чыноўніку для асобых даручэнняў пры Мураўёве. Далейшы лёс гэтых папер да цяперашняга часу невядомы. Але самыя важныя дакументы захоўваліся ў пустой ножцы стала. Іх забрала ўдзельніца паўстанцкай арганізацыі віленская настаўніца Караліна Яцына, якая дачакалася заканчэння ператрусу. На наступны дзень, спахапіўшыся, рускія жандары ўжо нічога не знайшлі.

## *У турме*

10 лютага Каліноўскі назваў сваё сапраўднае імя і пасаду ў рэвалюцыйнай арганізацыі. Ён пачаў даваць паказанні, якія некалькі разоў за час следства мяняў, блытаў, так і не называючы нікога са сваіх падначаленых, якія яшчэ знаходзіліся на волі і мелі час уратавацца. 14 лютага ў Віленскай асобай следчай камісіі падрабязныя паказанні пачынае даваць Вітольд Парфіяновіч, якому Мураўёў дараваў не толькі жыццё, але і вызваліў ад вочнай стаўкі з Каліноўскім. На адной і той жа старонцы сваіх паказанняў Парфіяновіч здрадзіў Канстанціну Каліноўскаму і адначасова ўвекавечыў у гісторыі герояў паўстання, назваўшы іх пароль: "– Каго любіш? – Люблю Беларусь! – Так узаемна!"[573].

[572] Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / Уклад. З. Кузменка. – Мн.: Галіяфы, 2014. – С. 21.

[573] LVIA. – F. 1248. – Ap. 2. Дело Виленской Особой Следственной Коммисии О лицах, прикосновенных к делу казненнаго преступника Константина Калиновскаго. – B. 594. – L. 8v.

Каліноўскага намагаюцца зламаць разнастайнымі спосабамі, тэрарызуючы пытаннямі наконт знаёмства з сям'ёй яго нарачонай Марысі Ямант, якую таксама арыштавалі і змясцілі ў будынку насупраць бернардынаў – у былым кляштары місіянераў. 21 лютага ў бітве пад Апатавым Сандамірскага ваяводства быў схоплены яго сябар Людвіг Звяждоўскі, якога пакаралі смерцю, аб чым неадкладна паведамілі Канстанціну. Але ён не здаецца. Наступае чарга вочных ставак, якія змяняюцца адна за адной. Спачатку Браніслава Сідаровіч, з якой Каліноўскі адначасова ў канцы 1862 года жыў на кватэры ў Грагатовіч, і якая "не ведае" Каліноўскага. Затым 2 сакавіка спатканне з арыштаваным камісарам Мінскага ваяводства Міхалам Аскеркам. Але і Аскерка адмаўляе знаёмства з Каліноўскім, з якім яны насамрэч былі блізкімі сябрамі.

Вытрымаўшы шэраг спроб следчых надавіць на яго пагрозамі ў адрас сям'і Ямантаў, 10 сакавіка Каліноўскі, так нікога і не выдаўшы, робіць у следчай камісіі заяву, што "шпіёнства апаганьвае чалавека", што грамадства, пабудаванае на асновах шпіёнства, "не вартае гэтай назвы", і адмаўляецца ад далейшых паказанняў: "Прычыны і вынікі мной добра абдуманы, а ўсведамленне гонару, уласнай годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці па іншым шляху"[574]. Таму на наступны дзень Асобая следчая камісіі вырашыла скончыць следства над Каліноўскім і накіравала свой даклад і следчую справу Мураўёву, які запатрабаваў паўстанца "аддаць ваеннаму суду і скончыць гэты суд за трое сутак". На думку камісіі, Каліноўскі – "адзін з самых адданых справе паўстання і найбольш дзейных яго кіраўнікоў у тутэйшым краі". Цікавасць да яго асобы была настолькі вялікай, што да яго шматразова наведваліся многія расійскія чыноўнікі, набліжаныя Мураўёва. Сярод іх малады А. Масолаў, якому Каліноўскі запомніўся як "моцнага складу і з тварам жорсткім і выразным, кароткія русыя валасы былі зачэсаны назад".

Ужо па заканчэнні следства Каліноўскі напісаў некалькі запісак, якія маглі б патлумачыць яго асабістыя погляды на Паўстанне. Але з іх захавалася толькі адна, напісаная 12 сакавіка, у якой ён адзначае: "Я не праціўнік шчасця на-

[574] Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / Уклад. З. Кузменка. – Мн.: Галіяфы, 2014. – С. 51.

роднага, не праціўнік і Расіі, калі яна дабра нам жадае, але праціўнік тых бедстваў, якія перашкаджаюць нам палепшыць край няшчасны". У апошніх радках ён пакідае за сабой права "цешыць сябе надзеяй, што адновіцца народнае дабро. Дай Бог толькі, каб для дасягнення гэтага нашчадкі нашыя не пралівалі лішняй братняй крыві"[575].

Адначасова Каліноўскі праз цётку Марысі Ямант – Ядвігу Макрыцкую – падтрымлівае ліставанне са сваёй нарачонай і перадае на волю векапомныя "Лісты з-пад шыбеніцы". 13 сакавіка ў 10 гадзін раніцы пачаўся суд, які быў толькі фармальнай справай. Каліноўскі падпісаў усе прапанаваныя яму дакументы, адзначыў, што не мае прэтэнзій да членаў суда і больш не можа нічога дадаць у сваю абарону. Затым запоўнілі пратаколы і на гэтым скончылі. Ужо на наступны дзень, 14 сакавіка, Каліноўскаму быў вынесены прысуд: "За прыняцце звання члена рэвалюцыйнага камітэта Літвы і пасля таго галоўнага распарадчыка паўстання ў тутэйшым краі, а разам з тым за здраду дзяржаве, схіленне да бунта жыхароў… пакараць смерцю – расстраляць"[576]. Але 16 сакавіка Каліноўскаму замянілі меру пакарання на павешанне, падкрэсліўшы яго імкненне працягнуць паўстанне вясною 1864 года. 17 сакавіка Мураўёў вызначыў месца пакарання – Вільня.

Апошнія дні свайго жыцця Каліноўскі знаходзіўся пад наглядам генерал-лейтэнанта А.С. Вяткіна. Менавіта камендант накіраваў 21 сакавіка віленскаму каталіцкаму дэкану прэлату А. Нямекшу звычайную для такога моманту просьбу: прыслаць на наступны дзень на 7 гадзін ранку ксяндза. Ён павінен быў падрыхтаваць і суправадзіць Каліноўскага на смерць. Але дыктатар паўстання адмовіўся ад дапамогі: на смерць, да якой даўно рыхтаваўся, ён павінен ісці адзін.

## *"Лісты з-пад шыбеніцы"*

Перадсмяротны запавет Каліноўскага быў напісаны на беларускай мове і складаецца з трох адрозных частак. Першая з іх, найбольшая, была, відавочна, складзена як адзін з артыкулаў для газеты "Głos z Litwy". Седзячы за кратамі, Канстанцін

[575] Там жа, с. 73.
[576] Там жа, с. 88.

Каліноўскі намагаўся зрабіць як мага больш для працягу барацьбы, пры гэтым ужо разумеючы, што яго асабісты лёс вырашаны, а голас простага народа, у абарону якога ён выступаў, можа застацца незаўважаным тымі, хто пазбегнуў зняволення і кіруе змаганнем. Гэта неабходна ўсведамляць пры прачытанні дадзенага тэксту.

Каліноўскі намагаецца паказаць, “як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваей сіле дабівацісія будуць”, і ў той жа час звяртаецца да “ронду польскага”, заклікаючы таго да самых радыкальных захадаў, “што па-нашаму рабіці трэба, каб панаванню маскоўскаму не цяпер, то пазней канец ужэ палажыці”.

Ліст даводзіць, што маскоўскі народ – не сапраўдны “брат”, паколькі пад націскам мангольскай няволі і ўладаю цароў ён страціў усякую памяць пра свабоду і пераўтварыўся ў грамаду “людзей паганых без мыслі, без праўды, без справядлівасці, без сумлення да і без баязні Боскай”. Ён умацаваў валадарства паноў над простым народам, “пазволіў кожнаму дужшаму глуміцца над бедным як толькі хоча”. Калі ж сярод паноў з’яўляліся людзі, якія выступалі на баку “мужыкоў”, такіх адпраўлялі ў Сібір.

Каліноўскі даводзіць, што змаганне за сваю волю – справа няпростая, і расцягнецца яна на доўгія гады: “…маскаль гэтулькі лет упускаў свае пазуры ў грудзь нашу, так не дзіва што трэба пацярпець доўга, каб вырвацца з-пад яго братняй апекі”, прыводзячы сваю дзейнасць праз школьную адукацыю: “там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтым школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хоча”.

Каліноўскі супрацьпастаўляе “маскоўскаму ронду” “ронд польскі”, які 70 гадоў таму, у часы Касцюшкі, які “каля Слоніма радзіўся і а каторым народ наш спявае, што ён быў добрым і маскаля крэпка біў”, “пачаў ужэ талкаваці а свабодзе мужыцкай і роўнасці братняй мужыка з шляхціцам”. Пры гэтым адзначае, “што калі нам пад рондам польскім не заўсім было добра, то як маскаль стаў намі правіць, зрабіў ён для мужыкоў чыстае пекла на свеце”.

У лісце Каліноўскі называе “мужыцкае племя” (народ), ад імя і да якога звяртаецца “Беларусы”, адзначае, што “ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства”.

У змаганні з ворагам няма чаго спадзявацца на замежную дапамогу: “народы чужаземныя крычалі многа і да гэтай пары нічога для нас не зрабілі”. Толькі на сябе тым больш “рук ахвотных і сягодня ў нас даволі”. Праблема толькі ў тым, што “з голымі рукамі не ісці на штыкі маскоўскія”.

Пры гэтым Каліноўскі зазначае, што паўстанне не прайшло марна: “Трудна сказаць, як доўга мы бы паншчызну хадзілі, каб не паўстанне польскае”. У размовах са следчымі Канстанцін даў больш разгорнуты адказ на пераконванні, што барацьба пацярпела паражэнне. Ён адзначаў, што шэраг з тых задач, вырашэння якіх ён дабіваўся перад пачаткам змагання, ужо дасягнутыя: “Народ мае зямлю, а шляхта зменшылася напалову”.

Другі ліст – гэта фактычна так і не надрукаваны нумар “Мужыцкай праўды”, пачаты зваротам “Браты мае, мужыкі родныя” і завершаны традыцыйным подпісам “Яська-гаспадар з-пад Вільні”, да якога дададзена характарыстыка “твой слуга”. Каліноўскі піша яго “з-пад шыбеніцы маскоўскай”, ужо адчуваючы, што гэта апошні яго ліст: “Горка пакінуць зямельку радную і цябе, дарагі мой народзе”, але ён не шкадуе, бо “не жаль згінуць за тваю праўду”. Каліноўскі звяртаецца з усёй шчырасцю, ужо фактычна стоячы на эшафоце, заклікае свой народ імкнуцца да адукацыі, перашкодаю да якой з’яўляецца “няволя маскоўская”: “Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, – адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу”. Асноўная выснова ўсіх “Лістоў з-пад шыбеніцы”: “тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжэ не будзе”.

Асобная частка “Лістоў з-пад шыбеніцы” – гэта адзіны вядомы вершаваны твор Канстанціна Каліноўскага, адначасова гэта апошні зварот да яго нарачонай Марыі Ямант, названай “Марыська чарнаброва, галубка мая”, і ў той жа час гэты верш – развітанне з тым, чые інтарэсы ён намагаўся адстойваць у паўстанні – з “мужыцкім народам”.

## *Пакаранне*

10 (22) сакавіка ў 9 гадзін раніцы Канстанціна Каліноўскага ў суправаджэнні канвоя з ліку жандараў, казакоў і салдат вывелі з віленскага дамініканскага кляштара. Па горадзе пачалі разносіцца гукі барабанаў і вайсковых труб. За пачаткам гэтага відовішча з бацькоўскай кватэры па вуліцы Дамініканскай назіраў Юзаф Каліноўскі, які стаў на калені і звярнуўся да Багародзіцы, каб тая “ўзяла пад сваю апеку душу Канстанціна”[577]. Хутчэй за ўсё, затым Каліноўскага пасадзілі на так званую “калясніцу”, як называлі спецыяльную турэмную карэту для вязняў[578]. На ёй паўстанца давезлі да Лукішскай плошчы, дзе ўжо сабраўся вялізны натоўп.

Каліноўскі ўзняўся на эшафот шыбеніцы, да якой стаў тварам. Тут яго ўжо чакалі віленскі паліцмайстар Саранчоў і прафесійны кат. Апісваючы пакаранне, сакратар М. Мураўёва А. Масолаў адзначаў, што Каліноўскі каментаваў прысуд (канфірмацыю), які зачытваў Саранчоў. Так, пасля таго, як паўстанец быў названы “дваранін Вікенцій Канстанцін Каліноўскі”, ён дадаў: “У нас няма дваран; усе роўныя!”[579]. Гэты вокліч увайшоў у гісторыю – пэўны час яго прыводзілі ўвогуле як адзіную фразу, вымаўленую паўстанцам на эшафоце. На жаль, іншых слоў Каліноўскага Масолаў не згадаў, спасылаючыся на эмацыйны фон атмасферы акту пакарання: “Не стану апісваць падрабязнасцей гэтага сумнага відовішча, падобных якому не дай Бог калі-небудзь яшчэ ўбачыць”[580]. Успрыманне мемуарыстам павешанага паўстанца ўвасобілася ў словах, выкрасленых на пачатку 1880-х цэнзураю: “З самых апошніх воклічаў Каліноўскага было бачна, што ён не толькі быў польскім мяцежнікам, але дзіцём усясветнай сацыяльнай рэвалюцыі”[581].

[577] Kalinowski, J. Wspomnienia 1835–1877 / J. Kalinowski. – Lublin, 1965. – S. 79.

[578] Шалькевіч, В. “Бывай здаровы, мужыцкі народзе…” Хранаграфія апошняй раніцы Кастуся Каліноўскага / В. Шалькевіч // “…Пачуць, як лёсу валяцца муры”. / Рэд. А. Фядута, Л. Кісялёва. – Мн: Лімарыус, 2009. – С. 324.

[579] Мосолов, А.Н. Виленские очерки 1863–1865 гг. / А.Н. Мосолов // Русская старина. – 1883. – № 12. – С. 608.

[580] Тамсама. С. 609.

[581] Штакельберг, Ю.И. Архив “Русской старины” / Ю.И. Штакельберг // К столетию героической борьбы “за нашу и вашу свободу”. – М., 1964. – С. 333.

Апісваючы сцэну пакарання, Усевалад Крастоўскі, які назваў Каліноўскага “фанатыкам рэвалюцыйнай ідэі”[582] і “апошнім з магікан”[583], дадаў: “Ён ведаў заранёў, куды ідзе і што яго чакае… Ці не таму і памёр ён з такой цвёрдасцю і спакоем, як могуць паміраць толькі глыбока ўпэўненыя людзі…”[584].

Пакаранне Канстанціна Каліноўскага было праведзена 10 сакавіка ў 10.30 на Лукішскай плошчы ў Вільні. Цела было перавезена на Замкавую гару на тэрыторыі цытадэлі – чым далей ад доступу людзей, каб не даць магчымасць ператварыць месца пахавання “круля Літвы”, як яго называлі віленчукі, у мемарыял.

582 Крестовский, В. Кровавый пуф. Книга 2. Две силы. Крыніца: http://www.e-reading.org.ua/chapter.php/133392/90/Krestovskiii_-_Krovavyii_puf._Kniga_2._Dve_sily.html [Дата доступу: 03.04.2012].

583 Там жа.

584 Там жа.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Канстанцін Каліноўскі пражыў усяго 26 гадоў, паспеўшы ператварыць сваё імя ў сапраўдны сімвал, да якога, як да гаючай крыніцы, беларусы прыкладаюцца ў самыя цяжкія часіны ўласнай гісторыі. Яго свядомасць гартавалася ў складаны, насычаны падзеямі перыяд ад "Вясны народаў" да грамадзянскай вайны ў ЗША – час, багаты на разнастайныя новыя тэорыі. Менавіта на хвалі падтрымкі паўстання 1863–1864 гадоў у Лондане было ўтворана Міжнароднае таварыства працоўных (Інтэрнацыянал) на чале з Карлам Марксам, сярод кіраўнікоў якога быў паплечнік Каліноўскага Валерый Урублеўскі. Нездарма ў вачах сучаснікаў Канстанцін Каліноўскі прадстае асобай выключнай, прыхільнікам новых, нават "камуністычных" ідэй, сярод якіх важнейшай было імкненне да сацыяльнай справядлівасці і абарона простага "мужыцкага" народа, інтарэсамі якога грэбавалі як "белыя", так і "чырвоныя".

Моцны ўплыў на Каліноўскага зрабіў асабісты досвед праз выхаванне ва ўмовах кантактаў з беларускім сялянствам, дапамогу бацьку падчас працы ў маёнтку ў Якушоўцы, а таксама "хаджэнне ў народ" у 1861–1862 гадах. Да гэтага дадаваўся адбітак ідэй польскіх і рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў, у першую чаргу федэратыўная тэорыя А. Герцэна і "ўсяўладства ўсіх" Станіслава Ворцэля. Таксама яму былі блізкія ідэі панславізма, шырока распаўсюджаныя ў таемнай вайсковай арганізацыі Серакоўскага-Дамброўскага, у якую ўваходзілі браты Каліноўскія.

Пад уплывам старэйшага брата Віктара Канстанцін зацікавіўся гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага ("Літвы"), стаў усведамляць яго адрознасць ад Кароны Польскай і бачыць асаблівасці яго жыхароў, у тым ліку ў наяўнасці "крывіцкай (беларускай) мовы". Пры гэтым ён ні ў якім разе не быў праціўнікам аднаўлення Рэчы Паспалітай, баючыся толькі прыходу да ўлады ў ёй арыстакратаў-эмігрантаў. Менавіта гэтым было выклікана яго першапачатковае імкненне стварыць у Беларусі

і Літве асобны цэнтр паўстання, які нават у выпадку перамогі ў Кароне Польскай "контррэвалюцыянераў" павінен быў працягнуць справу сапраўднай рэвалюцыі, пад якой разумелася стварэнне дэмакратычнай дзяржавы з ліквідацыяй сацыяльнай няроўнасці і падзелу грамадства на саслоўі.

У вачах сучаснікаў ён атаясамліваўся з "фанатыкам рэвалюцыйнай ідэі", які імкнецца дасягнуць мэты любымі сродкамі, у тым ліку за кошт ажыццяўлення тэрарыстычных дзеянняў у адносінах праціўнікаў. У выніку ў асяродку мясцовых памешчыкаў і шляхты, якіх ён прымушаў дзейнічаць у адпаведнасці з узятай на сябе адказнасцю пасля здзейсненага "белага" перавароту, яго баяліся і называлі "пачварай". У спалучэнні з абаронай "мужыкоў" і "літоўскім сепаратызмам" гэта стала перашкодай для ўпісання Канстанціна Каліноўскага ў польскі пантэон герояў паўстання 1863–1864 гадоў. А ў 1916 годзе яго ў якасці напалову міфічнага "Справядлівага" ўключыў у беларускую гісторыю Вацлаў Ластоўскі.

Паступова, пад уплывам непаразуменняў з лідарам беластоцкага "Кола" Браніславам Шварцэ, прадстаўнікамі Літоўскага камітэта, канфлікту з варшаўскім Цэнтральным нацыянальным камітэтам у Каліноўскага выкрышталізоўвалася ідэя стварэння асобнай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі і Літвы, якая ўжо пасля паўстання павінна вырашыць пытанне наконт федэрацыі з Польшчай і Расіяй. Але пасля таго, як у канцы лета 1863 года варшаўскі камісар Оскар Авейдэ перад самым сваім арыштам пайшоў на саступкі ў прызнанні самастойнасці Вільні ў пытаннях паўстання і Канстанцін Каліноўскі стаў фактычным дыктатарам (кіраўніком) у Беларусі і Літве, ён відазмяніў гэтую ідэю, разумеючы непадрыхтаванасць "мужыцкага племені" да поўнай незалежнасці, і таму лічыў неабходным падпарадкаванне "польскаму ўраду" пры ўмове атрымання самакіравання беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў у складзе адроджанай Рэчы Паспалітай. Апошняе яму і гарантаваў Авейдэ. Пры гэтым у тэкстах Каліноўскага фігуруюць як паняцці і самастойныя гістарычныя суб'екты і Беларусь, і беларусы, і беларуская мова, і спадзяванне на адкрыццё беларускамоўных школ.

Пад уплывам развіцця падзей паўстання і ўспрымання яго ўласна ў Расіі змянілася стаўленне Каліноўскага і да маскоўскага

народа. Яшчэ 1 студзеня 1863 года Каліноўскі лічыў "маскоўскі народ" сваім саюзнікам: "Народ маскоўскі скаланаецца ад нашай векавой крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам быць жадае і адказнасць перад нашчадкамі за нашу жалезную няволю рашуча ўскладае на гатовы пасці царызм". Але ўсяго праз год яго погляды на гэты конт змяніліся – з усведамленнем таго, што пад уплывам мангола-татарскага ярма і царскага прыгнёту ў маскоўскім народзе ўкаранілася няволя, якую цяпер ён намагаецца зрабіць часткай свядомасці і іншых падпарадкаваных народаў: "Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, – адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу". Адсюль вынікала: "тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжэ не будзе".

Каліноўскі ў "Лістах з-пад шыбеніцы" пакінуў свой запавет, адрасаваны не столькі сучаснікам, колькі нашчадкам. Яго запал падтрымала "пакаленне 1863-га" ў асобах кшталту Францішка Багушэвіча, якое "стварала Беларусь" ужо амаль што ў сучасным разуменні гэтага слова. У тым, што Каліноўскі відавочна адрозніваў "тутэйшае" насельніцтва ад суседзяў, няма ніякага сумневу. Відавочная і ягоная паступовая эвалюцыя ў бок беларускасці. Высветліць дэталі гэтага працэса вельмі складана, паколькі нельга забываць, што і "Мужыцкая праўда" хутчэй за ўсё з'яўляецца калектыўнай працай як мінімум некалькіх ідэолагаў паўстання.

Канстанцін Каліноўскі, выхаваны ва ўмовах польскай культуры і панавання польскай мовы, здолеў усвядоміць сваю прыналежнасць да "мужыцкага народа". Яго погляды ў пытанні сацыяльнай справядлівасці перапляліся з нацыянальным пытаннем, у вырашэнні якога ён з паплечнікамі ўзняў пытанне ідэнтычнасці дадзенага этнасу, першапачаткова акрэсліўшы яго як "літоўцы", пазней замененага на "беларусы". Гэтаму паспрыялі кантакты з дзеячамі паўстання на тэрыторыі сённяшняй Літвы, якія таксама ўздымалі падобныя пытанні. У выніку Каліноўскі акрэсліў свой народ імем "Беларусы", у імя якога прыносіў сябе ў ахвяру: "Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, – але не жаль загінуць за тваю праўду".

Канстанцін Каліноўскі загінуў з клічам на вуснах: "У нас

няма дваран, усе роўныя”. 26-гадовы юнак у самым росквіце сіл свядома адмаўляўся ад спакойнага жыцця ў імя вышэйшай мэты – “праўда, свабода і багацце” ўласнага народа. Нездарма яго сучаснік польскі паўстанец Яноўскі называў Каліноўскага “сапраўдным апосталам беларускага народа”, а пісьменнік Уладзімір Караткевіч адзначаў, што Каліноўскага можна назваць беларусам, узгадаўшы толькі адныя яго перадсмяротныя словы па-беларуску, якія чалавек ніколі не напіша на чужынскай мове.

Вельмі прыкра і небяспечна для нашай Рэспублікі, што сёння як ніколі моцныя сілы, якія імкнуцца забрудзіць імя чалавека, якое ўжо ў ХХ ст. стала легендай, сімвалам змагання нашага народа з самымі разнастайнымі захопнікамі. Бо з імем Каліноўскага беларускія партызаны змагаліся з фашыстамі, яму прысвячалі вершы падпольшчыкі ў Заходняй Беларусі.

Канстанцін Каліноўскі прыходзіць на дапамогу свайму народу ў самыя складаныя часы нашай гісторыі. І можа, акурат цяпер ізноў надышоў такі час. Нездарма на Раство 2017 года на Замкавай гары ў Вільні з зямлі паказаліся косткі змагароў, забітых і пахаваных у безыменных магілах герояў паўстання 1863–1864 гадоў. І першы сярод іх быў Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі – Вялікі сын беларускага народа.

# ДАДАТКІ

## *Мужыцкая праўда, № 6 (ненадрукаваны нумар)*

Вы, Дзецюкі, пэўне, не ведаеце, хто вы такія, як называецца гэта зямля, на якой нашыя бацькі жылі, на якой мы жывемо і нашыя дзеткі жыці будуць, – што з ею чаўплося з даўніх лет, якім гэта спосабом маскаль пад сябе загарнуў і для чаго то ён нас да гэтае пары яшчэ трымае. Каб кажэн з нас не быў як быдла, што нічого не знае, а ведаў усё тое, што чэлавек вольны ведаць павінен, – я пішу гэто пісьмо – вы, Дзецюкі, адно з увагаю мене паслухайце.

Зямля наша з вякоў вечных называецца літоўская, а мы то называемся Літоўцы. Калісь то і нашыя бацькі імелі сваіх каралёў, што адвагу іх на вайне, а справядлівасць у судзе на цэлы свет знали. Для таго то Палякі, што то жывуць каля Варшавы нашага Караля выбралі і сваім Каралём, з гэтае пары, Дзецюкі, мы прысягнулі на век вякоў жыці з Палякамі, разам на вайну хадзіці, меці адзін ронд, адну веру і як шэрока зямля наша адну вольнасць для ўсіх.

Но не думайце каб усе гэтага хацелі, было і меж намі шмат, а найбольш з вялікага панскага роду, што ім вольнасць такая вельмі калола вочы; для таго то яны шукалі только спосабу як скруціці вольнасць і самім адно з яе карыставаць. Но проціў грамады не маглі нічога зрабіці.

І было бы добрэ у нашом краю. Но на нашае безгалоўе ў суседзцтве з намі жыў маскоўскі Цар. У яго, Дзецюкі, з роду не было ніякой вольнасці, ніхто нават не быў жыцця пэўны.

Для таго то Цар маскоўскі вельмі збаяўся, каб народ яго, угледзеўшы нашу вольнасць, не стаў бунтавацца і не выгнаў Цароў сваіх.

За усе головы. Пачаў ён для таго з намі ваяваці, но ніяк не мог нас абдужаці, і якое бы ён не прысылаў войска, мы заўсюды яго выганялі.

Тагды Цар маскоўскі, не могучы нас вайною пабіці, выдумаў другі спосаб: стаў ён з гыцлямі, што адно чыхалі на нашу воль-

